

Аўтар кнігі Васіль Якавенка
ў час сумеснага падарожжа па Беларусі
з лаўрэатам Ленінскай прэміі
Іванам Васільевым.

РЭСПУБЛІКА • ЧАС • ЛЮДЗІ



Васіль Якавенка

# ВЯСКОВЫЯ ДЫСПУТЫ

падарожнае эсэ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

ББК84 Бел7
Я 47

Рукапіс кнігі абмеркаваны і ўхвалены
сектарам сацыялагічных праблем вёскі
Інстытута філасофіі і права АН БССР

Рэцэнзент Павел Місько

Я $\frac{4702120200-131}{М\ 302(03)-87}$ 35—87

# На парозе будучыні

Тая дзялянка літаратурнай нівы, на якой працуе Васіль Якавенка, не надта прыцягвае да сябе нашага брата, хоць мы штораз і заклікаем адзін аднаго туды.

Гаворачы пра літаратуру, мы часам захапляемся прозай, паэзіяй, апошнія гады нават драматургіяй, але нязменна адзначаем адставанне мастацкага нарыса, і гэтая з'ява, бадай, характэрна для большасці нацыянальных літаратур, нават рускай, з такімі яе імёнамі, як Г. Траяпольскі, І. Васільеў, Ю. Чарнічэнка, Б. Мажаеў... Зразумела, у гэтай гаворцы не забываем і сваіх пачынальнікаў мастацкага нарыса — Ядвігіна Ш., М. Багдановіча, Цётку, М. Гарэцкага, як не забываем таксама і падаўжальнікаў — К. Чорнага, М. Чарота, П. Галавача, А. Дудара... Ёсць каго назваць і бліжэй да нашага часу. Шмат працаваў і працуе ў галіне нарыса Ігнат Дуброўскі.

Чытачам, напэўна, запомніліся кнігі В. Якавенкі «Земля, открытая нами», «Пробны камень», «Пакуль сонца ў зеніце», «Дайсці да ладу», у якіх ён паказаў сябе актыўным і смелым даследчыкам жыцця.

Мне ж прыгадваецца і чытацкая канферэнцыя ў актавай зале Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі, дзе сабраліся прадстаўнікі багата якіх прадпрыемстваў і ўстаноў горада Мінска. Вялася тады зацікаўленая і шчырая размова пра кнігу В. Якавенкі «Дайсці да ладу», а дакладней, пра невялікі дэтэктыў, як пазначана аўтарам,— «Ад грэху далей». Слухаючы рабочых, інжынераў, педагогаў, урачоў, ра-

ботнікаў надведамаснай аховы, не цяжка было зразумець, якую важную і хвалюючую тэму закрануў пісьменнік у сваім творы, прычым зрабіў гэта задоўга да выхаду пастановы аб непрацоўных даходах.

Тая чытацкая канферэнцыя была паказана па тэлебачанні і выклікала жывы водгук у гледачоў, пра што засведчыла рэдакцыйная пошта.

Была заўважана плённая адметнасць нарысаў і публіцыстычных аповесцей гэтага пісьменніка — шмат якімі гранямі яны датыкаюцца, калі можна сказаць так, да мастацкай прозы: разам з даследчыцкім пачаткам, дакументальнасцю асновы пры адлюстраванні жыцця і абмалёўцы персанажаў у творах адчуваецца псіхалагічная і эмацыянальная заглыбленасць, выразна акрэсліваецца асоба, характар; рэчаіснасць падаецца ў іх як праяўленне гістарычных заканамернасцей у сацыяльных пераўтварэннях, як вынік няпростай, зацятай барацьбы перадавога, светлага, шчырага з косным, наносным, шэрым і бездухоўным у гэтых пераўтварэннях.

І вось новая кніга В. Якавенкі «Вясковыя дыспуты», якая ўзнікла ў выніку сумеснага падарожжа з лаўрэатам Ленінскай прэміі, вядомым рускім пісьменнікам і публіцыстам Іванам Васільевым па Беларусі. У нас яшчэ не было такога маштабнага, шырокаахопнага твора, напісанага на дакументальнай аснове, у якім бы з прынцыповых пазіцый была паказана сённяшняя грамадская, сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы, выяўлена заклапочанасць многімі набалелымі праблемамі. Сказанае зусім не абазначае, што В. Якавенка становіцца тут у ролю бязгрэшнага суддзі, які «абвінавачвае» іншых, а сам лічыць сябе трымальнікам ісціны ў апошняй інстанцыі. Задума падарожнага эсэ якраз і ўзнікала з жадання абудзіць думку чытача, выклікаць яго на дыспут. Адсюль і назва.

Вартасць «Вясковых дыспутаў» найперш у тым, што ў іх лагічна і паслядоўна, з грамадзянскай зацікаўленасцю вывучаюцца надзённыя праблемы гаспадарання на зямлі, прычым гэта спалучаецца з сур'ёзным аналізам з'яў, абставін,

прыкмет сённяшняга дня, якія дабратворна альбо, наадварот, разбуральна ўздзейнічаюць на чалавечую душу, на выхаванне ў ёй тых якасцей, якія вырашаюць поспех справы; а наступовасць і шырокі рух думцы надаецца не па кабінетных уяўленнях, а якраз па жывых, канкрэтных абставінах і ўмовах жыцця і працы сялян, умовах, шмат у чым супярэчлівых, у нечым і «камяністых», як кажуць, нязрушна заструпянелых.

Як захаваць і ўмацаваць жывую сувязь селяніна з зямлёй-карміцелькай ва ўмовах машынізаванай вытворчасці, як абудзіць творчы пачатак і прывесці ў рух творчую энергію ў штодзённым занятку людзей, што сваімі рукамі робяць зямлю хлебадайнай? В. Якавенка слушна даводзіць, што вынік справы залежыць не столькі ад мудрасці аднаго кіраўніка або кіраўнікоў у цэлым, колькі ад творчай актыўнасці кожнага працаўніка — ад пачуцця, ад выяўлення і ўсведамлення кожным сябе гаспадаром-творцай. Толькі пры такой умове, урэшце, можа раскрыцца стваральная роля і моц чалавечага фактару.

Яскравыя і свежыя карціны, гістарычныя і сённяшняга часу асацыяцыі, прынцыповыя абагульненні вырастаюць у кнізе В. Якавенкі з даследавання жывой, дакументальна дакладнай рэчаіснасці. Шчодра зачэрпнутая канкрэтыка дае магчымасць ствараць уражлівыя характары рэальных людзей, вылучаць тыповыя рысы ў вобразах сучаснікаў.

Аналіз самых розных, на першы погляд, не звязаных паміж сабою з'яў, дае магчымасць аўтару займаць акрэсленую пазіцыю, рабіць правільныя вывады. Ён не забягае наперад, не спяшаецца назваць пэўна тую альбо іншую з'яву ці перашкоду, а даследуе яе з розных бакоў, як бы разам з чытачом вывучае яе прыроду, каб затым разам з ім узважыць і ацаніць тое, што здаецца даўно прынятым, звычным і выглядае як нешта моцна і на ўсе часы ўсталяванае, чаго і крануць нельга. Так, у прыватнасці, паказаны самыя задаўненыя і нібыта «закрытыя» для староннягa вока, не падуладныя ні сумненню, ні сумленню, аднак «адпавядаючыя» інтарэсам дзяржавы роз-

ныя праявы фармалізму і бюракратыі, так званых сілавых прыёмаў і адміністравання.

Па гэтых і іншых меркаваннях новая кніга В. Якавенкі вельмі патрэбна часу сацыяльных пераўтварэнняў і перабудовы.

Асаблівае значэнне тут набывае паглыблены пісьменніцкі аналіз маральных якасцей і ўчынкаў герояў, выяўленне людзей, якія могуць быць узорам для іншых, бо выступаюць як носьбіты актыўнай грамадзянскай пазіцыі, новай псіхалогіі і маралі.

У «Вясковых дыспутах» чуецца пасталенне пісьменніка, і гэта заканамерна ў поўдзень яго жыцця.

*Іван Чыгрынаў*

Чалавек даследуе жыццё толькі дзеля таго, каб яно было лепшым.

*Леў Талстой*

## Апошняя квадра

Тое лета ў нашым краі пачалося дужа рана, яшчэ ў красавіку. Яно было незвычайным і напалохала людзей спярша сухменню, бо сонейка добра ўгравала, аж пылам дол браўся, толькі вільгаці, вады не было, яе не бачылі ад самай зімы, голай, без снегу; потым страшыць пачало зацяжнымі, халоднымі дажджамі, першы з якіх абрынуўся на зямлю ў ноч з 9 на 10 мая, у самы крытычны момант, калі ўсё жывое, і перш-наперш глеба, задыхалася ад смагі, ад стомы...

Дажджыць перастала толькі ў другой палавіне чэрвеня, падчас сенакосу, які па гэтай прычыне дзе-нідзе зацягнуўся.

Людзі, кідаючы позірк то на зямлю, то на неба, успаміналі, што яны дзеці прыроды і залежаць-такі ад яе. І ў памяці іх успывала нядаўняе: катастрафічныя летнія паводкі на Палессі, калі Гарынь выходзіла са сваіх берагоў, і раптоўны мароз у сярэдзіне лета, ажно да дзесяці градусаў! Пры адным успаміне пра гэтыя недарэчныя і суровыя з'явы рабілася нядобра.

Не абмінула ліха сялян і на гэты раз. На асобных палетках колас выйшаў шчуплым або

зусім без зерня, а бульба ўрадзіла дробнаю. Ды ў грамадзе гэта ўжо — палавіна бяды.

У тое высакоснае лета я неяк асабліва востра ўспрымаў розныя хібы надвор'я і перажываў нялёгкую долю сялянскую — мусіць, таму, што, пачынаючы з красавіка, па самы жнівень меў магчымасць назіраць за нівай і земляробчай працай, як кажуць, на месцы, бываючы ў камандзіроўках у розных раёнах.

Але вандроўкі скончыліся, і аднойчы, у светлы пагодлівы дзень, прыйшоў мне на кватэру ў Мінску ліст са штэмпелем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Адзін з сакратароў праўлення пісаў:

«Васіль Цімафеевіч, збіраем пісьменнікаў на нараду з парадкам дня: «Аб праблемах адлюстравання сучаснай вёскі ў беларускай літаратуры ў святле рашэнняў чэрвеньскага (1983) Пленума ЦК КПСС і XIV Пленума ЦК КПБ». З дакладам выступіць (значылася прозвішча вядомага крытыка).

Нашы таварышы даручылі мне звярнуцца да цябе з прапановай таксама выступіць у абмеркаванні гэтага даклада; яны ўспомнілі, што ты зусім нядаўна ездзіў з І. Васільевым па рэспубліцы...

Я вельмі прашу цябе далучыцца да гаворкі».

І я далучыўся...

Атмасфера ў канферэнц-зале была дзелавая і спакойная, хоць усе чакалі чагосьці, ці, можа, мне так здавалася... На літаратурным небасхіле, які месцамі быў пацягнуты шэранню, час ад часу ўспыхвалі бліскавіцы-думкі, але ж ад іх святлей не рабілася. Шэрань не кранулася з месца, і навальніцы пакуль нішто не абяцала.

Вядомы крытык зрабіў спробу вымераць стан нашай прозы і публіцыстыкі ўглыбіню і ўшыркі. У тым стане, зразумела, яго не ўсё здавальняла, калі шчыра, не ўсё здавальняла і іншых прамоўцаў. Уражанне такое, сказаў старэйшы беларускі публіцыст Ігнат Дуброўскі, што нашы героі не першага плана. І з ім пагадзіліся... У жыцці, як заўсёды, гаварыў ён, столькі праблем вострых, вастрэйшых, толь-

кі асноўныя працэсы жыцця ў вёсцы адлюстроўваюцца пакуль што павярхоўна...

Сяго-таго ўзяло за жывое тым крытычным выказваннем, і з'явілася жаданне высветліць, што там за працэсы, чым яны выкліканы і як моцна ўплываюць на жыхароў традыцыйнае вёскі, дый дзе тыя героі пярэдняга плана? Падзівіцца б на іх!..

Думкі засігалі, зачыркалі адна другое вастрэй, і над станам, дзе вялі свой рэй пісьменнікі, спакваля пачало грымець.

Я надумаў сказаць, што літаратарам варта было б прыглядацца больш пільна да самой душы селяніна, хто ён сёння і што нясе яму на сяло прагрэс, асабліва такая яго плынь, як урбанізацыя або ўсталяванне гарадскога ладу жыцця. Каго горад хоча мець у асобе земляроба? Рабочага?.. Селяніна?.. Што мы павінны сцерці ў сялянскай душы?

Гэтыя думкі не давалі мне спакою даўно. Але толькі ў апошні момант, звечара або нават з ночы, калі я прачнуўся і ўспомніў пра блізкую нараду і пра тое, што ад мяне чакаюць слова, развагі, яны акрэсліліся яшчэ больш і запатрабавалі не менш акрэсленага і недвухсэнсоўнага адказу.

Хто такі селянін у ідэале?..

Я набраўся смеласці тлумачыць прапісныя ісціны, прынамсі, такімі яны маглі здацца...

Мяне слухалі... У нас умеюць слухаць, разбіраць, узважваць словы, думкі кожны на сваіх вагах.

Не, селянін — гэта не проста рабочы-прафесіянал.

Селянін (ці то ён пастух, ці механізатар, або аграном) мае справу з жывым, з тым, што развіваецца, дыхае. А калі гэта так, то ён павінен добра ведаць і чуць а р г а н і з м таго, што дыхае — зямлі, глебы, жывёлы... За год наперад прадбачыць, што будзе з ягонае працы. Тут ён бацька і клапатлівы гаспадар. Тут ён лекар, а не проста рабочы — рабочы-тэхнолаг...

Толькі ведаючы і адчуваючы зямлю, кожны лапік яе, селянін зможа паспяхова карыстацца

плёнам сваёй уласнай працы і **працы зямлі**.

Вось гэтая **ягоная праца і праца зямлі** — непарыўнае цэлае, у гэтым — душа селяніна. Паспрабуйце парушыць адзінства — як знікае селянін і чарсцвее зямля. Безуважны рабочы, і тым больш гарадскі, выпадковы — чужынец для зямлі. Спрактыкаваных рук і душы сялянскай ніякімі навуковымі тэорыямі і, само сабой зразумела, і гербіцыдамі ці пестыцыдамі не заменіш.

Тут вы можаце мяне папракнуць, што я недаацэньваю гарадскога рабочага і што нават супрацьпастаўляю яму селяніна. Не! Справа ў тым, што і ў працавітым селяніне бачыцца мне рабочы. Але ж бачу я і розніцу паміж тым і другім.

Калі прамысловы рабочы, напрыклад, мае справу са станком, аўтаматам, як сродкам вытворчасці, то на сяле выключную ролю адыгрывае прырода. Прырода ўдзельнічае ў рабоце чалавека як машына і арганізм, і селяніну, у адрозненне ад гарадскога рабочага, часам жыцця не хапае, каб спазнаць хоць частку сакрэтаў сваёй неардынарнай «машыны». У той жа час хіба можа ён плённа працаваць, не ведаючы і не любячы яе?

Цяпер усё пытанне ў тым: ці ёсць у нас такія сяляне, што працуюць у партнёрстве з зямлёй і ў цэлым — прыродай? Калі ёсць, значыць, у нас да канца яшчэ не сцёрта мяжа, якая адрознівае чыннага земляроба ад заводскага рабочага, што выконвае пэўныя аперацыі на станку, і гэтаму, відавочна, трэба толькі радавацца.

Аднак тачыла урбанізацыі агромністае, і дзень і ноч працуе яно, каб стачыць незразумелыя гораду грані ў самабытнай душы селяніна і стандартызаваць не толькі ўмовы жыцця, але і самога чалавека-вяскоўца. І тут мы, літаратары, павінны быць пільнымі!

Магчыма, я памыляўся ў сваіх разважаннях — тут кожны меў свае ўяўленні на гэты конт.

От гэтыя ўяўленні паважаныя літаратары і пачалі выказваць не менш катэгарычна і пера-

конана, з зайздросным імпэтам... Хвіліна... другая... Вострыя думкі ўжо маланкамі паласавалі неба проста над маёй галавой.

Адзін: «Няма ўжо ў нас ідэальных сялян; няма ў селяніна цягі да зямлі, жадання з душой абрабляць яе. Цяга да зямлі — пісьменніцкія ілюзіі!»

Другі: «Вёска перажывае якасны скачок, па сваім значэнні роўны калектывізацыі, якую ў свой час paраўпоўвалі з самой сацыялістычнай рэвалюцыяй. Гэта трэба прымаць...»

Трэці: «Я не згодзен з Іванам Васільевым. У нарысе, які цяпер з працягам друкуецца ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», ён заклікае развіваць творчы пачатак хлебароба. Гучыць наіўна! Гэта яшчэ ў «Палескай хроніцы» Мележа зямлю называлі родненькай. Раней кавалак зямлі быў як член сям'і. Цяпер — не тое... Узараў вясной або пасеяў, атрымаў грошы і нічога больш знаць не хачу! Прывязка да зямлі сёння — ідэалізм. Чалавек ужо абстрагаваўся, і гэты працэс незваротны. У нас да вёскі павінен быць матэрыялістычны падыход, без ілюзій і настальгіі».

Размашыста выказваліся. Папала тым часам і Васільеву... Завочна.

Пісьменнік, які меў свой дамок недзе ў вёсцы, сцвярджаў, што клопаты пра духоўнае жыццё селяніна сёння — марная справа, маўляў, няма ў мужыка цяпер аніякай цікаўнасці ні да музеяў, ні да карцінных галерэй, пра якія дбае Васільеў, і ўсе «духоўныя» інтарэсы простага калгасніка абмяжоўваюцца бутэлькай віна, прычым п'юць не толькі дома — п'юць, так сказаць, на калёсах...

У мяне аж сэрца агортвала холадам ад тых выказванняў, думак...

Прыняць іх?

Адмовіцца ад «ідэалізму»?..

Не хапала дыхання, як пры зніжэнні атмасфернага ціску.

Аднак жа нейкі цвёрды грудок аставаўся пад нагамі, і я стаяў на ім; мяне супакойвала, што на ім поплеч стаяў і Васільеў. Для развагі ж,

для далейшага асэнсавання тых гарачых спрэчак у мяне былі свежыя ўражанні, набытыя ў час падарожжа ў глыбінку, якое мы нядаўна асілілі разам з гэтым выдатным расійскім пісьменнікам-публіцыстам. Акрамя таго, у нас былі яшчэ сотні кіламетраў сумесных вандровак па Віцебшчыне, зробленых трохі раней... Якраз тыя сустрэчы, гутаркі, спрэчкі з віцяблянамі і леглі ў аснову васільеўскага нарыса «Нематэрыяльныя патрэбнасці», які ён напісаў як прадаўжэнне сваіх «Лістоў з вёскі». От гэты нарыс цяпер і друкаваўся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і выклікаў у пісьменнікаў спрэчкі...

Пакінем іх у канферэнц-зале, выйдзем адтуль... З горада выедзем і мінём не адно скрыжаванне дарог. Далей, далей... Углыб, у гушчу жыцця!

## 1. Сівіца

Замілаванне і павагу да сябе выклікала новая, гладкая, з ладнай зялёнай паласой пасярэдзіне, шаша, якая, здавалася, сама ўжо, без дапамогі матора, цягнула і цягнула нас удалеч, на паўночны захад ад Мінска.

Наваколле разгортвалася і паціху кружылася, усё ў квецені, усё ў зяленіве, і рэдкія вёскі, што туліліся да шасейкі, патаналі ў прыволлі, у садовай раскошы.

Іван Апанасавіч натрэніраваным вокам селяніна і даследчыка-публіцыста акідваў ніву, лугі, пералескі, і, калі пагоркавы рэльеф, што нагадваў госцю Валдайскае ўзвышша, саступаў месца раўніне, ён хітаў галавой у захапленні:

— Стэп, стэп!..

Не было ніякага сумнення, што праз гэты «стэп» і пагоркі Міншчыны ён удумна глядзеў туды, у прасторы рускага Нечарназем'я, падуладнага яго пяру, параўноўваў гэтыя палеткі з палеткамі Велікалуцкага раёна, дзе жыў у апошнія гады... «За многа стагоддзяў (гораду восемсот год) лясныя суглінкі і падзолы былі акультураны, але памеры палёў-лапікаў астала-

ся нязменнымі — у сярэднім 1,8 га. А гэтая, у наш машынны век, акалічнасць вельмі істотная»,— пісаў ён неяк у нарысе «Праблемы сельскага раёна».

Але толькі падобную карціну можна было назіраць і ў нас раней — скажам, у Докшыцкім пагоркава-камяністым раёне...

Углядаючыся ў абрысы вёсак, у іх аколіцы, Васільеў зазначыў:

— У вас палеткі падыходзяць да самае вёскі, да садоў і агародаў. У нас, у Пскоўскай і Калінінскай абласцях, не так. У нас вёску ад калгаснага або саўгаснага поля аддзяляе шырокая паласа нічыйнай зямлі, прызначанай нібыта для агульнага карыстання. На справе ж ніхто ёю не карыстаецца, мужыкі туды смецце вывозяць.

— Выганы каля вёсак,— кажу,— раней былі і ў нас. Мажа, яны і патрэбны былі, калі сяляне больш скаціны трымалі. Дзе ж раней пасвілі авечак, свіней?..

— Выходзіць, у вас традыцыі больш гібкія?

Злева, трохі воддаль ад шырокага шляху, праплываў зачараваны спакоем і цішай пасёлак. Адметнасць яму надавалі раскошныя шаты дрэў, што ўздымаліся смарагдавай хмарай, з-за якой сям-там выглядвалі пракаветныя культавыя палацы з купаламі і сучасныя белакаменныя будынкі. Гэта быў Ракаў... Мы абміналі яго. Наперадзе нас чакала такое ж мястэчка пры самай Налібоцкай пушчы, з прыгожаю назвай — Івянец, калісьці раённы цэнтр, які, будучы скасаваным, адышоў да Валожынскага раёна.

На гэтым шляху ад пільнага позірку Васільева не ўнікла і тое, што пры яго пашырэнні і падрыхтоўцы пляцовак пад дарожнае будаўніцтва, верхні пласт глебы акуратна згортваўся бульдозерам у бурт; па сутнасці, згорталася настольніца-самабранка, каб потым быць разасланай недзе ў іншым месцы. І тут ужо будаўнікі праяўлялі культуру гаспадарання і экалагічнае мысленне, чаго, на думку Івана Апанасавіча, не хапала людзям там, у ягоным краі.

Ён заўважаў тое, да чаго я ўжо прывык і на што не звяртаў асаблівай увагі. Яму спадабалася, што прыдарожныя палосы на гэтым гасцінцы і абочыны ўсцяж гравійкі з Івянца ў Сівіцу, дзе была кантора калгаса «Рассвет», абсяваліся, пераважна травамі, абкошваліся і служылі калі не грамадскай гаспадарцы, то людской, асабістай. На гэтых палосах, як на далоні, бачны былі пэўныя гаспадарчыя інтарэсы беларуса, яго схільнасць да земляробчага занятку і яго спрадвечны важны клопат, каб зямля не пуставала. Іван Апанасавіч гатовы быў лічыць гэта адметнасцю характару нашых сялян.

Мяне гэта радавала. Адно, па сённяшнім часе, калі аўтамабілі выкідваюць і рассяваюць разам з выхлапнымі газамі па дарогах тоны нябачнага на вока свінцу, мушу зазначыць, што нашым вучоным варта было б усё-ткі прыглядзецца да расліннасці на абочыне, даследаваць яе і парэкамендаваць земляробу, як найлепш выкарыстоўваць зямлю ўздоўж дарог.

Добра было б, каб экалагічнае мысленне, пашыраючыся ў грамадстве, матэрыялізавалася ў канкрэтных справах, у яшчэ большай чалавечай рупнасці.

У канторы калгаса «Рассвет» — аднапавярховай драўлянай будыніне на некалькі пакояў— нас сустрэў сакратар парткома Браніслаў Пятровіч, высокі, дзябёлы мужчына з трохі агрубелымі рысамі твару, з ацяжэлымі кісцямі рук, у якіх такая прылада, як ручка-самапіска, здавалася прадметам занадта тонкім і выпадковым. Сакратаром ён працаваў першы год, а дагэтуль рабіў эканамістам у будаўнічай арганізацыі і, адчувалася, быў добрым гаспадаром дома, любіў спакойную фізічную працу. Сюды, у Сівіцу, ён ездзіў з Івянца, за сем кіламетраў.

Мы разумелі, што новы парторг — для нас не знаходка, і ён не ведаў, што з намі рабіць, паколькі тое, што нас цікавіла, ён яшчэ сам не спасціг, не знаў тонкасцей справы.

Мы выйшлі з канторы на вуліцу, і тут на

вока трапіў маляўнічы шчыт з паказчыкамі дасягненняў калгаса. Прыбытак вызначаўся ў тысячах рублёў:

| Гады | Па плану | Фактычна |
|---|---|---|
| 1981 | 56 | 203,5 |
| 1982 | 65 | 388,7 |
| 1983 | 70 | 765,0 |

Што такое?! Тут, па-першае, дзіўным здаваўся сам скачок вытворчасці ўгору. З году ў год прыбытак падвойваўся... А па-другое — кантраст, рэзкі кантраст паміж планавымі мізэрнымі лічбамі і фактычным выкананнем!.. Планаванне было незразумелым.

Браніслаў Пятровіч паспрабаваў растлумамачыць — што да чаго. Але з яго слоў мы адно даведаліся, што ў калгасе ў гэтыя гады працавалі добра, летась, напрыклад, ураджай збажыны склаў каля 22 цэнтнераў, бульбы — 220, караняплодаў — 246, а льновалакна — 3,9 цэнтнера з гектара. І гэта амаль на пясчанай глебе, урадлівасць яе — 28 балаў!

Старшыня калгаса бавіўся недзе ў Валожыне, раённым цэнтры, не было на месцы і эканаміста, які расшыфраваў бы нам загадкавасць лічбаў. Вырашылі: едзем і ўладкоўваемся ў Івянецкай гасцініцы; старшыня, калі будзе яго ласка, знойдзе нас там.

Адамовіч сам сеў за руль падношанага газіка. Ён адчуваў сябе за рулём упэўнена. Яму, між іншым, карцела даведацца, што прывяло нас да іх у гаспадарку, чым яны абавязаны такому, значыцца, гонару? Нарэшце спытаўся пра гэта...

— А ў нас быў выбар...— адказаў я няпэўна.

На самай справе на гэты «Рассвет» мы зваліліся нечакана і, здаецца, па той толькі прычыне, што мяне цікавіў Івянец з яго народнымі промысламі, ганчарным майстэрствам, а Сівіца была пад бокам... Але, калі больш дакладна, у Валожынскім райкоме партыі, куды мы спачатку наведаліся, нам прапанавалі некалькі лепшых гаспадарак гэтай зоны, і мы выбралі «Рас-

свет», у якім другі год ужо ўкараняўся брыгадны падрад — неяк занядбаны і адноўлены зноў метад гаспадарання. Гэта нас таксама цікавіла. Да таго ж Драгун — старшыня — лічыўся выхаванцам райкома партыі, дзе раней працаваў інструктарам, і ім у райкоме ганарыліся: чацвёрты год як у калгасе круты ўздым ва ўсіх галінах!

Зрэшты, у самім Валожыне людзям было не да нас. Два тыдні ў раёне працавала камісія Мінскага абкома партыі ажно з дваццаці чалавек. Вывучалі жыццё і працу да апошняе складкі, каб потым «бачыць» раён.

І мы вывучалі тое самае жыццё і тую самую працу, але вывучалі ўжо не толькі, каб бачыць, але і «паказаць» людзям...

Я пацікавіўся ў Адамовіча, якія новыя нюансы з'явіліся ў рабоце партыйнай арганізацыі калгаса пасля чэрвеньскага (1983) Пленума ЦК КПСС, які прыняў такую грунтоўную пастанову на абнаўленні ўсёй палітыка-выхаваўчай і ідэалагічнай работы.

Адамовіч спачатку падумаў, потым адказаў:

— Стараемся больш мерапрыемстваў праводзіць.

— Якіх? — здзівіўся я.

— Ну — сходаў, лекцый...

Усяго некалькі месяцаў назад быў я ў Нясвіжскім раёне і ведаў, што там колькасць неабавязковых мерапрыемстваў рэзка скарачаюць, па некаторых гаспадарках — напалавіну. Тут — наадварот! Культывуюць злак, які вырадзіўся! І гэта так не стасавалася з самавітай паставай і самабытнай сялянскай натурай самога Адамовіча, што проста не хацелася верыць у пачутае; палохала коснасцю, і рабілася неяк гнятліва.

А Васільеў маўчаў. Ніякай рэакцыі! Можна было падумаць, што ён адсутнічае. Ён свядома, відаць, не ўвязваўся ў гэтую размову, лічачы, што з яго ўжо даволі перагаворанага і перажытага на Віцебшчыне. Я дзівіўся з яго абыякавасці, мне прыгадваўся там другі эпізод, дзе ён паводзіў сябе зусім іначай.

## 2. Сівіца і Порплішча. Таблетка пад язык

У Пастаўскім раёне нас шчыра і сардэчна прымаў Алег Адольфавіч Валадзько, старшыня калгаса імя Суворава, эрудыт, энергічны і дасціпны чалавек, які да ўсяго даходзіў самавукам. Ён пакарыў нас сваім адмысловым клопатам пра гаспадарку, яе заўтрашні дзень, клопатам пра чалавека, пра кветкі, чысціню і ўтульнасць скрозь, ад фермы да поля і дзіцячага садзіка. Ва ўсім гэтым жылі клопат і трывога Алега Адольфавіча.

На пляцоўцы дзіцячага сада-казкі, у якім, дарэчы, побач з іншымі дзівосамі быў закрыты плавальны басейн, стаялі самалёты, сапраўдныя, рознай канструкцыі... Яны захаплялі сваёй веліччу і бляскам нават дарослых, не кажучы ўжо пра малечу.

Спыніўшыся на момант у двары і разглядаючы іх, Васільеў спытаўся:

— Пілотаў рыхтуеце?

— Ды не,— сумеўся Валадзько,— тут хоць бы чалавека вырасціць! Мы па зямлі ходзім...

Між іншым, гэтыя самалёты старшыня калгаса «пілатаваў» сам па шашы, пераганяючы аднекуль сюды, у цэнтр гаспадаркі. І от пасля гэтага, калі хто-небудзь на месцы або ў раёне спрабаваў жартаваць, што ў Навасёлках неўзабаве пусцяць трамвай, жарт не ўспрымаўся жартам, бо Валадзько даўно скасаваў грані паміж явай і казкай.

А дома, за сталом, гэты няўрымслівы кіраўнік калектыўнае гаспадаркі прызнаўся, што акрамя цікавай кнігі любіць яшчэ музыку і калекцыяніруе касеты з музычнымі запісамі.

Я мусіў адзначыць у думках, што па дыяпазону сваёй творчай натуры, па яе шырыні і сугучнасці часу старшыня Валадзько багата цікавейшы за вобразы шматлікіх старшынь, паказаных у творах нашых пісьменнікаў. Ён пастаянна ў руху, думае, спрачаецца, аддае, бярэ, уздымаецца над самім сабой, удасканаль-

ваецца, і калі яго хто ведаў тры-чатыры гады назад, то ён цяпер не той, што быў раней.

Птушанё вылазіць з цеснай шкарлупіны. АВаладзько, мусіць, ламаў сваю «шкарлупіну» неаднойчы.

Дык от у зацятых дыспутах з Валадзько мой паплечнік неўзабаве адчуў аднадумцу, можна сказаць, сваяка, тым больш што старшыня гаварыў вобразна, нязмушана, ёміста. Па некаторых пытаннях між імі, праўда, былі разыходжанні, і мне даводзілася прымаць бок аднаго ці другога.

У душы Васільева ўрэшце з'явілася насцярога: ці не перашкаджае Валадзько сваёй імпульсіўнасцю, заўзятасцю ў справах развіццю здольнасцей і ініцыятывы сваіх спецыялістаў, паплечнікаў? Пра такога лідэра ў тэатры часам кажуць, што ў спектаклі ён сцягвае посцілку на сябе...

Магчыма, да Алега Адольфавіча гэта і не мела дачынення. Прынамсі, не было ў нас пэўных падстаў гэта сцвярджаць...

Адтуль мы ўзялі кірунак на Докшыцы.

Наведаць Докшыцкі раён, на мой погляд, было вельмі важна. У свой час гэты куток Віцебшчыны быў для хлебаробаў няхлебным. Каменіца! Страшэнна завалуненыя дзярнова-падзолістыя супясчаныя глебы. Лясы. Пералескі. Пагоркі. Забалочаныя нізіны, нізінкі... Азёры... Словам, гэта як дзве кроплі вады было падобным на мілы сэрцу Івана Васільева нечарназёмны Валдай, толькі больш «завалдаены»; драбнатой і недагледжанасцю палеткаў не саступаў ён, напэўна, і велікалуцкім землям.

Так было... І мне хацелася паказаць госцю, што ў тым раёне цяпер, якія адбыліся змены ў земляробстве, у жыцці сялян наогул. З палёў пазбіралі камяні, выкарчавалі хмыз, дзякуючы чаму плошча пашырылася ўдвая. Абнавіліся вёскі. Многае перажрэслі... Эканамічна адсталы і кволы раён у кароткі час стаў самым рэнтабельным у вобласці, іншымі словамі, пачаў прыносіць прыбытак.

Дзіва, што могуць людзі!

Мы спяшаліся. А дзень асенні кароткі. Да таго ж церушыў дробны дождж, і ад гэтага дажджу і бухматага нізкага неба, амаль нерухомага, хутка бралася вечаровая шэрань.

Мяне папярэдзілі, што нас будуць чакаць у саўгасе «Порплішча». Загадзя ўяўлялася зала: сядзяць рабочыя саўгаса, механізатары, тэхнолагі вытворчасці, мясцовая інтэлігенцыя... Нядзеля. Аднак жа і сустрэча з пісьменнікамі — не будзённая справа. Прыйдуць сяляне, паслухаюць нас, а мы — іх, чым жывуць, што хвалюе... Іван Васільеў — якраз той пісьменнік, які зацікавіць іх: колькі біўся за інтарэсы калгаснае вёскі! Былы настаўнік... Зрэшты, чаму былы?.. Ён і цяпер н а с т а ў н і к. З гэтым пагодзіцца кожны, хто чытаў яго публіцыстычныя «Лісты з вёскі» або аповесць «Сялянскі сын», хто знаёмы са шчодрымі на думкі і пачуцці яго кнігамі «Я люблю зямлю гэтую» або «Бяру на сябе», «Допуск на ініцыятыву» або «У краі вытокаў» і іншымі. Дарэчы, першыя дзве адзначаны Дзяржаўнай прэміяй РСФСР імя Горкага...

Адным словам, цяпер у асобе Івана Васільева руская савецкая літаратура мела выдатнага пісьменніка. Яго творчасць увабрала ў сябе па крупіцах столькі роздуму і розуму народа, яго рыс і адзнак сумлення, што сама па сабе ўжо з'яўлялася крыніцай народнай мудрасці, жывога праўдзівага слова, выразнага чуцця і неардынарнага бачання свету.

Цікава, што сапраўднае прызнанне да Івана Апанасавіча Васільева прыйшло нядаўна, у другой палавіне сямідзесятых, калі ён ужо ў паважаным узросце пачаў публікаваць у часопісах «Волга» і «Наш современник» свае нарысы, у якіх, разважаючы, і прытым разважаючы смела, глыбока і тонка, прэпарыраваў, можна сказаць, жыццё тагачаснае вёскі — скрозь, па ўсіх напрамках, дзе балела і дагэтуль баліць.

У адным з такіх нарысаў Васільеў з уласцівай яму шчырасцю піша, звяртаючыся да ўласнага біяграфічнага факта: «Чытачы пытаюцца ў мяне, як, маўляў, так здарылася, што да пяцідзесяці год цябе не існавала, а ў пяцьдзесят

раптам аб'явіўся. Ніякім пісьменнікам я не збіраўся станавіцца...»

І ўсё ж ён ім стаў. Праўда, і да шырокавядомых нарысаў ён пісаў. Пісаў пераважна для дзяцей... Толькі аналітычны праблемны мастацкі нарыс і гэтага ж плана аповесці зрабілі яго тым Васільевым, якога мы ведаем. Ён стаў сапраўдным літарататарам і з годнасцю развівае і ўмацоўвае традыцыі айчыннага рэалістычнага нарыса, надзеленага вострым сацыяльным гучаннем і грамадзянскім пафасам,— традыцыі, якія ідуць ад Г. Успенскага, В. Авечкіна і якім падалі трываласць кнігі такіх публіцыстаў, як Г. Траяпольскі, Л. Іваноў, Ю. Чарнічэнка, А. Стрэлены, І. Дуброўскі... «Аб людзях, іх працы, іх радасці і трывогах ён піша так, што перахоплівае дыханне — да чаго ўсё гэта праўда...» Так пісаў пра Васільева крытык В. Свіннікаў. Ад праблем гаспадарчых пісьменнік усё больш пераходзіць да надзённых маральна-этычных праблем чалавечага быцця. Яго хвалявалі і хвалююць адносіны чалавека да працы, да зямлі і сама зямля, адчужэнне ад яе селяніна, спадчыннага земляроба, безыніцыятыўнасць, а часам і паразітызм на вёсцы. «Сутнасць справы ў тым, што рабіць з ёй, з зямлёю? Патрэбна яна мужыку або абыдзецца ён без яе? Гаспадар ён на зямлі ці падзёншчык?» Так у прынцыпе Васільеў ставіць пытанні...

Там, куды мы ехалі, здавалася, і я буду не апошняй спіцай у коле, бо аб сялянскай працы, творчай рупнасці, грамадзянскай актыўнасці докшынцаў расказаў у дакументальнай аповесці «Пакуль сонца ў зеніце», або «Приручение земли» ў рускім выданні... Дарма што жыццё Порлішчы там амаль не закранулася...

Гэтая вёска патанала ў слотнай, у непагодлівай шэрані, хоць дождж і перастаў церусіць. Было вогка... Жыхары, што стрэліся на вуліцы, падказалі: нас чакаюць у школе...

На школьную грамаду, прызнацца, мы не разлічвалі, і выгляд у Івана Апанасавіча быў папылы, тым больш што ён усё яшчэ знаходзіўся

ва ўладзе чалавечай прывабнасціВаладзько і перажываў за хуткае з ім расстанне.

Але ж і школа неўзабаве расчаравала нас. Школа нагнала суму сваёй адчужанасцю ад вясковых аколіц. Зрэшты, пра саму сустрэчу ў Порплішчы я раскажу потым, недзе далей, а тут надам хіба: з тае вёскі ў докшыцкую гасцініцу нас суправаджаў, скажам так, начальнік сярэдняй рукі, якому па ідэі выпадала адказваць за настрой і дух людзей,— не будзем называць яго прозвішча. Дзівіла, што ён быў зусім абыякавы да нашага дыспуту з вучнямі і да спрэчак з настаўнікамі. Што яго хвалявала ў жыцці? Чым ён жыў? Загадка... Гэта нам удалося зразумець у нейкай меры толькі ў машыне, калі па дарозе ў райцэнтр мы пачалі з ім простую і адкрытую гутарку.

— Як жа вы перастройваеце сваю работу, каб яна адпавядала новым павевам, патрабаванням?..— папытаўся я, разлічваючы, што начальнік сярэдняй рукі тут зразумее мяне з паўслова.

— Гэты год у нас добра склаўся,— сказаў ён з годнасцю ў голасе.— Фермы цалкам забяспечаны кармамі. Сена і сенажу нарыхтавалі амаль у паўтара раза больш, чым летась. Атрымалі нядрэнны ўраджай збажыны...

— Добра... Але што, скажыце, робіцца, каб нематэрыяльнае забеспячэнне людзей адпавядала новым умовам працы, жыцця? — удакладніў я сваё пытанне.

— Наш раён, няўрокам кажучы, лідэр у некаторых галінах гаспадарання, мае прыбытак... На гэтым тыдні докшынцам, напэўна, уручаць пераходны Чырвоны Сцяг за поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі. Некаторыя фермы атрымаюць добрыя прэміі і граматы...

І я зноў слухаў пра гаспадарчыя набыткі, удачы, пра спосаб утрымання жывёлы па фермах. Падобна было, што начальнік сярэдняй рукі нават ганарыўся такім дасканалым веданнем вытворчасці. Але ён быў глухі да чалавечых адносін, да чалавечай душы. Новая спроба павярнуць яго ў гэты бок не дала выніку. І та-

ды ўзарвала Васільева, які дагэтуль сядзеў моўчкі ў начным мораку салона побач са мной.

— О-о, госпадзі Ісусе! — выгукнуў ён роспачна.— Ды што ж гэта вы ўсё пра кароў, пра фермы?! Пра сена, салому?! Ці ж ваш гэта клопат?! Пра чалавека ні разу не ўспомнілі! Як жа вы тады будзеце выконваць дырэктывы чэрвеньскага Пленума, а? Ці зрабіла хоць гэтая пастанова пераварот у вашых мазгах, які яна павінна была зрабіць?! Не, мусіць!

— Зрабіла,— выціснуў з сябе гэты начальнік. Але каб такім, як гэтае слова, зернем ды засявалі раллю, на ёй, пэўна, радзіў бы адзін чартапалох.

Разгнявана сапучы, Іван Апанасавіч палез у кішэню па таблеткі, якія звычайна насіў для ўтаймавання сэрца.

Падобна было, што докшыцкі начальнік сярэдняй рукі па самыя вушы залез у вытворчасць і жыў ёй... Аднак ці была карысць вытворчасці ад яго? Сказаць цяжка... Справу ж там непасрэдна вырашалі іншыя людзі... Вядома.

Адамовіч, з якім мы ехалі з Сівіцы ў Івянец, быў чалавекам рахманым і шчырым, шанаваў зямлю і чынную працу на ёй, добра пыніўся на сваёй ранейшай пасадзе плапавіка ў будаўніцтве... Але ён не ведаў як трэба сучаснай сельскагаспадарчай вытворчасці і толькі ўрастаў у яе. Пакуль што не ведаў ён і партыйнай работы, сучасных патрабаванняў да яе і замест таго, каб думаць пра дух і настрой чалавека, пра яго дачыненні да зямлі і шукаць як эканамісту тыя счапленні, тыя ўмовы, якія робяць селяніна гаспадаром у калектыўнай гаспадарцы, дбаў пра колькасць мерапрыемстваў, гэта значыць сходаў і розных пасяджэнняў. Чаму? Пра гэта варта было б спытаць у Валожыне...

Браніслаў Пятровіч меў, на жаль, састарэлыя ўяўленні аб грамадска-палітычнай рабоце. Але ж той, у Докшыцах, здавалася, наогул ніякіх уяўленняў пра выхаваўча-палітычную работу не меў. Так ці інакш, але яны, гэтыя рупліўцы, былі адзін аднаго вартыя. І, пэўна, таму Васільеў маўчаў. Папраўдзе, не хацелася і мне

больш гаварыць з Адамовічам пра ягоныя клопаты. Прыгадвалася надрукаваная нядаўна ў газетах пастанова ЦК КПБ аб нездавальняючым выкананні рашэнняў чэрвеньскага Пленума ў Дзяржынскім раёне на Міншчыне. Адчувалася, такім чынам, што сітуацыя з ажыццяўленнем тых пастаноў на месцы, у раёнах, складаная. І халадок сцінаў сэрца пры думцы, што той, у Докшыцкім, і гэты, у Валожынскім раёнах, таксама знаходзяцца ў ліку асноўных праваднікоў палітыкі партыі ў духоўным развіцці сялян, жыхароў сучаснае вёскі.

## 3. Івянецкая мазаіка

Івянец жыў сваім роўным, упарадкаваным, немітуслівым жыццём. Яшчэ не адарваны ад прыроды, лясоў і палёў, ён спалучаў у сабе гарадскую «сукупнасць» з выгодамі вясковага побыту.

Пасёлак чысты і ўтульны. Цікава, што нашы ўражанні ад гэтага «старасвецкага мястэчка», як называў яго ў сваіх «Лістах з дарогі», напісаных у 1910 годзе, пісьменнік Ядвігін Ш., перагукваліся з ягонымі тагачаснымі ўражаннямі. «Вельмі спадабаліся мне,— пісаў ён,— хаткі івянецкіх мяшчан... просценькія яны, іншыя і старэнькія, але чысценькія; дзе-нідзе садочкі; у якое аконца ні глянь — паўнюсенька вазонаў, кветак; добрая варажба: неблагі той чалавек, хто любе хараство, і я вельмі жалею, што не меў часу больш і лепей пазнаць івянчан».

На шырокую і прыгожую плошчу пры скрыжаванні вуліц цяпер выходзілі аграмады будынкаў і — адным рогам — сквер; там, у зялёных прысадах, хаваўся музей. Шматлікія яго экспанаты сведчылі аб рэвалюцыйных справах на гэтай зямлі, аб жыцці і актыўнай дзейнасці Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага, слаўнага рыцара рэвалюцыі, паплечніка Леніна. Ён нарадзіўся на хутары Дзяржынава, непадалёку ад Івянца. Тут жа, у Івянцы, жыў брат Фелікса Эдмундавіча Казімір з жонкай Люцыяй. У лі-

пені 1943 года іх расстралялі фашысты за сувязь з партызанамі, якія ў гэтым кутку, як і па ўсёй Беларусі, не давалі продыху акупантам.

Ядвігін Ш. на пачатку стагоддзя пісаў: «Івянец мае сваю славу — заслужоную славу: вырабляюць тут кафлі да печы і розную гліняную пасудзіну; усе гэтыя вырабы вельмі аздобныя; рысунак пекны і арыгінальны...»

Не згубілі майстэрства сваіх дзядоў і прадзедаў і сучасныя ганчары, керамісты, у чым мы з Васільевым пераканаліся, наведаўшы фабрыку мастацкай керамікі і вышыўкі, дзе пазнаёміліся з яе вытворчасцю і творцамі асабіста: галоўным тэхнолагам Валянцінай Бурак, знатным майстрам Антонам Пракаповічам, лепшчыцай-глазуроўшчыцай Валянцінай Рудовіч... Іх праца радавала.

Цэх вышыўкі размяшчаўся асобна...

У чым мы яшчэ больш пераконваліся?

Не змарнела, не звялася добрая зямная слава мясцовага люду, івянчан, якія спакон вякоў вызначаліся сваім майстэрствам і гаспадарлівасцю, добрым густам у жыццёвым побыце. Тут усё было сапраўдным, арганічным, трывалым — нават недабудаваны жылы дом, шырокі, раскошны, і хто яго ведае, колькі праўды, а колькі жарту было ў тым, але нам расказвалі мясцовыя жыхары, што ён даўно будуецца і кожны год узвышаецца на адзін паверх і што канца-краю тым паверхам не відно — няйначай, небаскроб будзе! Але ж яго некалі закончаць, бо будаўнікі не пакідаюць будаўніцтва...

Мы паабедалі ў новым, шыкоўным рэстаране, бязлюдным у сярэдзіне дня. Пайшлі адтуль у будынак, над якім ледзь-ледзь пакалыхваўся ў сонечных промнях чырвоны сцяг.

Але і там не было ніводнага наведвальніка. У калідорах і залітых сонцам утульных пакоях стаяла як бы прыўзнятая, пругкая, урачыстая цішыня. Савет без наведвальнікаў, без скаргаў і патрабаванняў?.. Дзіўна! Але, падумаўшы, я і ў гэтым факце ўбачыў адзнаку стабільнага і ўпарадкаванага ўвогуле чалавечага жыцця. Тут нічога ні ў кога не секлася, не рвалася на душы,

не гарэла... Дзень — як і мае быць; народ працаваў.

Старшыня пасялковага Савета Падугольнікава Галіна Васільеўна падалася нам спрактыкаванай і лагоднай жанчынай; адпаведна такому ціхаму часу, спакою, у маладым яе целе, паставе была разліта раўнавага. Раўнавага чыталася таксама і ў постацях астатніх жанчын, што разам тут рупіліся, увасабляючы Савецкую ўладу на месцы. Яны сустрэлі нас ветліва, гасцінна.

Ужо надвячоркам мы знайшлі дом івянецкага разьбяра па дрэву Апалінарыя Пупко, вядомага, бадай, на ўсю рэспубліку. Ён цудоўна ўвасабляў у дрэве розных людзей, а таксама н е л ю д з е й, гэта значыць нячысцікаў. І на падворку, і ў хаце ў яго багата чаго было выстаўлена, праўда, не ўсё было раўнацэнным. Побач з удалымі мастацкімі творамі было і такое, што ішло ад натуралізму і здавалася нерухомым, халодным. Напэўна, пагэтаму «тэатр» Пупко нас трохі бянтэжыў і, праўду сказаць, не захапіў анікольні пісьменніка Васільева, які таксама валодаў разцом і меў добры густ, а найвышэй за ўсё ставіў філасофскую думку і ідэю ў творы.

Разважаючы над першымі івянецкімі ўражаннямі, мы вярнуліся да гасцініцы.

Гэты глыбінны куток беларускай зямлі, куды мы, распачынаючы вандроўку, перш-наперш ступілі, павінен быў даць нам своеасаблівую размінку — зарадку для «мускулаў», якія робяць думку пругкай, а пачуцці абвостранымі, успрымаючымі тое, што казыча, свярбіць, рупіць грамадству.

Калі мы з Васільевым сустрэліся ў Мінску, каб разам пусціцца ў дарогу, ён спытаўся:

— Ты чым цяпер будзеш цікавіцца?

— Праблемамі, за якімі ляжыць перспектыва.

— А я хачу больш дасканала вывучыць ініцыятыву, так сказаць, тэхналогію ініцыятывы: дзе і пры якіх абставінах яна ўзнікае і як праяўляецца.

— Ну і нематэрыяльныя патрэбнасці, напэўна, па-ранейшаму будуць вас цікавіць? — выказаў я меркаванне.

— Вядома...

У Івянцы не адчувалася вастрыні праблем, што звычайна хвалююць жыхароў, якія адышлі ад вёскі і не знайшлі пэўнага занятку ў горадзе. Няйначай, хтосьці магутны, падзелены воляй і ўладай, прыглушыў або зняў тут супярэчнасці, характэрныя для такіх вось глыбінных паселішчаў, што калісьці былі раённымі цэнтрамі. Усім работы хапала... І не выпадкова, відаць, у агромністай камяніцы касцёла, якая пачала пуставаць, размясцілася эксперыментальная база Мінскага праектна-тэхналагічнага інстытута... Хоць гэта, зазначым, і не самае лепшае выкарыстанне высокіх сцен і скляпенняў архітэктурнага помніка XVIII стагоддзя. У Полацку, напрыклад, у падобным хораме карцінную галерэю адкрылі... Але ж Полацк — вялікі горад. А калі па вялікім рахунку, то і там не ўсё з розумам рабілася. Там (на нашай памяці) да горшага дадумаліся: парушылі масіўны і велічны будынак кадэцкага корпуса, і на яго месцы ўзвялі... шэры панельны дом!.. А той жа «корпус» пасля вызвалення горада ад фашыстаў даваў прытулак тысячам гараджан, і ўжо толькі таму рабіўся як бы музейнай рэліквіяй.

У Івянцы не адчувалася дысанансу ў гаспадарчай рупнасці. Аберагаўся лес... Была вузкай рэчкай Волма — плацінай падперлі, і пад самым пасёлкам утварылася возера — хочаш — вуду закідвай, хочаш — на чаўне катайся.

Мы, канечне, разумелі, што ледзь дакрануліся да жыцця івянчан і бачым не ўсё, а толькі тое, што зверху ляжыць. Нам жа патрэбна была глыбіня, дзе пераплятаюцца карані жывога і жывучага паміж людзей, а таксама — у людзях, каб лепей разумець ход жыцця. Вядома, немалыя шанцы заглыбіцца абяцала нам сустрэча з Драгуном, які павінен быў знайсці нас... Старшыня калгаса — фігура! Ён, колькі жыве, столькі варыцца ў катле розных няпростых праблем. Сам чорт яму не пазайздросціць!

Але сонца ўжо хілілася да зямлі і кідала на Івянец косыя промні. Ад іх цень за гасцініцай пацямнеў і шпарка папоўз кудысьці ўбок, да Волмы.

Пад'ехаў на легкавым газіку Адамовіч. Скончыўся працоўны дзень, і ён вяртаўся з калгаса дадому.

Адамовіч паведаміў, што старшыня калгаса так і не вярнуўся пакуль: штосьці яго затрымала ў Валожыне... Я папрасіў назваць хатні тэлефон Драгуна, аднак перш чым даць, Браніслаў Пятровіч памарудзіў крыху... Я ўспомніў пра гэта, калі праз гадзіну званіў на старшынёву кватэру і дачка Восіпа Міхайлавіча перад тым як адказаць, што бацькі няма дома, таксама памарудзіла.

Прайшла яшчэ гадзіна, я зноў пазваніў.

— А хто гэта? — перасцярожліва спытаў той самы голас.

Я сказаў. Пасля паўзы ў трубцы прагучала:

— Яго няма.

Нейкім чынам дбайны старшыня калгаса ператварыўся для нас у невідзімку, і я папрасіў дачку перадаць, каб ён пазваніў нам, калі вернецца.

Вельмі хацелася папярэдне дамовіцца наконт заўтрашняй стрэчы. Тут жа, каля тэлефона ў гасцініцы, зайшла гаворка з дзяжурным адміністратарам: пра мясцовае людское жыццё, прыватную гаспадарку... Круглатварая і спраўная жанчына, з пэўным жыццёвым вопытам, расказвала, што ў Івянцы, які налічвае 1500 двароў, трымаюць усяго 81 карову — хлявы пустуюць, бо цяжка з сенам — лясная зона... А помачы мала... Івянецкі саўгас «Радзіма» і прыгарадны калгас «Рассвет», дарэчы, заахвочваюць насельніцтва Івянца ў адкорме цялят і свіней. Гэта цяпер практыкуецца багата ў якіх раёнах, і па дагавору прыватным асобам выдзяляюць камбікорм з фондаў гаспадаркі... У тутэйшых гаспадарак, аднак, такой магчымасці няма, і яны ўзамен прапануюць людзям зямлю: пяць сотак за выкармленага парсюка (да 150 кілаграмаў) або цялё (да 350 кілаграмаў). І людзі ахвотна па-

гаджаюцца на гэтыя ўмовы; сям'я гэтай жанчыны з трох чалавек выкарміла і здала за саўгас у тым годзе трох вепрукоў. Быў намер узяць па дагавору зямлю і сёлета, ды ў саўгасе змяніўся дырэктар, і цяпер ужо патрабуюць перш здаць, а зямлю потым паразаць будуць!..

У голасе жанчыны прагучалі дакор, асуджэнне, і Васільеў занепакоіўся:

— Ну, гэта стыль работы дэмагогаў і адпетых перастрахоўшчыкаў!

Я дык проста крыўду адчуў за гэтую працавітую жанчыну і яе сям'ю, сказаў з горыччу:

— А ці не спрабаваў ён карміць скаціну тым, што яшчэ не вырасла?

— Сам,— працягвала дзяжурная,— можа дагавор парушыць і не даць тэхнікі, каб узараць, калі трэба... А ў нас пакуль жаданне працаваць ёсць.

— Вось гэта цудоўна! — усклікнуў Васільеў, яшчэ больш узрушаны.— У нас, у Пскоўскай вобласці, напрыклад, даюць да гектара сенажаці за адну галаву, а тым, хто бярэцца буракі даглядаць, таксама прапануюць... Да трох гектараў можна браць зямлі па дагавору. Але ахвотнікаў мала!

— Гадоў праз сем,— яна чамусьці назвала гэтую лічбу,— і нас ад зямлі адвернуць. Маладым яна ўжо не патрэбна... Старэйшая дачка прыязджае з Мінска: «Ой, навошта вам гэтыя свінні! Лепей на поўдзень, на мора з'ездзілі б!..» А напакуеш сумку — бярэ!.. Смачнае...

— У вёсцы на Пскоўшчыне маладым на вяселлі дораць карову: маўляў, даглядайце і даіце... Не бяруць!

У нас, у Івянцы, пакуль бяруць. Але ж тут няма магчымасці пракарміць,— паўтарыла івянчанка.

— Вось вам і ініцыятыва! Ёй проста не даюць разгарнуцца. Сваёй дэмагогіяй мы багата дзе справу загубілі!

Гаворка з дзяжурнай у гасцініцы ўсё ж усцешыла Васільева: жыве тут яшчэ ў народзе сялянская жылка! Жыве, і, калі так, у зямлі павінен складвацца шчаслівы лёс...

Драгун не пазваніў, і гэта нас засмучала і непакоіла. Раніцай рана я ўсё-такі надумаў з'ездзіць туды — проста на нарад. «Калі ён не хоча нас бачыць, то мы на яго паглядзім!» Толькі Іван Апанасавіч адмовіўся: «Я яшчэ паляжу, пап'ю чайку і схаджу ў Савет: цікава, што думае пра людскі клопат аб зямлі Падугольнікава. А ты, браце, тым часам у «Рассвеце» справішся...»

Мы так і зрабілі. Васільеў застаўся і пасля расказваў мне пра тую сустрэчу ў Савеце, праўда, без асаблівага захаплення, у некалькіх словах.

Яна сказала:

— А мы зямлю стараемся асабліва не разбазарваць.

— Галіна Васільеўна,— адказаў ёй на гэта Васільеў,— зямля адорвае тых, хто да яе цягнецца і абрабляе. Гэта проста шчасце, калі такія людзі ёсць! Гэта ўжо гарантыя поспеху. Глядзіце, каб з гэтай сваёй беражлівасцю ды старапнем вы не прыйшлі к таму, што мы ўжо маем у некаторых раёнах Нечарназем'я. Зямля гуляе і чалавек гуляе!

Падугольнікава ў здзіўленні варухнула плячом...

Слухаючы пераказ гэтай гаворкі, я прыгадаў эпізод, апісаны беларускім пісьменнікам Міхасём Чаротам у 1924 годзе — у часе падарожжа па рэспубліцы разам са старшынёй ЦВК Чарвяковым.

«Вось і Доўск...

Стаяць белыя будынкі пры скрыжаванні шасейных дарог — гэта быўшыя царскія палацы. Зараз у іх змяшчаецца Дом селяніна, лясніцтва, пошта.

Зайшлі ў лясніцтва. Куча тапароў, піл і падобных прыладаў адразу кінулася ў вочы...

— Скуль гэта ўсё? — пытае Аляксандр Грыгоравіч у ляснічага.

— Сяляне лес сякуць, вось мы і адбіраем. Думаем у павятовы аддзел сацыяльнай бяспекі перадаць — хай раздаюць...

А спакуса для сялянства немалая. У саміх

хаты струхнелыя, лесу свайго няма, а лясныя масівы недалёку...»

Дзіва: ад каго аберагалі лес, якога тады ў нас было значна больш, чым цяпер? І якіх такіх лепшых часоў прымушалі чакаць селяніна, каб ён меў магчымасць пабудаваць сабе хату? Жадаючы селяніну дабра...

Пазней ужо я сам бачыў, як ахоўвалі калгасныя і саўгасныя сенажаці (а некалгасных — вобмаль!) ад касы сельскага жыхара, у тым ліку і калгасніка, які не ўяўляў свайго жыцця без каровы. І травы жухлі, ішлі пад снег, і жух, робячыся ніякім, інтарэс, імпэт, дух гаспадара.

Як ні круці, а 81 карова хоць на пяць, хоць на тры тысячы жыхароў пасёлка, хай сабе і «гарадскога», на зямной прасторы — мізэрная лічба. Па рэспубліцы ў цэлым справы лепей выглядалі. Кароў мелі 62 працэнты сямей, якія жылі ў сельскай мясцовасці, а свіней больш — 71 працэнт.

Што за важны клопат ляжаў раней у абмежаванні падсобнай гаспадаркі селяніна, калі, аддаючы належнае калектыўнай ніве, ён дбаў яшчэ пра свой двор, малую гаспадарку, сям'ю? Якая ж у тым была неабходнасць? І ці не была яна прыхамаццю?.. Паспрабуй разбярыся!

Мой дзядзька Сцяпан, працуючы ў саўгасе брыгадзірам, трымаў дома авечак, і яго прымусілі здаць іх.

А старшыня аднаго добрага калгаса расказваў мне, здзіўляючыся сам таму, як ён у сямідзесятыя гады хадзіў па дварах і ўгаворваў калгаснікаў здаваць кароў,— даказваў ім з алоўкам на паперы, што на тры двары адной каровы хопіць.

— Глупства хапала, няма што!..

Мы павінны, казаў, называць рэчы сваімі імёнамі, хоць каму-нікаму гэта і не па руку. Трэба гэта рабіць, каб больш выразна бачыць свет і асэнсоўваць з'явы, каб спарней ісці наперад.

Якраз у тое лета адбылася чарговая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Савет прыняў пастанову аб далейшым развіцці падсобных

гаспадарак грамадзян, прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. З яе я даведаўся, што людзі, ведучы кожны сабе гаспадарку, займаюць у нашай рэспубліцы 600 тысяч гектараў раллі (гэта прыкладна дзесятая доля ўсёй ворнай зямлі) і што ўласнасцю падсобных гаспадарак з'яўляецца 32 працэнты кароў, 33— свіней, 42— авечак і коз ад іх агульнага статка. У краіне ў цэлым асабістая падсобная гаспадарка складала 29 працэнтаў у валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі.

Вярхоўным органам улады рэспублікі ўпершыню дадзена вызначэнне ролі кавалка зямлі і сваёй гаспадаркі ў грамадскай вытворчасці і жыцці. Пра падсобку, напрыклад, вельмі слушна зазначана, што, з'яўляючыся дадатковай крыніцай вытворчасці прадуктаў харчавання, яна «захоўвае важнае э к а н а м і ч н а е, с а ц ы я л ь н а е, м а р а л ь н а - п с і х а л а г і ч н а е і в ы х а в а ў ч а е значэнне, павышае ўзровень таварнасці грамадскай вытворчасці» (разрадка мая.— *В. Я.*).

Безумоўна, спрыяючы вырашэнню многіх прынцыповых і ўдаўнелых пытанняў сялянскага двара, пастанова патрабавала ад мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, а значыць, і ад нашай новай знаёмай Галіны Васільеўны Падугольнікавай, «узмацніць кантроль за захаваннем дагаворных узаемаадносін грамадзян з калгасамі, саўгасамі і нарыхтоўчымі арганізацыямі».

І што прыходзіць на думку? Вельмі важна цяпер пераадолець інерцыю мыслення, таго самага, якое, прыкрываючыся высокімі парываннямі і памкненнямі, колькі дзесяцігоддзяў уганяла клін паміж зямлёй і селянінам.

## 4. Раніца па нараду. Драгун супраць Драгуна

Гаспадарчая гамана яшчэ не пачалася, аднак усе, каму належала, ужо былі тут, і невялікі драўляны будынак калгаснае канторы поўніўся

галасамі. У асобным пакойчыку, насупраць дыспетчарскай, сабраліся ў гурт аграномы, заатэхнікі і брыгадзіры. Па гумару, пацвельванні, па тонкіх намёках, якія выклікалі смех з першага слова, можна было меркаваць, што тут добры лад і мацуецца ён дзелавою таварыскаю спайкай. Мне прыемна было адзначыць таксама багаты народны, чароўны каларыт беларускае мовы, на якой праўленчая дружына вяла тут свой рэй, вольны, самавіты.

Падворак залівала ружаватай празрыстасцю, і ў сугрэве надыходзячага лета пахла роснай травой ды клеем зялёных бухмацінак лісця.

Мы з Адамовічам, сакратаром парткома, сацтупіўшы з ганка канторы, спыніліся каля тых самых стэндаў з паказчыкамі — перакідваючыся нязначнымі словамі, чакалі старшыню. А вось і ён! З'явіўся: невысокі, круглы, рухавы... Драгун не ішоў — каціўся ад варотаў да ганка канторы.

— Восіп Міхайлавіч,— гукнуў яго Адамовіч.— Да нас пісьменнікі прыехалі...

Адамовіч сказаў «пісьменнікі», хоць я тут быў адзін... Драгун сцепануўся, на долю секунды запаволіўшы рух, акінуў нас позіркам:

— Я счас-с...

Ён не прывітаўся, а толькі мімаходзь кінуў гэтае «счас-с» і ў наступны момант схаваўся ў канторы. Сумеўшыся, мы з сакратаром парткома яшчэ колькі мінут пастаялі. Адамовіч спытаўся:

— На нарад пойдзеце?

Гэтая прапанова для мяне была як выратавальны круг.

— Пойдзем...

Мы ўвайшлі ў прасторны кабінет старшыні і ціхамірна занялі каля дзвярэй свабодныя крэслы. Засяроджаны на старшыньскіх абыякавых адносінах да нас, літаратараў, я спачатку пачуваў сябе дрэнна — проста назолай, перад якім зачынілі дзверы... І рабілася звяном у ланцугу фактаў учарашняя тэлефонная дыпламатыя... Але я не думаў крыўдзіцца. Я спрабаваў зразумець чалавека і, па магчымасці, апраўдаць яго ў намеры пазбегнуць сустрэчы з намі. Напэўна,

ён быў адналюбам і аддаваў усяго сябе гаспадарчым справам, тэхналогіі, полю і фермам... Напэўна, заклапочаны прэстыжам, тонамі, цэнтнерамі, ён сустракаўся са староннімі людзьмі — мастакамі, артыстамі, пісьменнікамі — нагул толькі па у к а з а н н ю... Каб з намі бавіць час?.. Навошта? Лішнія клопаты. Марсіяне няхай ходзяць па марсіянскіх сцяжынах!..

Гэта быў, на жаль, даволі пашыраны тып кіраўніка гаспадаркі, духоўныя інтарэсы якога нікім практычна не «планаваліся», а калі так — значыць, не надта і патрэбнымі былі... Яго не параўнаць з Ралько або Валадзько, вядомымі не толькі сваімі дасягненнямі ў гаспадарцы, але і цікаўнасцю да навакольнага свету, прагай да свежага надрукаванага слова...

Аднак жа і Валадзько нас азадачыў. Выдам сакрэт...

Калі мы ехалі, як па казачным калідоры, па калгаснай вёсцы ў прысадах, якая раней была «неперспектыўнай», а цяпер зноў перайшла да паўнапраўнага жыцця, Васільеў спытаўся ў старшыні, ці не хацеў бы ён, каб тут, у адной з хат, якая, магчыма, пустуе, пасяліўся мастак? Ён, казаў Іван Апанасавіч, маляваў бы прыроду, людзей, вывучаў бы жыццё; а ведаць жыццё яму, канешне, важна...

Вуліца ж, нібы інтрыгуючы нас яшчэ больш, то прыгожа падала ўніз, то ўскідвалася ўгору на грудках, уся ў восеньскай пазалоце, як у агні...

— Не! — катэгарычна адрэзаў Валадзько.— Не хачу!

То чаму ж дзівіцца са старшыні ў Сівіцы? Ён, праўда, маладзейшы, вышэйшую адукацыю атрымаў, працаваў у Валожыне... Той — да ўсяго даходзіў саматугам, а жывапіс, відавочна, не трапіў у кола ягоных эстэтычных інтарэсаў. Але ці толькі ў гэтым прычына?..

На нарадзе пачалася жывая размова, і я хутка забыўся на акалічнасці, якія бянтэжылі мяне.

Штосьці там учора, калі старшыня адсутнічаў, было недароблена, не даведзена да ладу,

дзесь прастойваў трактар, а дзесь — на пасадцы бульбы — яго не хапала, і гэтак далей... Узвышаючыся над шырокім дубовым сталом, як купіна, Драгун папікаў маладых брыгадзіраў, механіка... Тыя нягучна апраўдваліся. Уся старшыньская дружына, акрамя хіба галоўнага агранома Тадэвуша Адамовіча, сядзела ўнураная, з апушчанымі плячыма, як перад судом. Куды падзеліся яе дасціпнасць і гумар, якія паўгадзіны назад так хараша выяўляліся? Дзіва!.. Праўда, яшчэ трохі вальней, самастойней пачуваў і паводзіў сябе брыгадзір першай брыгады, той самай, якая ўжо другі год працавала на гаспадарчым падрадзе,— Казімір Новік, чалавек сярэдняга веку, абабіты жыццём, абветраны ўсімі вятрамі... Маладзейшыя баяліся лішняга гуку падаць.

А Драгун, раз-пораз торкаючы алоўкам у тоўсты журнал дыспетчарскай службы, пачаў аддаваць распараджэнні. Атмасфера ж нараду рознілася ад атмасферы або духу падраду: старшыня камандаваў, і зрэдку аграном Адамовіч устаўляў у яго распараджэнні свае карэктывы. Для астатніх спецыялістаў каманды стыль вымагаў адпаведных паводзін: прымай, што прапануюць, бяры, што даюць, і выконвай, што загадана! Не ўнікаючы ў тонкасці брыгаднага падраду, я далей-болей пераконваўся ў псіхалагічна-стылёвай неадпаведнасці яму самога кіраўніцтва. Пры такіх варунках і адносінах начальніка да падначаленага пра самастойнасць і адказнасць брыгады за справу застаецца толькі марыць. Характарам, стылем нараду, прынамсі, можна было тлумачыць і тое, што ўвесь час ціха, ні ўва што не ўмешваючыся, сядзеў, як птах на чужым падворку, і сакратар парткома.

Зусім не стараючыся іранізаваць, я з ціхім жалем адзначаў усё гэта, аж пакуль не празвінеў тэлефонны званок. Старшыня падняў трубку:

— Слухаю... А-а... Мы азімыя прабаранавалі, а яравыя — не, і не будзем... Позна, поле падказвае: няма сэнсу!.. Скажу... Пацягнем ба-

раной па пяску — каменне паверх павылазіць! Папрыціскае парасткі... Што? А паветра ў глебе, думаю, хопіць — глеба не зашэрхла пакуль...

Усе разумелі, пра што ідзе гаворка, і ўсе былі згодны са старшынёй, ківалі яму галовамі: «Правільна!» А галоўны аграном Тадэвуш Казіміравіч, седзячы блізка, наўзбоч старшыні, падказваў на ўсякі выпадак патрэбныя словы:

— Ідуць цёплыя і мяккія дажджы. Структура глебы добрая. Авёс ужо наогул перарос, і яго баранаваць няма як...

Старшыня даводзіў у трубку:

— Зразумейце, гэта будзе лішняя трата і часу, і сродкаў!..

Але на тым канцы дроту начальнік, як я даведаўся потым, галоўны аграном упраўлення сельскай гаспадаркі раёна — Рамановіч, не хацеў Драгуна разумець і ціснуў на тое, каб баранаваць. Без баранавання, сцвярджаў ён, будзе недабор ураджаю.

Драгун цярпліва і доўга апраўдваўся:

— А мы і так збіраем ураджай да 45 цэнтнераў. Мы сеем густа — бярэм густатой. Не... А што кукуруза?.. Кукуруза на добрым аграфоне ў нас кусціцца, як елка!

Аднак усе довады старшыні з таго боку адмяталіся, як мякіна. Гэта не спадабалася Драгуну, і ён загаварыў больш рашуча:

— Што летась?! Недабралі на полі? Скажу чаму. Убіраць трэба было на два тыдні раней... Сцябліна адрасвянела, выйшла ў сухое рэчыва, от чаму вага зменшылася. Скаціна, дарэчы, таксама такі сілас не надта любіць. Ага... Навука іншае сцвярджае? Няхай,— і Драгун пайшоў на кампраміс.— Навука, можа, і не маніць, а мы зробім так, як нам вопыт падказвае. Не... Я ж сказаў...

Мне спадабалася яго вытрымка, але той, з Валожына, выпрабоўваў цярпенне жорстка, і яно было на зыходзе:

— Ай, ну дзе, дзе гэта па 40 працэнтаў яравых прабаранавана?! Назавіце мне гаспадарку! Не веру... Гэта лічбы, проста лічбы — для мі-

шуры, для вас! Яны вам патрэбны! А мы іх даваць не будзем! Ага... Што? Ну паедзем туды, сустрэнемся на полі нос к носу, і я дакажу вам!

У кабінеце старшыні павісла цішыня. Рамановіч відавочна ўжыў самую страшную пагрозу за зрыў плана па баранаванні новае руні. Аднак і гэта не падзейнічала на ўпартага старшыню калгаса.

— Можаце дакладваць! — адрэзаў ён і паклаў трубку.

Дык што ж тут атрымлівалася? Канфлікт — пэўна. Але падобна было, што Драгун выступаў супраць Драгуна! У адным выпадку ён адкрыта камандаваў і паводзіў сябе як чыстай вады адміністратар, у другім — адмаўляў вышэйшаму начальніку ў праве камандаваць імі, хлебаробам, павучаць, што, дзе, як рабіць на полі дзеля высокага ўраджаю... От які зігзаг!

Тут выявілася, вылезла наверх найвастрэйшая праблема арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Яна, вядома, даўно і даўно зацягнулася ў тугі вузел, аднак дагэтуль яе ніяк не могуць ні развязаць, ці рассекчы, і нам сёння важна бачыць яе. Прычым яе важна бачыць усім, на мой погляд, і таму, хто жыве на сяле, і таму, хто ў горадзе, бо да ўсіх нас яна мае дачыненне як паветра, як хлеб, і ад нас усіх залежыць яе вырашэнне.

Хіба ж не ўплываюць на сушу марскія вятры і цячэнні? І хіба атмасфера акіяна не робіць атмасферы над мацерыком? Чаму не! Уплыў гэты мы адчуваем штораз.

Падобным акіянам для нас, гараджан, з'яўляецца шырокая сельская прастора, з вёскамі і сельскагаспадарчай вытворчасцю, з сялянскім побытам і векавымі традыцыямі, з усёй сукупнасцю эканамічных, культурных і грамадскіх адносін. Гарады — астравы і астраўкі, архіпелагі ў гэтым вялікім і своеасаблівым Сялянскім Акіяне; яны жывуць, яны дыхаюць ім. Нездарма ж працэсы, якія адбываюцца на сяле, вельмі адчувалыя ў горадзе...

Нарад урэшце закончыўся, і мы з Драгу-

ном засталіся ў кабінеце адны, сустрэліся, як ён казаў, носам к носу.

Я прызнаўся яму ў сваіх супярэчлівых уражаннях ад праведзенай ім дзелавой сустрэчы са спецыялістамі гаспадаркі. Восіп Міхайлавіч, дарэчы, з паўслова мяне зразумеў і, сумеўшыся трохі, бадай шчыра і энергічна пачаў даводзіць, што ён і сам выступае супраць празмернага адміністравання і неабгрунтаваных каманд у гаспадарцы, у самім сабе, але дадаў, што з гэтай хваробай не адразу можна пакончыць! Яна ў крыві і паралізавала многае. Людзі не падрыхтаваны, дакладней, адвучаны самастойна працаваць, і перавод брыгады Новіка і другіх брыгад калгаса на гаспадарчы разлік або падрад, з аплатай па канчатковым выніку, адразу нічога яшчэ не змяніў і не зменіць, патрэбна, казаў, настойлівая і мэтанакіраваная работа з людзьмі, каб задуманае дало належны вынік, перш-наперш у псіхалогіі, а потым і вытворчасці.

— Мы, па сутнасці, ледзь-ледзь пачынаем гэтую работу,— прызнаўся ён, і шчырыя, самакрытычныя словы, канешне, былі яму апраўданнем.

Не спытаўся я, аднак, якую ж ролю ў гэтай важнай сацыяльна-псіхалагічнай перабудове старшыня калгаса адводзіць сакратару парткома, камуністам, сабе,— пра адносіны да людзей не спытаў у Драгуна... Захапіўся іншым.

## 5. Чые плюсы? Чые мінусы? «Гульня ў земляробства...»

Старшыня ў гаспадарцы — тая адзінка, значэнне якой павялічваецца, калі да яе далучаюцца нулі. Але тут назіраецца такі парадокс: «нулі» штораз павялічваюць, узмацняюць значэнне адзінкі толькі тады, калі яна будзе ўсведамляць сабе, што яны не нулі.

Сваім поспехам калгас «Рассвет» быў абавязаны, канешне, не аднаму старшыні Драгуну, хоць яго роля ў тым вельмі вялікая.

У Сівіцы на памяць прыходзіла гутарка з адным літаратарам, які даводзіў з уласцівай яму катэгарычнасцю, што цяпер усе спецыялісты-аграрнікі лянуюцца працаваць. Выключэнне складае старшыня калгаса ды яшчэ той-сёй... Ён, між іншым, крытычна паставіўся і да нарыса «Нематэрыяльныя патрэбнасці» Івана Васільева.

— Ведаеш, братка,— дзяліўся ён уражаннем,— Васільеў не ведае вёскі.

Я спрабаваў пярэчыць, толькі ён замахаў рукамі:

— Не-не, паслухай, што я табе скажу. Папершае, на сяле няма ўжо той цягі да эстэтычнага або духоўнага... Па-другое, спецыялісты калгасаў і саўгасаў парабіліся самымі вялікімі гультаямі — нічога не робяць, атрымліваюць вялікія грошы і толькі глядзяць, каб не трапіць на вочы старшыні або інжынера...

Не ведаю, у якіх гаспадарках ён гэта наглядаў — не скрозь, пэўна, так,— але ж увогуле з ім было цяжка спрачацца. Мы гаварылі пра вёску... А хіба такая з'ява, як штатныя адзінкі без асаблівай нагрузкі, без асаблівага напружання, не праблема для горада? Нездарма ж цяпер у прамысловасці пашыраецца практыка па наданні дырэктару асобых правоў у выкарыстанні фонду заработнай платы. Дырэкцыя сама вырашае, колькі на прадпрыемстве і паасобна ў кожным цэху патрэбна інжынераў, арганізатараў, тэхнолагаў, каб лепей наладзіць вытворчасць, колькі кожнаму з іх за адданую працу плаціць... Думаю, што гэты прынцып адносін да спецыялістаў, які адпавядае эканамічным законам сацыялізма, і сюды, у вёску, неўзабаве дойдзе. Зрэшты, у калгасе «Рассвет» імя Арлоўскага, на Магілёўшчыне, дзе мы яшчэ пабудзем, ён дзейнічае — даўно!

Але, пэўна, мелі рацыю і той літаратар, і старшыня калгаса Драгун, наракаючы на сённяшніх спецыялістаў-аграрнікаў: багата ў якіх гаспадарках самастойна варушыцца яны не прывучаны (дакладней — адвыклі), не дбаюць

пра справу, і ў такой сітуацыі энергічны, жывы старшыня ўяўляе сабой кулак без пальцаў.

Цяпер, прызнаўшы гэта за факт, паставім пытанне: а што ж прывяло іх да небывалай раней кволасці і гультайства?

Успамінаю прызнанне аднаго знаёмага агранома з Гомельшчыны. «Пачынаючы з 1965 года, казаў ён, спецыялістам пачалі плаціць вялікія грошы, і многія таму былі нават здзіўлены: за што такая міласць? Пра сябе скажу: я саромеўся спачатку атрымліваць іх, азіраўся, як злодзей, па баках, дзіва што... Думалі, ну цяпер у нас спытаюць за грошы і якой работы запатрабуюць! Стараліся колькі гадоў... А потым — адвыклі. Ад нас патрабавалі не чыннага ўдзелу ў справе, а выканання розных прапісей і інструкцый, падпарадкавання шаблону. Але ж... Часам складваецца ўражанне, што мы не працуем, а прымаем удзел у прыдуманай кімсьці гульні, дзе загадзя вызначаны ўсе правілы і прыёмы. Толькі назвалі гульню земляробствам...»

І гэта было праўдаю.

Не хачу тым самым кінуць цень на спецыялістаў валожынскага «Рассвета», гаспадаркі, якая пайшла на ўздым, хоць тым часам Драгун і бубнеў, ушчуваючы сваіх памагатых: «Варта было толькі ад'ехаць на дзень...»

Не давалі мне падстаў дрэнна думаць пра іх і вясёлая гамана з жартамі на розныя тэмы да пачатку нарада, і палявы трывалы загар на іх тварах, якім асабліва вылучаўся аграном Адамовіч, здавалася, ён быў адліты з медзі... А яшчэ той стэнд, з лічбамі крутога ўздыму... Між іншым, жыве здаўна такая завядзёнка: па больш ці менш прыстойных лічбах чыста гаспадарчых дасягненняў ацэньваецца ў калгасе або саўгасе ўся гаспадарчая, і культурная, і палітыка-выхаваўчая работа наогул. Адсюль і плодзяцца такія дзеячы, як начальнік сярэдняй рукі...

Толькі праблема актыўнасці і ініцыятывы праўленчай дружыны не ў адной Сівіцы стала востра. Старшыні Драгуну, якога яна хва-

лявала, ужо не суджана было сустрэцца з Іванам Васільевым і паслухаць яго меркаванні на гэты конт; а той надта добра арыентаваўся ў Сялянскім Акіяне і неаднойчы вызначаў дакладна працэсы, якія адбываюцца там, вызначаў цячэнні, цёплыя і халодныя... Драгун, пэўна, не чытаў яго твораў, і таму я дазволю сабе прывесці яшчэ адзін урывак з «Нематэрыяльных патрэбнасцей», у якім раскрываецца прычына невысокага працоўнага тонусу цяперашняга селяніна — незалежна ад таго, ходзіць ён у начальніках ці ў радавых.

Адбываецца гэта, тлумачыць Васільеў, «калі ў гаспадарцы сістэма арганізацыі працы — нарадная, гэта значыць куды пашлюць. У гэтым выпадку сапраўды сядзі і чакай распараджэння брыгадзіра. Брыгадзір думае, брыгада выконвае...

Але, разумееце, пры такіх парадках, аказваецца, і брыгадзір не думае. І аграном. І інжынер. І нават старшыня з дырэктарам. Нарадная сістэма цалкам пабудавана на распараджэнні — выкананні. Дык вось выяўляецца простая залежнасць: не шукае спецыяліст — не шукае і трактарыст, седнем сядзіць заатэхнік — не турбуецца і даярка. І наадварот, дзе кіруючыя таварышы ў заўсёдным пошуку, там ініцыятыўныя і радавыя».

Прыклад... Хай даруе мне чытач за частае аглядванне назад, але больш яскравага прыкладу, чым стварэнне прынцыпова новай культуры земляробства ў Докшыцкім раёне, я не ведаю. Дарэчы, я расказваў пра гэта і Васільеву...

Небывалы творчы імпэт ахапіў тады ўсіх — ад сакратара райкома да простага калгасніка. І ў той прыўзнятай працоўнай атмасферы магчымым было стварэнне не толькі каменяўборачных звенняў, але і самадзейных груп, мужчынскага хору, рэдкага, небывалага, можа, у краіне, ініцыятарамі і ўдзельнікамі якога былі паплечнікі Ульяны Феакцістаўны Крышталевіч — другі сакратар райкома, намеснік старшыні райвыканкома, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і іншыя. Тады ў раёне па-

ўсюдна панавала атмасфера творчасці, адмаўлення і ломкі шаблону, абнаўлення жыцця, у тым ліку — духоўнага.

Пры пераемніку Крышталевіч — Мікалаю Восіпавічу Усціну докшынцы прадаўжаюць рупіцца і нарошчваць сцэны гаспадарчага будынка. Аднак штосьці мучыць мяне: ці не перабраўся ўжо ў той гаспадарчы будынак райком? Інакш кажучы, ці не захапіўся ён вытворчасцю, занядбаўшы палітыку? Падобна ж на тое!..

Драгун прыйшоў з Валожынскага райкома ў калгас «Рассвет»,— кемны, ініцыятыўны, раскатурхаў трохі дружыну. І сонца яго ўдачы пачало ўздымацца па прыступках лічбаў, прычым не па тых, якія планаваліся — 56—65—70, а па другіх: 203,5—388,7—765,0...

Пытаюся ў Восіпа Міхайлавіча, што паспрыяла гэтаму. І ён пералічвае прычыны поспеху:

— Сваё насенне, а раней куплялі... Лепшы догляд пасеваў і, як вынік, здача збожжа таварным, бульбы — вышэйшай якасцю. Ячмень, напрыклад, у нас ідзе як піваварны... Перайшлі на механізацыю ў вырошчванні лёну, сеем 120 гектараў... Сабекошт ворыва знізілі. Раскарчавалі палі, каменне прыбралі... Адным словам, за кошт павышэння культуры працы і якасці прадукцыі мы пачалі нарошчваць прыбытак.

Пра якасць калектыву, яго плюсы, мінусы, ён не сказаў ні слова.

— А што значыць той парадокс з лічбамі на стэндзе? — пацікавіўся я.— Ці не заніжалі вам, грэшным чынам, планавыя лічбы знарок? Прабачце за шчырасць...

— Ды не, што вы! — старшыня падскочыў з-за стала, як падцяты мячык.— Тыя нядошлыя лічбы — 56 і гэтак далей — былі вызначаны на самым пачатку пяцігодкі. Яны карэкціруюцца... А ўвогуле ў нас некалькі планаў, яны паралельныя — перспектыўны, народнагаспадарчы, вытворча-фінансавы... У іх, праўду сказаць, сам д'ябал галаву зломіць, бо кожны з іх пастаянна перарабляецца, дапаўняецца, і заўсёды яны маюць шмат дысанансаў. А збярэш

ураджай, наладзіш работу на фермах — прадукцыю патрабуюць яшчэ і звыш таго, што прадугледжана планамі, у адміністрацыйным парадку.

І, каб не аставалася ніякіх сумненняў, Драгун запрасіў да сябе ў кабінет галоўнага эканаміста Жалтак, і Яўгенія Баляславаўна, трохі здзіўленая тым, што знайшоўся хтосьці цікаўны да практыкі планавання, да шматслойнай структуры адносін з дзяржавай, пацвердзіла мне словы старшыні, хоць у тым і не было ніякай патрэбы, бо я чуў нараканні на планаванне і раней, нават пісаў аб дрымучым павуцінні ў канцылярыі сельскагаспадарчай вытворчасці ў нарысе «Дарога цераз гаць»; пасля чаго, аднак, нямала часу мінула. Нічога ў планаванні не змянілася. Праўда, за апошнія гады ўзрасла роля эканамічнага аналізу і дакладнага разліку, прагнозу ў кожнай гаспадарцы. Толькі планавая мудрагелістасць, папяровая эквілібрыстыка, паператворчасць і непазбежная, пры ўсім старанні, блытаніна ў лічбах не спрыяюць развіццю эканомікі, замінаюць найболей.

Час патрабуе простага, абгрунтаванага, адзінага плана для кожнай гаспадаркі. А от жа... Штогод снуецца павуцінне! І трымаецца яно разам з нарадным стылем работы, пры якім у любых умовах года зручна атрымліваць грошы і ні за што (або амаль ні за што) не адказваць.

Як бачым, арганізацыйна-эканамічныя і маральна-этычныя, мабілізуючыя на творчую працу ўмовы ў вёсцы сёння не самыя лепшыя: вытворчыя або службовыя адносіны, матэрыяльныя і маральныя стымулы не працуюць у адным кірунку, не ўздзейнічаюць аднолькава на адміністратара і творцу, у выніку чаго т в о р ц а паступова з н і к а е, выраджаецца, і размова ідзе ўжо пра в ы к а н а ў ц у. Чаму так адбываецца? Напэўна, дзесьці аслаблены, парушаны або зусім зняты прывадныя пасы, якімі адно з адным павінна быць звязана. А калі эканамічнага паса няма — словамі або пажаданнямі яго не заменіш.

Толькі гэтыя акалічнасці і прымушаюць

старшыню Драгуна, калгас якога цяпер у пашане, з сумам прызнацца:

— Так цяжка і нецікава працаваць. Няма як зрабіць што па-свойму.

Магчыма, нехта будзе сцвярджаць адваротнае... Пры выпадку ахвотна паслухаем і яго. А тут якраз час, бадай, прывесці падобную ж скаргу другога старшыні — Якубоўскага, сустрэча з якім чакала нас недзе пад Туравам.

— Ніякіх сваіх задумак немагчыма мець...

— А што — душа просіць прастору?

— Душа баліць! Многае можна было б рабіць не так, як робіцца,— лепей. Возьмем механізатараў. У нас іх разбэсцілі. З каляса ядуць хлеб, а не з коласа. Амаль скрозь так... А вось каб было прынята рашэнне не на ўсіх адно, а рашалі на месцы, як і чым іх зацікавіць, інакш было б. Я сам за выхаванне хлебароба хацеў бы адказваць.

Васільеў, паслухаўшы Якубоўскага:

— Старшыня пскоўскага саўгаса «Перамога» Герой Сацыялістычнай Працы Гецэнтаў сказаў: «Якой адказнасці за справу чакаеце вы ад работніка, калі ён узяты на гарантыю ў дзяржавы?..»

## 6. Што горш за пустазелле? Факт без белетрыстыкі

Здавалася б, гэтыя словы старшынь калгасаў з розных куткоў сялянскае нівы павінны прывесці ў жах усіх адміністратараў, якія стаяць над вёскай і непасрэдна кіруюць сельскагаспадарчай вытворчасцю, здавалася б, самі адміністратары павінны ўжо атрымліваць меншую пайку хлеба — імі ж незадаволены тыя, хто робіць хлеб... Ды дзе там! Яны незалежныя, і нават калі нехта з іх проста шкодзіць справе, гэта яму сыходзіць з рук. Хіба ж свядомасць Рамановічу не падказвае нікольні, што Драгун мае рацыю і пасевы ярыны не патрабуюць баранавання, тым не менш зацята стаіць на сваім — баранаваць, дый годзе! Чаму? Бо думае

пра зводку — не пра поле,— пра зводку, якую засявае лічбамі і з якой есць хлеб.

Ці мала дзе пра гэта гаворана? І ці мала хто гаварыў?..

«Бяда, а можна нават сказаць і больш рэзка, біч нашай сельскай гаспадаркі — фармалізм, які квітнее і да гэтага часу, работа «на зводку», на паперу, на рапарт, а не на ўраджай»,— даводзіў у свой час у нарысе «Без белетрыстыкі» Валянцін Авечкін.

Вядома, праблема не сёння ўзнікла, і здзіўляе адно яе неверагодная жывучасць. Прыгадваецца пастаянны вялікі клопат Камуністычнай партыі аб развіцці сельскай гаспадаркі, дакументы, палажэнні, дзе асуджаецца нарадны або камандны стыль у развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці; яны ўсім вядомы, таму не будзем тут іх прыводзіць.

Але цяпер, калі я разважаю пра гэта, хочацца знайсці пачатак з'явы і прасачыць за яе развіццём, знайсці яе носьбітаў, даведацца, як рэагаваў на яе селянін — гаспадар у сваім двары і на сваім агародзе, цар зямлі...

Спроба адміністравання, у сучасным яго разуменні, з мэтай «кіравання» сялянамі была зроблена яшчэ ў мінулым стагоддзі. Вядомы земскія пастановы (на колькі губерняў) сеяць жыта, скажам, не раней 15 жніўня і такія правілы і распараджэнні начальнікаў, як забарона курыць у хваёвым лесе, страляць шчупакоў вясной, раскідваць гнёзды птушак і г. д. Вядома і тое, з якім сарказмам высмейвалі Энгельгарт і іншыя перадавыя людзі таго часу ўсялякія рэгламентацыі, усялякія спробы шляхам рэгламентацый зверху ашчаслівіць мужыка. Нібыта і не меў ён шматгадовага вопыту ў вядзенні гаспадаркі... Куды яму! Дурны мужык і дабраць парадку ў сваім жыцці не можа. Апека яго стала галоўным клопатам назойлівых людзей...

Наколькі яскрава, настолькі і жорстка заявіла пра сябе адміністраванне пры Аракчэеве, паведамляе нам Глеб Успенскі ў кнізе «Селянін і сялянская праца». Яно выявілася акурат у

той час, калі «граф Аракчэеў, не абмяжоўваючыся муштроўкай, уварваўся са сваімі рэформамі ў хлеў, стаў лезці з загадамі наконт каровы, вызначаючы час выгану і прыгону, загадваў араць так, а не іначай,— словам, дзёрзка стаў распараджацца ў саміх нетрах земляробчай творчасці, майстэрства, стаў бязлітасна парушаць паэзію земляробчае працы».

Глеб Успенскі знаходзіць у аракчэеўшчыне на вёсцы вышэйшую абразу сялянскай душы і звязвае са святым абурэннем мужыкоў «бунт ваенных пасялян пры Аракчэеве».

Адносіны з зямлёй у селяніна заўсёды былі непасрэдныя, і таму ён ніколі не цярпеў пасрэднікаў або ўпаўнаважаных, ахвочых павучаць яго, якой нагой лепш у баразну станавіцца. Дый, праўду сказаць, такіх памагатых у яго раней было мала.

Вяртаюся зноў да Авечкіна. У тым жа нарысе ён прыгадвае, як працаваў старшынёй сельскагаспадарчай камуны — шэсць гадоў. І за гэты час, піша, «ніякі прыезджы прадстаўнік не асмельваўся камандаваць намі ў тым, што датычыла пытанняў нашых унутрыгаспадарчых распарадкаў, хай бы ён быў хоць наркомам земляробства або сакратаром абкома. Ніхто не змушаў нас закончваць да Першага мая вясеннюю сяўбу, калі мы самі лічылі, што для сяўбы позніх культур час пакуль не настаў. Ніхто не замахваўся на нашы чорныя папары і не прымушаў займаць іх цукровым трыснягом або чумізой. Ніхто не мог забараніць нам прадаць частку лішніх, не патрэбных у гаспадарцы коней і набыць за гэтыя грошы снопавязалку або абсталяванне для млына. Бо коні ўсё-такі нашы, калгасныя, і пасевы нашы. І мы ўсе, што сабраліся ў калгасе, не дзеці, самі знаем, калі што сеяць і як яго ўбіраць.

Такія рэчы, як абавязковыя дырэктывы аб звышранняй сяўбе ў гразь альбо цыркулярныя шаблонныя аграправілы, якія атрымлівалі сілу закона і распаўсюджваліся на шэраг абласцей — зусім разнастайных па глебава-кліматычных умовах,— гэта пачалося пазней, пасля суцэль-

най калектывізацыі. Тады ж пачалося і кіраўніцтва калгасамі па «кампаніях»: рамонтная кампанія, пасяўная, прапалачная, уборачная, збожжанарыхтоўчая, «зяблевая» і г. д. Магчыма, што на той час, калі арганізавалі багата калгасаў і яны былі яшчэ арганізацыйна слабымі, так і трэба было — сачыць за кожным іх крокам, а для гэтага і ўвесь гадавы цыкл работ расчляніць на кампаніі. А раз кампаніі, значыць — і строгая справаздачнасць за зробленае як не кожны дзень. Але з той пары ўжо нямала часу мінула!»

І час не саступіў больш ні ў чым земляробу. Да нашых дзён...

Калгаснік адчуў, што за яго думаюць, прымаюць рашэнні і што яму не патрэбна цяпер векавечная сялянская мудрасць — ёй грош цана. Зразумеў, што не адказвае больш за ўраджай, за зямлю, якую абрабляе, і што зямля без яго — як удовая баба, усё чакае чагосьці. Селяніна ж, яго мудрасць і ласку зямлі замяняе папера...

А папера сляпая і на месцы не бачыць, з кім і з чым мае справу, не можа паглядзець проста ў вочы Іванову, Пятрову, зразумець, што іх хвалюе, што трывожыць.

Папера сляпая і глухая да Іванова ў полі, да Сідарава — на сенажаці, таму што яна прадукт абстрагавання, як, зрэшты, і адміністратар, які праводзіць кампаніі па рамонту, па вывазцы ўгнаенняў, па баранаванні...

І вось, адчуўшы і зразумеўшы ўсё гэта, селянін душой спакваля адыходзіць, аддаляецца ад зямлі.

Я адно не магу пагадзіцца з тым, што на гэты працэс рашаючым чынам паўплывала калектывізацыя, хоць той-сёй у нас часам і ківае на гэта. Справа ў тым, што таварыская ўзаемадапамога, суполка не выклікалі непрыхільнасці селяніна яшчэ ў мінулым стагоддзі. Папулярнасць сялянскіх абшчын у дарэвалюцыйнай Расіі, наадварот, узрастала, і цікава, што яшчэ ў гады, калі Ульянаў, Уладзімір Ільіч, рыхтаваўся да паступлення ў гімназію, выдатны даследчык

рускай вёскі, побыту і культуры сялян Аляксандр Мікалаевіч Энгельгарт пісаў: «Гаспадарка можа па-сапраўднаму прагрэсіраваць толькі тады, калі зямля знаходзіцца ў агульным карыстанні і апрацоўваецца супольна, разам». (Разрадка яго.) Да гэтага, як пераконвае аўтар, аднаасобніка вяло само жыццё.

Кааператыўны план Леніна па калектывізацыі сельскай гаспадаркі, распрацаваны на аснове ідэй К. Маркса і Ф. Энгельса, адпавядаў карэнным інтарэсам перш-наперш самога сялянства. Калгасны лад у вёсцы з'явіўся адной з галоўных умоў пабудовы новага грамадства, якое мы сёння маем. Тым самым гаспадар-аднаасобнік быў выведзены з векавечнай нястачы ў доме і галечы ды самоты ў свеце.

У новых умовах узраслі і пашырыліся магчымасці земляроба, і гэта павінна б спрыяць умацаванню яго пашаны да зямлі-карміцелькі, ды розныя забяганні наперад, заскокі, заўчасныя паскарэнні развіцця і ломкі вытворчых адносін, у якіх верх узяло адміністраванне, паўплывалі на псіхалагічны або душэўны стан селяніна, ва многім зрабілі яго абыякавым, і спецыялісты ўсё часцей пракідаюцца абыякавыя і нядбайныя.

Але — от жа! — яшчэ знаходзяцца дзівакі, якія бачаць у вясковым чалавеку пракаветную сялянскую душу, не скрозь, праўда, але дакопваюцца да яе.

«Філіп Іванавіч (Ягораў) стаў аграномам таму, што ён проста не змог бы нідзе жыць і працаваць, акрамя як на полі. Тут ён нарадзіўся, тут прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады... тут ён марыў, тут паставіў за мэту свайго жыцця высокія ўраджаі і дабрабыт людзей, якія працавалі на гэтай зямлі. Тут жа ён і зразумеў, што пры магутнай тэхніцы не павінна быць беспарадку на калгаснай зямлі. Зямля ніколі не даруе дрэнных адносін да яе і заўсёды ўдзячна за любоў і ласку...»

Гэта я чытаю аповесць «Кандыдат навук» Гаўрылы Траяпольскага... Але лагоду з душы

героя раптам зняло. Чаму? Ягораў успомніў, што палі, тыя самыя палі, у апрацоўку якіх ён уклаў нямала і сваёй асабістай працы, неўзабаве будуць здратаваны, бо зноў пачнецца пераход да «новага» севазвароту. І ўсё гэта будзе ледзьве не дзесяты раз пры ягоным жыцці...

«Зямля не даруе. І ён, аграном, не можа дараваць за тое, што яго, зразумеўшага зямлю, на якой ён нарадзіўся, абвінавацілі ў тым, што ён, па-свойму мяркуючы, пры згодзе калгаснікаў увёў кароткі севазварот, насуперак «інструкцыі». Ён заўсёды лічыў недарэчнасцю палажэнне, калі да лозунга «Больш хлеба!» дадавалася ўмова: толькі пры такім-та севазвароце, а не пры якім-небудзь іншым; пры такой-та сістэме земляробства, а не пры якой-небудзь зыначанай. Ён быў перакананы, што кожны калгас, кожнае поле ў калгасе мае свае асаблівасці, якія адрозніваліся ад іншых калгасаў і іншых палёў. Зямля, насычаная незлічонай колькасцю бактэрый, жыве сваім жыццём. Зразумець гэтыя асаблівасці — значыць зразумець зямлю. І ён стараўся зразумець. Але яго не зразумелі, абвінавацілі ў анархізме, у парушэнні ўказанняў арганізацый, якія стаялі вышэй, і... вызвалілі ад працы».

Ягораву, паказвае аўтар, удалося даказаць сваю правату.

Не ўсім, аднак, хто аднойчы ўступаў у барацьбу з фармалізмам і чыя правата была заднім чыслом прызнана, вярталіся ранейшыя правы і пасады. А дарма! Людзі рызыкавалі свядома, і гэта лепшыя людзі, ідэйна адданыя ленінскай партыі і сацыялістычнаму грамадству — байцы, якімі павінна б ганарыцца грамадства. Сярод іх не адны аграномы або кіраўнікі гаспадарак... Калі мы хочам сапраўднай барацьбы з фармалізмам, паператорчасцю і казёншчынай, ад якіх надта ж церпіць Сялянскі Акіян, імёны такіх людзей варта было б заносіць на Дошку гонару. Слава ім! Партыя ж патрабуе паставіць справу так, каб ва ўсёй плённасці, сіле і прыгажосці раскрываліся ініцыятыва і творчасць працоўных. Без гэтага нельга.

Звернемся, урэшце, да аднаго з апошніх выступленняў у друку народнага акадэміка Цярэнція Сямёнавіча Мальцава. От што ён нам даводзіць:

«Тэарэтычна знаем і філасофскія законы, і працы класікаў марксізма-ленінізма, і дакументы партыі і ўрада, а праводзіць іх на практыцы не асмельваемся — не хапае ўмельства, гнуткасці, наступальнасці, непрымірымасці да недахопаў, бачання перспектывы. Атрымліваецца, быццам разбіраць і збіраць зброю вучымся, а карыстацца ёю, страляць з яе — не. У арміі, напрыклад, такое немагчыма. Марксісцка-ленінскую тэорыю — гэту ідэалагічную наступальную зброю — самі заснавальнікі марксізма-ленінізма называлі не чым іншым, як кіраўніцтвам да дзеяння. І трэба ўмела і настойліва прымяняць яе і скіроўваць на дасягненне мэт, якія ставіць перад намі партыя».

## 7. Творы, у якіх дзейнічае думка. Васільеўская тактыка аб'ектывізацыі

Мы пакінулі Івянец. Па дарозе далей зайшла размова пра творчы плён майго калегі і спадарожніка.

Некалькі тыдняў назад «Литературная газета» змясціла рэцэнзію на аповесць Івана Васільева «Сялянскі сын», даўшы твору вельмі высокую ацэнку. Васільева называлі прадаўжальнікам лепшых традыцый рускай прозы і параўноўвалі, па творчым духу, з Фёдарам Абрамавым і іншымі выдатнымі пісьменнікамі. Цікава было паслухаць, што ён сам мяркуе пра сваю літаратурную працу.

— Для мяне галоўнае — не сюжэт, а думка, калі я працую над творам,— зазначыў Іван Апанасавіч і разважаў далей: — Чаму мяне нарыс прыцягвае? Там ёсць прастора для разгортвання і значнай канцэнтрацыі думкі, для пошуку ісціны ў дыялектычным яе развіцці. Жыццёвы план... Аператыўнасць... А дзейнічае думка.

Вось што важна! Другі пісьменнік напіша палатно алеем, так сказаць, а прачытаеш некалькі старонак — няма думкі, і далей нецікава чытаць. Я от нядаўна ўзяў у рукі адну аповесць. Напісана вобразна, ярка... Мова, каларыт паўночнага краю. А нецікава.

Васільеў адказваў на пытанні звычайна спакойна, разважліва, як і пісаў. І тут адчувалася тая ж культура думкі і павага да субяседніка. Варта было толькі ўважліва слухаць — ён даваў тлумачэнні разгорнута, грунтоўна, падыходзячы да з'явы або прадмета з розных бакоў.

— Нарыс старыцца. Пройдзе дзесяць гадоў, і ён робіцца ўстарэлым. Хаця — я перачытваю Глеба Успенскага. Ім паказаны селянін, яго нораў і звычкі, думкі і клопаты. Гэта цікава і цяпер чытаць... З сучасных пісьменнікаў мне бліжэй кнігі Фёдара Абрамава, Бялова і Быкава. От Распуцін уразіў сваім «Развітаннем з Мацёрай». Падабаецца Шукшын...

Неяк пазалетась мне давялося пабываць у Івана Апанасавіча дома, на Пскоўшчыне. Размова от гэтак жа хілілася да літаратуры. Маючы ніштаватую бібліятэку, пераважна рускай класікі, ён амаль задавальняўся ёю. Не падкі да літаратурнай навіны, ён не імкнуўся калекцыяніраваць кнігі, хоць чытаў усё больш-менш вартае, што з'яўлялася ў друку, асабліва па публіцыстыцы.

— Перачытваю,— працягваў Васільеў нашу гаворку,— «Вайну і мір» Талстога, «Былое і думы» Герцана, гэта значыць тое, што найбольш насычана думкаю. У Талстога раней прапускаў філасофскія адступленні, цяпер больш за ўсё на іх спыняюся.

І пасля невялікай паўзы гаспадар назваў яшчэ прозвішча выдатнага даследчыка нівы:

— «Лісты з вёскі» Энгельгарта перачытваю. Усё гэта ўваходзіць у мой актыў.

Пры кожнай новай сустрэчы з Васільевым мы абмяркоўвалі нямала пытанняў і часцей сыходзіліся ў поглядах на тую ці іншую рэч, на з'яву, але — не заўсёды, бывала, падоўгу спрачаліся і заставаліся кожны пры сваёй думцы.

Іван Апанасавіч часам празмерна ідэалізаваў свой пісьменніцкі вопыт і, пэўна, на гэтых падставах сцвярджаў, што публіцыстам нельга стаць у маладыя гады.

Па гэтай жа прычыне ён не мог прыняць усур'ёз і маё тлумачэнне (у школе), што стаць літаратарам я надумаў у сёмым класе і ўжо тады зрабіў дзеля гэтага такі важны крок: пайшоў у геолагі, каб вывучыць трохі жыццё...

У Васільева ж, зразумела, быў свой шлях, свой вопыт, у нечым адметны. Я ўжо спыняўся на радках з яго нарыса «Слова пра справу і гаспадара». Прывяду тыя словы паўней:

«Чытачы пытаюць у мяне, як, маўляў, так здарылася, што да пяцідзесяці год цябе не існавала, а ў пяцьдзесят раптам аб'явіўся. Ніякім пісьменнікам я не збіраўся станавіцца і не веру тым, якія гавораць, што яны ледзьве не ў дзіцячым узросце рашылі заняцца пісьменніцтвам. Гэта пазёрства».

Але, але ці ж так гэта?

У спрэчках, паўтараю, мы не заўсёды прыходзілі да агульнае думкі, хоць потым і стараліся неяк улічваць пазіцыю адзін аднаго. Я заўважыў, напрыклад, што ў чарговых сваіх публікацыях Іван Апанасавіч сёе-тое мяняе. У свой час я ўзяўся быў дакараць яго за няпэўнасць пазіцыі пры ацэнцы сістэмы планавання зверху г е к т а р а ў і п а г а л о ў я жывёлы (замест таварнай прадукцыі)... Гэта — прынцыповае і даўно набалелае пытанне; па сутнасці, падобнае планаванне — бар'ер у магчымасцях калгасаў і саўгасаў на справе рэалізаваць сваю гаспадарчую самастойнасць, інакш кажучы, вольна, творча, актыўна працаваць.

У гутарцы са мной, дарэчы, Васільеў цвёрда выказваўся супроць «гектараў», а вось у нарысах — не тое, там ён а н а л і з а в а ў б а к і, выстаўляючы довады як прыхільнікаў, так і супраціўнікаў пагектарнага планавання, і пісьменніка ні ў якім разе нельга было папракнуць, што от, маўляў, ён крытыкуе кагосьці... У апошняй жа публікацыі нарыса «Разгарніся, чалавек!» ён больш аб'ёмна паказвае праблему

і сваё стаўленне да яе, але ж ранейшы падыход застаецца,— я назваў бы яго васільеўскай тактыкай аб'ектывізацыі, паколькі для публіцыстыкі Васільева гэта характэрна наогул.

Я чытаў у нарысе:

«Быццам бы ніякіх спрэчак не павінна быць. Майскі (1982) Пленум ЦК КПСС яшчэ раз падкрэсліў неабходнасць «рашуча пазбаўляцца ад адміністравання і дробязнай апекі ў адносінах да калгасаў і саўгасаў...». А між тым спрэчкі не заціхаюць, а абвастраюцца. Славутыя «галовы» і «гектары», што сталі сінонімам адміністравання і апекі, падзялілі сёння ўдзельнікаў спрэчак так выразна і беспаваротна, што замірэння бакоў наўрад ці можна чакаць».

І далей пісьменнік паглыбляе гаворку: «Сітуацыя такая: высокія партыйныя і ўрадавыя пастановы натхнілі «нізы», надалі смеласці і напорыстасці нізавым гаспадарчым кіраўнікам, а яны ўжо не толькі з трыбуны патрабуюць самастойнасці, а адстойваюць свае права, што называецца, явачным парадкам... выносяць свае планы пасеваў на агульныя сходы калгаснікаў і рабочых, зацвярджаюць іх і кіруюцца імі, супрацьпастаўляючы такім чынам уладу калектыву ўладзе паперы. Аднак другі бок, гэта значыць раённыя і абласныя планавыя органы, са сваімі лічбамі да народа не ідзе, не даказвае публічна разумнасць свайго плана, ён цалкам спадзяецца на загад. Дэталь,— піша Васільеў,— вельмі і вельмі істотная».

І пасля гэтага аўтар падрабязна разглядае пазіцыі бакоў, прадучы адначасова дзве ніткі довадаў, з якіх кожная ўяўляе сабой альтэрнатыву. Прычым шалі вагаў амаль не хістаюцца, і пацвярджаецца тэзіс: «Замірэння бакоў наўрад ці можна чакаць».

Толькі ж, учытваючыся, удумваючыся глыбей у разважанні прыхільнікаў адміністравання, я ўсё больш выразна пачынаю адчуваць, што яны беспадстаўныя, што за імі не столькі эканамічнай абгрунтаванасці, колькі пэўнай традыцыі, пэўнага шаблону, што абумовіў ужо

сваю псіхалогію, і яшчэ — перастрахоўка, надзвычай уласцівая сучасным адміністратарам. Васільеў піша між тым:

«Словам «гарантыя» яны б'юць, як абухам, староннікаў самастойнасці, і тыя становяцца ў тупік. У іх няма важкіх довадаў... Пакіньце, кажуць (ім), эмоцыі літаратарам, мы — эканамісты, ва ўлік бяром рэаліі, а не пачуцці. А рэальнасць такога характару: гектар засеяны — значыць, ён родзіць. Прынясе сярэднюю г а р а н т а в а н у ю лічбу... Што, непераканаўча? Ну добра, станем на месца гаспадара. Бульба ў нашай вобласці — асноўная культура, ёю заняты вялікія плошчы. Яна працаёмкая і маларэнтабельная. Першае памкненне дырэктара саўгаса, як толькі здымем з яго абавязковыя гектары,— пасадзіць як мага меней. Няхай ён нават зрабіў усё, каб вырасла болей, але не ўдаўся год, падвялі машыны, мала людзей — план вытворчасці не выкананы. Чым пакрыць рэальныя страты? Няма чым. Вось у тым-та і справа. Абавязковы гектар — і толькі, нічога лепшага вы не прыдумаеце.

М-да...— піша Васільеў.— Сказана рашуча і... пераканаўча».

Але ж мяне, прызнаюся шчыра, гэта зусім не пераконвала. Чаму? Ёсць у староннікаў самастойнасці ўсё-такі важкія довады, і ў тупік іх не так проста загнаць. «Чым пакрыць рэальныя страты?» Гэта — галоўнае пытанне супраціўнікаў самастойнасці. Аднак, мне здаецца, гэта не больш і не менш, як жупел, якім прыкрываюцца і палохаюць перастрахоўшчыкі. Дзіўна, чаму іменна размова тут павінна ісці аб стратах, а не аб дадатковым прыбытку?

Вернемся да прапанаванага Васільевым прыкладу. Не ўрадзіла бульба ў гаспадарцы... Дык жа калі яе меней было пасеяна — і страт будзе меней! Затое недабор бульбы будзе кампенсаваны ўраджаем тых культур (збожжа, траў, кукурузы, гародніны), якія гаспадар палічыў патрэбным пасеяць на плошчы, якую раней займаў пад бульбу. Мне помніцца год, калі ў знаёмай Васільеву Калінінскай вобласці бульбу не

ўбралі амаль на палавіне плошчы, і яна пайшла пад снег. У асобных гаспадарках такое і ў нас надараецца. Дык што, неўраджай або бесгаспадарчасць можна апраўдаць вялікаю плошчаю засеянай нівы? Барыс Мажаеў у нарысе «Быць гаспадаром» («Литературная газета», 1981, 1 ліпеня) паказаў, напрыклад, што дзеля планавага гектара (не дзеля прыбытку!) на Разаншчыне бульбу садзяць у сярэдзіне лета.

Ажно ў сярэдзіне лета! Гэта значыць — бязглузда, без усялякага сэнсу. Хто ж там страты падлічвае?..

«Аднак жа сёння наіўна было б лічыць разважанні пра гектар-гарант памылкаю. У іх ёсць рацыя. Яна — у сістэме аплаты працы. У нарадзе»,— даводзіць Іван Апанасавіч, і мне, грэшным чынам, здаецца, што раўнавага пісьменніцкіх шаляў з довадамі ўжо штучна падтрымліваецца. Хто ж сказаў, што пры адмене «гектара-гаранта» нарадная сістэма павінна захоўвацца? Ды не, тады ж проста падсечана будзе аснова, на якой яна трымаецца.

Але ж колькі год стаіць на малочнай ферме ў калгасе, саўгасе хударэбрая галава-гарант? Яна з'яўляецца не малым тормазам у развіцці прадуктыўнасці жывёлагадоўлі, бо лічыцца каровай, а вымя часам не мае і толькі пераводзіць кармы, разлічаныя на дойны статак. Нягледзячы на гэта, у «галавы» скрозь у планавагаспадарчых і іншых органах прыхільнікаў хапае, хоць Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў (прыгадаем, забягаючы наперад) і пакрытыкаваў такое становішча, выступаючы ў Цаліноградзе... Ён прапанаваў вясковаму люду сканцэнтраваць увагу не на росце пагалоўя, а на інтэнсіўным метадзе вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі... На адкорме.

Калі ісці ад сутнасці задачы, то задача, безумоўна, не зводзіцца к таму, каб нарошчваць колькасць галоў, гектараў, а потым здаваць гавяду на мяса вагою па 250 кілаграмаў, а на палетках збіраць «сярэдні» ўраджай, які адпавядае вазе той жа галавы... Мы дзівім свет! Хіба памянёны ўжо намі Энгельгарт, Аляксандр Мі-

калаевіч, сто гадоў назад не пісаў пра тое, што і тады было важна і цяпер не лішне было б засвоіць? Чытаю яго «Лісты з вёскі»:

«Рацыянальнасць у агранаміі заключаецца не ў тым, што ў гаспадара пасеяна... не ў тым, што карова стаіць у яго ўсё лета на прывязі і корміцца накошанай травой (найвялікшы абсурд у жывёлагадоўлі), не ў тым, што ён ходзіць за плугам у шэрым паўфраку і чытае вечарамі... Не. Рацыянальнасць заключаецца ў тым, каб, патраціўшы меншую колькасць пудафутаў працы, атрымаць найбольшую колькасць сілы з сонечнага промня на агульную карысць».

Хто ж можа вырашыць гэту задачу? Вядома, селянін, паўнапраўны гаспадар, чалавек, які не парваў пупавіны, што звязвае яго з зямлёй.

Але ў маёй памяці от якая гаворка:

— У Тэтчар пра ўраджай галава не баліць... Там пра ўраджай думае фермер.

— Што праўда — то праўда, хоць і іншая там сістэма.

— Пакінем палітычную сістэму ўбаку. У нас пра ўраджай думае той, хто сядзіць ва ўпраўленні.

— І то — далёка не кожны!

— Затое ў земляроба галава не баліць...

Ад нечаканасці свайго «адкрыцця» мае субяседнікі засмяяліся. Праўда, смех іх быў сумны, бо ў словах таго і другога чулася горыч.

Размаўлялі ж гэтак, сустрэўшыся ў Мінску, два вопытныя работнікі сельскага профілю, былыя раёншчыкі. Паслухаць іх — сапраўды справа ў нас з ног на галаву пастаўлена, а калі так, то хто-ніхто ў нашых планава-адміністрацыйных органах можа нават ганарыцца гэтым!

Як працаваць? Па нараду зверху або ўкараняючы гаспадарчы разлік і гаспадарчую самастойнасць?

Іван Апанасавіч Васільеў вельмі слушна нітуе развіццё так званай безнарадкі, брыгаднага падраду з гаспадарчай самастойнасцю калгасаў, саўгасаў. Ён схільны да думкі, што шырокае развіццё самастойнасці (у розных формах) на

полі, на ферме, у арганізацыі працы падарве адміністраванне. Я сказаў бы інакш: гектар-гарант і планавая галава, як і сістэма планавагаспадарчага адміністравання ў цэлым, стрымліваюць развіццё «безнарадкі», а гэта значыць і вытворчасці ў яе перспектыве, у асобных гаспадарках і ва ўсім аграпрамысловым комплексе.

Сачу ў друку за «Лістамі з вёскі» Івана Васільева, і ў мяне часам з'яўляецца дзіўнае ўражанне: аўтар выступае ў спрэчных сітуацыях у ролі добрасумленнага і выключна здольнага адваката, але — адзін ад двух бакоў. Пры гэтым ён імкнецца абараніць кожнага, і такі шлях заводзіць яго самога ў тупік. Адчуваючы гэта, думаеш пра невырашальнасць канфлікту, хоць гэта і не так.

Адно я тут павінен дадаць: пры такім творчым падыходзе публіцыст з зайздросным уменнем раскрывае сутнасць праблем, выяўляе ў іх розныя прыхаваныя сувязі, знітоўвае далёкае з блізкім, дакопваецца да вытокаў, да карэння... Ну а чытач ужо павінен сам шукаць выйсце з тупіка. Калі ласка... Тут усё раскрыта, і тое, што «за», і тое, што «супраць»... Сцяна лесу направа, сцяна лесу налева... Шукай, чалавеча, з лабірынтаў выйсце!

Іван Васільеў неаднойчы дзівіў і ўражваў сваіх чытачоў (і мяне ў тым ліку) уменнем адкрываць, здавалася б, вядомае, адмыслова прамываць вочы на з'явы, якія іх цікавяць.

## 8. Улада зямлі. Дыялог пра ўладу і ініцыятыву ў Мар'інай Горцы

Машына, бегучы па асфальце, шпарка кроіла засмужаную далячынь.

Мы ехалі на Бабруйск і транзітам спыніліся ў Мар'інай Горцы.

За Бабруйскам чакаў Светлагорск... Толькі мы яшчэ завярнулі ў Мышкавічы, што пад Кіраўскам, дзе раней працаваў Кірыла Арлоўскі.

Мы ехалі далей, у Мазыр, але не маглі прапусціць Васілевічы, каб адпачыць ужо трохі — на сёмы дзень...

Як было... Не абмінулі мы і Тураў, Аснежыцы, Моталь і Расна... З Брэстчыны дарога ляжала на Гродзеншчыну...

І прыкладна як тыя асфальтаваныя стужкі рассякалі прастору, так і мы сваёй думкай намагаліся рассекчы скопішча фактаў, здарэнняў, падзей, якія трапялі на нашае вока, з адзіным намерам глыбей зразумець іх сэнс, іх значэнне.

У Мар'інай Горцы нас прыняў старшыня Пухавіцкага райвыканкома Валерый Мікалаевіч Папоў, русявы, з правільнымі рысамі твару, шчыры, абачлівы; ён спадабаўся нам свабодай і нестандартнасцю думкі. Расказваў: у 26 гадоў стаў старшынёй калгаса «40 год Кастрычніка» ў Мядзельскім раёне. Калі прыняў гаспадарку, ураджай збажыны быў 9,8 цэнтнера, здаваў — 39,6 цэнтнера з гектара. Спачатку — тры гады — займаўся пераважна раслінаводствам... Потым — наступныя тры гады — жывёлагадоўляй. І от спахапіўся: «Які ж я дурны! За вёску, за сацкультбыт адразу трэ было брацца! Каб яшчэ прамаргаў трохі — на вецер пайшлі б усе тыя гаспадарчыя дасягненні».

— Чалавекам мы не займаліся на працягу многіх гадоў і цяпер як след да таго не прывучаны,— казаў, абапёршыся локцем на край стала.— Чаго толькі была варта валтузня з невялікімі вёскамі. Хіба мы пыталіся ў людзей, дзе і як яны хочуць жыць?.. Адышло цяпер трохі. У маёй гаспадарцы, напрыклад, было 40 хутароў і некалькі вёсак. У адной вёсцы — усяго 13 двароў і ніякага добраўпарадкавання. Мой папярэднік пабудаваў там ферму на 130 кароў. Працавалі дзве даяркі. Яны прасіліся ў цэнтр: дзеці малыя, а там — школа... Я пачаў іх прытрымліваць, зацiскаць. Усё кінулі-рынулі і паехалі! Спахапіўся: кароў няма каму даіць!.. Узяў ды ўсіх адтуль перавёз. Аўтобус выдзелілі вазіць туды жывёлаводаў, у дзве змены працуюць. Там — угоддзі, танны корм... Мой папярэднік не зрабіў памылкі, размясціўшы там

ферму. Я рабіў памылку, няўважліва ставячыся да чалавека і давёўшы вёску да ручкі.

Я пацікавіўся, якія ж умовы ў такой вёсачцы можна стварыць?

Папоў маўчаў. Васільеў прыкурваў цыгарку.

— Давайце гаварыць пра замежны вопыт, хоць і ў нас прыклады знойдуцца... Мне нядаўна давялося пабываць у Фінляндыі,— паведаміў старшыня выканкома.— Незалежна ад таго, блізка ці далёка ад цэнтра сядзіба селяніна, у ягоным доме ўсе зручнасці. На дзесяць кароў — электрадойка. Угоддзі пад бокам... У нас жа ўзялі за прынцып: вось труба даўжынёй адзін кіламетр, давайце нанізваць на яе ўсіх жыхароў! Ад трубы, а не ад чалавека танцуем. На жаль... Я такой думкі: сельскі жыхар павінен блізка круціцца каля гарадскіх умоў.

Васільеў спытаўся:

— Валерый Мікалаевіч, а ў якой меры звузілася кола вашай ініцыятывы на новай пасадзе?

Яму, кіраўніку раёна, мабыць, трэба было б здзівіцца такому пытанню — яно было нечаканым. Папоў не здзівіўся.

— Адназначна не адкажаш...

І знайшоў неадназначны адказ:

— Практычна кола ініцыятывы звузілася, хоць правоў у мяне цяпер, здаецца, і больш. Нідзе і нішто не патрабуе столькі ініцыятывы і творчасці, як зямля; а я ад яе аддаліўся... Яшчэ і цяпер тыя нівы сняцца... Не адразу пагадзіўся на новую пасаду.

Мы ўважліва слухалі, ён працягваў:

— Каб завалодаць людзьмі ў такой меры, як там, у калгасе, і ўкладваць сваю думку ў канкрэтную справу — не магу. Уявіце, 30 гаспадарак, столькі ж кіраўнікоў, галоўных аграномаў... Працуюць 1400 механізатараў... Аб'ём! Да ўсяго не дацягнешся. Але калі шырэй узяць — сацкультбыт,— прасторы для ініцыятывы хапае. Многае робім. Садзейнічаем развіццю будаўніцтва гаспадарчым спосабам, а праблем тут — тысяча!

Вядомая рэч, старшыні райвыканкома на раду напісана дбаць пра паляпшэнне сацыяльна-бытавых умоў людзей. Закон... Гэтага не скінеш са сваіх плячэй і нікому не перадасі! А ў Пухавіцкага раённага Савета народных дэпутатаў, дарэчы, тут пэўныя дасягненні.

За апошнія гады па сяле пабудавана 10 дзіцячых садоў, 12 сталовак, 45 магазінаў, 20 лазнева-пральных камбінатаў — ды ці ўсё гэта?.. Заробак розных катэгорый калгаснікаў і рабочых саўгасаў за чатыры гады павысіўся на 22—26 працэнтаў. Пацяжэлі ашчадныя кніжкі; праўда, грошы, накопліваючыся, вядуць да застою жыцця, і, каб унікнуць гэтай хваробы, па вёсках разгорнута індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва.

Свае сядзібы сяляне будуюць траяка: заключаючы дагавор з рамонтна-будаўнічым упраўленнем, якое выконвае на сядзібе работы ад пачатку да канца, або дамаўляючыся з калгасам, які забяспечвае гаспадара ўсімі неабходнымі матэрыяламі, або, нарэшце, уступаючы ў жыллёва-будаўнічы кааператыў. Дарэчы, такіх кааператываў у раёне цяпер шэсць і яшчэ мае быць чатыры. За два няпоўныя гады, казаў старшыня, людзі паставілі ў розных вёсках раёна 72 дамы, што складае амаль чвэртку прыросту раённага жыллёвага фонду. Важна, што цяпер селяніну даюць магчымасць выбраць любы варыянт сядзібы з дзесяці магчымых, і гэта не мяжа; прынамсі, тут на выбар прапануюць дом: з керамзіту-бетону, з панеляў, з цэглы, з дрэва, камбінаваны, шчытавы, з абкладкай цэглай і г. д. Попыт на індывідуальныя сядзібы пашыраецца, узрастае, і гэта заканамерны працэс стабілізацыі вёскі. Трэба толькі яшчэ, каб нашы архітэктары багацейшыя былі на выдумку і ствaралі больш прывабных праектаў як асобных дамоў, так і сядзіб, вуліц у цэлым.

Я слухаў... Усё гэта, прызнацца, некалькі незвычайным было для апошніх гадоў і радавала. Разам з тым успылвала адно даўно выпашанае мной пытанне:

— Валерый Мікалаевіч, а чаму гэта Саветы

цяпер толькі культурай ды бытам у вёсцы і займаюцца? Як правіла...

— Так склалася... Вытворчасць выйшла з-пад нашай апекі. Утварыўся пэўны перакос... Цяпер, праўда, нас спрабуюць вярнуць на кругі свае. Але гэта справа не аднаго дня.

— У некаторых раёнах,— зазначыў я,— любая гаспадарчая дробязь вымагае апекі і дэбатаў. Нітку ў іголку засунуць патрэбна калектыўнае рашэнне...

— У гэтым плане Пухавіцкі раён непаказальны. Першым сакратаром працуе Анатоль Аляксандравіч Тупік, і райком перастройвае структуру і стыль сваёй работы. Характэрны адносіны з выканкомам. Прывяду прыклад... У нас пад Мар'інай Горкай ёсць возера — Трушаўскае, і там плаціна была парушана, яно пачало мялець, зарастаць. Па ініцыятыве майго намесніка Мікалая Ягоравіча Рабцава мы выканалі на возеры цэлы комплекс аднаўленчых работ, пашырылі яго, упарадкавалі зону адпачынку, на што затрацілі 15 тысяч рублёў. Зрабілі ўсё, што трэба было, і толькі тады праінфармавалі бюро райкома. Згодзен з думкай, што зямля, разам са сродкамі яе апрацоўкі, павінна быць у полі зроку, у сферы дзейнасці Саветаў.

— Вось-вось! — Васільеў узняў палец: — Зусім як чалавек, яго душа — у сферы дзеяння партыйных камітэтаў.

Напэўна, было б добра, каб старшыня сельскага райвыканкома не толькі забяспечваў тылавыя пазіцыі, але і быў на перадавых рубяжах земляробства і каб у кіраўніцтве ім было менш дубліравання... Як-ніяк у падпарадкаванні выканкома — штаб земляробаў — Савет РАПА, дзіця нядаўна створанага аграпрамысловага комплексу. Ды толькі часам так атрымліваецца, што гэтае дзіця не ведае, хто яго бацька.

Папоў, разгарнуўшы брашуру аб рабоце Саветаў, зачытвае:

— Неабходна размежаваць намнога дакладней функцыі партыі (і ЦК яе) і Савецкай улады, павысіць адказнасць і самастойнасць савецкага работніка і савецкіх устаноў, а за пар-

тыяй пакінуць агульнае кіраўніцтва ўсімі дзяржаўнымі органамі разам, без цяперашняга празмерна частага, нерэгулярнага, часта дробнага ўмяшання... Так ставіў задачу Ленін.

І такім было жаданне працаваць у Пухавіцкім раёне.

Цікаўлюся ў Папова, як уплывае на гаспадарчае жыццё раёна РАПА. Ён адказвае:

— На маёй памяці самыя рашучыя і поўныя, а не палавінчатыя меры ў развіцці сельскай гаспадаркі былі прыняты ў 1965 годзе. Капіталаўкладанні... Спецыялізацыя... Матэрыяльная і маральная падтрымка... Адно тады не было прадугледжана: залежнасць заробку ад канчатковага выніку. Але памятаецца, які быў штуршок у вытворчасці?

— Як жа, помніцца,— кіўнуў Васільеў.

— І як пайшло ўсё расці, асабліва ў 71 — 76-х гадах. Душа радавалася!

— А далей,— зазначыў Васільеў,— усё больш пачало праяўляцца адмоўнае ў тым, што было станоўчым. Дзякуючы спецыялізацыі расплодзіліся канторы, незалежныя адна ад адной, разбухлі штаты, а разам з імі — ведамаснасць, бюракратызм. Я гэта па Нечарназем'і ведаю...

— У дадатак да ўсяго старэла вёска...— сказаў я.

— І гэта... Усё патрабавала неадкладных мер. М-да...

Папоў тлумачыў далей:

— Сучаснае АПК — прадпрыемства, без усялякіх сумненняў, станоўчае. Аднак таго жаданага штуршка, які прадугледжваўся, пакуль што няма, і многае застаецца нявырашаным. У нашым раёне, напрыклад, ільнозавод, малочны завод, «Сельгастэхніка» працуюць па старой сістэме ацэнак, і пажаданнямі, заклікамі арыентавацца на канчатковы вынік, нават валявым прыціскам тут нічога не зменіш, не прымусіш працаваць па-новаму. Правоў у нас мала, і эканамічных правоў — галоўным чынам. Згодзен з тымі, хто лічыць, што Мінсельгас не раздраб-

няць трэба, выдзяляючы з яго асобныя галіны, а, наадварот, рабіць з яго адзіны кулак.

(На той момант гэта былі надта свежыя думкі.)

Папоў спаслаўся на грузінскі эксперымент з падначаленнем асноўных партнёраў земляроба, у тым ліку «Сельгастэхнікі», Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі, аднаму-адзінаму гаспадару зямлі... Ідэя эксперыменту зразумелая: каб усе шківы, якія ёсць у гаспадарчым механізме, вярцеліся згодна задуме творцы, працавалі на канчатковы прадукт. Каб гэта ўвайшло ў сістэму і не было выпадковым, змушаным... Нам было вядома, што такім жа парадкам эксперыментуюць і эстонцы... Я ведаў таксама, што з прапановай аб правядзенні падобнага эксперыменту выступалі некалькі год назад і беларускія вучоныя. Таму ўсё гэта давала падставы меркаваць, што сітуацыя для пэўнага якаснага скачка ў кіраўніцтве сельскагаспадарчай вытворчасцю наспела паўсюдна.

Аграпром утварылі нарэшце. А скачка няма. Чаму?

## 9. Вілка Пухавічы — Ольмань. Хірургія зямлі

Мы гутарылі на розныя тэмы. На сяле рабілася ўсё вастрэйшай праблема апрацоўкі зямлі і ўзаемаадносін чалавека з прыродай.

— У раёне цяпер амаль усё робіцца з дапамогай тэхнікі — такі век. Недахопу ў тэхніцы практычна няма, а ёсць недахопы — і значныя! — у якасці машын і механізмаў.

Папоў назваў трактары «МТЗ» і «К-700», на якія ў земляробаў няма нараканняў. А вось трактар «Т-150К», на яго думку, зусім стратны і таму непатрэбны — слабы матор, слабая каробка перадач,— два-тры гады пройдзе, і спісвай.

— Цяпер спрабуюць рэкламаваць гомельскі сіласаўборачны камбайн «КСК-100». Але яго яшчэ трэба даводзіць да ладу, бо ён цяжкі, гру-

васткі, з маторам ад «Т-150»; у параўнанні з ім выйграе гэдээраўскі, лёгкі, даўгавечны, практычны... Тое ж можна сказаць і пра шведскі культыватар... Яны зроблены, можна сказаць, на тэхнічным узроўні нашага трактара «Беларусь» або «К-700». Для паспяховай механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці важна, аднак, каб такімі былі ўсе машыны. Умеюць, бачыце, і ў нас рабіць добра!

— Вы праўду кажаце,— заўважыў Васільеў, шукаючы новую цыгарку.— Грядет общая механизация.— І тут жа спытаўся: — А што і як мяняецца, які цяпер земляроб?

— Механізатар павінен быць, як музыкант, падрыхтаваны. А ў нас — прабел: ні ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, ні ў тэхнікумах няма належнай базы, новай тэхнікі... На плакатах часам вучацца.

Але Івана Апанасавіча цікавіў не столькі гэты бок падрыхтоўкі сучасных сейбітаў і аратых...

— Скажам так,— удакладніў ён пытанне: — Наш трактарыст разам з тэхнікай атрымлівае небывалы раней сродак уздзеяння на прыроду, і калі ў ягонай свядомасці не адбыўся пэўны якасны скачок, то ў адносінах да экалагічнага асяроддзя ён варвар, ён мае магчымасць і часам ахвоту шкодзіць прыродзе зусім без патрэбы.

— Ёсць такое! — жыва адгукнуўся старшыня райвыканкома.— Прычым у шырокім маштабе!

— Я гаварыў неяк, выступаючы перад механізатарамі: калі цябе вучаць — першым экзаменам павінен быць экзамен па ахове прыроды або, як гаворыць Мальцаў, па абароне прыроды!!!

Нам з Паповым думка падалася слушнаю, і я сказаў, што, на мой погляд, такі экзамен варта ўвесці ўжо ў дзесяцігодцы і што ён павінен быць абавязковым для інжынераў, тэхнікаў, якіх рыхтуюць для вёскі,— для ўсіх меліяратараў.

— Гэта прыватная размова,— зазначыў Па-

поў,— і тым не менш факт: мы сёння яшчэ не прапікліся як след усведамленнем сваёй адказнасці перад прыродай. Я ўжо ставіў пытанне, ці трэба ў нашым раёне меліяраваць столькі новых зямель? Старыя трэба рамантаваць!

Валерый Мікалаевіч пэўна належаў да людзей, якія сем раз адмераюць, перш чым адрэзаць, і таму яго словы мелі асаблівую значнасць. Аднак яго нельга было аднесці да праціўнікаў меліярацыі. Ён бачыў неабходнасць яе. Саўгас «Залог пяцігодкі», напрыклад, вырас у трыццатыя гады на гіблых балотах. Не было б меліярацыі — не было б і саўгаса. Такіх прыкладаў шмат, асабліва на Палессі. Балоты трэба было асушаць, і асушалі. Наколькі абачліва — іншая справа. Але ж тут не Палессе. Тым больш...

— Мы ўклалі вялікія сродкі ў меліярацыю, а тыя палі, якімі карысталіся раней, драбнаконтурныя, недагледжаныя, зусім запусцілі. А каб хоць частку выдаткаваных на асушэнне сродкаў сюды — атрымлівалі б таксама па 30—40 цэнтнераў збожжа. Толькі сёння мы маглі б пераходзіць да меліярацыі ў нашым раёне і рабіць яе ў значна меншых аб'ёмах і на вышэйшым узроўні.

— Магчыма, тут быў пэўны пралік. Але і меліяратары — нашы людзі — не ворагі роднаму краю. Дык у чым жа сёння мы іх дакараем? — папытаўся я.

— Доўгі час ім засцілі шоры. Бачылі толькі свае, ведамасныя, чыста кравецкія, можна сказаць, інтарэсы. З людзьмі на месцы мала раіліся, што і як трэба рабіць, а галоўнае — чаго не трэба рабіць! Квадратура захапляла і засціла вочы, а надзейнасць у рабоце, аддача квадрата ў шэрагу выпадкаў была не большая, чым у таго ж трактара «Т-150К».

Васільеў пацікавіўся: як бы хацела кіраўніцтва раёна змяніць суадносіны земляробства і меліярацыі?

— Суадносіны?.. Па-мойму, цяпер усё залежыць ад нас у раёне,— адказаў Папоў.— У вобласці нас разумеюць. Мы, кажуць, не будзем змушаць вас. Але ж ПМК-70 трымае кадры, і

ім патрэбен аб'ём тысяч на 10 гектараў. У нас, бачым, няма. Што рабіць?.. Знайшлі іншы парадак думкам. Калі два гады назад ім давалі пад нож 1300 гектараў новай плошчы і 400 — угоддзяў, каб наладзіць арашэнне, то ў гэтым годзе далі для асушэння ўсяго 500 гектараў, затое для правядзення культуртэхнічных работ — 1100 і для арашэння — 400. Да таго ж яшчэ плюс 2,5 тысячы гектараў — пад рамонт старых сістэм.

— О-о, у вас, бачу, гэта выдатна пастаўлена! — усклікнуў абрадаваны Іван Апанасавіч.— А ў нас пакуль не так і не тое.

Мне тады не хацелася псаваць добры настрой у Івана Васільева, госця; толькі цяпер, праглядваючы запісы нашай гаворкі, я зазначу, што ўмовы, створаныя для работы меліяратараў у Пухавіцкім раёне, былі як бы выключэннем з тых умоў і з тых акалічнасцей, у якіх яны працавалі на нашай зямлі наогул, і што багата дзе яшчэ «не так і не тое» рабілася ды робіцца і ў нас.

Неяк давялося мне правесці дзень у калгасе «Савецкая Беларусь» Столінскага раёна. Зямля там надзвычай кантрастная і, бадай, не ведае ніякіх таноў, пераходаў: то пясок, то балота! Свой падыход і адпаведныя меры для паляпшэння гаспадарчых спраў там, безумоўна, патрэбны былі — ці то асушэнне, ці то ландшафтная спецыялізацыя, пра якую ў нас пакуль маюць вельмі цьмянае ўяўленне. Калгас адарваны ад свету, бо якіх-небудзь 20 кіламетраў туды ад раённага цэнтра трэба пераадольваць (на машыне) паўдня. Безумоўна, усё там павінна б пачацца з дарог. Пачалі — з меліярацыі, што на мове саміх жа меліяратараў пакуль што азначае асушэнне. У Белгіправодгасе склалі праект, і — за справу. За справу ўзялася Столінская перасоўная механізаваная калона (ПМК-62). На месцы, уздоўж невялікай, але паўнаводнай ракі Мышанкі выбралі ладны кавалак балота (620 га), адгарадзілі яго ад астатняга масіву дамбаю і пачалі кроіць уздоўж і ўпоперак...

У абедзенны перапынак я падышоў да мужыкоў, што сядзелі на тоўстых бярвеннях. Яны рабілі ў будаўнічай брыгадзе. Пазнаёміліся, зачалі размову, і да нас неўзабаве падышла яшчэ купка мужчын з гэтай жа брыгады, потым далучылася купка жывёлаводаў з фермы — утварылася грамада. І раптам грамада загудзела, на ўсе галасы — трывожліва, роспачна. Дакаралі меліяратараў, скардзіліся... Абураліся імі. Няма бога, казалі. Не ведалі, куды сялянскаю думкаю кінуцца...

Што ж у Ольмані здарылася?

Працягнулі ўздоўж ракі дамбу і, спрамляючы, парэзалі рэчышча. З аднаго боку знізілі ўзровень вады, што і трэба было. Затое за дамбаю ўзровень падвысіўся... Такім чынам, ігнаруючы пабочныя вынікі, меліяратары падтапілі векавечны лес і балота на плошчы, большай, чым асушаць узяліся. А там жа былі сенажаці, там угоддзі былі, якімі спрадвеку карысталіся жыхары Ольмані і другой вёскі — Кашара. Цяпер двары калгаснікаў засталіся без сена, дый вялікі двор — калгасны — стаў у тупік.

Каб паправіць становішча ў гаспадарцы, старшыня Уладзімір Мікалаевіч Канапацкі забраў у людзей прысядзібныя ўчасткі (пад травы) і надзяліў калгасныя сем'і дзялкамі на балоце, на тым асушаным кавалку, які меліяратары часткова здалі.

Нейкім нелагічным і нават свавольным здаўся мне ўчынак праўлення калгаса, і от мы з Канапацкім едзем у поле.

— А што было рабіць? — пытаецца ён у мяне.— Пад травы тэрмінова спатрэбілася адвесці самыя лепшыя землі, каб не застацца з гаспадаркай каля разбітага карыта.

— Лічыцца, самы лепшы варыянт для траў — тарфянікі. А вы іх занялі пад бульбу. І торф — на вецер, і людзі незадаволеныя,— даводзіў я неспакойна.

Старшыня мне сваё:

— Э-э, паглядзіце на тыя тарфянікі: корч на карчы! Кучы пнёў! Палі непараўняныя...

Голас старшыні гусцеў і набіраў усё больш эмацыянальнай афарбоўкі:

— Да д'ябла, да д'ябла такая меліярацыя! Прынялі ад іх 220 гектараў, а карыстацца няма як, таму і падзялілі паміж калгаснікамі. Павырываюць з зямлі карчы, пні прыбяруць. Я, старшыня, сам такі надзел узяў. Цяжкая гэта зямля... Калгас, можа, палавіну сродкаў у яе ўкладвае, а праца адносіцца на рахунак меліяратараў.

І ён працягваў:

— От дарога, па якой мы едзем... Новая. Свежая. Павінна быць з цвёрдым пакрыццем. Высыпана ж дробным пясочкам. Так і застанецца. Распаўзецца. Усяго яе — восем кіламетраў... Эх! Што гаварыць? Вось яшчэ праява. Было ў нас добрае поле, глядзіце, мы яго якраз перасякаем... 12 гектараў. Дык нам яго разбілі. Дарогамі. На чатыры палеткі. Мядзведжая паслуга! У нас жа край лясны і ўся ворная зямля складаецца са 114 палянак. Уяўляеце?

Я ўяўляў... На гэтым аб'екце я на ўласныя вочы пераканаўся ў згубнасці справы, за якую быццам з добрымі намерамі ўзяліся меліяратары. Толькі бяздарным, бяздушным, як з боку эканамічнага абгрунтавання, так і інжынернага рашэння, проста амаральным у чалавечым аспекце аказаўся праект. Адпавядала ж праекту і яго ўвасабленне. Рака Мышанка абмялела, адхоны канаў не замацоўваюцца як след і аплываюць, даючы пачатак размывінам, равам, пяскі над балотам робяцца сыпучымі, рухомымі, ненавіднымі палешуку.

— Гора, а не меліярацыя! — у адзін голас са старшынёй гаварыў сакратар парткома калгаса Бялян. Яму, мясцоваму жыхару, было ўдвайне крыўдна за збэшчанае ўлонне, за прыроду, якую мясцовыя жыхары любілі, і ніхто не чуў, што яны хочуць ад яе адцурацца, апынуцца ў становішчы рыбы, выкінутай на пясок.

Ольманцы яшчэ моцна за вёску трымаліся...

Гнеў калгаснікаў у гэтым выпадку Валерый Назаравіч Бялян лічыў святым гневам.

— А вы ведаеце,— казаў,— што гектар журавін не менш каштоўны, чым гектар бульбы?

Я чытаў... А сфагнавы мох тут ужо сам выступаў як асушальнік і як адзін з асноўных фактараў у біяцэнозе. І ўсё пакрылася... От як.

Вернемся ж у Мар'іну Горку.

Папоў нядаўна пабываў у Літве... Там, сказаў ён, каб палепшыць зямлю, меліяратары выконваюць усе віды работ, уключаючы залужэнне і перазалужэнне.

— Прыйдзе час,— заўважыў Васільеў,— калі ад бяздумнага асушэння зямель трэ будзе адмаўляцца.

— Ад яго ўжо трэба адмовіцца! Земляробчыя інтарэсы дыктуюць неабходнасць стварэння ПМК на аснове механізатарскіх кадраў гаспадарак. Калона падпарадкоўваецца РАПА... Проста і зручна! — вочы Валерыя Мікалаевіча выпраменьвалі рашучасць, хоць сам ён здаваўся раўнаважным і стрыманым.— Меліярацыйную чахарду з аб'ёмамі і пераніцоўкай прыроды трэба спыняць! Уявіце: з пяці рэчак у раёне засталася адна. Што ўжо гаварыць пра азёры?! Відаць, настаў час азірнуцца, падумаць, узважыць і ацаніць зробленае, каб павесці далей землеўпарадчыя і меліярацыйныя работы пановаму.

Васільеў пакратаў вусы, усміхнуўся:

— Правільна... Перакананы, што ў нас, у Нечарназем'і таксама прыйдуць да гэтага. Але ці скора?.. Тут у прынцыпе ўсё мяняецца ад таго, што вам дазваляюць на месцы рашаць, што рабіць... М-да... Я вось слухаю вас і думаю пра лёс вялікай рускай ракі Волгі-матухны. Ці адкажа хто з «пераўтваральнікаў прыроды» за свае дзеянні?

Я сказаў пра свае назіранні: практычна цяпер у начальнікаў галава баліць не пра тое, як захаваць прыроду, а як з а х а в а ц ь т э м п ы асваення, здабычы, перапрацоўкі, пераніцоўкі і г. д. На захаванне прыроды пакуль няма п л а н а, таму няма належнай і адказнасці.

— Правільна... Чухаюць там, дзе свярбіць... сёння.

Размова з Паповым між тым абуджала энергію і ўздымала ваяўнічы настрой. Хацелася

думаць, што ўслед за ім, прадстаўніком Савецкай улады, і меліяратары рэспублікі пажадаюць на момант спыніцца, кінуць вокам назад, знайсці ў сваёй рабоце пралікі, ліквідаваць іх і потым ужо весці асушэнне на якасна новым, на экалагічна і гаспадарча абгрунтаваным узроўні, на тым узроўні, які даступны людзям з высокім грамадзянскім сумленнем.

Не збіраюся хаваць, мяне радавала пазіцыя паўнапраўнага гаспадара зямлі. За словамі і дзеяннямі Папова бачылася новая тэндэнцыя ў вырашэнні праблем земляробства. Надаць бы ёй развіццё!

Нядаўна я прачытаў артыкул аднаго знакамітага хлебароба, партыйнага работніка... Вось што ён піша:

«Пакуль балоты асушаліся ў невялікай колькасці, здавалася, што такому пераўтварэнню няўдобіцы ва ўгоддзі можна толькі радавацца. Але калі пачалі асушаць вялікія тэрыторыі, аказалася, што і балоты ў прыродзе патрэбны, што без гэтых акумулятараў вільгаці і цяпла нам часцей будуць дапякаць і паводкі, і падтапленні зямель, і засухі. Калі парою даводзіцца траціць сродкі на арашэнне асушанага, значыць, далёка не ўсё ў нас добра з навуковым прадбачаннем, навуковым разлікам вынікаў гаспадарчага ўмяшання ў акаляючае асяроддзе».

Дык хто ж гэта піша?.. Дачытаем, аднак...

«А гаспадарка ж у нас планавая, і ёсць усе магчымасці для таго, каб кіраваць раўнавагай біялагічных і сацыяльна-экалагічных працэсаў. Трэба толькі з большай адказнасцю падыходзіць да любой ідэі, любога праекта, што закранае прыроду. Усеагульная экалагічная дасведчанасць і ўсеагульная экалагічная адказнасць — вось што трэба сёння».

Гэтыя словы належаць суседу-ўкраінцу, першаму сакратару Палтаўскага абкома партыі Герою Сацыялістычнай Працы Фёдару Трафімавічу Маргуну.

Калі размова набліжалася да канца, я спытаўся ў Васільева, што ж там зрабілі з Волгай, што яе лёс пачаў многіх трывожыць?

— А што маглі, тое і зрабілі, дбаючы пра кароткую выгаду. Агалілі берагі, разаралі пойменныя тарфянікі, высушылі, забруджваюць прамысловымі сцёкамі...

— Што да тарфянікаў,— зазначыў Валерый Мікалаевіч,— то мы неабачлівыя. Нашы адносіны да іх варварскія! Да дна выскрабаем... Між тым не дзе-небудзь, а ў нашым раёне пабудаваны і працуе пакуль што адзіны ў краіне завод па вырабу горнага воску — рэчыва, з якога ў сваю чаргу можна вырабляць каля ста відаў розных каштоўных прэпаратаў. От вам і торф! Яму цаны няма! — Ён нагнуўся і дастаў з шуфляды кавалак гэтага дзіўнага рэчыва: — Справа з захаваннем тарфянікаў лепш у Літве пастаўлена. Літоўцы на фермах назапашваюць гной, каравяк і ў рэдкіх выпадках выкарыстоўваюць торф на ўгнаенне. Ахова?.. Ахова! У нас жа пра яе больш гавораць, чым робяць. Наш раён, напрыклад, штогод вывозіць на палі 300 тысяч тон торфу. Каб жа я мог забараніць!..

— А чаму? — Васільеў разглядаў горны воск.

— Уся псіхалогія і тэхналогія спецыялістаў павернута на выкарыстанне торфу. Не толькі ў раёне... І каб я, скажам, карыстаючыся эканамічным разлікам і развагай, сёння вывез на палі не 300, а 200 тысяч тон торфу, мяне за дзівака палічылі б, не памаглі б і спасылкі на гной. Было б усё, што адсюль вынікае...

— Можа, вы і перабольшваеце,— сказаў я.— Адно каб назапасілі гною... Але ж, бачыце, якая супярэчлівасць назіраецца з гэтым даверам. Меліярацыю вам давяраюць, а вывазку торфу — не! Дзіўна...

— Пытанне складанае,— тлумачыў Папоў.— Адразу змяніць становішча нельга. Фермы патрабуюць пераабсталявання. Дый саломы не хопіць. Калі гаспадарка атрымлівае дзве-тры тысячы тон саломы, то палавіна яе ідзе на корм...

— А некалькі ж год назад,— прыгадаў я,— на Міншчыне салому палілі. Дзе-нідзе яшчэ і цяпер гэта робяць... З дымам пайшлі тысячы і тысячы сцірт... Каманда такая была — паліць!

Папоў уздыхнуў:

— Было і такое. Цяпер мы глядзім на гэта як на дзікунства. У гаспадаранні на Мінщчыне шмат супярэчлівага, і мы шукаем выйсце з гэтых супярэчнасцей.

У Папова верылася. За ім, на мой погляд, была перспектыва.

— Супярэчнасці гэтыя суб'ектыўнага характару... Як ні круці ні вярці, а вялікая справа — ініцыятыва! — Васільеў зноў задыміў цыгаркай.

Пра ініцыятыву ён не забываў і не стамляўся думаць.

Ад руху думкі — да зрухаў у справе! Такі пачатак творчай дзейнасці кожнага чалавека і кожнага калектыву. З яе вялікасці і н і ц ы я т ы в ы ў грамадстве, бадай, усё пачыналася і ёю ўсё завяршаецца.

Мы развіталіся...

У тым жа годзе Пленум ЦК КПСС прыме Доўгатэрміновую праграму меліярацыі зямель, і я зноў сустрэну Валерыя Мікалаевіча ў Мінску.

— Мы стаялі на правільным шляху,— скажа ён.— Цяпер нас падтрымліваюць і самі меліяратары. Нядаўна адзін з іх выступіў у мясцовай раённай газеце... Ландшафт, піша, і сама глеба патрабуюць найвялікшай увагі і павагі да сябе. Па шаблону кроіць зямлю нельга... Мы крыху павялічылі плошчы, але перспектыва нашай работы практычна застаецца ранейшай. Памалу мяняем палітыку і ў выкарыстанні торфу...

Такі паварот мяняў многае. Разам з тым на сэрцы шчымела трывога за шырока распачатую хірургію зямлі. Якую ж адказнасць нясуць на сабе мясцовыя ўлады і меліяратары! Ці адчуваюць яны яе?.. Павінны б! Кроячы пустку, балота, аблогу, чалавек кроіць будучыню, яе наваколле, мяняе зямлю, найчасцей — беззваротна. І тут трывога наша не павінна слабець. Небяспека рэальная: у многіх вёсках знікае вада ў калодзежах...

Не, не і не! Трэба біць у званы: у Ольмані меліяратары працуюць па-ранейшаму згубна. Дый ці толькі там?!

## 10. Лёс парку Альба. Урокі Кірылы Арлоўскага

Палеткі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага адрознівaліся ад палеткаў суседніх гаспадаркі так, як гладкі асфальт адрозніваецца ад бруку: па-майстэрску выштукаваныя, роўныя, шчыльныя — нідзе квадратнага метра зямлі не гуляла, тым болей пры вёсках, і пустазеллю не было дзе ўчапіцца. Амаль усе дарогі ў прысадах. Прысады акаймоўвалі калгасныя нівы скрозь па перыметры. Здзіўляў цэнтр гаспадаркі — Мышкавічы, вёска, у якой надзвычай удала спалучалася старое з новым, хата з катэджам, забудова з адкрытай прасторай. Сады, кветнікі, сялянскія градкі не ведалі аніякай агароджы і падыходзілі да самай заасфальтаванай сцяжыны або тратуара, даверліва слаліся глядзі што пад самыя ногі...

Дзівіў увесь гаспадарчы і культурны комплекс: восем вёсак, пры якіх размяшчалася 7800 гектараў угоддзяў з палеткамі, з фермамі, машыннымі дварамі і майстэрнямі, Дамамі культуры, быту і адпачынку.

Багаты знешні выгляд, прыгажосць і веліч гэтай гаспадарцы надавалі свой, рукатворны мікраландшафт: дагледжанасць палеткаў, зялёныя алеі з раскідзістых клёнаў, ліп і бяроз, сады, пасекі... Старшыня калгаса Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў, паказваючы нам налева і направа густое зяленіва збажыны, павярнуў на ўзлесак машыну. Гай аказаўся не чым іншым, як доўгай і вабнай паласой беластволых бяроз у чатыры рады.

— А гэта вось Таццяніна алея! — кіўнуў на прысады старшыня.

Я спытаўся, што гэта значыць, бо меркаваць, што гэтая назва звязана з вядомай усяму свету пушкінскай Таццянай — не было сэнсу.

— Народ назваў так... Адзін сказаў так, другі — і пайшло! Таццяна — жонка Кірылы Пракопавіча Арлоўскага, былая даярка... Яна другая ў яго... Першая адраклася, калі ён падаўся сюды, з Масквы — у Мышкавічы... Так

вось... Калі закладвалі гэту алею, Кірыла прыхварэў, і работу ўзначаліла Тацяна. Не за тры дні, як планавалася, а за дзень пасадзілі маладыя дрэўцы; яна старанная, з яе бралі прыклад. За гэту алею на нарадзе яе пахвалілі, а людзі па-свойму аддалі ёй даніну сваёй павагі.

У Мышкавічах я потым сустрэўся з Тацянай Васільеўнай, простай, душэўнай і варушлівай жанчынай на схіле веку. Яна паказвала мне кніжкі, напісаныя пра Арлоўскага, расказвала сама пра яго, і мне тады падалося, што ў лёсе гэтага кемлівага, мужнага і слаўнага чалавека яе роля — роля жонкі і друга намі яшчэ недастаткова асэнсавана. У Кірылы Пракопавіча, калі ён выйшаў жывым з крупарушкі вайны, не было поўнага зроку і не ставала правай рукі, а левая — пакалечаная. Тацяна аказалася тут першай памочніцай — правай рукой, апорай у працы і жыцці. Нездарма ж, атрымліваючы другі медаль Героя — цяпер ужо за стваральную працу,— Арлоўскі ківаў у яе бок: маўляў, гэта ўжо і яе заслуга!..

Калгас «Рассвет» сваёй культурай земляробства, садоўніцтва, чысцінёй і ўтульнасцю вёсак як бы нагадваў маёнтак былое пары, толькі з той прынцыповай розніцай, што панавалі ў ім не паны, а сяляне, калгаснікі.

Але прыклад рассветаўцаў у доглядзе сваёй роднай зямлі, у стварэнні экалагічнага асяроддзя, якое дае багацце душы, фарміруе густ і настрой,— такі прыклад рэдкі пакуль...

Колькі разоў, ездзячы па дарогах роднага краю, бываючы ў ціхіх і вольных кутках, я спыняўся і з захапленнем глядзеў на старыя паркі і асобныя купы дрэў з вячыстымі кронамі. Вядома, яны былі пасаджаны рукамі працоўнага люду паводле панскага загаду і блаславення. І сёння гэтыя паркі стаяць як увасабленне прыгажосці, як помнікі зялёнай архітэктуры, а тым часам — і як дакор нам. У чым жа?

Хочаш — не хочаш, а трэба прызнаць, што па-мастацку пасаджаныя паркі і прысады экалагічна-гаспадарчага значэння з'яўляюцца і паказчыкам духоўнага жыцця чалавека, яго куль-

туры і густу. Толькі ж мы чамусьці іх мала садзім. Чаму?.. Не перадалося нам гэта? Не хапае эстэтычнага густу? Альбо свядома ігнаруем такую раскошу?..

Цяжка сказаць, па якіх прычынах, але мы часам нішчым пад корань, руйнуем нават тое, што складала гонар пакаленняў і дасталося нам у спадчыну. От яскравы прыклад.

У апошнія дзесяцігоддзі амаль цалкам загублены агромністы і незвычайны па сваёй прыгажосці лесапарк Альба, закладзены яшчэ ў XVI стагоддзі магнатамі Радзівіламі пад самым Нясвіжам. Гэты парк быў забяспечаны сістэмай штучных сажалак і каналаў, даволі значных сваімі памерамі, паколькі курсанты былой школы флоцкіх афіцэраў, размешчанай тут, імітавалі на іх марскія баі. Талентам, уменнем тагачасных садаводаў-дойлідаў у гэтым парку былі створаны шматпланавыя ансамблі з розных парод дрэў. У парку размяшчаліся Эрмітаж з панскім палацам, паляўнічы павільён з кругавым абстрэлам, звярынец, альтанкі. Усё гэта, апрача дрэў самога парку, было парушана, калі рушыўся стары свет.

Потым працоўнаму люду, які даў адстаўку панам, канечне, не да паркаў было, тым болей — у сельскай мясцовасці. Пра парк Альба зусім забылі. Ён быў «згублены», бо пра яго існаванне і лёс ніхто нідзе не ўспамінаў, і ў апошнія гады ў ім пачалі пілаваць дрэвы, пляжыць векавечныя дубы, знішчаць алеі.

Факт, на жаль, абуральны, і толькі дзіву дасшся: чалавек, якому па службе ў гэтым раёне належыць фарміраваць духоўнае жыццё грамадзян і ўзбагачаць яго,— географ па адукацыі...

Летам восемдзесят трэцяга года я пабыў у нясвіжскім парку Альба разам з тагачасным галоўным архітэктарам Мінскай вобласці — Алегам Рыгоравічам Трафімчуком і вучоным, доктарам біялагічных навук, прафесарам Беларускага тэхналагічнага інстытута імя Кірава — Васілём Рыгоравічам Анціпавым.

Паказваючы на разбурэнні ў запушчаным парку, Трафімчук расказаў нам пра пісьмо,

атрыманае ім ад ветэрана грамадзянскай вайны. Чаму так здарылася, пытаўся чалавек у сталым одуме: у гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, разбураючы ненавісныя панскія палацы, маёнткі памешчыкаў, мы разлічвалі, што ў хуткім часе ўзвядзём свае, пралетарскія, для рабочых і сялян, якія будуць намнога прыгажэй і зручней ад панскіх. Ажно дзесяцігоддзі праходзяць, і рэдка дзе на месцы разбуранага з'явіўся новы, не менш прыгожы і раскошны будынак, а ставяцца невыразныя, шэрыя... Ці не перавяліся на нашай зямлі дойліды?

Для архітэктара Трафімчука гэта была горкая пілюля. Але ён быў малады, і ў яго голасе чулася слодыч іроніі: «А чаму ж разбуралі?!»

Уласна кажучы, аўтар пісьма, ветэран, які змагаўся з буржуямі, меў права на тое: палацы ж былі ўвасабленнем зла! Нам з прафесарам, прызнацца, цяжэй было зразумець сённяшніх разбуральнікаў, асабліва калі яны ходзяць у рангу архітэктараў. З якіх меркаванняў, напрыклад, у старадаўнім парку Альба пасадзілі біяміцынавы завод? Зрабілі памылку?.. То чаму ж, калі памылка ўжо была бачна, побач з біяміцынавым пачалі будаваць новае прадпрыемства па вытворчасці рызатарфіну? Будаўніцтва ў маляўнічым і надзвычай прыдатным для адпачынку кутку набывае інерцыю. Як гэта здарылася?.. Ды, напэўна ж, па схеме: хтосьці, прымаючы парк за лес, не меў літасці да яго, ён убачыў выгаду, калі ад аднаго «кораня» выраступь карпусы новага завода, а рэліктавыя дрэвы, што ўвасаблялі хараство і маглі быць гордасцю краю, не ўваходзілі ўжо ў яго кампетэнцыю... Ён падаў прапанову, і ўсе прагаласавалі «за». Не было каму падняцца, як таму ветэрану-акопніку, і пайсці грудзьмі ўперад, на вузкалобасць і невуцтва.

Сумна робіцца, калі глядзіш нават на дагледжаныя старыя паркі. Узнікае пытанне: а чаму цяпер мала хто думае пра стварэнне чагосьці падобнага — ну хоць бы на цэнтральных сядзібах калгасаў і саўгасаў?

На мой погляд, адна з прычын у тым, што

ў нашым краі вельмі часта мяняюцца кіраўнікі гаспадарак дый раёнаў таксама і мала хто з іх звязвае свой лёс і свой грамадзянскі клопат з адпаведным кутком; таму і галава ў іх за той куток не баліць. А Кірыла Арлоўскі прыехаў з намерам аддаць роднай вёсцы і зямлі ўсе сілы дарэшты, ды тут і памерці...

Дзе, дзе ж яны, сучасныя аматары і прыхільнікі садовага і лесапаркавага мастацтва? Пра гэта я думаю нават у Мінску, калі бачу, як у новых мікрараёнах «Захад» і «Паўднёвы Захад» па вуліцах і праспектах высаджваюць дрэвы: адно пахілена ўлева, другое — управа, усе разам — так-сяк накасяк і — растуць, выклікаючы прыкрасць у душы.

Прафесар Анціпаў падзяляў маю трывогу:

— У нас або забылі, або блізкія да таго, каб забыць, што такое паркавае мастацтва. Спецыялістаў па азеляненні рыхтуюць у навучальных установах Масквы, Ленінграда, Кіева, Львова, але іх мала. Два гады назад пачаў падрыхтоўку Бранскі тэхналагічны, а цяпер — і Краснаярскі лесатэхнічны інстытуты. А ў нас тым часам іх выпуск спынілі.

Нібыта дробязь, але я прыгадаў, што спынены выпуск таксама кветкаводаў у знаёмым мне Бабруйскім мастацкім прафесійна-тэхнічным вучылішчы...

— А ў выніку,— працягваў Васіль Рыгоравіч,— адсутнічаюць спецыялісты не толькі ў раёнах, але і ў гарадах, і замест іх працуюць выпадковыя людзі. Таму склаўся спрошчаны падыход да аб'ектаў азелянення, дый мала саміх насаджэнняў. Пры норме 12 квадратных метраў на гараджаніна, у нашай рэспубліцы — усяго 8; а ў Расійскай Федэрацыі — 10,3; яшчэ болей — у Прыбалтыцы і на Украіне.

Спецыялісты патрэбны. Аднак Кірыла Арлоўскі не стаў чакаць іх, каб закласці алеі. Справу Арлоўскага падхапіў Старавойтаў...

Жалю варта: адданасці зямлі якраз не стае многім сённяшнім кіраўнікам. Слаба выхоўваюцца патрыятычныя пачуцці. І ці не таму сёння становіцца праблемай на сяле, у раёне,

знайсці чалавека на адказную пасаду. І гэта пры ўсё большай колькасці адукаваных і вопытных людзей, спецыялістаў! Многія адмаўляюцца, і адмаўляюцца якраз найбольш здольныя. У Кіраўскім раёне, напрыклад, увайшло ў норму абнаўляць штогод да адной трэці старшынь і дырэктараў? Але ж гэта вымушанае абнаўленне, у выніку якога падразаюцца карані, што звязваюць чалавека з зямлёй. Уявіце, што было б, калі б Кірылу Арлоўскага, напрыклад, ці Старавойтава, або, скажам, Ралько ўвесь час перакідвалі з гаспадаркі ў гаспадарку? Ці захавалі б яны ў сваёй душы якасці, пра якія мы тут гаварылі, і што было б у калгасах «Рассвет» і «Аснежыцкі»? Ці былі б яны імі?..

Як у Кіраўскім раёне старшыньскі корпус, так на Магілёўшчыне ў цэлым да нядаўняга часу тасавалі, абнаўляючы, раённае звяно.

У любым выпадку, нават пры захапленні чыста гаспадарчымі і ўпраўленчымі справамі, з душой чалавека варта больш лічыцца.

У нас не даследаваны складаныя працэсы, якія адбываюцца на паверхні і ў глыбінях Сялянскага Акіяна, не высветлены зрухі і змяшчэнні ў псіхалогіі сучасных сялян. Тут патрэбны спецыяльныя сацыялагічныя даследаванні, даклады вучоных, падрыхтаваныя праўдзіва, сумленна. Усё гэта можна зрабіць, але мы пакуль не прывучаны карыстацца як след паслугамі сацыёлагаў і вышэй за ісціну ставім сваю суб'ектыўную думку, падмацаваную часам аўтарытэтам службовага крэсла. Радуе, аднак, тое, што экалагічны падыход пры вырашэнні гаспадарчых спраў на месцы набывае ўсё больш прыхільнікаў і энтузіястаў, і мы яшчэ з імі сустрэнемся.

## 11. Сяляне. Хто яны сёння? Механізатар Міхаіл Аляксеенка

Добра помніцца, як мы, падлеткі, падчас летніх канікулаў памагалі мясцоваму васілевіцкаму калгасу імя Сталіна ўпраўляцца ў полі. Мы штодня ставілі пад ярмо валоў і коней у

аглоблі, кіруючы імі, выязджалі на пожню, дзе ладкавалі вазы проса, ячменю і паганялі на гаспадарчы двор або ток... Мы варочалі сена ў валках і сцягвалі копы ў кучу, з якой вырасталі стагі, сціртавалі салому... Асцюкі і труха, залазячы за каўнер і прыліпаючы да потнага цела, выклікалі эмоцыі не самыя лепшыя, аднак, мне здаецца, у той час павальнага захаплення працай і ўюшанасці для нас пот салёны нават быў як слодыч.

Там была сур'ёзная работа, і нам або бацькам нашым за яе налічвалі працадні. Што важна яшчэ, справа дарослых адкрывалася кожнаму з нас як новы і выдатны свет, у якім кожны паказвае, на што ён здольны.

Я схільны думаць, што ма́ю натуру сялянскую, хоць тут працоўным заняткам у раннім узросце ўсяго і не вытлумачыш.

Я вельмі добра разумею чалавека, якому балюча робіцца, калі ён глядзіць на паламаную галіну яблыні, ссечаны ў лесе і кінуты без патрэбы дубок, вытаптаную мясціну ў жыце, залітую саляркай глебу або вадаём. Па-мойму, падобныя факты павінны выклікаць здзіўленне, боль і гнеў у кожнага, хто ўсведамляе сябе не варварам і не дзікуном з дзікуноў. Вочы мае не глядзелі б на «паляўнічага», які ганяецца на машыне за зайцам або на верталёце палюе больш буйную дзічыну. Скажу шчыра, не пайшоў бы я працаваць таксама ні ў Сельгасхімію, ні ў атрад сельгасавіятараў. На мой розум, там, пры сённяшніх праблемах захавання прыроды павінен бы быць самы востры дэфіцыт кадраў... Разумею, мяне папракнуць: маўляў, перабольшваю і недаацэньваю таго-сяго... Ёсць аб чым паспрачацца... Другі абыдзе, саступіць, калі перад ім на сцяжыну выпаўзае дажджавы чарвяк. Ён жа вялікі працаўнік і вялікі друг земляроба. Іх, гэтых няўтомных свідравальшчыкаў глебы, па норме, кажуць, павінна быць 80 кілаграмаў на гектар, але часам не бывае і аднаго, і не кілаграма нават — чарвяка! Ні аднуой казуркі. Ні чмяля, ні жаваранка. Ціша!.. І падобна, што пры вырошчванні сельскагаспа-

дарчых культур цяпер адбываецца не біялагічны, а хімічны працэс. Не далёка ж да гэтага!

Неяк, можа, нават падсвядома, але я заўсёды, пачынаючы з малых гадоў, адчуваў, што перада мной стаіць задача зразумець усю веліч прыроды і сабраць, адлюстраваць у сабе як найболей законы жыцця і законы сусвету. Гэтая думка больш акрэслілася ў мяне, калі, чытаючы «Курземітэ» Іманта Зіедоніса, я пазнаёміўся з дзённікам выдатнага латышскага скульптара Мікеліса Панкока, які захапляўся яшчэ і філасофіяй і, па ўсіх прыкметах, жыў з апярэджаннем часу.

«Пазбягаць, пазбягаць таго, каб ламаць, дратаваць зялёныя парасткі і абрываць чыёсьці маленькае жыццё. Выхоўваць у сабе вялікую любоў да ўсіх форм існага, ва ўсіх іх станах.

Сканцэнтраваць у сабе законы сусвету»,— гэтак пісаў ён у 1922 годзе.

Прыгадаўшы Панкока (па вуліцах Мышкавіч), я тлумачыў Васільеву:

— Мо таму я душой успрымаю гэтыя словы, што змалку быў зліты з прыродай. Помню, як узвышаўся нада мной бульбоўнік, калі я гуляў у разоры або як хаваўся пад шырокім гарбузовым лістом. Помню пах канапель, крапівы, той жа бульбы, калі яна цвіла, бярозкі, роснага агурэчніку...

О, як тады ўсё пахла, цвіло, красавала! Усё ўспрымалася непасрэдна і абвострана, усімі органамі пачуццяў...

Яшчэ будучы школьнікам, я захапіўся дзічкамі, садам увогуле, перасаджваў маладыя дрэўцы, прышчапляў...

— От і я таксама! — энергічна выказаўся Іван Апанасавіч, і твар яго засвяціўся пранікнёнай і добрай усмешкай, у ёй выяўлялася радасць; нібы я саму раўнавагу ў гэты момант яму падарыў.

Цяга да дрэва, да саду і прысад у мяне захавалася, і ў Мінску я паказваў Васільеву рабінавую алею каля свайго дома, да закладкі якой меў непасрэднае дачыненне. Зразумела, сутнасць факта не ў маёй дабрачыннасці. Ёсць ня-

мала людзей, якія не пасадзілі ніводнага дрэўца, а сваёй працай, сваёй дзейнасцю тым не менш дораць свету дабро. Сутнасць факта ў тым, што я не магу не пасадзіць куста бэзу або арэшыну насупраць свайго акна, бо па настрою і звычках я селянін. І далей ужо набыты асабісты вопыт і працяглы роздум над жыццём вёскі дазваляюць мне сцвярджаць, што найбольшага поспеху ў працы дасягаюць тыя механізатары, аратыя, сейбіты, якія адчуваюць сябе сялянамі, не па званні — па сутнасці, па напаўненні душы. Яны не страцілі яшчэ сваёй повязі з глебай — грыбніцай усяго таго, што ідзе ў рост на сушы і ўяўляе сабой жывы і дзеючы арганізм. Толькі таму яны ўмеюць бачыць і адчуваць расліну, ніву, абшар і клапаціцца пра іх і сваім клопатам спалучаць чалавечую працу з працай сонца, зямлі.

У Бабруйску і Мышкавічах у мяне з галавы не выходзіла думка пра Міхаіла Міхайлавіча Аляксеенку. Карцела заглянуць да яго, а жыў ён пад Крычавам, толькі ж туды не блізка было...

Кажуць, здзівіў Міхась многіх сваіх аднагодкаў, калі з атэстатам сталасці, у якім па ўсіх прадметах стаялі пяцёркі і чацвёркі, са славай лепшага ў раёне футбаліста падаўся вучыцца ў сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Ад бацькоў, заслужаных калгаснікаў, напэўна, перадалася яму цяга да зямлі, да роднага ўлоння. Ён стаў механізатарам, механікам, рацыяналізатарам па вырошчванні лёну, набыў лепшыя грамадзянскія якасці, што праяўляюцца ў канкрэтных учынках.

Аднойчы, напрыклад, Міхась даведаўся, што нейкімі там архітэктарамі наканавана высечка зялёнай дубровы каля вёскі Дарагой. Чаму тая дуброва калола вочы дойлідам, якія сядзелі ў горадзе, сказаць цяжка. Ліха часам з чыстага неба можа зваліцца. І дзівіліся людзі. Абураліся людзі, а ўсхваляваны Міхась Аляксеенка напісаў і паслаў у Магілёў ліст, дзе выкрываў недарэкаў, што называлі сябе архітэктарамі. Памагло! Абараніў дуброву.

Грамадская актыўнасць Аляксеенкі выяўлялася з гадамі ўсё выразней і атрымлівала ўсё большае прызнанне. Міхаіл Міхайлавіч неўзабаве становіцца членам бюро Крычаўскага райкома партыі і становіцца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР.

Пра яго ўдала расказаў у артыкуле, надрукаваным у рэспубліканскай газеце «Звязда», гісторык, краязнаўца, заслужаны работнік культуры БССР Міхаіл Фёдаравіч Мельнікаў.

Мяне ж у тым артыкуле парадавала, як дакладна аўтар вызначае сутнасць земляробчае працы, хоць і робіць гэта, можа, падсвядома, мімаходзь.

От тут, піша ён, ільняное поле — як сіняе возера, як казка! Цытую далей: «І Міхась Аляксеенка адзін з тых, хто разам з сонцам і дажджом творыць гэта хараство». Не адзін, заўважце, не сам па сабе, а разам з сонцам і дажджом, гэта значыць, з энергіяй, закладзенай у глебу,— даходзячы думкай і сэрцам да ўсяго.

Па ладу думак, настрою, па рытму жыцця механізатар Аляксеенка вельмі блізка стаіць да Папова, былога кіраўніка гаспадаркі, цяпер кіраўніка раёна. Прынамсі, іх аднолькава хвалюе зямля.

Тут, аднак, мы выйшлі на штосьці большае, а галоўнае — больш складанае і супярэчлівае, чым бытуючыя вызначэнні: гараджанін, рабочы, служачы, калгаснік і г. д. Селяніна сёння як бы і няма. На слове «селянін» ужо адчуваецца налёт архаічнасці, што проста ці ўскосна адлюстроўваюць і тлумачальныя слоўнікі. Звяртаючыся да іх, далёкі ад вёскі чытач так зразумее сутнасць сялянства: маўляў, гэта было раней — сяляне жылі на тэрыторыі нашай краіны да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, і жыла разам з імі прыватная ўласнасць на пэўны надзел зямлі і сякую-такую гаспадарку, дарэчы, гаспадарка натуральнай была... і адно што давала яна селяніну — хлеб, сродкі для жыцця. Пасля рэвалюцыі, дакладней, пасля правядзення суцэльнай калектывізацыі ў сельскай гаспадарцы азначаная сялянская сутнасць

(якая чамусьці зводзіцца да спосабу вядзення гаспадаркі) пачала аджываць. Чаму? Змяніліся грамадскія адносіны і паступова, бачыце, мяняліся погляды, звычкі, псіхалогія селяніна, у выніку — аднаасобнік рабіўся калектывістам, калгаснікам. Ну і што з таго? Заўчасна ставіцца кропка.

З боку сацыяльна-псіхалагічных змен тут, відаць, усё правільна, хоць калектывізм (як і калгасная дэмакратыя, у дужках зазначу) па прычыне розных абставін і ўмоў не скрозь прывіваўся ў аднолькавай меры. Часам ён існаваў, ды дзе-нідзе і цяпер існуе толькі на паперы, у рапартах, у дакладах.

Для нас, аднак, застаецца нявысветленым пытанне: у тых якасцях душы, якія мяняліся (з ператварэннем аднаасобніка ў калектывіста), у саміх зменах ці ўся псіхалогія селяніна? А можа, гэта толькі частка яе? Можа, гэта яе надбудова?

На самай справе, што такое зямля для земляроба? Аснова. Фундамент, на якім, штораз творча спалучаючы сваю энергію з энергіяй сонца, ён вырошчвае прадукты харчавання, адным словам — хлеб. А толькі ці перастала зямля быць для селяніна асноваю з уступленнем яго ў калгас? Па логіцы і па ідэі — не! А калі так, то і глыбінная сутнасць селяніна-творцы павінна заставацца — незалежна ад спосабу вытворчасці. Іншая справа, калі жыццё падае нам прыклады незалежнасці калгасніка ад зямлі, яго заробку — ад ураджаю; зямля як фундамент перастае тады для яго існаваць, і падобныя вытворчыя адносіны ўжо сапраўды мяняюць сутнасць справы: селянін, кім бы ён да гэтага ні быў — калгаснікам або аднаасобнікам, ператвараецца ў рабочага з нараднай сістэмай працы, пры якой з'яўленне Аляксеенкі ў гаспадарцы малаверагодна, яно проста робіцца выпадкам, а выпадкі, як вядома, пагоды не робяць.

Усведамляю, што гэта адна з адкінутых на задворкі тэм, і да яе амаль не дакрануліся нашы сацыёлагі, грамадазнаўцы.

У маіх разважаннях нешта можа паказацца

і спрэчным. Тым не менш я перакананы: слова «селянін» дарэмна пакрываецца пылам касмічнага веку; адбываецца гэта не столькі па прычынах аб'ектыўных грамадскіх працэсаў, колькі па чыстым непаразуменні і суб'ектыўным стаўленні да сялянства. У кожным разе, не стае разумення сялянскай душы.

Гаворачы пра якасці земляроба, А. М. Энгельгарт пісаў: «Каб быць гаспадаром, трэба любіць зямлю, любіць гаспадарку, любіць гэту чорную цяжкую працу. То не араты, што добра арэ, а вось той араты, які л ю б у е ц ц а на сваё ворыва». І хіба гэтыя словы сёння не стасуюцца з працай лепшых нашых механізатараў, якія набылі новыя псіхалагічныя рысы ў грамадскай вытворчасці, аднак не забылі, што яны хлебаробы.

На наша шчасце, сяляне яшчэ не перавяліся; хоць у гэтым, можа, сыгралі вырашальную ролю ўжо не нашы гаспадарчыя парадкі, а сама зямля, дакладней, добрыя з ёю адносіны.

Цяга да зямлі — не пусты гук, як некаторыя лічаць. Грэчаскі філосаф Сакрат, абагульніўшы свае назіранні над земляробствам, пакінуў нашчадкам такое выказванне:

«Зямля дае таму, хто яе апрацоўвае, усё неабходнае для жыцця, дадаючы яшчэ і тое, што надае асалоду... Земляробства з'яўляецца крыніцай і дабрабыту і задавальнення».

Як багата дае зямля! І ўсё гэта павінен атрымліваць і атрымлівае селянін, пакуль селянінам ён застаецца, пакуль працуе з душой.

## 12. Яшчэ пра сапраўдных сялян. Мара Анатоля Сяргушкі

Хай прабачыць дарога! Ніяк нельга нам па ёй далей рухацца, пакуль не разбярэмся толкам у такіх простых і няпростых пытаннях.

У калгасе «Рассвет» імя Арлоўскага я пазнаёміўся з некалькімі трактарыстамі.

Цікава пацазіраць за людзьмі самага споду вытворчасці, у апошнім звяне: імі кіруюць, а ім

ужо няма кім кіраваць, акрамя як тэхнікай, машынамі ў полі або скацінай на ферме...

Гутарку мы распачалі проста па раллі, дзе людзі рупіліся, прычым Міхась Фёдаравіч Елісеенка і Іван Аляксеевіч Бяляўскі — на гусенічных трактарах; мужыкі — адзін дзябёлы, другі хударлявы — у веку і, напэўна, напрацаваліся за жыццё; цяпер ім адпачываць варта было б часцей, тым больш улетку, дзень доўгі... Я пацікавіўся, калі зачалі мы гаворку, чаму яны не працуюць у дзве змены, чаргуючыся, асабліва падчас сяўбы, жніва, ворыва,— магчымасці ж для такой работы ў іх гаспадарцы, пэўна, ёсць...

— Прывыклі...— сказаў адзін.

— Нязручна ў дзве змены: час будзеш траціць на дарогу, ды яшчэ на тое, каб знайсці ў полі трактар,— растлумачыў другі і дадаў: — Машына ж таксама, як і жонка,— адны рукі любіць.

Першы ўсміхнуўся:

— Наконт жонак — як сказаць... А машына сапраўды адных рук і далікатнасці патрабуе.

— Гэта маладым цяпер пазменную работу падавай! Наслухаліся, што праца павінна быць лёгкаю, і лёгка працуюць.

— На горад раўняюцца?..— пацікавіўся я.

— Ну — так, пэўна... Пакуль не дойдуць розумам, што зямля патрабуе свайго...

— Распарадку?..

— Ну гэтак...

Трэці трактарыст працаваў на вялізным колавым трактары «К-700А», што ў полі варушыўся, як мамант. Гэта быў Іван Бяляўскі, толькі па бацьку ўжо — Аляксандравіч. Станісты, дужы, сваёй паставай адпавядаў той машыне, толькі працаваў інакш, чым машына...

Я спытаўся ў Івана Аляксандравіча, ці можа ён прыгадаць такія дні, гадзіны або хоць бы асобныя моманты, калі на працы ў полі адчуваў асаблівы прыліў сіл і радасць і з чым гэта было звязана?

Ён трохі памарудзіў, відаць, не чакаў такога павароту размовы. Сказаў:

— А чаму ж... Калі добра пласт кладзецца, хочаца зрабіць больш. А зрабіў — радасна.

Тады я пацікавіўся: ці былі ў яго земляробчай працы выпадкі, калі ён сам вырашаў, як трэба гэтае або тое поле ўрабляць.

Не чакаў ён і такога пытання. Прыгадаў от што:

— Нядаўна далі мне заданне ўзараць поле ў трэцяй брыгадзе. Выехаў я туды — прастора вялікая! Звярнуў з дарогі і запусціў плугі. Адчуваю, лёгка трактар ідзе: без асаблівай нагрузкі. Я спыніў машыну, злез і памацаў зямлю, у адным, у другім месцы. Паклікаў агранома... Глеба мяккая, кажу, тут дастаткова прадыскаваць поле. І праўда, той калупнуў зямлю, патупаў-патупаў і пагадзіўся са мной: мяняй плугі на дыскі!

Іван Аляксандравіч Бяляўскі, як і яго старэйшыя таварышы, ветэраны працы Бяляўскі і Елісеенка,— спадчынныя сяляне, і пры такім творчым пачатку, каб добра рабіць, ім і начальнікаў многа не трэба.

Адчуваю, што ў гэтых разважаннях мае сэнс удакладніць, каго мы сёння ўсё-ткі будзем называць селянінам. На мой погляд, гэтае вызначэнне цяпер стасуецца не да ўсіх, хто жыве ў вёсцы і працуе ў калгасе, саўгасе або раённай канторы і любіць пахі вясны і паранай бульбы... Затое такое вызначэнне, мне здаецца, падыходзіць любому і кожнаму, незалежна ад прафесіі, хто дбае пра зямлю і не парваў тых нябачных повязяў, жылак, па якіх ад земляробчай працы перадаецца яму задавальненне і асалода. Адпаведна гэтаму да людзей з сялянскай закваскай аднясём не толькі Бяляўскіх, Елісеенку або Аляксеенку, Новіка, Драгуна, але і Папова, і, магчыма, Маргуна, хоць некаторыя з іх і жывуць у горадзе. Сёння гэтым званнем можна толькі ганарыцца. Міхаіл Іванавіч Калінін, напрыклад, многія гады займаючы ў Краіне Саветаў самую высокую пасаду, лічыў сябе селянінам і, прыязджаючы да сваёй маці ў вёску, заўсёды з вялікай ахвотай працаваў на зямлі.

Яшчэ адзін прыклад селяніна, які, паддаў-

шыся урбанізацыйным павевам, стаў гараджанінам, але адчувае, што ён усё-ткі селянін, душа яго не на месцы.

У Наваполацку жыве мой стары знаёмы Анатоль Сяргушка, чалавек непаседлівы і прагны да ўсялякае працы, якая прыносіць плён, узбагачае. Толькі прагнасць яго не скваппая, як гэта часам бывае. За Сяргушкавай прагнасцю ляжыць працавітасць і шчырасць пчалы, у якую, дарэчы, ён улюбёны з дзяцінства. Неабачлівым лёсам адарвала яго ад вёскі Антонава, што ў Верхнядзвінскім раёне, дзе вырас і жыў — закінула сюды, у горад хімікаў. Працаваў на бульдозеры, варочаў зямлю, ды не сеяў на ёй і не жаў, і душою быў недзе там, на вясковых прасторах. Урэшце займеў дачу — кавалак зямлі, сад пасадзіў, выкапаў бульдозерам копанку, завёў у ёй рыбу — суседзі з вудамі хадзілі сюды і хвалілі Толіка,— не для аднаго сябе стараўся! Суседкі, праўда, лаяліся. Пчолы іх кусалі. Дый пчолам там, калі на тое, не было асаблівых выгод: блізка падступала прадпрыемства з хіміяй... Што рабіць?.. Адцураўся дачы Сяргушка; пчол забраў і перавёз іх далей, кіламетраў за сорак, дзе нагледзеў мясціну з купамі старых ліп. Размясціў на схіле пагорка, пад раскідзістымі дрэвамі,— больш за дваццаць сем'яў. Зноў запрацаваў крылаты канвеер...

А толькі бульдазерысту Анатолію Якаўлевічу Сяргушку ўсё яшчэ не хапала чагосьці, у сваім роўным жыцці адчуваў ён як бы правал... Аднойчы запрасіў ён мяне на сваю пасеку.

— Там, непадалёку, землі саўгаса, які спецыялізуецца на насенні траў. Ёсць у іх і сад. А пчол няма. Трэба пагаварыць, можа, я дапамагу ім...

Задума ішла ад сэрца, а ў пчалярскім майстэрстве Сяргушкі я пераканаўся. Анатоль прыйшоў да думкі, што лепей трымаць пчол у камбінаваных вуллях на дваццаць рамак, з перагародкай пасярэдзіне, якую час ад часу можна вымаць, а таксама з другім лятком для часовай сям'і. Дадатковы адсек дае магчымасць змяшчаць там рамкі з расплодам і потым, як

выведзецца, адсаджваць новую сям'ю ў асобны дамок, а рабочых пчол вяртаць да старое сям'і, проста прыбраўшы перагародку... Гэтак павялічваецца згуртаванасць пчол, і яны назапашваюць больш мёду...

Дырэктар саўгаса Кудзеля, выслухаўшы Анатоля Якаўлевіча, лагодна ўсміхнуўся:

— Добра... Завесці пчол мы гатовы, пра гэта нават у нашым вытворча-фінансавым плане запісана. Возьмем вас пчаляром...

Мы вярталіся назад у Наваполацк.

Апантаны і мройлівы пасечнік, круцячы баранку легкавіка, прызнаўся:

— Ведаеце, мяне аж закалаціла пры гэтых яго словах, трывожна стала: нарэшце мая мара збываецца!

— Пад тваёй рукой вырасце добры пчаліны гарадок.

Ён кіўнуў:

— Хачу паказаць, на што здольны Сяргушка... Каб толькі здароўе не падвяло...

Ну дык хто ж ён?

Сваім творчым пошукам, захапленнем і ўсім жыццёвым ухілам Анатоль Сяргушка паказвае на сваю адпаведнасць такому ёмістаму, чыннаму і трохі ўчарсцвеламу, як астатні хлеб, слову — селянін.

У нас яшчэ будзе не адзін зручны момант, каб паглыбіць пра гэта размову.

## 13. Калгас «Рассвет» імя Арлоўскага

А ў вялікім Сялянскім Акіяне, напэўна, для таго, каб меней хто блукаў, збіўшыся з курсу, ёсць свае маякі.

Калгас «Рассвет» імя Арлоўскага якраз падае нам прыклад той гаспадаркі, якая здолела процістаяць разбурэнню вясковага ладу жыцця і захаваць пакуль свае сялянскія прынцыпы і парадкі. Тое ж можна сказаць і пра калгасы «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна, імя

Жданава Жыткавіцкага або саўгас «Ведрыч» Рэчыцкага раёнаў, дзе мы былі.

Тут не давялі да таго, каб селянін адышоў, адарваўся ад зямлі. Наадварот, стваралі ўмовы, каб ён быў зацікаўлены ў добрым стане і ўрадлівасці нівы, у канчатковым выніку сваёй земляробчай працы. Калі ў Моталі дасягнулі гэтага з дапамогай дыферэнцыраванага, пабрыгаднага і поўнага гаспадарчага разліку, то ў «Рассвеце» — з дапамогай працадня, таго самага, за якім стаяў і стаіць агульны гаспадарчы разлік і ад якога ўсе адцураліся. Пэўна, дрэнным быў не працадзень, а тое, што на яго мала давалі... І от што яшчэ характэрна для гэтых гаспадарак: тут найлепшым чынам сціраюцца грані паміж горадам і вёскай! Якім чынам?

У «Рассвеце», і перш за ўсё — у «Рассвеце», пачынаючы з неймаверна цяжкіх саракавых, пасляваенных, і далей — усё рабілася, каб аблегчыць побыт селяніна-калгасніка. Помню, якім дзівам перадавалася з вуснаў у вусны навіна, што Арлоўскі адкрыў у вёсцы, гэта значыць у Мышкавічах, с т а л о ў к у і што абедаюць у ёй калгаснікі б я с п л а т н а! Чулі вы? Не, калгасная рэспубліка падобнага яшчэ не чула! Варушыўся ж тады на сельскіх прасторах 1962 год.

Хто жыве і жыў у вёсцы, еў смятану і піў сырадой, ведае, што не так цяжка ў двары даглядаць і даіць карову, як назапасіць ёй сена і іншых кармоў на зіму. Сена стала вялікай праблемай асабліва з пяцідзесятых гадоў. Угоддзяў ставала, аднак трэ было накасіць і сабраць ажно дзесяць стагоў, каб узяць адзін стог сабе; і такое становішча захоўвалася больш за два дзесяцігоддзі. Прычым калгасніка мала ўсцешвала тое, што дзевяць стагоў ішлі ў калектыўную гаспадарку, бо ён ад суполкі амаль нічога не меў. Многія адчайваліся і збывалі кароў. Казкай, жартам магло падацца тады, што некалі сена для дамашняй скаціны стане калектыўным клопатам...

Арлоўскі зноў пайшоў насустрач сялянам, і — новае дзіва! Калгаснікам у «Рассвеце» пача-

лі выдаваць на кожны працадзень па два літры малака — шчодра! І ўжо мала хто трымаўся за карову-карміцельку — карміцелькай стала калектыўная праца.

Пазней, дарэчы, гэтак жа зробіць у калгасе імя Леніна Верхнядзвінскага раёна Вацлаў Якаўлевіч Сяргушка, брат Анатоля Сяргушкі, заўзятага пасечніка...

Добры, чулы і абачлівы кіраўнік гаспадаркі пры рашэнні любых задач і пры любых абставінах становіцца на бок калектыву. У калгасе «Аснежыцкі», напрыклад, жывёлаводы і механізатары таксама атрымліваюць малако. А вось праблему сена для сялянскай каровы старшыня Уладзімір Антонавіч Ралько рашыў адразу ж, як яна толькі паўстала, і па-свойму. Рызыкуючы трапіць у няміласць да раённай адміністрацыі, ён дазволіў калгаснікам касіць сенажаці на так званы трацяк — трэцюю долю, і не ўступіў нікому.

Сцвярджаліся запаветныя ідэалы калгаснага жыцця: не для каго-небудзь — для саміх жа калгаснікаў (што сёй-той да гэтага часу схільны ігнараваць)! І Кірыла Арлоўскі адкрывае пад старымі панскімі ліпамі ў Мышкавічах куток адпачынку — калгасны санаторый. Таксама падзея рэспубліканскага маштабу! Праўда, для калгасніка вылежвацца там, прымаць лекі, калі людзі побач у полі працуюць,— неяк нязвычна і нязручна было. Няпісаны сялянскі статут падказваў, што гэтак рабіць — сорам. Тады Арлоўскі сам узяў у санаторый пуцёўку і паказаў сялянам прыклад. Пайшлі!

Нямала зрабілі і Арлоўскі і яго пераемнік Васіль Старавойтаў, каб вызваліць селяніна ад бытавога прыціску, зрабіць лягчэйшымі і больш радаснымі ягоныя будні. Аднак ні той, ні другі не пайшлі далей павелічэння грамадскага фонду спажывання і культурна-бытавых паслуг у «сціранні граней» і не адарвалі заробак селяніна ад канчатковага выніку ў працы, яго самога — ад векавое залежнасці ад зямлі, ад той грыбніцы, урабленне і догляд якой тут узведзе-

ны ў культ, як, дарэчы, і ў Аснежыцах, як і ў Моталі...

Скрозь па вёсках калгаса «Рассвет» — сядзібная забудова, а ў цэнтры калгаса некалькі вуліц цешаць вока адметнымі камяніцамі, сучаснымі катэджамі на адну і дзве сям'і, але пры іх — і падворкі, і надзелы зямлі.

У Мышкавічах я прыгадваў ціхія кварталы Мінска з падобнай забудовай: акуратныя дамкі, сядзіба да сядзібы, сад у сад... Чым жа адрозніваецца сямейны побыт мышкавічан ад побыту сталічнага люду ў гэтых зялёных і пышных летам кварталах? А бадай што — нічым. І ніхто ні там, ні тут не скардзіцца, што яго не перасяляюць у шматпавярховыя гмахі. Гараджане, наадварот, пазбягаюць гэтага, пакуль можна, бо ў садзе — адхланне душы, і яны шануюць зямельку. Дзіўная рэч: там, у новых кварталах, у шумным і тлумным горадзе, яны гараджане, рабочыя, служачыя, а дома — сяляне. Хіба не так?.. Аднак чамусьці ніколі не ўзнікала размовы аб сціранні розніцы ў горадзе паміж гарадскімі «сялянамі» і рабочымі, пралетарыямі... «І ў перспектыве садаводства і агародніцтва як від дзейнасці рабочага і служачага будуць развівацца»,— даводзіць філосаф П. І. Сімуш. Таму тут якраз да месца будзе зазначыць: сёння ўсё больш вызначаецца працэс адваротны урбанізацыі. І пра новую з'яву паэт піша так:

То ли город сомненьем расколот,
То ли вспять бытие потекло,
Только я замечаю, что город
Превратиться желает в село.

Неотчетливо, робко, несмело —
Но свершается этот процесс,
Ибо, видно, дошел до предела
Ошалевший от шума прогресс.

Гаворка тут ідзе аб тэрытарыяльным сціранні гарадской мяжы, аб пранікненні ў горад сельскага ландшафту, лесапаркавых зон, аб рэальнай магчымасці рабочаму, служачаму, інтэлігенту мець лапік зямлі і чыста сялянскі запятак (для душы галоўным чынам). Астатнія грані паміж рабочым і селянінам, напэўна, будуць

сціраіца з двух бакоў: рабочы стане бліжэй да зямлі, да прыроды, селянін — да індустрыі земляробства. Але ж ён застанецца селянінам. Дык навошта ж тады ў вёсцы ствараць гарадскі антураж?

У Мышкавічах абыходзяцца без гэтага... У Мышкавічах стараюцца ўзяць ад горада сродкі, метал, трубы, цэглу для печаў, цэглу для сцен, шкло, кафлю, ванны, унітазы, газавыя пліты і будуюць, і аздабляюць гэтым кватэры, надаючы сялянскаму побыту больш культуры, ахайнасці, самавітасці. Аднак гарадскі лад жыцця пераймаць яны пакуль што не спяшаюцца, хоць ён і стукаецца да іх у дзверы і прасачыўся ўжо разам з тэлевізарамі. Сакратар парткома калгаса Мікалай Дзмітрыевіч Лянкевіч журыўся: замыкаюцца людзі ў сабе; варта было б адключаць паўсюдна тэлевізары, хоць раз, хоць два разы на тыдні, каб чалавек мог успомніць пра суседа, схадзіць да яго, абмеркаваць пачутае ці пабачанае па тэлебачанні, пагаманіць пра жыццё і клопаты адзін аднаго. Працоўныя людзі — не седні. Аднак часам думаеш: мы жывём для тэлебачання або яно — для нас?

Сярэдні заробак рассветаўца — 250 рублёў у месяц. Прычым людзі тут больш, чым дзе па калгасах і саўгасах рэспублікі, непасрэдна занятыя на фермах і ў полі — творцы. Цікавы прыклад... Калгас мае блізка васьмі тысяч гектараў угоддзяў, з якіх амаль пяць тысяч падуладныя плугу. Сем брыгад. Восем вёсак, і ў кожнай — па ферме, дзе стаіць усяго 12 000 галоў гавяды. Ёсць заводы або асобныя цэхі па вырабу асфальту, бетону, сваёй мінеральнай вады, шкур, па кансерваванні садавіны і гародніны, яшчэ сёетое. Усю гэту разнастайную вытворчасць абслугоўвае калгасная сям'я ў складзе 1350 працаздольных, летам да іх, праўда, далучаюцца пенсіянеры і школьнікі... І, пры такім аб'ёме вытворчасці, гаспадарку абслугоўвае ўпраўленчае звяно з 28 чалавек! Па раённых нормах належыць мець ажно 78!

Пра што гэта сведчыць? Ды, пэўна ж, пра зладжанасць калектыву і культуру вытворчасці,

пра давер кіраўніка да простага калгасніка і адказнасць любога і кожнага, урэшце — пра стыль упраўлення, дух творчасці. Чысты прыбытак калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага ў апошнія гады складае каля двух мільёнаў рублёў.

Настрой тут ствараюць ужо дарогі. Ажно 80 кіламетраў асфальтаваных дарог пракладзена па калгасу, з іх — 70 — пры Старавойтаве.

Васіль Канстанцінавіч тлумачыў:

— Знешняя культура вёскі і зямлі ў цэлым — мой клопат нумар адзін. Як садзіць бульбу, аграном ведае. Давяраю... Але калі ён недзе пачне партачыць, дарвуся — хай не крыўдуе!

І далей Старавойтаў казаў:

— Наш калгасны клопат — дарогі, сады, паркі, абсталяванне вуліц. А сядзібы — ужо клопат калгаснікаў, кожнага паасобку. Будуем і прадаём ім катэджы... Уносяць у касу шэсцьсем тысяч рублёў. Калгасу ж ён абыходзіцца ў 30 тысяч... У гэтым годзе заселім 30 асобных кватэр, у наступным — 60.

Гэтая гаворка праходзіла адразу ж пасля нашага знаёмства з калгасам, яго вёскамі, фермамі, і, паслухаўшы старшыню, Іван Апанасавіч Васільеў зазначыў:

— Складваецца ўражанне, што ў вас усё ёсць, што патрэбна сялянам пры сацыялізме. Я гляджу, на бліжэйшыя 50 гадоў вам няма чаго і рабіць, калі не лічыць працы на фермах, на полі...

Старавойтаў усміхнуўся, крутануў галавой:

— Не, яшчэ знойдзецца што рабіць. Закончым новую цяпліцу... Дабудуем завод па перапрацоўцы садавіны... Так, а ў мяне ж яшчэ мара: паставіць у вёсках 400 катэджаў для калгаснікаў. От каб на гэта хапіла маіх сіл!..

— Дай вам бог здароўя!

— Ёсць і другія задумы... Вы бачылі! Насупраць помніка Кірыле Арлоўскаму закладваецца новая кантора калгаса... Калгасны цэнтр стане яшчэ прыгажэйшы.

Па вуліцах Мышкавіч і па другіх вёсках у іх архітэктурным абліччы, у афармленні інтэр'ераў

грамадскіх будынкаў, Палаца культуры, гасцініцы, рэстарана, магазінаў, сталовак, малочнараздатачных пунктаў, санаторыя і нават дарожных указальнікаў,— скрозь мы заўважалі шмат выдумкі, знаходлівасці, сведчанняў добрага мастацкага густу. Тут шырока выкарыстоўваліся разьба па дрэву, штучная сталярка, дэкаратыўны роспіс. Прыкметнай была стылізацыя пад народнае, казачнае, што брала верх над стандартным і безаблічным, прыўздымала пачуцці, стварала добры настрой.

Для навядзення адмысловай вясковай эстэтыкі, відавочна, спатрэбіліся немалыя намаганні кіраўніцтва калгаса, і тут ужо даводзіцца гаварыць як пра нейкую новую з'яву: у складзе будаўнічай брыгады калгаса (а іх нават дзве) працуе дванаццаць майстроў — шчырых і аддадных сваёй справе хлопцаў, якія закончылі Бабруйскае мастацкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча.

Асаблівасцю гэтага кутка зямлі было і тое, што асфальт парадзіў мноства веласіпедыстаў, прычым веласіпед у рассветаўцаў стаў не менш папулярны, чым легкавік. У кожным двары было па два-тры веласіпеды — на іх ездзілі і на работу, і ў магазін, і ў школу, ездзілі ўсе — ад малога да старога.

А яшчэ: у гаспадарцы, якая паказала нам узоры сучаснай дбайнасці і руплівасці, карысталіся цяглавай сілай. Конскія сілы рухавікоў не выціснулі з гаспадаркі жывога каня, і ён рабіў сваю справу; мы бачылі, як непадалёку ад гасцініцы, з правулка выязджалі на шырокі асфальт вазкі на гумавых колах — то з травой, то з мяхамі чагосьці сыпкага, то з саломай; і ад гэтага асфальт не пакутаваў. У гаспадарцы ўсяго 280 коней. На іх працавалі пераважна старыя і дзеці.

«Рассвет» абуджаў цікаўнасць, трывожыў пачуцці, захапляў.

Тым летам у калгасе цэлы тыдзень гасцяваў «амерыканскі назіральнік», карэспандэнт нейкай заакіянскай кампаніі; ён даследаваў сацыялістычны лад жыцця і спосаб вытворчасці. Звалі

яго Смітам. Усё фатаграфаваў, да ўсяго прыглядаўся і на развітанне, паціснуўшы старшыні калгаса руку, мусіў прызнаць:

— Вы, пан Старавойтаў, былі б у нас добрым камерсантам. Ваш прыклад паказвае, што і ў вас можна паспяхова весці гаспадарку.

Усцешыў! Ага, і смешна і сумна было... Але ж пан Сміт не быў дурнем, хоць і ішоў да гэтага свайго прызнання, як кажуць вучоныя людзі, ад адваротнага. Праўду сказаць, у такім яго падыходзе да сацыялістычнай гаспадаркі было нешта ўдаўнелае і прымхлівае, што ставіла пад сумненне годнасць нашай сістэмы нагул.

Выслухаўшы паведамленне Старавойтава пра Сміта, Васільеў падыміў цыгаркай і сказаў:

— Кесару — кесарава... Па ідэі калектыўная гаспадарка павінна пераўзыходзіць аднаасобніцкую, фермерскую.

Я зазначыў, што думаў над гэтым у апошнія гады і што, па маіхназіраннях, мы вельмі мала выкарыстоўваем магчымасці сацыялізма. Таму не яго віна ў тым, што скрозь шмат недахопаў і што сёння ў нас недастаткова высокі ўзровень вытворчасці, дысцыпліны, а часам і культуры.

— Што вы! — усклікнуў Васільеў.— Свае магчымасці мы выкарыстоўваем мо на дзесяцьпятнаццаць працэнтаў! Адступілі ад прынцыпаў... Колькі год адступалі, і бяда наша ў гэтым.

— Бяда... З усіх бедаў бяда! — з ціхім сумам кіўнуў Старавойтаў.

— У нас багата што расхісталася... От цэлая дэлегацыя ад вас, казалі, ездзіла на завод па вырабу збожжавых камбайнаў,— нагадаў Іван Апанасавіч.— Хіба гэта парадак атрымліваць з завода камбайн і тут жа перабіраць яго да апошняга вінціка? Вы пераканаліся, што там, на заводзе, анархія. У вашым калгасе, Васіль Канстанцінавіч, я паўтараю, у к а л г а с е вытворчая культура ў дзесяць разоў вышэй, чым на тым прадпрыемстве, што выпускае тэхніку для вёскі. Вось што ўсіх павінна трывожыць...

Па кантрасту з «Рассветам» у нашым жыцці багата што здавалася аджыўшым або такім, што

павінна аджыць, адысці, каб не замінаць развіццю ні сацыялістычнай вытворчасці, ні сацыялістычных адносін у вёсцы, а таксама адносін горада з вёскай.

Аднак калгас «Рассвет» не быў ізаляваным вострававам у шырокім Сялянскім Акіяне, і сюды дзьмулі вятры з сушы і ўплывалі на яго атмасферу. Нам варта было бліжэй прыгледзецца, што тут, у нетрах гаспадаркі, дзеецца, што з чым стасуецца і як?

Ад нас нічога не хавалі, як і ад пана Сміта.

## 14. Дыялог у Мышкавічах. «Філасофская пазіцыя...»

Мышкавічы ад самай зямлі па вільчыкі хат былі ў зялёным уборы.

Сюды мы трапілі апоўдні. Ярка свяціла сонца, і ўсё, што мела быць зялёным, цвісці, красавацца — прысады, градкі, газоны,— усё цвіло, раскашавала.

Старшыні калгаса ў канторы не засталі, і нас запрасіў да сябе ў кабінет сакратар парткома, які адначасова працаваў і галоўным аграномам гаспадаркі,— Лянкевіч. Прыселі да шырокага стала... Гаворка, як гэта часта бывае пры сустрэчы з новым субяседнікам, скакала — з калка на калок, з бугарка на купіну. Тым не менш з яе высвятлялася дачыненне гэтага чалавека да зямлі і навакольнага свету.

Перабіраючы паперы і нібы саромеючыся іх, ён сказаў пра сваю работу:

— Цяпер, як бы ні працаваў добра, але калі не напішаш, што зрабіў, значыць — ты нічога не варты. Мы яшчэ тут маем шчасце: менш пішам, болей заняты справай, якая ад папер не залежыць. Аднак папер хапае,— і, усміхаючыся, пачаў прыводзіць прыклады: — Да чаго дайшло! Прысылаюць цыркуляр: правесці работу, каб дзеці чысцілі зубы не дома, а ў дзіцячым садзе! Абавязкова... Што ўжо казаць пра аграномію... Тут больш ахвотнікаў засяваць поле пісьмовымі знакамі. От паступіў — ажно з Мас-

квы — бланк: запоўні, колькі гектараў саду мае гаспадарка, колькі ў ім дрэў і якой пароды, узросту... Паспрабуй адказаць! Хіба ў нас эксперыментальная садовая гаспадарка? Мы таго й самі не ведаем... Дый каму гэта трэба? Мо аднаму чалавеку — каб зляпіць дысертацыю...

Ён адсунуў стос паперы і паклаў перад намі тоўстую рукапісную кнігу:

— А вось гэты пукаты журнал спусціла нам (па службовых каналах) Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія... Прыгадай і запоўні адпаведна з графой: што было да цара Гароха... Колькі і якой зямлі калгас меў, мае, што на ёй сеяў, сее і будзе сеяць, што здымаў, па якім папярэдніку... І пра сад, і пра пчол, і пра скаціну — пра ўсякую «ціну», усё да тонкасцей, хоць за тонкасцямі тымі і багата туману. А далі тэрміну адзін дзень... Відаць, аднак, ніхто не выканаў, па ўсёй вобласці... Далі тыдзень... Мы запрасілі з гэтай жа акадэміі, размешчанай у Горках, саміх вучоных; яны з намі ў добрых адносінах, шэфствуюць над гаспадаркай... Прыехалі, некалькі дактароў і кандыдатаў... Пяць дзён сядзелі разам з намі над гэтым журналам, а запоўнілі толькі напалавіну, вось дык штука! Абласное ўпраўленне дае тэрміну месяц... Што рабіць, няма рады... І паслалі мы свайго агранома туды, у акадэмію. Яшчэ тыдзень сядзеў, і разам з прадстаўнікамі розных кафедр нарэшце закончылі. Цэлая эпапея! От, думалі, агаралі важную для навукі справу. Ажно прайшоў месяц і яшчэ тры — нікому не патрэбны гэты журнал! Ляжыць... Хіба мы калі-нікалі кінем туды вокам...

Мікалай Дзмітрыевіч быў карэнным жыхаром, працаваў увесь час у сваёй гаспадарцы, паляводства ведаў, як кажуць, да ніткі, таму нам цікава было пачуць ад яго, з якімі праблемамі або цяжкасцямі сутыкаецца сёння агранамічная служба рассветаўцаў.

— Мы павышаем ураджаі і бяром ад зямлі ўсё, што яна можа даць; або нам гэтак здаецца... Налягаем на хімію, і, як вынік, над полем не чуваць жывога птаха. Дарэмна лічым, што

гербіцыды і пестыцыды ўсясільныя і наносяць страты толькі шкоднікам сельскагаспадарчых культур. Гэтай вясной дрэвы ў маім садзе, ля хаты, апанавала тля, і я пачаў з ёю змагацца. Паабліваў хларафосам — нічога, жыве, плодзіцца... Зрабіў у вядры раствор карбафосу, паднёс і раз-пораз соваў галінкі з тлёй туды. Нуль увагі! Прывыкла, імунітэт выпрацаваўся, і ніякая халера яе не бярэ! На вачах жрэ парасткі... Нам варта было б разабрацца, што мы набываем, а што страчваем... Амерыканцы гавораць: хімія абагачае нас і рабуе нашых дзяцей. Правільна! Жыжа з фермаў і тая неадназначная па якасці. Гады два-тры пальём на поле — зямля каменем робіцца — не прадыскавацц! На гэтай жыжцы ды бетон замешваць бы!

Просты, шчыры, з абветраным тварам і характэрнай гарачлівасцю ў голасе, Лянкевіч нагадваў мне чалавека (байца, камандзіра) з пярэдняга краю.

У калгасе «Рассвет» паляводства і жывёлагадоўля развіваліся, як і ў большасці гаспадарак краіны, па распрацаванай сучаснай навукай і афіцыйна прызнанай тэхналогіі. Пры гэтым паляводства, відавочна, дасягнула свайго апагея; максімальна высокія ўраджаі на арганічна збедненай, анемічнай, высмяглай глебе! Мёртвая зона над полем!

Але ж мінеральнае або хімічнае жыўленне глебы, пры ігнараванні натуральных біялагічных працэсаў у ёй, вядзе да крызісу ў земляробстве, і, як бачым, гэты крызіс ужо адчуў аграном Лянкевіч.

Зямлі, акрамя мінеральных тукаў, патрэбна адпаведная мацярынская структура, на якую працуюць і гумус, і дажджавы чарвяк, і розныя кузуркі, птушка... Зямлі патрэбна мікрабіялагічная кухня, біялагічныя сродкі аховы раслін.

— Калі не мы, то нашы дзеці пераглядзяць сучасную сістэму земляробства. Мы адышлі ад натуральнага абмену ў прыродзе.

Тэма ашчадных адносін да зямлі ўрэшце была вычарпана, і Васільеў спытаўся, ці памногу дзяцей маюць сем'і?.. Аднак з дзецьмі тут

нічога адметнага не назіралася, і ў кожнай сям'і іх было, як і скрозь па рэспубліцы.

— Хто багацейшы і стаіць бліжэй да культуры, у таго дзяцей адно, двое... У рэдкіх сем'ях — чатыры, пяць... Надта спешчаныя жанчыны пайшлі! Глядзяць, каб менш клопатаў, каб лепей прыбрацца ды пагуляць.

— Гэта значыць, больш эгаістычнымі сталі,— зазначыў Іван Апанасавіч.

— Яшчэ горш: некаторыя бэсціцца пачалі, п'юць, як ніколі раней! Нарадзіўшы дзяцей, забываюць, што іх трэба выхоўваць і выхоўваць перш за ўсё асабістым прыкладам. Мы вось ужо новы дзіцячы сад будуем — прыгожы, багаты — сапраўдны палац! Між іншым, з пяцідзённым утрыманнем... Усё здымаем цяжар з бацькоўскіх плячэй...

— А навошта?! — у адзін голас усклікнулі мы з Васільевым.

І пасыпаліся да сакратара парткома пытанні:

— А ці заменіць дзіцячы сад матчыну ласку?

— А ці не засумуюць бацькі без дзяцей?..

— Ну, летам, можа, і ёсць у гэтым патрэба. А зімой?..

Лянкевіч не паспеў нічога адказаць нам. Дзверы ціха расчыніліся, і ў кабінет увайшоў сухаваты і зграбны мужчына, адзеты, можна сказаць, па-спартыўнаму, з модным джынсавым ухілам; на галаве сядзела лёгкая, як матылёк, блакітная кепка, яна мела тонкі слюдзяністы брылёк і была аднолькава прыдатная, як для рыбалкі, так і для пляжа.

— Старавойтаў...— кіўнуў нам Лянкевіч.

Старавойтаў быў лёгкім у рухах, ішоў, нібы не дакранаючыся да падлогі. Ён павітаўся з намі, усміхаючыся пры гэтым годнай, ціхай і разам простай белазубай усмешкай, прысеў да стала. Не верылася, што праз колькі тыдняў яму давядзецца святкаваць сваё шасцідзесяцігоддзе. І нам, і яму самому, напэўна, не веры-

лася. Ён быў у форме, падцягнуты, акурат як у маладыя гады. Пачаў размову з ім Іван Васільеў з кардынальнага пытання:

— Васіль Канстанцінавіч, як вы глядзіце на тое, што земляроб у нас не прызнаецца творчым работнікам? Няма ж, напэўна, другой сферы дзейнасці, дзе б патрабавалася яшчэ такое тонкае веданне як зямлі, так і расліны, жывёліны і патрэбен быў бы пастаянны творчы пошук, далікатнае абыходжанне з жывым арганізмам... Як нам аднавіць такія адносіны да селяніна, якіх ён заслугоўвае?

Старавойтаў, схіліўшы галаву, хітравата ўсміхнуўся:

— Гэта філасофская пазіцыя, і мне цяжка з вамі ў гэтыя аблокі ўздымацца...

— А ці такія ўжо гэта аблокі?

— Прашу прабачэння... Вось ляжыць газета «Кіравец» ад 26 мая. Падбіты вынікі раённага спаборніцтва па сяўбе... Адзіны крытэрый — тэрмін: хто раней і хто хутчэй! У выніку — у перадавікі трапіў наш сусед — калгас «Чырвоны баец». Ён першым адрапартаваў, яму і слава, а там жа палі — паглядзіш — плявацца хочацца, хоць зямля ў яго ад прыроды лепшая. Пытанне наогул: навошта такое спаборніцтва? Прыйдзе восень — паглядзім, хто што здыме, хто сядзе макам. Пляснуцца ў гразь тварам некаторыя «перадавікі».

— А-а, нічога,— паблажліва-іранічна падаў Лянкевіч.— Пра іх тады забудуць. Асенняя кампанія вясеннюю не помніць!

Наша размова, па сутнасці, вярталася ў валожынскае рэчышча. Гэта было непазбежным... Аднак валожынскі «Рассвет» не параўнаеш з «Рассветам» імя Арлоўскага па дасягненнях, дый старшыні мелі розны гаспадарчы вопыт, скажам нават, розны прэстыж. Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў быў Героем Сацыялістычнай Працы,— стаў ім, праўда, не тут, а ў Клімавіцкім раёне, узначальваючы саўгас «Родненскі». Старшынёй жа гэтага «Рассвета» яго абралі пасля смерці Арлоўскага ў 1968 годзе. Хадзілі чуткі, што недзе выспявае яму такі

і другая Залатая Зорка — за новыя, ужо рассветаўскія дасягненні; і сапраўды гэта неўзабаве пацвердзілася: свой юбілей Старавойтаў сустракаў двойчы Героем Сацыялістычнай Працы...

Тады ж, у размове і спрэчках са Старавойтавым і Ляпкевічам мне карцела высветліць, як складваліся ў іх адносіны з раённым кіруючым звяном, у прыватнасці з упраўленнем сельскай гаспадаркі; тут магла быць іншая практыка... Я прадчуваў ва ўсякім выпадку, што размова пра гэта выйдзе на новы ўзровень, на новы віток.

Гутарка пачалася, і, каб паглыбіць тэму, я прыгадаў чытанае ў літаратурным часопісе пра «балгарскі агарод».

У Балгарыі створана 300 аграпрамысловых комплексаў, мінуючы раённае звяно. Прычым усім АПК нададзена многа самастойнасці, а працуюць яны, як і «Рассвет», на калектыўным падрадзе, і людзі атрымліваюць за канчатковы прадукт грашамі, з частковай натураплатай. Там усе паяднаны агульным клопатам: вырасціць, захаваць, у найлепшым выглядзе давесці да пакупніка... Зацікаўлены ў гэтым і радавыя працаўнікі і ўсе начальнікі, спецыялісты, служачыя АПК, бо заробак іх таксама залежыць ад канчатковага выніку, за які прымаецца рэалізацыя прадукцыі.

З пераходам на новую сістэму арганізацыі працы сялян, прадукцыйнасць яе вырасла за пяць гадоў болей чым на 40 працэнтаў! Пры гэтым павялічыўся заробак кожнага, скараціліся страты садавіны і агародніны на полі і пры перавозках, а таксама ў складах, узрос творчы дух земляроба...

Слухаючы пра ўсё гэта, Васіль Канстанцінавіч ледзь прыкметна пагойдваўся станам, пэўна, у такт сваім думкам. Твар здаваўся бясстрасным. Толькі раптам яго асвяціла ўсмешка, і Старавойтаў выгукнуў з усёй сваёй непасрэднасцю:

— Каб мне дазволілі, я, можа, яшчэ не такога наварочаў бы!..

Гэтыя словы шматвопытнага старшыні,

спрактыкаванага і заслужанага чалавека прагучалі неяк нечакана як для мяне, так і для Васільева...

— А хто ж не дазваляе? — тут жа ўчапіўся Іван Апанасавіч.

— Ды вы што? Вы... — сумеўся, няйначай, сам Старавойтаў.— Вы з неба зваліліся?.. Вам рупіць як мага лепей выкарыстаць зямлю... Вы жывяце гэтым... А тут распараджэнні: сей тое, а не гэта... Не буду! — гаворыце вы...— Не-е, будзеш! — адказваюць вам. От як!.. Пасля ўсіх нашых важных прамоў на канферэнцыях, сходах, актывах астаецца даць ініцыятыву. Толькі і ўсяго!.. Не нова? Не-е!.. Некалькі гадоў назад я казаў пра гэта на з'ездзе Кампартыі Беларусі.

Дзівіла тое, што і ў кіраўскім «Рассвеце» востра стаіць пытанне з даверам. Ажно не верылася. Адчуваю, што і чытачу будзе цяжка ў гэта паверыць.

Але ж тут я часова пакіну Старавойтава і Лянкевіча, хай дыскутуюць з Васільевым па наспеўшых праблемах, а сам забягу трохі наперад.

## 15. Ударнік Афонькін. Груздоўшчына. Атака на яе з высокай трыбуны

У жніўні, ужо за спякотным пераваламам лета, я другі раз прыехаў у Мышкавічы. Заканчвалася ўборка збажыны. Па ўраджаю зерня калгас выходзіў на другое месца ў рэспубліцы. Праўда, падлікі былі пакуль папярэднія, не вельмі дакладныя, і меркавалася ў «Рассвеце» ўзяць 43 цэнтнеры, а ў калгасах «Аснежыцкі» Пінскага раёна і імя Кірава Шклоўскага раёна, па такіх жа папярэдніх падліках, было па 46 цэнтнераў з гектара.

Я пацікавіўся ўраджаем у «Чырвоным байцы», што межаваў з «Рассветам», і аказалася: няпоўных 25... Лічы, на 20 цэнтнераў розніца! І тут старшыні Афонькіну ў самы раз было б чырванець пры сустрэчы з рассветаўцамі, ды

няма яму часу: трэба спяшацца першым выконваць наступныя гаспадарчыя кампаніі, каб не злезці з раённай Дошкі гонару. Такіх шумліва-старанных гаспадароў, як Афонькін, заўжды падсаджвае туды, на Дошку, нехта Груздоў.

З Груздовым я пазнаёміўся ў калгаснай канторы. Падаўшы руку Лянкевічу і мне, ён сказаў (аграному):

— Штосьці туга ў вас са здачай зерня. Чаму вы марудзіце?

— Ляжыць пакуль у свірнах, Сямён Рыгоравіч, даспявае, набірае вагу. Хочам здаць не на фураж, а як насенне. Лабаранты сочаць за ім,— Мікалай Дзмітрыевіч зняў трубку, алёкнуў і заціх, слухаючы.— Добра...— і Груздову: — Сёння павязуць.

— Ваша гаспадарка ў раённай зводцы многае значыць,— як бы апраўдваючыся, даводзіў між тым штурхач з Кіраўска.— Толькі ж па вывазцы арганікі на палі таксама адстаяце. Па нашай зводцы — вывезлі ўсяго 14 тысяч тон.

Лянкевіч зноў пазваніў камусьці. Аказалася, ужо 33 тысячы... Па дадзеных статыстыкі, у рэспубліцы на гэты дзень было вывезена 92,5 працэнта ад задання. Так і пісалі газеты: «ад задання!».

— Туга плюсуеце... У панядзелак нам трэба закрываць зводку і дакладваць вышэй...

Размова працягвалася ў гэтым жа плане: нічога пра справы, зямлю, яе структуру, тэхналогію апрацоўкі, а ўсё пра зводку, у якой калгас «Чырвоны баец», папэўна, ужо і здаў, і вывез, і значыўся ў лідэрах, а «Рассвет» адставаў, бачыце...

У Груздове ўгадваўся валожынскі адміністратар. Я не памыляўся: копія! Калі ён развітаўся і выйшаў, Лянкевіч сказаў з дакорам:

— Кіраваў ён у нашым раёне адной гаспадаркай — нічога добрага, дык яго начальнікам упраўлення зрабілі і выбралі старшынёй савета РАПА.

От табе масш!

І які яшчэ парадокс! У той самы час, калі таварыш Груздоў, кіруючыся «інтарэсамі служ-

бы», рабіў зводку, паскараў вывазку зерня з гаспадарак раёна (у «Рассвеце» ён яшчэ стараўся быць мяккім, бясстрасным), думкі старшыні «Рассвета» працавалі зусім у іншым кірунку. Васіль Канстанцінавіч разважаў над тым, як паставіць справу, каб наогул не вывозіць з гаспадаркі збожжа новага ўраджаю. Чаму?.. Любы і кожны акт гаспадарчай чыннасці павінен мець пэўны сэнс, якога шукаюць у эканамічных разліках. Калгасы і саўгасы здаюць збожжа дзяржаве з часоў першых пяцігодак. Аднак тады гэтае зерне назад у гаспадаркі не вярталася, яно рабілася прадуктам, хлебам у засеках краіны, і зразумелым было імкненне сельскагаспадарчых арцеляў хутчэй разлічыцца з дзяржавай — гэта рабіла ім гонар. Скላліся традыцыі, і яны, напэўна, не выклікаюць сумнення і сёння на Кубані, і ў іншых раёнах краіны, якія кормяць нас хлебам, пшанічным і жытнім... Толькі іншая справа цяпер у Беларусі, дый, відавочна, у Прыбалтыцы і па Нечарназёмнай зоне, дзе, у выніку рэгіянальнай спецыялізацыі, гаспадаркі перайшлі да інтэнсіўнага развіцця жывёлагадоўлі і падаюць да стала дзяржавы не хлеб, а малако і мяса. Сабранага ўвосень збожжа тут не стае, каб разам з грубымі кармамі скласці рацыён скаціны. От Старавойтаў і маракуе, калі, па завяршэнні жніва, вывезці з рассветаўскіх свірнаў груз у некалькі тысяч тон на дзяржаўны элеватар, а потым забраць адтуль (і ўжо нават не столькі, а ў два разы болей!), то ці ёсць у тым сэнс? Ці не лепей размалоць зерне на месцы?! А ў гэтым жа годзе, пры такім рэкордным, лічы, ураджаі, сваёй збажыны якраз бы хапіла...

Клопат Васіля Канстанцінавіча быў пільны, стратэгічна-гаспадарчы, дзяржаўны клопат, і я ведаў, што не аднаму пераемніку Арлоўскага пра гэта галава баліць, багата хто марыў пра гэта, але толькі адзін ён, Васіль Старавойтаў, насмельваўся ўрэшце адмовіцца ад стэрэатыпу і памяняць тут нешта.

Уявім справу шырэй. Закупка зерня дзяржавай у гаспадарках нашай рэспублікі за гады

дзесятай пяцігодкі склала 1,3 мільёна тон у сярэднім на кожнае лета, а расход канцэнтратаў, уключаючы натуральнае зерне,— 5,6 мільёна тон. Супастаўленне лічбаў даволі красамоўнае. Яны сведчаць пра тое, што дзесяткі і сотні мільёнаў тона-кіламетраў (толькі ў нашай рэспубліцы) робяцца без усялякай патрэбы, і так — дзесяцігоддзямі!

Такім чынам ідэя захапіла Старавойтава цалкам.

— Патрэбен млын... Я зраблю. Падлічыце, колькі сэканоміцца працы, сродкаў і часу ў людзей... А бензіну на транспарціроўку? — і дадаў з ціхай скрухаю: — Качаем мы ўраджай як дурань калоду!

Дык чаму ж гэта хвалюе Старавойтава, а не Груздова? Кіраўніка нізавога звяна, а не раённага? Падпарадкаванага, а не таго, якое п а р а д к у е і чыніць палітыку ў нізавых звеннях?.. Мусіць, таму, што яны працуюць розна, адзін, абапіраючыся на гаспадарчы разлік, другі — на літару службовай паперы, і што яны выступаюць наогул носьбітамі розных пачаткаў у справе, адзін — творчага, другі — функцыянерскага, і што рупіць ім, аднаму канчатковы вынік гаспадарчай дзейнасці, другому — прэстыж апаратыўнага выканаўцы. Словам, нягледзячы на адну гаспадарчую сістэму, яны працуюць як бы ў розным ключы. Але ж зямля ў іх адна, і яны не могуць мірна разысціся на ніве, падуладнай іх рупнасці. Таму кожны імкнецца падпарадкаваць сабе, свайму пачатку другога. І таму яны нярэдка бачаць адзін у адным свайго супрацiўніка, а то і шкодніка агульнай справе.

Цікава, што сістэма, стыль, дух адміністравання ствараюць умовы, у якіх любую пасаду можа займаць любы, самы здольны або самы няздатны спецыяліст, і працаваць яны будуць з аднолькавым поспехам. Толькі гэтым можна вытлумачыць факт з'яўлення ў раённым кіруючым звяне самога Груздова.

Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў — наогул чалавек вытрыманы, абыходлівы ў адносі-

нах з начальствам, пра што можна было меркаваць хоць бы па яго асобных рэпліках і выказваннях. Таму калі ён паўставаў супраць чагонебудзь, то гэта азначала, што яго душэўны лад канчаткова парушаны і няма як болей трываць.

За адным фактам стаяў другі, за Груздовым бачылася з'ява, якая сваёй шэрасцю і безабліччасцю закрывала і азмрочвала ладны кавалак неба над Мышкавічамі і Кіраўскам; таму Васіль Канстанцінавіч надумаўся даць груздоўшчыне бой. А памог выпадак: на пленуме Магілёўскага абкома партыі якраз разглядаўся стыль работы кіраўскага раённага кіраўніцтва, і яму прапанавалі выступіць.

— Калі дазволіце гаварыць начыстую — выступлю. Інакш — не хачу і лічу непатрэбным.

— Толькі так! — падтрымаў яго сакратар абкома.

І старшыня калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага — Старавойтаў выступіў на пленуме з такою прамовай:

«Я з'яўлюся членам бюро райкома партыі і за многія недахопы ў яго рабоце таксама нясу сваю меру адказнасці.

Ключавым для нас, камуністаў, заўсёды было і будзе пытанне аб падборы, расстаноўцы і выхаванні кадраў.

Адказныя работнікі высокага рангу ў размовах паміж сабой часам наракаюць: няма, маўляў, у нас такога рэнтгену, каб загадзя вызначыць, як будзе працаваць той або іншы таварыш на новай пасадзе.

Думаю, што іх меркаванне памылковае. Такі рэнтген ёсць. Гэта — калектыў. Гэта — думка калектыву пра чалавека, дзе ён працуе, думка таварышаў па партыі, калег. Астаецца толькі шкадаваць, што гэтаму калектыўнаму выпрамяньванню мы не надаем пакуль належнай увагі.

Практыка апошніх гадоў, не толькі ў нашым раёне, дае нам дастаткова прыкладаў, калі палітычна няспелыя, у сучаснай грамадскай вытворчасці абмежаваныя і непісьменныя людзі, робя-

чыся начальнікамі, наносяць нашай справе непапраўныя страты.

У Кіраўскім раёне ўзяты курс на абнаўленне кіруючых кадраў. Заменены многія старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, начальнікі службаў. Там-сям кіраўнікоў спешна давялося мяняць у другі раз, а справа ад гэтага не паляпшаецца. Такая кадравая чахарда, на мой погляд, сведчыць пра грубае парушэнне партыйных прынцыпаў у рабоце з кіруючым персаналам і наогул людзьмі. Сакратар райкома Рыгор Емяльянавіч Папкоў пры вылучэнні чалавека на тую або іншую пасаду кіруецца не дзелавымі якасцямі таго, а сваімі сімпатыямі, сяброўскай прыхільнасцю. Вынікам шматгадовых асабістых адносін стаў факт вылучэння на пасаду начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі былога старшыні праўлення калгаса «III з'езд Саветаў» Сямёна Рыгоравіча Груздова. На бюро райкома партыі гэтае пытанне папярэдне не абмяркоўвалася. Таварыш Груздоў дзесяць гадоў кіраваў гаспадаркай. Па ўзроўню вытворчасці малака і мяса гэтая гаспадарка не дасягнула нават сярэдніх раённых паказчыкаў. Затое грашовая запазычанасць намнога ўзрасла. Адсюль узнікае пытанне: ці можа гэты начальнік зрабіць глыбокі аналіз гаспадарчай дзейнасці калгасаў і саўгасаў раёна? Або ад яго гэта не патрабуецца? Або таварыш Папкоў за яго гэта зробіць?..

Вясной 1983 года два гэтыя начальнікі вылучылі на пасаду старшыні праўлення калгаса імя Калініна ўжо нейкага Рыжкова, які працаваў сем гадоў поруч з Груздовым у калгасе «III з'езд Саветаў» і пакінуў там пра сябе нядобрую памяць у людзей. Пытанне вылучэння Рыжкова таксама не абмяркоўвалася на бюро. I што далей?

Стаўшы старшынёй гаспадаркі, Рыжкоў мала клапаціўся пра яе поспех, дапускаў грубыя пралікі і абражаў людзей, а Папкоў, і Груздоў, і старшыня камітэта народнага кантролю Карпук Лявонцій Аляксандравіч пастаянна, днём і ноччу апякалі яго, аберагалі ад крытыкі каму-

ністаў і простых калгаснікаў. Скончылася справа тым, што гэты патомак Астапа Бэндара, папрацаваўшы трохі, вынайшаў камбінацыю і запусціў рукі ў калгасную касу. Цяпер ён павінен прадстаць перад народным судом і ўсяляк віхляе, шукае заступніцтва, дарэчы, ездзіць штораз у абласны цэнтр на службовай машыне начальніка райаграпрома. Ану ж ці не знойдуцца і там абаронцы, заступнікі яму?

На жаль, часам знаходзяцца. Нават — нярэдка. Скажу, што груздоўшчыну, па сутнасці, паказаў пісьменнік Іван Васільеў у сваёй аповесці «Землякі»...

Зразумела, што гэтыя і падобныя факты не ўпрыгожваюць нас, паколькі мы фарміруем і адлюстроўваем у значнай меры прэстыж партыі. Падобныя факты выклікаюць толькі здзіўленне і прыкрыя абгаворы ў людзей. А што наогул тычыцца палітыкі і стылю работы з кадрамі, то прынцыпова зазначу: мы часта ацэньваем работу маладога кіраўніка не па тым, што ў цэлым ён нясе ў вытворчасць, а па тым, як спраўляецца з правядзеннем бягучых гаспадарчых кампаній, з выкананнем так званых мерапрыемстваў, спушчаных зверху. Лічу, што гэты крытэрый не галоўны, ён не адпавядае сутнасці лідэра.

Каб меркаваць не павярхоўна і не суб'ектыўна аб рабоце новага кіраўніка гаспадаркі, трэба даць яму спакойна папрацаваць хоць бы тры гады і памагаць пры гэтым выяўленню ў яго здольнасцей. Рашаючым у ацэнцы працы кіраўніка павінен быць творчы рост усяго калектыву і, як паказчык яго дзейнай сілы, павелічэнне вытворчасці зерня, бульбы, лёну, малака і мяса. Арыенціроўка на атрыманне толькі прадукцыі, а не на выхаванне чалавекатворцы здольна прынесці нам не столькі дабра і дастатку, колькі шкоды».

Перачытваючы прамову Старавойтава, я выразна падкрэсліў алоўкам апошнія радкі.

## 16. Рассветаўскі фірменны чай і палітыка. Што патрэбна славянскай душы?

Заняўшы нумар у шыкоўнай калгаснай гасцініцы ў Мышкавічах, мы з Васільевым распрануліся, каб чулася вальней, і заварылі фірменны рассветаўскі чай.

А чай гэты быў з лекавых траў, якія збіралі ўлетку работнікі рэстарана. Сюды ўваходзілі зверабой і верас, мята і валяр'янавы корань, душыца і яшчэ сёе-тое. Мы заварвалі, налівалі ў шклянкі і пілі, прыгадваючы танклявую, беленькую і ціхманую афіцыянтку Наташу Шырокую, якая прынесла нам гэтае зелле. Наташа — ураджэнка Куйбышава, нейкім лёсам закінула яе сюды, у Мышкавічы, напэўна, гэтым яна абавязана свайму мужу. Вельмі задаволеная, між іншым, і вёскай і парадкамі тут: гэты калгас, казала, ні на што не прамяняла б... Афіцыянткам таксама налічваюцца працадні: ёй — 25, а шэф-повару, напрыклад, 35 працадзён у месяц. Летась на працадзень выпала грошай па 4 рублі 90 капеек, ды яшчэ сёе-тое натурай.

Мы пілі чай з драбкамі колатага цукру, які Васільеў узяў з сабою ў дарогу. Чай, дым папяросы, гамана — гэта ўсё, да чаго ён меў асаблівую схільнасць. Чаяваць з дзяцінства прывык, і гэта стала такой жа патрэбнасцю, як і курэнне,— ці то нутро, ці то душа просіць. А курыць пачаў на фронце, нечакана неяк — сам не помніў, як закурыў.

Расказваў так... У армію яго прызвалі пры вызваленні Тарапаўца, што ў Калінінскай вобласці, на пачатку 1942 года. Акурат завяршылася наступленне Чырвонай Арміі, якое пачалося было пад Масквой, і вот з такіх, як ён, маладых байцоў, навабранцаў, сфарміравалі роты, батальёны і кінулі на пярэдні край для замацавання і развіцця поспеху. Неабстраляныя былі. Нявыпрабаваныя. І выхаванне ў той пяроўны час заключалася галоўным чынам у дэ-

манстрацыі расстрэлу дэзерціраў, пры магільным маўчанні... Загад быў: ні кроку назад!

— Мы бралі нейкую вышыню,— адпіваючы чай са шкляпкі, працягваў Васільеў.— І навошта яна нам была патрэбна? Дзіву даюся!.. Фронта разрэджаны, пры жаданні мы фашыстаў маглі б абысці, яны нас — таксама. А мароз! Мяцеліца... Трое сутак у снезе... Фашысты абстрэльвалі з мінамётаў. Я або задрамаў мінутай раней, чым плюхнулася ў траншэю міна, або выбух імгненна адключыў маю свядомасць — нічога не помню. Знайшлі мяне прысыпанага зямлёю. Ручны кулямёт быў перавернуты... «Ваня! Ці жывы ты?» — «Жывы»...» Цягнуць па траншэі... Там ад нашага аддзялення асталося шэсць чалавек, і я ў тым ліку... Было два пачкі махоркі, не заўважыў, калі зрабіў першую зацяжку і калі іх скурыў...

Якраз так супала: я слухаў гэты расказ і прыгадваў успаміны маршалаў пра вайну, і гэты расказ рабіўся як бы ілюстрацыяй да нядаўна прачытанай мной кнігі «Салдацкі абавязак» Ракасоўскага...

«Пасля таго як наша контрнаступленне захліснулася, Калінінскаму і Заходняму франтам было прадпісана вымотваць сілы праціўніка лакальнымі наступальнымі дзеяннямі, каб не даць яму на новых рубяжах замацавацца. Задача была цяжкая, немцы мелі ўсё-такі перавагу ў сіле, да таго ж снег замінаў нашым войскам манеўраваць».

І Канстанцін Канстанцінавіч Ракасоўскі пісаў далей:

«Я да гэтага часу лічу, што зімняе наступленне як Заходняга, так і Калінінскага франтоў не дало тых вынікаў, на якія разлічвалі... Выштурхоўваючы праціўніка, мы самі часам апыналіся ў нявыгадным становішчы, расцягваючы лінію фронту, якая ўтварала месцамі неверагодныя выкрутасы. Вораг нярэдка зразаў гэтыя выступы».

От там, між баямі, бязвусы салдат Іван Васільеў і ўзмужнеў і ўступіў у партыю, байцом якой з'яўляецца па сённяшні дзень...

Калгас «Рассвет» імя Арлоўскага зрабіў на яго і на мяне — без перабольшвання — ашаламляльнае ўражанне, прычым многае не паддавалася лагічнаму асэнсаванню, не ўкладвалася ў галаве.

— М-да... Патрэбен час, каб гэта ўсё пераварыць і прыйсці да пэўнай думкі,— раз-пораз паўтараў Васільеў і пачынаў прыгадваць тое, што мы ўжо бачылі або пра што чулі.

На новай, светлай і прыгожай вуліцы неяк сустрэлі і спынілі аднаго пенсіянера. Невысокі, каржакаваты, з чырвоным, круглым, непаголеным тварам, пад чаркай...

— Ну што, бацька? — звярнуўся я да яго.— Па ўсім відаць, жывяце вы тут як у Хрыста за пазухай. Кругом чыста, культурна!

— Эйш! — нядобра бліснуў вачыма стары.— Культурна, кажаце... Тут вунь праедзь па газоне — як упякуць штрафу, дык увесь год будзеш чухацца. Да д'ябла такую культуру! Ага... А летась — чулі? — адна школьніца на плошчы, каля помніка, некалькі цюльпанаў сарвала, то абышліся яны яе бацькам у паўтары тысячы рублёў!..

От і гэта ўражвала! І я шукаў выпадку, каб загаварыць пра ўнутрыгаспадарчыя штрафы і спагнанні з другімі калгаснікамі, каб даведацца, як да іх ставіцца народ.

Характэрнай здалася мне размова з трактарыстамі Елісеенкам і Бяляўскім, пра якіх я ўжо расказваў. Яны выслухалі мяне спакойна, потым я іх паслухаў:

— От што, бачыш, хе-хе, яму абавязкова трэба па газоне праехаць!

— А ў нас дарогі скрозь добрыя. Па газонах нязручна ні хадзіць, ні ездзіць.

— Тое ж і з кветкамі... Яны для ўсіх людзей пасаджаны.

— А тым больш — каля помніка...

Так гаварылі яны, і я зразумеў, што там, на зялёнай і прасторнай вуліцы Мышкавіч нам з Васільевым трапіўся ёлупень нейкі. А трактарысты, падкідваючы ў нашу гаворку слова па слову, склалі з іх такое казанне:

— Штрафуюць гэтак — і добра, яшчэ і мацней можна было б. За адзін зламысны ўчынак або якое нядбайства здымуць працадзень, за другі — пазбавяць трынаццатай зарплаты. А як жа?.. Чалавек павінен адказваць за свае грахі. Не ідзі і не рабі нічога насуперак інтарэсам калгаса, людзей! Пытанне, як пакараць, вырашаецца калектыўна, на праўленні або ранішняй разнарадцы, калі ў дыспетчарскай збіраецца багата людзей, брыгадзіры, спецыялісты... Многія дома глядзяць і слухаюць разнарадку па тэлебачанні... Караюць добра і на людзях. Затое ў нашых вёсках мала хто шкоду зробіць калгасу або суседу. Перавяліся шкоднікі, і гэта добра, людзі ўспрымаюць такі парадак як належнае. Прывыклі... У нас у гаспадарцы, калі хто запусціць руку ў калгаснае, яго абавязкова спаймаюць, бо інакш не выпадае; варту нясе сам калектыў, гэта значыць калгаснікі. Так тут справа пастаўлена... Знайшоўся быў адзін аматар прыхапіць з чужога агарода. Інжынерам працаваў у Кіраўску... Прыехаў апоўначы на ўласнай машыне, зрэзаў восем качаноў капусты... Лоўкі, шэльма! А накрылі... Забралі машыну і паставілі ў калгасны гараж. Прымусілі заплаціць за капусту чатырыста рублёў. Аддаў грошы, а сам збег, з'ехаў кудысьці з Кіраўска — далей ад людскіх вачэй, ад сораму.

Івана Апанасавіча захапляла і бянтэжыла адначасова такая жорсткая практыка пакарання людзей, розных шкоднікаў, зладзеяў, ліхадзеяў на калгаснай зямлі. Нічога падобнага ён у сваёй жыццёвай практыцы не сустракаў і не чуў пра такое. Як, як жа прыняць і ўзважыць на шалях сумлення гэтыя факты? Трудная справа... З аднаго боку, калі б не падобныя жорсткія меры, наўрад ці ўдалося б у Мышкавічах і другіх тутэйшых вёсках стварыць калгас са сваім выключна сацыялістычным ладам гаспадарання і адметнай, чыста сялянскай творчай атмасферай. А з другога боку, ашаламляюць тая апантанасць і дзёрзкасць, з якою сам Арлоўскі ўсталёўваў у душах сялян калектывізм і свядомасць.

Нам расказалі пра такі выпадак з гісторыі ўмацавання духу калектыўнай сацыялістычнай гаспадаркі ў «Рассвеце».

Ноччу нехта ўкраў у калгасным маладым садзе некалькі дрэў. Сляды губляліся... І Кірыла Пракопавіч паехаў у Бабруйск і прывёз адтуль следчага, ды не аднаго: пры следчым быў службовы сабака. Паказалі яму след, а далей клопату было мала: спрактыкаваны сабака прывёў на сядзібу калгасніка. Знайшлі саджанцы, і цяпер старшыні аставалася толькі вызначыць кару. У калгасніка ж быў ужо ладны садок — дрэвы ранейшага саду. Мала, значыцца, з яго, паквапіўся на калектыўны... Арлоўскі выклікаў гусенічны трактар, і ўсе дрэвы на сядзібе гэтага нягодніка неўзабаве былі павыдзіраны з карэннем. Урок для ўсіх!

— Госпадзі Ісусе! Якія меры! Страх...— пачуўшы пра гэта, усклікнуў Васільеў.

Аднак я схільны быў думаць, што рана ці позна, а ўсё ж ушчувальна-выхаваўчая практыка Арлоўскага, якую, безумоўна, нельга ўзводзіць у прынцып, будзе станоўча ацэнена Іванам Апанасавічам. Яго ж моцна непакоіла расцягванне грамадскага дабра, дзяржаўных каштоўнасцей людзьмі, якія павінны б клапаціцца пра іх захаванне, але страцілі адчуванне свайго абавязку, забылі, куды гэта вядзе. «Дзівіцца, стары, няма чаму: уступаем у паласу «расташчылаўкі». У каго што пад рукой, той тое і цягне» — так выказваўся адзін з герояў яго новай аповесці «Землякі».

Размаўляючы з Васільевым, я прыгадаў выпадкі з гісторыі (якія, напэўна, і яму былі не меней вядомыя, чым мне), калі ў некаторых дзяржавах за кражу палец або руку адсякалі. У Лівіі, Егіпце, Саудаўскай Аравіі, кажуць, гэта робіцца і цяпер. А дрэвы ж, вырваныя з карэннем, даводзіў я,— гэта нават сімвалічна: з карэннем у калектыўнай гаспадарцы, калі яна рабілася такой не на словах — на справе, вырывалі заганную з'яву. Жорстка, аднак жорсткасцю можна лічыць і аперацыю, калі за яе бярэцца хірург!

— Правільна,— пагаджаўся са мной Васільеў,— усё так. Але ж у мяне, бачыш, якая мысля заварушылася. Гэты парадак у калгасе, рацыяналізм і сухасць... гм... ці не аказваюць яны адмоўны ўплыў на нашу славянскую душу з яе імкненнем да волі, прасторы? Як думаеш?..

— Тут зноў філасофская пазіцыя, як казаў Старавойтаў. Аднак усё гэта сапраўды трэба пераварыць.

— Так наканавана ўжо, пэўна... Калі жывеш, капаешся ва ўсім, што так ці інакш уплялося ў жыццё... Ты бачыў тых хлапчукоў?.. Яны сядзелі на бардзюрчыку, як вераб'і. Нідзе ні зломанай галінкі, ні прытаптанай кветачкі або травінкі... А яны ж — дзеці, ім пасвавольнічаць, пагарэзнічаць сам бог вялеў!

Тую чародку падлеткаў мы сустрэлі, ідучы па наструненым зялёным бульвары ціхай селавой вуліцы Мышкавіч. Прыткнуўшы веласіпеды да бардзюра, хлопчыкі і самі на ім размясціліся, акуратненька, плячук да плечука, і ніхто з іх нават не дакрануўся да травы на газоне; гаварылі не гучна, аднак зацікаўлена абмяркоўвалі штосьці. Мяне здзівіла, што параўнанне іх з вераб'ямі прыйшло адначасова ў галаву і мне, і Васільеву.

— Хацелася б ведаць, як гэты педантызм на іх жыццях адаб'ецца? Бо тут якраз фарміруецца характар...

Я разумеў яго. І мяне трывожыла пытанне, ці не абкрадваюць у гэтым багатым і ўзорным калгасе дзяцінства ў дзяцей? Ці не растуць яны гэтакімі дзядкамі, пазбаўленымі радасці руху і самасцвярджэння? Аднак высветліць гэта зноў жа было няпроста. Дзеля гэтага спатрэбілася б спецыяльнае даследаванне, якім у нас не было магчымасці займацца. Адно, пра што мне ўдалося даведацца з кароткай размовы з завучам Мышкавіцкай сярэдняй школы: педагогаў падобныя пытанні не хвалююць. І, можа, яны таксама маюць рацыю? Ёсць пры школе спартыўныя пляцоўкі, ёсць (мы яго бачылі, ходзячы каля Палаца культуры) зялёны стадыён, ёсць у лагчыне ставок і рэчка Ала, утравелыя

берагі каля вады, ёсць калгасны лес і, паабапал дарог, шацістыя прысады, ёсць, урэшце, прастора, калі палі вызваляюцца ад дабра, ад ураджаю. Ці ж мала абсягу? Гарадскія дзеці і таго не ведаюць, але там мы чамусьці не гаворым пра іх абкрадванне. Можа — дарэмна? Мышкавічы — не горад. Аднак адносіны да насаджэнняў, зямлі, да ўсяго, ува што закладзена калектыўная праца, тут нікольві не горшыя, чым у горадзе, хутчэй — наадварот. І гэта добра, гэта робіць гонар Мышкавічам дый усяму калгасу. Толькі ж дзецям часам стадыёна мала — пры нас, дарэчы, ён пуставаў. Дзецям, як таму стараму, часам хочацца пагазаваць па газонах! Ох, гарэзнікі! У Палацы культуры, з боку зімняга саду, каменем была разбіта вялізная шыба!

Прыгадвалася палка, якая, як заўважана мудрацамі, заўсёды мае два канцы. «Палка» — дыялектычная штука і адлюстроўвае, бадай, пераход адных і тых жа якасцей (пры іх кольвасным змяненні) у сваю супрацьлегласць. Пра гэта я падумаў потым, калі ў сваіх разважаннях пра ўласцівасці славянскай душы зразумеў адну пільную і жыццёва важную неабходнасць: нам трэба адрозніваць і ўсяляк размяжоўваць, у сваіх схільнасцях і жаданнях, свабоду паводзін ад шырыні нораву, волю ад свавольства, размах ад анархіі, бестурботнасць ад жыццесцвярджальнасці, прастату ад грубасці і г. д. Амаль усе гэтыя якасці ў грамадстве носяць сацыяльны характар або набываюць яго афарбоўку. І без такога размежавання, трэба напэўна прызнаць, быў бы немагчымым паварот славянскай душы да ўтварэння сацыялістычнага грамадства, увасаблення яго ідэалаў. Прынамсі, кантрасты ў нашым жыцці паказваюць, што без падобнага размежавання (а ў «Рассвеце» яно практычна зроблена) нам няможна разлічваць на далейшыя значныя поспехі ў развіцці лепшых маральных і духоўных якасцей савецкіх людзей.

Разважаючы пра гэта, я схіляўся да ўзвядзення ў святыню газона або поля з квітнею-

чай нівай. Напэўна, скрозь у душу дзіцяці варта было б закладваць «спружыну», якая спрацоўвала б як абмежавальнік пры яго дакрананні да любых парасткаў калектыўнае працы і калектыўнага плёну. Відавочна, усталяванне такой спружыны не парушала б ніякіх законаў у гаспадарцы са сваім статутам і традыцыямі. Наадварот, там, дзе яе, спружыны, няма, парушаецца многае ў аднойчы заведзеным ладзе жыцця. З гэтым, я думаю, Іван Апанасавіч не стаў бы спрачацца. Бадай, пагодзяцца са мной і чытачы.

Вакол дзяцей і бацькоў упарта круціліся нашы думкі.

Выпіўшы другую шклянку чаю, Васільеў сеў на ложак і пачаў занатоўваць сабе штосьці ў невялікую дарожную кніжку. Аднак сядзеў ён нядоўга, яму карцела паглядзець на новы дзіцячы сад, які будаваўся з цэглы, балазе верхняя частка яго была відаць з гасцінічнага акна — наводдалек аранжавай аграмадзінай узвышалася над прысадамі, людскімі сядзібамі. Дах будынка ўвенчвалі раструбы або варонкападобныя нішы, прадугледжаныя, напэўна, для салярыяў. Мы пайшлі туды. Аглядаць будынак з сярэдзіны яшчэ было рана, а знешне ён рабіў уражанне і аб'ёмамі і прыгажосцю — велічны, быццам з казкі, Палац... І тут сама па сабе прыгадвалася далейшая размова са старшынёй калгаса ў кабінеце Лянкевіча (калі той зайшоў).

— Васіль Канстанцінавіч, а навошта вам новы дзіцячы сад або комплекс — з патыднёвым утрыманнем?

— О-о, гэта будзе выдатны куток для дашкольнікаў! Разлічаны на 280 месцаў... Сабяром туды малечу, каб адвесці яе ад паганага ўплыву сям'і. Меней будуць чуць мацюкоў... І з бацькоў здымем абузу на два-тры гады. Словам, будзем выхоўваць.

Напэўна, каб Старавойтаў, седзячы на крэсле, раптам шпарка паехаў кудысьці ад стала, за якім мы сядзелі, і тое не так бы здзівіла нас,

як яго тлумачэнне. Васільеў, падобна, сумеўся, бо голас упаў...

— Палац — Палацам,— прамовіў ён ціха,— а маці для чалавека застаецца маці, і ніякім прытулкам яе не заменіш.

— І ці аддадуць яшчэ вам дзяцей?

— А чаму вас гэта хвалюе? — здзівіўся цяпер Старавойтаў, закрануты, пэўна, за жывое.— Нам патрэбен новы савецкі чалавек, ён патрэбен грамадству!

— Аднак таго ўплыву, пра які вы зазначылі, хапае ў нас і па-за сям'ёй,— сказаў я.— Дзядоўнік па дарозе чапляецца!

— Ну, вы не зусім маеце рацыю. Істота дзіцяці такая, што беспамылкова схоплівае, што добра, а што дрэнна. І на людзях яму лягчэй арыентавацца.

— А дома?

— А дома, у сям'і — прывыкае.

Лянкевіч між тым нагадаў нам:

— Макаранка зрабіў з беспрытульнікаў такіх людзей — гонар!

Васільеў тут жа парыраваў:

— А вось педагог Сухамлінскі, дбаючы пра выхаванне, стварыў культ маці! Дый размова пра дашкольны ўзрост!..

Спрэчка набірала напал, і я звярнуўся да Старавойтава:

— Васіль Канстанцінавіч, скажыце, а на бацькоў дзеці не аказваюць выхаваўчага ўплыву? Скуль сям'я стала «абузай»? Чаму?..

— У бацькоў будзе больш вольнага часу. Будуць кнігі чытаць!

— Э-э не! — не пагадзіўся Васільеў.— Той, хто падкі да кніг, не адцураецца з-за кніг ад дзіцяці!

— Ды мы ж бяром іх часова!

— Кнігу, з дзецьмі, бацька хутчэй прачытае: для іх і для сябе!

— Мо і так... Толькі сілаю ніхто іх браць не будзе! — запэўніў усхваляваных гасцей Васіль Канстанцінавіч.

Ён дзівіўся з нашай бурнай рэакцыі, а для нас яна была натуральная. Задума рассветаў-

цаў з дзіцячым Палацам усё-такі пераварочвала ў жыцці селяніна яго спрадвечны лад жыцця і родавыя традыцыі ў самой аснове. Так нам здавалася. Але, але... Найважным клопатам бацькоў заўсёды было пракарміць і вырасціць і вывесці ў людзі дзяцей, якія пасля шанавалі б іх старасць. Сёння прыкметай часу стала адасабленне дарослых дзяцей ад бацькоў, а бацькоў — ад дзяцей, калі нават хатнія ўмовы дазваляюць жыць разам. У Мышкавічах, няйначай, выспявала адасабленне ад дзяцей ужо ў раннім узросце!.. Хіба мы перабольшвалі? І ў нашым уяўленні новая задума праўлення калгаса не стасавалася ні з дабрачыннасцю, ні з годнасцю саміх бацькоў.

Адно ў сваіх меркаваннях мы не хацелі памыляцца і не асуджалі цалкам рассветаўскага педагагічнага пачынання. Ці ж не таму, разглядваючы будоўлю вабнага дзіцячага Палаца, Іван Апанасавіч паўтарыў яшчэ раз:

— Патрэбен час, каб усё гэта пераварыць.

## 17. Бацькі і дзеці. Гора ад розуму, калі працы няма

Калі адысці далей ад новай будоўлі ў Мышкавічах і паглядзець на жыццё, не ўсе абсурдныя ідэі вядуць да абсурду. Мне прыгадвалася размова ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў з Еўдакіяй Емяльянаўнай, сястрой Пімена Панчанкі, разважлівай і назіральнай жанчынай.

— Раней, калі дрэнна жылі,— казала яна,— дзяцей нястача ды клопат аб кавалку хлеба або сукенцы выхоўвалі. А цяпер лічыцца, што іх бацькі выхоўваюць. Гэта памылкова! Бо, за рэдкім выключэннем, у сям'і належнага выхавання няма. Па-першае, таму, што бацькі метадычна не ўмеюць выхоўваць, а па-другое — песцяць і не прывучаюць дзяцей да працы. Працаваць маладыя не любяць, а як пажэняцца — па гэтай жа прычыне багата разводаў.

У пацвярджэнне сваіх слоў яна прывяла

прыклад з адной сям'і, дзе ладкуюць жыццё тры нявесткі. Дзве з іх дужа ахвочыя да працы, шчырыя, таму добра і шчасна жывуць. А трэцяя толькі і ведае ў люстэрка глядзецца ды ахарошвацца. Яна ўся ў сабе. І што вы думаеце? У жыцці ладу няма. Чалавек пытаецца ў яе: «Што ты рабіла?»— «Чытала,— кажа,— бо гэта мне трэба для духоўнага развіцця». А дзеля чаго яно табе тое развіццё, калі ты абед не ўмееш зварыць, жыць не ўмееш і не навучышся? Ні кніга, ні тэлевізар ужо не здольны зрабіць цябе лепшай...

Думкі Еўдакіі Емяльянаўны аказаліся вельмі сугучнымі з развагаваннямі акадэміка Анісімава ў рамане-мары вядомага савецкага фантаста Аляксандра Казанцава «Купал надзеі», які выйшаў з друку ў «Раман-газеце» тым летам.

Гутарка там зайшла пра чалавека будучыні.

«Наш час характэрны прыматам адукацыі над выхаваннем. У наступных тысячагоддзях такога не будзе...»

З акадэмікам Анісімавым уступае ў дыялог інжынер Талстоўцаў. Ён зазначае, што ў духоўным напаўненні чалавека трэба чакаць скачка. Анісімаў:

— Вы правільна сказалі. Людзі будучыні набудуць маральныя якасці, уласцівыя толькі лепшым людзям сучаснасці. Але, паўстае пытанне, як сфарміруецца гэты чалавек будучыні з таго ж самага «маральнага зародыша чалавека», з якога вырастаем усе мы, з нашымі недахопамі?

— Хто ж тады павінен выхоўваць дзяцей? Бацькі?

— А як вы лічыце, Аляксей Мікалаевіч, ці можна бацькам даручыць трэпанацыю чэрапа? Вы здзіўлены? Пэўна ж, не! А ўздзейнічаць на дзіцячы мозг яшчэ больш глыбока, чым скальпелем, не ўмеючы гэтага рабіць? Гэта дапушчальна?

— Бадай, гэта некалькі аддалена... Але дасціпна.

— Толькі праца робіць чалавека чалавекам. От чаму не ўмеюць навучыць нядбайныя бацькі. У вялікай колькасці выпадкаў яны не ў стане прывіць дзіцяці і кодэкс вышэйшай маралі.

Усё гэта праўда. Сёй-той з нашых бацькоў, напрыклад, стараецца выбавіць сваіх дзяцей ад вывучэння ў школе роднай мовы, што ўжо не стасуецца не толькі з кодэксам вышэйшай маралі, але і ўяўленнямі аб элементарнай чалавечай культуры. Хіба не так? Давайце ўдумаемся... Па крайняй меры, успрымаецца як належнае гутарка вучоных людзей:

— Вельмі можа быць, што школы недалёкага часу будуць выхоўваць малых, забіраючы іх з сямей, бо там не заўсёды могуць так кваліфікавана сфарміраваць чалавека, як гэта стане па сіле спецыялістам гэтай справы.

Не сумняваюся, што герой фантастычнага твора — акадэмік Анісімаў падасца пераканаўчым рассветаўскім кіраўнікам. Тут, як бачыце, рэальнасць пачынае пераплятацца з фантастыкай.

У нас сёння нярэдка можна пачуць нараканні на інфантыльнасць і спажывецкія настроі моладзі. Гэта набытак апошніх двух дзесяцігоддзяў — ад сілы. Нейкая панская хвароба. Інфантыльнасць — гэта не толькі фізічная кволасць, гэта і бестурботнасць і легкадумнасць, якая спалучаецца з крайнім эгаізмам. Прычым тут ужо няма як размяжоўваць горад і вёску, іх прадстаўнікоў — уласцівасці хваробы аднолькавыя, і лечыць яе працоўны занятак. Не менш важна абмежаваць і бацькоўскую апеку, асабліва ў тым, што тычыцца задавальнення ва ўборах, забавах, пацехах. «Няхай дзеці ворагаў нашых жывуць у раскошы!» — усклікнуў аднойчы старажытнагрэчаскі філосаф Антысфен, і мараль зразумелая. Відаць, не такія ўжо дурні былі і паны, і шляхцюкі на нашай зямлі, калі аддавалі сваіх дзяцей на выхаванне сялянам. Гэты звычай, атрымаўшы назву дзядзькавання, быў пашыраны на Беларусі з канца XVI да пачатку XVIII стагоддзяў. Да-

рэчы, калі кінуць вокам шырэй, у часы родавых і феадальных адносін падобная выхаваўчая практыка была і ў народаў Каўказа, старажытных кельтаў, арабаў. Праўда, там дзядзькаванне называлася аталыцтвам, або, па-нашаму, бацькаваннем, толькі сутнасць у іх адна.

Згодна з тлумачэннем БелСЭ, дзядзькаванне ў нашым краі было выклікана жаданнем багатых бацькоў выхаваць моцных пераемнікаў роду — панічоў, надзеленых станоўчымі фізічнымі і духоўнымі якасцямі простага народа: працавітасцю, сілаю, непераборлівасцю да яды, пітва і адзення, любоўю да зямлі, адданасцю Бацькаўшчыне. Праграма, як бачыце, даволі грунтоўная, як і сам метад выхавання. Толькі ў наш час гэтыя ўласцівасці і якасці маладым не менш патрэбны.

Дзядзькаванне як сацыяльная з'ява пераканаўча раскрыта ў гістарычным рамане вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

У адным з эпізодаў малы пытаецца ў дзеда, навошта панічоў аддавалі ў сялянскія сем'і.

— Каб ведалі, як даецца зямля,— сказаў дзед,— каб не збэсціліся на сабаку. Аддавалі, бывала, як толькі чатыры гады дзіцяці. Хто на тры, а хто і на пяць год. І зусім не памагалі хлопскай сям'і. А потым, калі возьмуць хлопца зноў у двор — даюць мужыку пакормнае, за тое, што хлопец з'еў, і дзядзькавое, бо ўсе мы як быццам дзядзькі малому, выхоўвалі яго, розуму вучылі.

Не менш яскравы і паказальны факт. Ужо ў нашу эпоху вядомы сваёй прастатой і мудрасцю Міхаіл Іванавіч Калінін таксама пасылаў сыноў на выхаванне ў рабочую сям'ю, у Ленінград, да былога паплечніка і сябра па падполлі. Пры гэтым Міхаіл Іванавіч папярэджваў дзяцей, што грошай на пракорм і адзенне яны будуць мець роўна столькі, колькі прыпадае на дзяцей рабочага, і што працаваць і вучыцца там яны будуць, не маючы ніякіх пераваг перад сваімі равеснікамі.

Праца ва ўсе часы і ва ўсіх землях даміна-

вала як цудадзейны элемент народнай педагогікі. І не выпадкова балгары сур'ёзна падумваюць, каб далучыць дзяцей да стваральнай працы з пяці-шасцігадовага ўзросту. Робіцца і ў нас сёе-тое па некаторых дзіцячых садах.

## 18. Дэвіз: прыгожае жыццё! Спрэчкі ў Порплішчанскай сярэдняй школе

Горад і вёска — дзве супрацьлегласці, як два полюсы магніта, з адзіным полем. І гармонія нашага жыцця, напэўна, не ў знікненні аднаго з гэтых полюсаў, а ў іх захаванні. Праўда, у вельмі далёкія часы вёска існавала без горада. Цяпер — наадварот — вясковы люд імкнецца ў горад, і горад ужо пасылае людзей на сельскія палявыя работы, і тут утвараецца нейкая анамалія... Мона-поле... Манаполія?.. Што за хімера?.. І ці будзе з таго што людскае? Цяжка сказаць. Ва ўсякім разе мы ўжо сёння купляем і ядзім бульбу, пазелянелую ад доўгага ляжання на полі.

Гарадскі стандарт, гарадскія меркі і разам з імі аблегчаны «гарадскі» ход думкі зрабілі якасны і неадназначны ўплыў на фарміраванне як матэрыяльных, так і нематэрыяльных патрэбнасцей і інтарэсаў селяніна, на яго стан душы. Гарадская стыхія разам з нараднай сістэмай у працы, падзёншчынай выцяснялі селяніна з селяніна, робячы яго «гараджанінам» у вёсцы. І выхаванне ў школах пачало падпарадкоўвацца урбанізацыйнай плыні, яскравым сведчаннем чаму і з'явілася тая літаратурная сустрэча з вучнямі Порплішчанскай сярэдняй школы.

Я ўжо пісаў пра нашу паездку па Віцебшчыне. Мы гасцявалі ў калгасе імя Суворава, у Валадзько. Далей жа нам было наканавана патрапіць у Докшыцкі раён, дакладна — у саўгас «Порплішча».

У невялікай школьнай зале сабраліся стар-

шакласнікі. Быў тут і дырэктар школы, мажны, круглы, у веку... Былі завуч і настаўнікі... Акрамя таго, прысутнічалі сакратар парткома саўгаса і начальнік сярэдняй рукі з Докшыц, чарнявы, рослы, гадоў трыццаці пяці, надзелены пачуццём асабістай годнасці.

На першы погляд усё было добра, і я першы пачаў гутарку з вучнямі. Праўда, аб тым, пра што я пісаў у сваіх кнігах, яны не ведалі. Не ведалі, не чулі яны і пра тое, што зроблена іх бацькамі на іх жа зямлі, пра людзей шчырай, упарцістай працы не ведалі... Гэта мяне вельмі дзівіла і проста-такі збівала з панталыку. Неўзабаве ж высветлілася, што вучняў школы ўсё гэта не цікавіць наогул і што ўсе яны будучыя гараджане — прынамсі, такімі сябе бачаць! Я спытаўся чаму? Мне адказвалі: там лягчэй, там чысцей, там больш волі, менш клопатаў... І, што здавалася яшчэ больш неверагодным, адказваць гэтакім чынам вучням дапамагаў сам дырэктар, надзвычай гаваркі і нястрыманы чалавек — з-за яго вучні не паспявалі рот раскрыць.

І ніхто з гэтай школы (з гэтай залы) не збіраўся заставацца каля сваіх бацькоў у вёсцы...

Сярод вучняў, дарэчы, аказаўся малады чалавек, хударлявы, з тонкай шыяй і бледным тварам. Ён узяў слова:

— А што?.. Вы скажаце, лепей тут?! Я вось працую шафёрам у горадзе... Там восем гадзін аддай і — будзь здароў! Два выхадныя... А ці дадуць мне іх у саўгасе?..

Яго дружна падтрымалі настаўнікі. Адзін з іх даводзіў:

— У нас укалваюць ад цямна да цямна. Я, напрыклад, з ложка яшчэ не падняўся, а трактарыст ужо ў поле паехаў! Я ў канцы дня спаць лёг, а ён толькі вяртаецца!

Я хацеў там яшчэ нешта сказаць, але мне не далі. Настаўнікі загаманілі наперабой:

— Ну што рабіць тут маладым, якой радасцю душу напоўніць? Раней клуб быў — згарэў, і колькі год ніхто не будуе.

— Правільна робяць, што едуць у горад. Не вечна сялу лямку цягнуць!

— А хіба сельскія не маюць тых жа правоў, што і гарадскія?

Школа шкадавала сваіх вучняў, але не сябе; яна ахоўвала іх нейкім пракаветным мацярынскім інстынктам, што, я думаю, можна было зразумець толькі пачуццём, і пачуццём бесклапотным, паблажлівым...

Тут, бадай, патрабавалі ўдакладнення пытанні: ад чаго ахоўвала і куды пасылала, на я к о е жыццё? Школьная зала гаварыла: на л ё г к а е! Але ці была ў тым мудрасць?

Я быў сканфужаны ад такога дружнага наступлення настаўнікаў, і от у гэты момант падняўся ўсхваляваны Васільеў, былы настаўнік, у крыві — селянін, майстравіты мужык, пасівелы ўжо, ён умеў чынна цяслярыць, выконваць мастацкую разьбу па дрэву, а яшчэ — пісаць... Што ён сказаў?

— Калі чалавек зацікаўлены справай і, яшчэ лепей, калі любіць яе, ён не глядзіць на сонца, ці высока тое, ці нізка, яму карціць зрабіць болей! Заўважце: і шафёр, і настаўнікі гаварылі пра тое, к о л ь к і чалавек працуе. Не ш т о зрабіў і не я к зрабіў, а колькі часу аддаў рабоце. Гэта — дазволю сабе зазначыць — ілжывыя меркаванні пра земляробчую працу. Сапраўдная каштоўнасць, годнасць, вартасць работніка адвеку была і будзе не ў тым, колькі ён рабіў, а ш т о і я к зрабіў, інакш кажучы, у канчатковым выніку працы. Гэта — аксіёма! І толькі па нейкім вялікім непаразуменні настаўніку можна настройваць вучня пазбягаць бацькоўскай ношкі і шукаць любую, абы толькі лёгкую... Не варта забываць, што вышэйшую асалоду чалавеку можа прынесці і цяжкая, стамляючая праца, калі чалавек з ёй спраўляецца і, тым больш, уносіць у яе выкананне штосьці сваё, творчае.

Аднак прамоўцу перабівалі. Штораз... Пытаннямі. Рэплікамі. Выгуквалі іх і, калі ён спрабаваў адказаць,— не слухаючы, сыпалі но-

выя. Іван Апанасавіч, адбіваючыся ў спрэчцы, стараўся не згубіць асноўную думку.

— Тут у вас, на жаль, усё ўпіраецца ў колькі. З-за «колькі» ўзнік гандаль, як у перакупшчыкаў. А сапраўдны гаспадар з гэтым не ездзіць на кірмаш.

Вучні сядзелі прыціхлыя і былі не на нашым баку.

— Колькі... Сам гэты тэрмін парадзіла падзёншчына...

Адчувалася, што мы ні ў чым не пераканалі і пераканаць не здольны ні вучняў, ні настаўнікаў, і ў гэтай размаітай школьнай грамады больш не было жадання слухаць пра зямлю, а тым больш — аб прычынах або каранях з'яў, што жывяць спажывецкія настроі і сацыяльны эгаізм. Перад намі ж ужо не карані і не асобныя сцяблінны былі. Перад намі была выраслая на школьнай глебе крона. Яна была пышная. Але толькі што за галлё выкінула дрэва ў бакі? І ці віна таго вецця, калі яно кволае? Першы ж моцны вецер можа нарабіць бяды...

Настаўнікам трэба аддаць належнае: нягледзячы на сваю няўступчывасць у спрэчках, людзьмі яны аказаліся зычлівымі і добрымі. Яны запрасілі нас да сябе на вячэру. Мы селі за стол. Вось толькі, пераненерваваўшыся, Іван Апанасаіч пачуваў сябе дрэнна. Паспрабаваў есці — і адклаў лыжку. Папрасіўшы прабачэння, выйшаў на вуліцу і залез у машыну. Сапучы і ў думках, пэўна, лаючы дарогу, якая прывяла яго сюды, ён адкупорыў капсулу і праглынуў таблетку.

У той вечар быў яшчэ адзін загадкавы момант. Ні сакратар парткома калгаса, ні начальнік сярэдняй рукі ўдзелу ў спрэчках не прынялі і нічым не выказалі ні сваіх адносін да іх, ні свайго разумення таго, пра што мы спрачаліся. Ніхто не сказаў, чаму не будуецца Дом культуры ў Порплішчы... Мне было сорамна перад Васільевым за пазіцыю, якую ў грамадскім жыцці заняла гэтая школа, наогул тужліва было за няспраўджаныя спадзяванні тут, у раёне, дзе пашчасціла быць сведкам выдатных

падзей і пазнаёміцца з цікавымі, неспакойнымі і прагнымі да працы людзьмі, здольнымі помніць не адно і не ўсё пра сябе, а найбольш — пра іншых і тварыць у імя росквіту роднай зямлі і Айчыны.

Але факт заставаўся фактам. Вясковых хлопцаў, а тым больш дзяўчат захапляў ідэал прыгожага і лёгкага жыцця ў горадзе, бляск вітрын і рэклам. Таму многія туды кінуліся. Вёска пусцела і глухла. Сям-там асобнымі мясцінамі пачынала заміраць жыццё ў Сялянскім Акіяне. Затое горад рос.

## 19. Міграцыя. Горад у стане дыфузіі. Спакуса — меч...

Горад рос. У выніку міграцыі за якіх-небудзь 15—20 гадоў гарадское насельніцтва ў Беларусі павялічылася ў тры разы. Гэта быў свайго роду «набег» сялянскіх дзяцей на горад, паломніцтва... А што горад даў ім? Р о з н а е. Дастаткова прыгадаць Альку з аднайменнай аповесці Ф. Абрамава. Выхаваная ў сельскім кутку шчырай працаўніцай Пелагеяй і бласлаўлёная ёю на прыгожае гарадское жыццё, Алька прыязджае назад у вёску з растрапанай душой, спустошаная.

А вось іншы выпадак, наколькі выключны, настолькі ж і характэрны.

У адной сельскагаспадарчай установе сярод маіх знаёмых працуе вучоная дама. Лічыцца, што яна нечым кіруе, хоць усе супрацоўнікі яе групы працуюць самастойна. Яна кандыдат навук, і яе прозвішча — Ступа — рэгулярна з'яўляецца на тытульных лістах усялякіх там распрацовак, амаль аўтаматычна... Разам з тым Ступу нельга папракнуць, што яна зусім раўнадушная да справы.

Аднойчы павысілі Яніне Ступе аклад, і тады акурат штосьці варухнулася ў свядомасці гэтай маладой, мілавіднай жанчыны. Прыйшла яна да свайго высокага начальніка і кажа, так і так,

маўляў, узрос мой заробак, дык, можа, мне цяпер не толькі групай «кіраваць», а яшчэ і рабіць што-небудзь, я здольная.

— Янечка,— адказаў ёй мудры начальнік, якога проста крануў патрыятычны пачын яго супрацоўніцы.— Хіба вы не ведаеце, што ў жыцці адны створаны, каб араць, а другія — каб грошы атрымліваць? Я думаю, вы адносіцеся да другой катэгорыі.

Шкада, але цынізм часам падмяняе вялікім начальнікам пачуццё гумару.

Мы наогул прыкмячаць сталі, што, дзякуючы некаторым ( а можа, і багата якім) пралікам у сістэме эканамічных, навуковых ды проста дзелавых адносін і стымулаў у людзей спакваля пачало асядаць у свядомасці, што грошы можна атрымліваць не за працу, яе вынік, а за пасаду, дыплом, за «быццё на рабоце...».

Нейк улетку, калі гэта кніга ўжо рыхтавалася выдавецтвам да выпуску, мне давялося пабываць у інстытуце, размешчаным у новым вялікім будынку на тэрыторыі Акадэмгарадка. Маючы невялікую прычыну, я прайшоў па многіх кабінетах, зазірнуў у лабараторыі на адным паверсе, на другім... Жанчыны, сабраўшыся купкамі, ціхама абмяркоўвалі нядзельныя навіны, разглядалі сябе ў люстэрках, прычэсваліся, прымяралі сукенкі... А мужчыны таксама паціху сноўдалі сюды-туды, абменьваліся ўражаннямі ад футбольных гульняў і рабілі гэта культурна — нічый голас не ўзвышаўся, не парушаў вольнага рытму і спакою ў інстытуцкіх сценах. Мне нават прыйшло на думку, што ва ўсіх супрацоўнікаў інстытута, якія дзесяцігоддзямі ўпарта вывучалі торф, пачалася нейкая балотная хвароба, і цяпер яны прыходзяць на працу з адным найважным клопатам — захаваць, зберагчы, не растраціць энергію. Той-сёй, праўда, нешта рабіў за сталом або каля кульмана, але рабілася гэта як бы ад суму. Уражанне было такое, што я трапіў у зачараванае царства. Сапраўды, там кожны крок, кожны рух любога і кожнага быў за-

паволены, нібы рухаліся яны ў сне або на экране, пры запаволеным паказе фільма.

Быў рабочы дзень і рабочы час...

І відавочным было, што аб працы тут успамінаюць у канцы дня і адкладваюць яе назаўтра... Балотная, задаўненая балотная хвароба!

А колькі ў нашай краіне такіх інстытутаў? Не ведаю... Адно друк сведчыць: багата! Праўда, гэта не значыць, што там няма творцаў, сапраўдных вучоных.

Плён працы ў сельгасустанове аднойчы выклікаў трывогу. Але было так. Адны трывожыліся і агітавалі працаваць лепей. Заклікалі да таго штораз! А другія, паблажліва слухаючы заклікі, працавалі — як працавалася, за што да акладаў ім яшчэ і прагрэсіўку даплочвалі.

Першыя заўважылі, што карабель, на якім яны плывуць, запаволіў рух і пачаў хінуцца набок. Яны кінуліся ў трумы і, вобразна кажучы, пачалі шапкамі вычэрпваць ваду. А другія нічога небяспечнага на сваім караблі не заўважалі і не заўважаюць (у гэтай установе). Да такіх спраў, як рух і мэта руху, яны абыякавыя.

Першыя ж — от дзівакі! — прадаўжаюць заўзята вычэрпваць ваду... Яны патрыёты і агітатары ў калектыве. А пашукаць у корпусе карабля разыходжанне швоў або прабоіну тым часам няма каму, бо тыя — «не спецыялісты», а гэтыя таксама лічаць, што шукаць прабоіну не іх клопат.

З пераводам вёскі на грашовую аплату, не звязаную з канчатковым прадуктам, дружным пустацветам пачала зарастаць і сельская ніва. Можна сказаць, што чалавек цяпер перастаў прыглядацца да справы рук сваіх, перастаў канцэнтраваць свае фізічныя і духоўныя сілы на працы, ад якой практычна ўзровень яго жыцця больш не залежыць.

Намі, урэшце, зразуметы арганізацыйна-ўпраўленчыя хібы, і тут мы ўспомнілі пра брыгадны падрад на вытворчасці, пра гаспадарчы разлік, занядбаны эканамічнаю службаю. Толькі ж асноўным заняткам Яніны Міхай-

лаўны Ступы па сённяшні дзень з'яўляюцца размовы аб дэфіцытах, выгадных сувязях, званкі патрэбным людзям, абгаворы сяброўак і г. д. Гандляры ёй робяць паслугі, яна — гандлярам, у сваёй, а таксама мужавай установах...

У пару ўзмоцненага перамяшчэння насельніцтва ў яго сельскіх і гарадскіх пластах пачало адбывацца нешта падобнае на дыфузію, вядомую нам яшчэ са школы. У гэтым працэсе мы, на жаль, пакуль яшчэ не навучыліся пэўна распазнаваць стан, адчуванне, арыентацыю асобных часцінак, індывідуумаў, гэта значыць людзей. А паводзяць яны сябе розна. Многія ў новым для сябе асяроддзі, у вёсцы і горадзе, адасобіліся і пільнуюцца, незалежна ад месца службы і занятку, хутчэй за ўсё не грамадскіх, а асабістых інтарэсаў.

Мы нямала начуліся пра расцягненне матэрыяльных сродкаў, грамадскага дабра, прадметаў шырокага ўжытку, бензіну, харчовых тавараў, каўбасы, сыру, масла з прадпрыемстваў самімі работнікамі. У апошнія гады гэтая з'ява пашырылася, і ніхто яшчэ не вытлумачыў, дзе прычына яе, хоць пра тое-сёе мы і здагадваемся.

Я рызыкую выклікаць на сябе стрэлы крытыкі, але ж выкажу меркаванне, што ўспышку раскрадвання народнага дабра трэба ў пэўнай меры звязваць з атмасферай, а дакладней, умовамі жыцця, якія склаліся ў вёсцы ў 50—60-я гады.

Цяжкасці... Так. Але ж у іх павінна ўжо не столькі вайна, хоць ёю многае і абумоўлівалася. «Многія гады,— пісаў у «Комсомольской правде» вядомы савецкі эканаміст У. Р. Венжар,— баланс разлікаў у народнагаспадарчым маштабе паміж горадам і вёскай быў на карысць прамысловасці. Калі ўлічыць усё тое, што было рэалізавана калгасамі і саўгасамі ў якасці чыстага прыбытку, што было атрымана вёскай у выглядзе розных паслуг (адукацыя, ахова здароўя, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, сацыяльнае страхаванне і інш.), дадаць да

ґэтаґа таксама і тую частку дзяржаўных расходаў па ўпраўленню і абароне, якая кладзецца на долю сельскага насельніцтва,— калі ўсё гэта ўлічыць, то, на наш погляд, сельская гаспадарка прадаўжае атрымліваць ад народнай гаспадаркі меней, чым трэба...»

Інакш кажучы, ад вёскі бралі, не аднаўляючы яе сіл і рэсурсаў. Вёска хадзіла як бы ў падчарыцах...

Друкавалася гэта ў 1966 годзе, і з тае пары многае змянілася.

Але ж у тыя гады калектыўная гаспадарка (за рэдкімі выключэннямі) не забяспечвала селяніна настолькі, каб ён мог пражыць, а асабістая — падрывалася рознымі спосабамі, якія ўжо асуджаны і адкінуты жыццём. Калгаснік вымушаны быў украдкі браць на полі, на лузе, на ферме тое, што яму браць забаранялася і чаго ён не атрымліваў на працадні. Сям-там мясцовыя кіраўнікі не дазвалялі яму накасіць нават травы для каровы... І, відаць, іншага выйсця ў яго не было, чым украсці ў калгасе. Зрэшты, вялікага граху ў тым селянін не бачыў, бо ўкладваў у калгас і сваю працу.

Да гэтага прызвычаіліся. На гэтым вырасла новае пакаленне сялян, якраз тых, што рынуліся ў горад, несучы туды свае ўяўленні: усё кругом наша, і ўсё — нічыё... Рабочыя ж калектывы, у якія ўлівалася новае папаўненне з вёскі, размываліся і ў шэрагу выпадкаў (калі яны яго і мелі) страчвалі свой выхаваўчы ўплыў.

У стане дыфузіі, як мы сказалі, пачалося адасабленне кожнага або асобных невялікіх груп. Яму спрыялі на вытворчасці і адсутнасць калектыўнага падраду, і адміністраванне, якое вяло да прыніжэння ролі калектыву, а дома — новы побыт з такімі рэчамі, як свой тэлевізар, свой аўтамабіль, дача, нярэдка — і бібліятэка... Спакуса аўтамабіля — сам сабе пан! — узмацніла цягу да высокіх заробкаў, у тым ліку — левых, дзе патрабавалася ўжо пераступаць праз элементарныя маральныя прыцыпы.

Гартаю кнігу доктара філасофскіх навук

Сімуша — «Сацыяльны партрэт савецкага селяніна» (Политиздат, 1976).

Павінен зазначыць, што — як і ў вядомага сацыёлага Стараверава, як і ў некаторых нашых беларускіх сацыёлагаў, праца Пятра Іосіфавіча Сімуша на сённяшні дзень вызначаецца рэалістычнасцю ў раскрыцці абранай тэмы. Праўда, свежасць і аргументаванасць думкі ў яго нярэдка спалучаецца з параднаю фразай або штампам, уласцівым, на жаль, многім сучасным даследчыкам, асабліва калі ў іх размова заходзіць пра гістарычнае развіццё савецкай вёскі, пройдзены ёю шлях найчасцей паказваецца ў ружовых фарбах! Але Сімушу ўдаецца пераадольваць стэрэатып.

«Хоць сёння ў свядомасці большасці калгаснікаў верх бяруць калектывісцкія пачуцці, настроі і погляды, тым не менш яшчэ захоўваюцца ўсялякія перажыткі дробнабуржуазнага светапогляду і маралі.

Пытанне аб п р ы ч ы н а х у з н а ў л е н н я а н т ы п о д а ў с а ц ы я л і с т ы ч н а й м а р а л і даволі складанае...»

І характэрна, што аўтар выдзяляе знарок гэтыя словы. Яны ж, відавочна, аднолькава адлюстроўваюць становішча як на сяле, так і ў горадзе.

## 20. Дылема: легкавік або дзіцё! Лад, які зямля дыктуе. Дума пра душу селяніна

Сёння ніхто дакладна не вызначыць, які ўплыў на горад зрабіла сялянская маса (даследаванні чамусьці не праводзіліся). Але ў гэты самы час у індывідуальных, прыватных, сямейных кутках стала бурна ўзнаўляцца і квітнець — украпленнямі, гнёздамі, астраўкамі — прыватнаўласніцкая і блізкая ёй эгацэнтрысцкая мараль; яна праяўляецца ў сквапніцтве, рэчаманстве, безуважнасці да грамадскага парадку і г. д., у змаганні з чым, зазначым, нямала пораху патраціў наш друк; і от паэт па-

дае з дакладнасцю летапісца, падзеленага неспакойнай і чуйнай душой:

Прайшло не так і многа,
ды хваля б'е другая:
цішэй! Як шкло, падлога,
і мэбля дарагая...

Няўжо драбнеюць мэты?..
Уся ў дыванах кватэра.
Стаяць, стаяць паэты,
як частка інтэр'ера.

А паглядзіце на паводзіны жыхароў у новых мікрараёнах. Чаго толькі яны не кідаюць з высокіх балконаў і лоджый уніз на зямлю! Апмоцце паперы, бутэлькі, ламачча, не гаворачы ўжо пра запалкі і недакураныя цыгаркі... Вытрасаюць дываны і ходнікі... І не ведаеш, каму прыпісваць гэтую «культуру»,— гораду або сялу?

Прэстыжнасць горада між тым набыла такую дзіўную сілу, што на селяніна пачалі глядзець звысака не толькі і, галоўнае, не столькі карэнныя гараджане, колькі новыя, што нядаўна занялі той ці іншы паверх...

Урбаністычная плынь, якая працяглы час жывіла і стымулявала міграцыю, безумоўна, змясціла акцэнты ў поглядах на нашы духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці. Прычым як у вёсцы, так і ў горадзе яна ўзняла ў паветра нямала легкаважкага, легкадумнага. Гэтага ніхто адмаўляць не стане. З напружаннем працуюць установы, якія стабілізуюць гаспадарчае і культурнае жыццё. Па актуальных пытаннях умацавання маралі і ідэйнай загартоўкі савецкіх людзей на чэрвеньскім (1983) Пленуме ЦК КПСС прынята спецыяльная пастанова, і яе выкананне не хутка сыдзе з парадку дня.

Але ж пры нашым трывалым сацыялістычным ладзе, думаецца, не так ужо цяжка любую каштоўную рэч, асабліва калі яна прэстыжная, паставіць на службу калектывісцкай маралі. Возьмем да прыкладу дачу або хоць бы той жа зламысны аўтамабіль...

У раздзеле аб дабрабыце народа статыстычны даведнік падае, напрыклад, што за 1981—

1982 гады насельніцтву краіны прададзена 2832 тысячы легкавых аўтамабіляў. Гэта добра... Але за тыя ж гады колькі катастроф здарылася, і не толькі на аўтастрадах — у душах, у лёсах, у сем'ях людзей — з-за механізаваных карэт?..

Яшчэ не ўсё, што звязана з уплывам аўтамабіля на грамадства, вывучана і — перш-наперш — прага да яго набыцця, не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Ёсць пэўныя сувязі легкавіка і з дэмаграфіяй.

Хіба мала такіх пакупнікоў, якім даводзіцца ламаць галаву: дзе, на чым у сямейным бюджэце навесці эканомію? А на чым яе навядзеш найлепей, як не на дзецях?.. Адмаўляюцца ад дзіцяці. Заводзяць сабаку... Гэтаму ж не патрэбен касцюм... Яго не трэба і ў дзіцячы сад вадзіць, а потым — у інстытут уладкоўваць. Выгада відавочная!

Але сям'я без дзяцей, пры здаровых мужу і жонцы,— з'ява антыграмадская. «Халастыя» супругі жывуць па ўсіх правілах эгацэнтрысцкай маралі — для сябе. Раскошна і тлуста жывуць, не даючы сабе лішніх клопатаў.

Пра што гаворка?

На сённяшні дзень нараджэнне дзяцей як у Беларусі, так і ў РСФСР, Прыбалтыцы і на Украіне, ніжэй рубяжа замяшчэння пакаленняў. Па краіне ў цэлым прырост амаль роўны нулю, і падтрымліваюць яго толькі рэспублікі Сярэдняй Азіі. Пры колькасці дзяцей 2,0 і ніжэй двух на адну жанчыну насельніцтва няўхільна скарачаецца.

«Двух дзяцей мала». Пад такім загалоўкам «Медицинская газета» (1985, 27 верасня) змясціла артыкул А. Антонава, доктара філасофскіх навук, сацыёлага-дэмографа.

У маладзетнасці, піша ён, багата непрыемных момантаў. Яна псуе светаадчуванне і жанчын, і мужчын, адпаведным чынам уплывае на дзяцей таксама.

І я чытаю далей:

«Многія дэмографы лічаць, што без спецыяльнай палітыкі па стымуляванні нараджаль-

насці — не наогул, а дакладна звязапай з параджэннем трэцяга і чацвёртага дзіцяці! — у далейшым яшчэ шырэй распаўсюдзіцца маладзетнасць, а ў яе рамках — аднадзетнасць. Неабходна фарміраваць у жыхароў краіны, па сутнасці, новую патрэбнасць у некалькіх дзецях».

Цяпер давайце ўявім сабе, што аўтамабілі прадаюць такім чынам: няма дзяцей — намінал, гэта значыць, поўны кошт; адно дзіцё — скідка 10—15 працэнтаў, другое — яшчэ скідка, трое — скідка да 40 працэнтаў, а калі пяцёра — бяры легкавік без грошай і гузуй сабе і дзецям на радасць!

Ого, як стаў бы матор тады працаваць на дэмаграфію, на выхаванне ў сям'і і грамадстве патрэбнай нам калектывісцкай маралі! Дзеці ж, становячыся дарослымі, асвойвалі б дадатковыя тэхналагічныя лініі па выпуску гэтых і яшчэ больш прыгожых аўтамабіляў, вартых сацыялістычнага грамадства.

Краіна ў нас, праўда, вялікая, і тут больш апраўданым быў бы рэгіянальны падыход да праблемы.

Яшчэ чакае свайго прынцыпова новага падыходу і сістэма налічэнняў зарплаты, і структура амбулаторнага і санаторна-курортнага абслугоўвання насельніцтва, дзе пад увагу браўся б не адзін чалавек, а сям'я. У Беларусі пад гэтым, я чуў, ужо думаюць.

У эканамістаў, там у іх, пэўна, трэба шукаць і аброці на наравістую кабылу, што часам нясе куды віда і завецца урбанізацыяй.

Спадзяюся, чытач не папракне мяне ў тым, што я выступаю супроць «верталётаў», гэта значыць, супроць новай тэхнікі і новай тэхналогіі на палях і фермах, супроць утульных кватэр і сядзіб, легкавіка ў двары... Не, я за тое, каб механізацыя і аўтаматызацыя сельскагаспадарчай вытворчасці была на ўзроўні стандартаў свету і свет вучыўся ў нас. Прынамсі, няхай сянажныя вежы напаўняюцца да самых краёў і трактарысты працуюць у зручных герметызаваных кабінах, няхай камбайнеры і іх

памочнікі ўпраўляюцца ля камбайнаў «Ніва», «Колас» або КСК-100 без кувалды і лома. Хай... Я не толькі за высокую культуру вытворчасці, але і за адпаведнае абсталяванне побыту, за належную культуру жыцця. Так, так... Але ж. І няхай тут абавязкова сціраюцца грані паміж горадам і вёскай пры дабрадзейным уплыве аднаго на другое. У горадзе, як нідзе цяпер, сканцэнтраваны сілы вучоных, інжынераў-канструктараў, рабочых, творчай інтэлігенцыі... Праўда, многія з іх выйшлі з сялян, таму на пэўных падставах сёння можна сцвярджаць, што і сяло, вывучыўшыся ў горадзе, памагае сялу. Але — як?

Трывогу ў мяне выклікае урбаністычны шал, пры якім вёскі, асабліва цэнтры калгасаў і саўгасаў, мястэчкі да гэтага часу каму-нікаму бачацца мікрагарадамі, а сяляне — рабочымі гарадскога тыпу (кажуць, восем гадзін аддай і будзь здароў!). Мне здаецца вельмі небяспечным конча сціраць тое, што завецца духам, якасцю селяніна, прафесійным плённым настроем, чуццём жывой істоты, зямлі...

Нехта ўсміхнецца на гэты выказаны мной неспакой і скажа: пачуцці ўсё гэта, а пачуцці — рэч суб'ектыўная.

Дапусцім... Наконт пачуццяў, зрэшты, я згодзен. Толькі ж аб'ектыўным у гэтым выпадку застаецца земляробчы занятак, непасрэднасць адносін з зямлёй... Зямля — не заводскі двор і не цэх пад дахам. Глеба — штосьці жывое, рухомае... Параўнанне прыроды з машынай і арганізмам надзвычай дакладнае, дадам, і красамоўнае. Але, хоць мы яго ўжылі яшчэ на самым пачатку, скажу шчыра, яно не мною прыдумана, яно належыць Карлу Марксу і сустракаецца ў яго «Капітале»... Цяпер, аднак, вазьму на сябе смеласць выказаць такое меркаванне. Мусібыць, з машынізацыяй сельскагаспадарчай вытворчасці і набліжэннем яе да індустрыяльнай роля зямлі не мяняецца. Ніколькі. І забыццё пра гэта, як правіла, абарочваецца «помстай» прыроды, калі ў яе «арганізме» штосьці парушаецца. Апошнім часам ву-

чоныя ўголас загаварылі пра гэта. Звернем увагу на вялікі і прадстаўнічы «круглы стол», які праведзены рэдакцыяй часопіса «Наш современник» (1985, № 7) з вучонымі-аграрнікамі.

Вось некалькі думак з таго дыялогу.

«Забыта простая ісціна: нельга парушаць законы зямлі, законы земляробства... Такую практыку патрабуецца асудзіць. Па законах і зямлі, і маралі ўраджаі і ўрадлівасць павінны ісці нага ў нагу: расце ўраджай, расце і ўрадлівасць глебы. Вось тады можна сказаць, што тут жывуць сапраўдныя гаспадары зямлі».

«Нямала бед прынесла зямлі і няправільнае прымяненне індустрыяльных метадаў сельскай гаспадаркі, аграмадныя палі, звышцяжкія машыны — усё гэта ўяўляе сабой, як правіла, асабліва рэзкае ўмяшанне ў прыроднае асяроддзе».

«Сутнасць справы ў тым, што сёння мы маем надта вялікія магчымасці ўздзеяння на прыроду. Але пры гэтым кожны добра разумее, наколькі абмежаваны нашы пазнанні...»

Як бачым, найскладанейшы працэс — працэс земляробчы, і дзеля поспеху справы чалавеку патрэба быць сапраўдным гаспадаром зямлі, а такім ён стане, на мой погляд, толькі тады, калі будзе мець у сваёй душы сялянскую закваску і будзе любіць зямлю.

Адным словам, комплекс селяніна павінен ашчаджацца як святыня, як вялікі дар і перадавацца з пакалення ў пакаленне, бо без яго, няма ніякіх сумненняў, парушыцца многае,— парушыцца сама прыкідлівасць да нівы, саюз селяніна з зямлёю і сонцам, і, мала таго, што чалавек, робячы па нараду, не атрымае да свайго заробка флюідаў радасці, яго перастане зямля разумець.

А што нам гаварыць? Што гэта немагчыма цяпер. Што пачаўся незваротны працэс разбурэння самога тыпу селяніна. Што яго душы яму больш не вернеш.

Ды не ўсе ж гэтак думаюць! «Ёсць пэўныя падставы сцвярджаць, што прыхільнасць і ця-

га да зямлі і прысядзібнай гаспадаркі застанецца адметнай рысай сельскага ладу жыцця». Гэта — Сімуш, і ён, пэўна, мае рацыю, мае падставы так гаварыць, бо вывучаў вёску на месцы, а не па газетах, як сёй-той гэта робіць.

Але паспрабуем яшчэ больш акрэсліць выказанае ў гэтых радках, а таксама вышэй.

Сельскі лад жыцця не залежыць ад таго, дзе стаіць хата — на вясковай вуліцы або на гарадской. І ад начыння ў хаце або двары не залежыць, наадварот, у значнай меры вызначае і фарміруе яго.

Сельскі лад жыцця абумоўліваецца адносінамі чалавека, сям'і ў цэлым да зямлі, ён абумоўліваецца залежнасцю яго чалавечага настрою, яго чалавечага дабрабыту, яго чалавечага светаадчування ад зямлі.

Я вельмі сумняваюся ў незваротнасці разбуральнага працэсу ў вёсцы і таму яшчэ раз паўтару і паўтараць буду: у эканамістаў трэба шукаць аброці на свавольствы урбанізацыі, інакш размова аб «распрацоўцы навукова абгрунтаваных сацыяльных крытэрыяў упраўлення урбанізацыяй, якія б забяспечылі максімальна эфектыўнае развіццё матэрыяльнай і духоўнай вытворчасці, магчымасць пастаяннага павышэння культуры і кваліфікацыі ўсіх працоўных», як пра гэта пішацца ў зборніку «Урбанізацыя, навукова-тэхнічная рэвалюцыя і рабочы клас» (Наука, 1972), застануцца толькі размовамі.

Давайце, нарэшце, на крылах фантазіі перанясёмся ў грамадства будучыні, у грамадства, аднароднае па складу. Ці можна пры гэтым уявіць, што паміж членамі і групамі камуністычнай суполкі не будзе спецыялізацыі па асноўным занятку? Або што чалавек там зусім адвернецца ад зямлі і нічым яго думкі не будуць ніткавацца з ёю? Такое нам пакуль не ўяўляецца.

Дык у чалавеку і чалавечым занятку, мусіць, варта сціраць толькі тыя грані, якія замінаюць развіццю ягонай свядомасці і павышэнню

прадукцыйнасці працы. Давайце дакажам, што рабочы саўгаса працуе лепей за калгасніка або лепей за калгасніка і рабочага саўгаса працуе прамысловы рабочы, прысланы ў вёску... На жаль, ніхто такіх доказаў не шукае, і сама размова аб сціранні граняў часам набывае схаластычны характар, у прыватнасці ігнаруецца факт, што сельскія рабочыя (работнікі саўгасаў у цэлым) з'яўляюцца сялянамі па ладу жыцця, што па прафесійнай тыпалогіі і сацыяльна-псіхалагічных параметрах, мовай вучоных, яны не далёка стаяць ад калгаснікаў,— ды, можа, гэта і добра? Ва ўсякім выпадку, незалежна ад нівы, на якой яны выраслі,— калгаснай або дзяржаўнай — карэнне ў іх бадай што аднолькавае, і тая мяжа, якая іх падзяляе, надта ж невыразная; наадварот, намнога глыбей праходзіць мяжа паміж нівай саўгаснага і нівай гарадскога рабочага. І хіба гэта не з'яўляецца відавочным? Дык навошта ж нам маляваць на паперы тое, чаго няма? Дзеля чаго, калі мы рэалісты?..

З задавальненнем разгортваю кнігу В. І. Стараверава «Сацыяльная структура сельскага насельніцтва СССР на этапе развітога сацыялізма» (М., 1978). Сацыяльнае развіццё вёскі — гэтай падсістэмы савецкага грамадства,— піша аўтар,— адбываецца па сваіх, адносна самастойных заканамернасцях і «яго напрамкі не з'яўляюцца адзінаскіраванымі да параметру сацыяльнага развіцця горада-эталона». Слушна?.. Але ж, я гэта прымаю.

Добра было б, аднак, каб нашы эканамісты былі не урбаністамі, а пайлепей — хоць трошкі — псіхолагамі, сацыёлагамі,— каб шырэй бачылі і разумелі, што і як у жыцці робіцца. Ад іх — і, першым чынам, ад іх! — залежыць стварэнне аб'ектыўных умоў «для мэтанакіраванага ўпраўлення працэсам урбанізацыі з пераадольваннем негатыўных бакоў».

## 21. Светлагорск — Пажыхар — Ведрыч. Клопаты аднаго дня

Мы працягвалі шлях па гомельскім Палессі. Адкрываліся краявіды, знаёмыя мне з дзяцінства. Недзе блізка варушыліся, шумна дыхаючы, гарады Светлагорск і Мазыр, Васілевічы і Калінкавічы. Ладкаваў жыццё край адвечных балот, непраходных раней, цяпер высмяглых.

У канцы пяцідзесятых гадоў, каб абудзіць гэты неруш і надаць яму індустрыяльную сілу, тут, на буйнейшым у рэспубліцы Васілевіцкім радовішчы торфу (у пасёлку Сасновы Бор), паставілі ДРЭС, а непадалёку ад вёскі Шацілкі, на рацэ Бярэзіне, заснавалі горад хімікаў — Светлагорск.

Па разліках геолагаў і эканамістаў, якія прыкідвалі перспектывы, пакладаў торфу павінна было б хапіць на 50 гадоў, а яго амаль увесь спалілі ў прагавітых топках нешта гадоў за пятнаццаць і перавялі печы на газ.

На вялікай прасторы, дзе раней ляжаў торф, адкрыліся воку пяскі: белыя, светла-шэрыя, шэрыя, драбнюсенькія і тонкія, як пыл. Жыцця на іх — ніякага, і хто ведае, калі гэтую пустыню асвояць, пакрыюць ляснной або хоць бы іншай якой-небудзь расліннасцю.

Адпрацаваныя землі чакаюць гаспадара. Дарэчы, па рэспубліцы такіх зямель каля 200 тысяч гектараў.

У Светлагорску робяць штучнае валакно, якое, праходзячы праз розныя спосабы перапрацоўкі, ператвараецца ў віскозны корд, штапельнае палатно, ткацкія і галантарэйныя вырабы.

Багата чаго рабілі ў Светлагорску: кардон, бытавую паперу, жалезабетон, панелі, зборныя дамы, масла, сыр... Толькі хлеб здабываўся па-за межамі горада.

Светлагорскаму гаркому партыі падпарадкоўваўся таксама і раён і, па сведчанні сакратара па ідэалогіі Рымы Андрэеўны Іеўлевай,

гэтакае сумяшчэнне камітэцкіх паўнамоцтваў давала магчымасць хутчэй пераадольваць ведамаснасць у клубнай рабоце і найлепшым чынам выкарыстоўваць багатую матэрыяльную базу горада, Палацы, клубы, бібліятэкі, іх вопыт і сілы, у мэтах далейшага развіцця культуры вёскі. У раёне дзейнічала больш за 60 клубаў па інтарэсах, прычым 26 з іх — у сёлах, а ў клубе кінааматараў, напрыклад, які ўзначальваў інжынер Уладзімір Харкавенка, займаліся адначасова жыхары горада і сяляне.

Рыма Андрэеўна — энергічная і імпульсіўная жанчына. Пры безлічы клопатаў і ўсім тлуме ў рабоце, яна яшчэ ўмела быць назіральнай. На пытанне, як прыжываюцца ў горадзе сельскія хлопцы і дзяўчаты, сакратар адказвала:

— Шкада маладых людзей, якія ад сваіх адарваліся і да нашых не прысталі. Некаторыя разумеюць, што зрабілі глупства. Бо асяроддзе, у якім ты свой і не лішні, вольны і незалежны, таксама варта цаніць!

Пакінуўшы будынак гаркома, мы селі ў прапанаваную нам машыну і выехалі на раён.

Ад Светлагорска асфальт вядзе на Рэчыцу і на Васілевічы. Да Васілевіч — 50 кіламетраў, і якраз на сярэдзіне гэтага шляху, які я помню яшчэ грэбляй, пачалі пракідацца буравыя вышкі нафтавікоў, а неўзабаве з-за дрэў, з-за падлеску выплыў на самы шлях і нафтапромысел. Серабрыстыя чаны, вялізныя ёмістасці, трубы, помпы... Мігаў, выцягваючыся з нешырокай чорнай трубы, кантрольны факел. Гарэў нафтавы газ...

Адгэтуль не было і пяці кіламетраў да вёскі Пажыхар, дзе я нарадзіўся. Невялікая, на паўсотню двароў, яна атабарылася адным пагонам на грудку пясчанай зямлі, што калісь ледзь узвышаўся над бяскрайнім балотам, парослым хмызамі. Цяпер паўкруг было шмат прасторы, палёў, з характэрнай для іх дзярнова-падзолістай, падзоліста-балотнай і пясчанай глебай. Яшчэ нядаўна над вёскай, ускрай сядзіб узвышаліся векавыя дубы.

З гэтай вёскай было звязана маё ранняе

дзяцінства. Потым — адарваны ад яе — я ўжо рэдка сюды прыязджаў і не ведаў многіх яе жыхароў маладзейшага веку.

Мы ішлі па Пажыхары... Іван Апанасавіч варсануў нагой сыпкі пясок, шэры, зольны, са слядамі торфу, спытаўся ў Дайнекі, старшыні калгаса, які суправаджаў нас:

— Колькі атрымліваеце на такой зямлі?

— Збожжа?.. Летась па семнаццаць з гакам узялі.

— Малайцы!

Калгас, у які ўваходзіла мая вёска, насіў імя Чкалава. Анатоль Якаўлевіч Дайнека старшыняваў тут нядаўна. Мужчына якраз у сіле, з выгляду трохі хмурны, але, казалі, добрага нораву чалавек і старанны... Урэшце мы знайшлі сярод маіх землякоў найбольш блізкіх мне. Быў акурат абедзенны час, і Федзя Прымачэнка і Сямён Чырык аказаліся дома. Селі за стол у Чырыка.

І той і другі — дзядзькі — рослыя, плячыстыя. Федзя больш круглы, больш глыбісты. Ён наогул быў падобны на волата. Абодва — механізатары.

Я пацікавіўся ў іх, як жывуць і што маюць.

— Раней лягчэй было, хоць і меней атрымлівалі,— адказаў Прымачэнка і дабрадушна ўсміхнуўся: — Жонка ўжо крыўдзіцца: дома — ні госць, ні гаспадар!

— А што здарылася?

— Другі год, як брыгаду перавялі на падрад. Прападаю ўвесь час у полі.

— А чаму? Што прымушае? — паказаў я сябе нездагадлівым.

— Хочацца акуратна зрабіць... Усё да ладу давесці... Каб нарасло болей!

І зноў тая ж добрая, нібы кепікі з самога сябе, усмешка, што от, нарэшце, і ён стаў гаспадаром калгасных абшараў — узяў зямлю на падрад... І дзіўнае гэта пачуццё рабіла пастрой чалавеку.

«Мае кветы, мая гародніна, мой лён, мая канюшына, мая збажына дарагія мне ў такой ступені, што, калі б мне прапанавалі за маю

капусту ўдвая процi таго, што яна каштуе, абы я дазволiў свiнням свабодна капацца ў маiм агародзе, я не пагадзiўся б на такую здзелку». Запомнiм гэта.

«Агарод» жа Федзi Прымачэнкi цяпер быў адначасова i ягоным i калгасным агародам. Але, па логiцы, па самой прыродзе пачуццяў, што поўнiлi душу механiзатара, я ўчуў падабенства i прыводжу тут паралель з пачуццямi, выказанымi ў свой час А. М. Энгельгартам:

«Калi б мой маёнтак знаходзiўся ў такой мясцовасцi, дзе бываюць манеўры, i мне штогод вытоптвалi б палеткi, то хоць бы за вытаптанае плацiлi ўтрая, я ўсё-такi адцураўся б гаспадаркi».

Вось гэта важна зразумець тым, хто лiчыць, што чалавеку варта плацiць толькi добра, i ён будзе па-гаспадарску працаваць.

Не, не ўсё рублём вымяраецца. Мы забылi пра гэта, калi ад патрыятычных галаслоўных заклiкаў i лозунгаў у працы кiнулiся да рубля, пераходзячы з адной крайнасцi ў другую, i таму сёння гатовы прыняць як не за адкрыццё словы старшынi вядомай у нашым краi гаспадаркi, якi ў гутарцы з карэспандэнтам цэнтральнай газеты сказаў, што летам, калi адусюль прыпякае i наступаюць шалёныя днi, трэба плацiць шалёныя грошы.

Правiльна. Але ж аднабока. Гэта чыста камерсанцкi падыход, i мы, дарэчы, не супраць яго, эканомiка апраўдвае любы ганарар, якi прыносiць прыбытак. «Мы не павiнны цурацца камерцыйнага разлiку...— зазначаў у пару станаўлення сацыялiстычнай гаспадаркi У. I. Ленiн.— Толькi на гэтай аснове камерцыйнага разлiку можна будаваць гаспадарку». А вось што вузка глядзiць старшыня на камерцыю, дык у гэтым на калгасным полi, на ўласным вопыце перакана́ўся ўжо механiзатар з Пажыхара, якому падабаецца яшчэ быць гаспадаром.

Усмешка Федзi Прымачэнкi станавiлася як бы сiмвалам дабрачынных змен у жыццi вёскi. Яна радавала i заставалася мне на ўспамiн у якасцi «сувенiра». А яшчэ заставаўся доўг. Му-

жыкі прасілі пасадзейнічаць ім у будаўніцтве лазні, і я пашкадаваў на той момант, што не было ўжо з намі ні старшыні калгаса, ні сакратара гаркома. Пажыхарцы паказалі месца на ўскрайку вёскі, дзе некалькі гадоў назад пачалі былі закладваць лазню, мураваць сцены, але не закончылі, і цяпер «будоўля» закінута. І месца для яе аказалася не зусім добрае, і «праект»... Куды варта? Калі б закончылі памяшканне, у ім было б той раскошы, не раўнуючы як у сабачай будцы.

Прыгадвалася размова ў гаркоме пра шматлікія клубы па інтарэсах. І падумалася: а хіба лазня менш важная за іншыя клубы?.. Там, у Светлагорску, дбаюць пра культуру вёскі, пра адпаведны настрой і дух чалавека-працаўніка, хлебароба. А хіба лазня не ачаг агульначалавечай бытавой культуры і хіба яна не гоіць цела, а заадно і душу, і не ўздыме ў чалавека настрой?

Дні праз два я размаўляў з Іеўлевай па тэлефоне, і яна пагадзілася, што лазня ў інтарэсах вясковага чалавека займае вельмі значнае месца, і абяцала памагчы маім землякам.

Аднак хіба толькі ў Пажыхары няма прыстойнай лазні? І калі, падумалася мне, сакратар гаркома паможа паставіць яе на Пажыхары, то гэта яшчэ не значыць, што лазні раптам з'явяцца па іншых вёсках — па тысячах і тысячах такіх вёсак, як Пажыхар або нават большых...

Іван Апанасавіч Васільеў пытаўся ў Іеўлевай у Светлагорску:

— Ну а скажыце, калі пачнеце падштурхоўваць кіраўнікоў калектываў да фарміравання густу к побыту, к набыткам культуры?

— Гэта праблема! — прызнавалася Іеўлева.— Па праўдзе кажучы, усе займаюцца тэхналогіяй, полем ды фермамі... Таксама і мы, ідэолагі. Атрымліваецца так: і мы гаспадарчыя, і гаспадарнікі гаспадарчыя! Усе ў адной плоскасці працуем. І таму няма аб'ёму, няма таго прастору, у якім расце, поўніцца, багацее душа. Адсюль, пэўна, і нізкі ўзровень тых, каму належыць быць завадатарамі ў фарміраванні ду-

ху і культурнага занятку людзей. Гэта кадравая праблема, і выращаць яе трэба не толькі ў нашым раёне.

Але калі мы краем свайго клопату зачапіліся за лазні, у мяне, прызнаюся шчыра, не было жадання апраўдваць каго-небудзь за іх адсутнасць на сяле. Па-мойму, пытанне з лазнямі даўно трэба было «закрыць», і там, дзе яно «адкрыта», няможна гаварыць аб сацыяльнай сталасці і культуры кіраўніка. З горыччу падумалася, што такім старшыням і дырэктарам ужо не лекцыі па перабудове трэба чытаць. Задачу, на мой погляд, льга прасцей і да таго ж эфектыўней вырашаць. Сабраць гэтых нядбайнікаў разам, на своеасаблівы «актыў» пры ўзорнай лазні і зрабіць ім прапарку з ужываннем калядных розаг, каб свярбела доўга!

А без «лазні» ім актыў ужо не паможа.

Ішоў падлесак і лес. Абступалі дарогу бярозы, елкі ды хвойнікі. Раслі яны на пясчаных грудках і ўзбалотках... Лес, торф, падземная нафта, супясчаная глеба, пясок... Вось і ўсё наша багацце тут, на шляху «з варагаў у грэкі». Далей трохі — яшчэ каменныя солі. Далей — яшчэ многа чаго ёсць... А пад Васілевічамі — усё, што бачыш. Нафту знайшлі ў 1964 годзе. Цяпер два промыслы: пад Капараўкай і каля Пажыхара. Качаюць паціху; яе век нядоўгі. Лес тралююць таксама. Выбіраюць, дзе засталіся, паклады торфу.

Чалавеку наканавана наперад спажываць.

Чалавек спажывае...

Адно толькі спажывецкія настроі чалавека ў наш час вельмі трывожаць. І тут прыгадвалася размова з Паповым, яго клопат пра торф, ваду, рэчкі...

Машына ўжо імчала па Рэчыцкім раёне.

Пад Васілевічамі на балотных абсягах раскінулася гаспадарка племзавода «Ведрыч». Каля трох тысяч гектараў угоддзяў, з іх — 2502 гектары падплужных, усё тарфянікі. Спецыялізуецца саўгас на вырошчванні племянных цёлак стракатa-чорнай пароды і на вырошчванні коней пароды «беларускі запражны».

Даўно ўжо, ад самай вайны, саўгас славіцца працавітымі людзьмі і буйным коласам, буракамі — як вымя ў добрай каровы, бульбаю, што прасілася на выстаўку, надзвычай сакавітаю морквай... І сапраўды ўсё гэта, разам з племянной жывёлай, выстаўлялася ў Васілевічах, калі яны яшчэ былі раённым цэнтрам, а таксама ў Маскве, на ВДНГ.

Усе гады гаспадарку ўзначальвалі талковыя людзі, і цяпер кіраваў ёй Леанід Іванавіч Глытаў, спецыяліст па жывёлагадоўлі, кандыдат сельскагаспадарчых навук.

Толькі ж і тут назіраўся разрыў у логіцы гаспадарання. Практыка дэфармавалася.

Штогод племзаводу даводзіцца займаць на тарфяніках 850 гектараў прапашнымі культурамі. А што гэта значыць для тарфяных палеткаў? Навука падказвае, што за лета пласт торфу танчэе ў такой вось паслядоўнасці: пры вырошчванні шматгадовых траў — на 9, збожжа — на 13—16, бульбы і буракоў — не меней чым на 22 міліметры.

У 1970 годзе Міністэрства сельскай гаспадаркі рэспублікі нагадала спецыялістам сваіх ніжэйшых звенняў пра гэтую заканамернасць і патрабавала выкарыстоўваць чорную ніву больш ашчадна, засяваць травамі як мага больш, як дазваляе севазварот і гаспадарніцкая кемлівасць. І, безумоўна, гэта мела нейкі ўплыў, але не скрозь і не на ўсіх, аб чым сведчыла і гэтая перадавая гаспадарка.

У Беларусі на сённяшні дзень 2,3 мільёна гектараў тарфянікаў, прыдатных для земляробства, прычым палавіна з іх мае покрыва таўшчынёю не больш за метр, і пры такім карыстанні, як у «Ведрычы», карміць яны нас будуць не доўга. Торф разбураецца...

А Глытаў... Каб жа не разумеў ён гэтага! Разумее і нават асуджае структуру пасеваў у сваёй гаспадарцы, і словы, якія ён ужывае пры гэтым, маюць густую эмацыянальную афарбоўку. От што ён даводзіў нам у прысутнасці сакратара парткома Аляксандра Васільевіча Брэля:

— За год з гектара прапашных выдзімаецца і выносіцца іншымі спосабамі 70 тон торфу. Гэта значыць саўгас кожнага лета страчвае па 60 тысяч тон пароды, якая практычна ўжо не аднаўляецца. І ніхто нам яе не верне назад! Нашы тарфянікі асушаны 30 год назад, і ўжо цяпер мы адчулі, што знізілася іх урадлівасць, усё часцей на паверхню выходзіць пясок — пачынаем уносіць гной з фермаў.

— У гэтым годзе,— дадае Брэль,— вясна выдалася сухая, без паводкі, без дажджоў, і ветрам у кватэры надзьмула на палец чорнага пылу. Насенне яравых ляжала на ніве голае.

— Працуем па прынцыпу: абы больш сёння! Не думаем, што пакінем сваім дзецям і нашчадкам наогул,— даводзіў зусім слушна Глытаў, і мне тады прыгадвалася гаворка з Лянкевічам у Мышкавічах, хоць закіды там і рабіліся ў бок празмернай хімізацыі...

— На тарфяніках павінна быць свая сістэма земляробства! Свая, і мы яе можам укараніць без страт для гаспадаркі, для канчатковых вынікаў, якія мы атрымліваем сёння. Наадварот, гэта можа абярнуцца дадатковым прыбыткам!

Нам падабалася гарачлівасць дырэктара, аднак яго ўзрушанасць была падобная на буру ў шклянцы вады, і, слухаючы Глытава, Васільеў усміхаўся. Я сказаў:

— Леанід Іванавіч, вы чалавек вучоны, не гаворачы ўжо пра тое, што кіруеце такой самавітай гаспадаркай. Няўжо вы не можаце зрабіць так, як вам ваша сумленне падказвае?

— Не дадзена!

Брэль расшыфраваў:

— Структура пасеваў нам вызначаецца...— паказаў жэстам кудысьці за спіну.

І невядома было: ці то дакараць, ці то шкадаваць гэтых людзей?

Адыдзем ад факта. Статыстыка сведчыць, што найлепшых дасягненняў у жывёлагадоўлі дасягнулі тыя заходнія краіны і тыя нашы брацкія рэспублікі, якія пайшлі па шляху ска-

рачэння пасеваў прапашных культур, бульбы і збожжа,— дый не толькі на тарфяніках!

У Эстоніі, напрыклад, на пачатку васьмідзесятых гадоў на долю збажыны прыпадала 46 працэнтаў ворыўнай зямлі, у Беларусі — 50, а на долю бульбы адпаведна — 7,5 і 12 працэнтаў. Затое адваротныя суадносіны па травах: Эстонія — 42, Беларусь — 25 працэнтаў!

Па сведчанні той жа статыстыкі і вучоных, самая танная кармавая адзінка — з травы. Натуральна. Травы найменш працаёмкія і найбольш чуйныя да ўгнаенняў.

Значыць, сваёй, адпаведнай сістэмы земляробства вымагаюць тарфянікі не па адной прычыне хуткага распаду і выветрывання. Травасеянне — рэч ва ўсіх адносінах выгадная. Па каштоўнасці для жывёлы з травамі нават кукуруза не можа спрачацца.

## 22. Расхейдус і яго праявы. У гасцях у Сяргея Ларкова

У Васілевічах мы спыніліся ў маёй сястры Ліды. Яна старэйшая ад мяне і лічылася ў сваім асяроддзі добрай гаспадыняй. Я ж заўважаў за ёю ў сям'і яшчэ здольнасці ўмелай і тактоўнай выхавацелькі, прычым у сродках яе выхаваўчага метаду важнае месца займала праца, да якой яна прывучыла ўсіх трох сыноў змалку. Дзеці ўмелі і карову падаіць, і дагледзець свінчо, і выкапаць бульбіну на агародзе або згрэбці сена на сенажаці. Не баяліся хлопцы аніякай работы, і таму цяпер яна магла толькі ганарыцца сынамі, двое з якіх адышлі, ажаніўшыся, атабарыліся ў іншых гарадах, а трэці — Валодзя — жыў пакуль дома, разам з бацькамі, працаваў, як бацька, шафёрам ды падбіраў цішком назіркам сярод прыгажунь сабе нявесту.

Гэта ўжо — сям'я Лаўшука Сцяпана...

Ліда абрадавалася нечаканым гасцям, усміхалася, расказвала пра сваё жыццё-быццё і старалася дагадзіць, каб мы найлепей адпачылі з дарогі.

Пасля абеду Іван Апанасавіч прылёг на ложку ў ціхім пакоі, але не спаў. Я таксама ляжаў на канапе ля другой сцяны, і мы час ад часу перакідваліся словамі. Ён, здавалася мне, усё перабіраў у галаве думкі, якія нябачна ткаліся з нашых уражанняў; потым сеў і пачаў запісваць.

Яшчэ ў Мінску ва ўжытак нам неяк трапілася слова: расхейдус...

Яно, відавочна, належала да ліку паланізмаў... «Ва ўсім, што ў нашым жыцці дрэннага, павінен р а с х е й д у с»,— тлумачыў нам адзін паважаны літаратар.

Гэты «расхейдус» быў накшталт змея з сямю галовамі і мог пралезці, пранікнуць у любы куток, дзе чалавек чыніў свае чалавечыя справы і жыў клопатамі пра зямлю. Асабліва ж любіў ён канторы і часам, асталяваўшыся, не вылазіў адтуль — расшчапляў грамадскія і асабістыя інтарэсы... І гэтае расшчапленне, на жаль, рабілася з'явай. У народзе, між іншым, яна даўно заўважана, бо сказана ж некім: ад слова да справы сто перагонаў! А перагоны былі яшчэ да вынаходства рухавіка...

Хваробы чалавечыя разам з чалавекам плодзяцца, і гэтак, можа, заўсёды было. Варта толькі ўтварыцца адпаведным умовам, каб тыя ці іншыя мікробы пачалі варушыцца, атручваючы і губячы сабой арганізм.

А ці не атрымліваецца штосьці падобнае і з рознымі заганамі людскімі ў грамадзе, у грамадстве?..

Заганы дрэмлюць усярэдзіне гэтага вялізнага арганізма да пары, да часу. А потым множацца па тыпу віруса. Тут і сквапнасць, і рэчаманства, і мана ў розных відах і формах, і лакіроўка ў якасці касметычных мер, і ўсялякія бюракратычныя штучкі.

Расхейдус набывае маштабы, якія нават уявіць сабе цяжка.

Але ж у паласе п е р а г о н а ў ад слова да справы, дзе пануе расхейдус, сёння, як ніколі раней, узнікаюць і напаляюцца страсці. Мы з Васільевым пераконваліся ў гэтым не раз, пра-

даўжаючы сваё падарожжа. Праяўленне страсцей у такім выпадку — не што іншае, як імкненне супрацьпаставіць сябе хваробе, звесці слова са справай, і падобны бунт душы ў селяніне нам трэба ўхваляць і ўсяляк падтрымліваць, бо там, дзе ён сціхае, грамадскае жыццё ідзе на спад, і Сялянскі Акіян месцамі можа страціць сваю жыццяздольнасць.

— Васіль,— паклікаў мяне Іван Апанасавіч.— Ты ведаеш, якая думка пасля дзённага сну прыйшла да мяне? Дык вось... Чаму атрымліваецца расхейдус?.. Начальнік, які сядзіць вышэй, лічыць, што жаданае ўжо дасягнута, што яно існуе і адпавядае ідэалам. Ён спакойны... А той, хто, напрыклад, камандуе на месцы, лічыць камандны стыль законам сацыялізма. Ніжэй — усялякія там фармалісты, падзёншчыкі і гультаі — лічаць сваю прысутнасць на рабоце — работай, і яны ж разам з рознымі разгільдзяямі, пустадомкамі, хапугамі лічаць расхлябанасць за тое, што павінен быў даць ім сацыялізм. Усё гэта ўвайшло ў звычку. Цяпер паспрабуй дакажы, што гэта не так!

— Гм... Тлумачэнне,— сказаў я,— цікавае. Але ж у ім ёсць слабое месца.

— Якое?

— Цяжка дапусціць, каб начальнік, які сядзіць вышэй, не ведаў жыцця глыбінкі.

— Ты так думаеш?

— У гэтым пераконваешся, чытаючы хоць бы некаторыя дакументы. Вазьміце апошнія пастановы па далейшым паляпшэнні выхаваўчай работы. Бачанне пільнае — на ўсю глыбіню!

— Тады ў чым жа справа? Як ты думаеш?

— Я думаю, на гэта нам адказаў дырэктар Глытаў. Адным днём жывём. Наш дэвіз: абы больш сёння!

— М-да...

Вечарам я павёў Івана Апанасавіча на другую вуліцу непадалёку — у госці да Сяргея Ларкова, які працаваў у мясцовай гаспадарцы «Сцяг Перамогі». Саўгас гэты некалі быў ні-

штаватым калгасам, у ім і я шчыраваў на канікулах.

Для саўгаса «Сцяг Перамогі» ў апошнія гады асушылі ладны кавалак маканавіцкіх балот, і гаспадарка пашырэла; на такім плацдарме варта было чакаць ад яе новага развароту. Ды ўсё штосьці ў яе механізме скрыпела, скрыпела, бы ў новым, толькі што атрыманым камбайне, і ход замаруджваўся. Кіраўнікі саўгаса часта мяняліся, а зрухаў у гаспадарцы амаль не было. Асабліва не таланіла чамусьці з жывёлагадоўляй. Пабудавалі вялізны комплекс, толькі будаўнікі, карыстаючыся падтрымкай уплывовых асоб, прымусілі кіраўніцтва саўгаса прыняць яго з мноствам недаробак. Не паспелі выправіць справы тут, як на другой буйной ферме механізацыя перастала дзейнічаць. І от такая паласа няўдач.

Сяргей Піліпавіч працаваў безадказна, куды пашлюць,— у паляводстве, на фермах. Чалавек трывалай сялянскай натуры і добрага нораву, ён звычайна радаваў мяне заўзятасцю ў працы. І неяк так атрымлівалася, што, валодаючы прафесійнымі сакрэтамі (а трактарысту як жа без іх?!), ён араў лепей, чым аралі таварышы поруч, рабіў болей за іх. Напэўна, у тое, што рабіў, Сяргей Піліпавіч укладваў штосьці сваё, чыста ларкоўскае — такія імпульсы, якія гарантавалі яму поспех і добрую славу.

Ларкоў ведаў, што ад працы ягонай залежыць не толькі заробак, але і прыбытак саўгаса і дбаў пра яго, як маці, бывала, саджаючы ў печ хлеб, дбала аб прыпёку. Па два тэрміны служыў яму трактар — без капітальнага рамонту!

Таварыскі, або, як кажуць, кампанейскі, ён скрозь, дзе людзі. Любіў слова не простае, а з падтэкстам, за якім, як правіла, хаваўся гумар, дасціпны жарт. Удала іграў на баяне або простай хромцы, напяваў; з ім было прыемна і хораша ўсім.

Сяргей Ларкоў — чалавек з паняццем. Таму і дамок адштукаваў — вока радуецца! Садок пры ім, агарод — усё як мае быць. Свая гас-

падарка... А жонка Юлія Арцёмаўна, бадай, не ўступала яму ні ў шчырасці, ні ў шчодрасці душы. Трое дзяцей... Дык жылі і жывуць яны, казаў,— лепей не трэба — усё ёсць, і дадаваў, для форсу пэўна: нават чорная ікра... Гэта ўжо, каб злавіць на ікру дурня! Сам ён вышэй за ўсё цаніў не раскошу, а добрыя чалавечыя адносіны і стваральную працу, лад у сям'і і на ферме.

Юлія Арцёмаўна рабіла прадаўшчыцай. Адна яна аднаго не магла цярпець: як толькі сусед або які госць у хату — Сяргей на свой «канёк», гэта значыць пра трактар, і ўжо няма ў яго цікавейшай гаворкі! А божачкі: ну і надакучыў з гэтым трактарам!..

Дармо, і Юлі (яе часцей так завуць) няма на што наракаць. Свайго Ларкова яна разумее. Але часам находзіць... Хоць бы дома без трактара жыць!

Гаспадар стрэў нас на невялікім, чыстым і ўтульным падворку. Добра складзены, з уважлівым позіркам блакітных вачэй, паважны ў рухах, спрактыкаваны ў мове:

— Для гасцей і вароты насцеж!

Мы прайшлі ў хату. У першым ад веранды пакоі стаяла зграбная і прыгожая руская печ, з трох бакоў і на чарэні абкладзеная светлаю кафляю. У тае печы сёння ўжо была і памочніца — газавая пліта, пастаўленая на верандзе... Амаль упоравень з печчу, але далей ад яе стаяў халадзільнік, асобна — пральная машына. Умывальнік у кухонным кутку меў сваё забеспячэнне — ваду з крана і трубны адвод. Тое ж было і ў ваннай, якая мела асобны ўваход з веранды; там для нагрэву вады стаяў «кацялок» — выцягнуты ў калонку тытан... Кожная рэч у гэтым доме дыхала сваёй самавітасцю, была патрэбнай і зручнай. У прынцыпе, усё гэта даступна для кожнае хаты, для кожнае вёскі.

— Як справы?..

— У двары — добра, а ў саўгасе — таксама нішто,— адказаў Ларкоў.— У сельскім жыцці ўсё-такі ідзе да лепшага.

Я нагадаў, што Васілевічы — горад і што не ўсе, як ён, працуюць на сельскай ніве...

— Э-э не! Тут больш магчымасцей пацешыць душу. Работа разнастайная, адну закончыш — пачнеш другую. У полі — свая воля!

— От зноў ты пачнеш пра поле,— заўважыла Юля, жонка, яна збірала на стол вячэру, у яе голасе быў журлівы дакор: — Ой, людцы, як надакучыў ён мне з гэтай работай!

Я ведаў, што Юлі, уласна, не сама Сяргеева работа на трактары не падабалася, а толькі частыя размовы пра яе. Ды Сяргей не зважаў на жаночыя кпіны...

— Вы знаеце,— казаў ён Васільеву,— некаторыя дурні цураюцца зямлі, шукаюць ласкі ў горадзе. А жыццё ў нас прыгожае, і я, спадзяюся, дажыву да таго часу, калі пабягуць назад з вялікага горада ў маленькую вёску. Пытанне яшчэ, ці прымем мы іх назад?! Вёска гультая не любіць. Нам бы толькі больш справядлівасці...

Не першы раз я страчаўся з Ларковым і ведаў пра яго ўдаўнелую скаргу на бухгалтарскі свавольны разлік у саўгасе, на ўраўнілаўку...

— От прывяду прыклад,— прапанаваў Сяргей Піліпавіч: — Роўна месяц я працаваў на рэзцы сцірт саломы сціртарэзам. Даючы нарад, пазнаёмілі з нормай: 234 квадратныя метры ў змену... З часам я не лічыўся і пастаянна перавыконваў норму. Згодна з фактычна выкананай работай, мне павінны былі налічыць 300 рублёў. Пайшоў атрымліваць — дудкі! Аплацілі пачасова, прычым з таго разліку, што я працаваў па восем гадзін... Потым перагледзелі ўжо і норму.

— Дзіва што... Такая свістапляска з нормамі атрымліваецца скрозь пры нараднай сістэме арганізацыі працы,— зазначыў Іван Апанасавіч.— Адміністрацыя падрывае гэтым веру рабочых у справядлівасць і псуе настрой.

— Тут дзейнічае прынцып, пра які гаварыў нам Глытаў,— нагадаў я: — Абы больш сёння! У дадзеным выпадку — сэканоміць на зарплаце! А заўтра гэтая ж эканомія абернецца выдаткамі, і маральнымі, і матэрыяльнымі.

— У нас яшчэ такое бянтэжыць рабочага

чалавека,— працягваў Ларкоў.— Мы маем карову, і суседзі на вуліцы маюць кароў... Ганяем іх пасвіць па чарзе. Калі мая чарга, адпрошваюся ў саўгасе — адпускаюць, але ў табелі робяць прочырк, які азначае тое самае, што і прагул. Ідзеш у адпачынак — з цябе тыя дні вылічваюць... А вось калі старшыня прафкома, які, як і я, жыве з зямлі, пагоніць кароў — яму ў табелі ставіцца рабочы дзень! Чаму?

— Ну, гэта ўжо свавольства — не меншае, чым з нормамі! — выказаў сваё меркаванне Васільеў.— Гэта месніцтва, якое ідзе ад нораву начальства і ні ад чога болей.

— Мы ж сёння не сляпыя і не дурні, каб нейкі Грак нас мог у лапці абуць! Ёсць прынцыпы...

Ларкоў назваў Грака, які меў непасрэднае дачыненне да бухгалтэрыі. На мой погляд, ён і муціў ваду ў калектыве на працягу многіх гадоў. На яго мне скардзіўся аднойчы і ветэран працы конюх дзядзька Яра... Мала хто ведаў, што гэтага рухавага і лёгкага на жарт, на выдумку чалавека папраўдзе завуць Архіпам... Архіпам Іванавічам... Ён быў паважаным грамадзянінам горада, і яго амаль усе ведалі і звалі дзядзькам Ярам або яшчэ Казлом, бо гэта ўжо было яго прозвішча (трохі няўдалае, праўда, і, адчуўшы гэта, дзеці дзядзькі Яры пачалі мяняць у ім націск). Сам Архіп Іванавіч аб прозвішчы сваім мала клапаціўся — звекаваў з ім, дый ведаў, што не яно ўпрыгожвае чалавека.

Дык от і дзядзьку Яру пакрыўдзілі: перасталі выдаваць рабочую вопратку як жывёлаводу, абдзялілі гумавымі ботамі... І ён здагадваўся, што таму прычынай. Не дагадзіў Граку гэтай вясной — адмовіўся выканаць на ягоным агародзе нейкую там работу, якую выконваў раней. Сказаў, што пастарэў ужо і не здолее. Грака заела...

І, слухаючы Ларкова, я з жалем думаў: а ці мала ў нас яшчэ па канторах от такіх Гракоў, вакол якіх заломваецца і бэсціцца наша гаспадарчая і наша сацыяльна-выхаваўчая паліты-

ка? Як вынік — расхейдус, пра якi мы толькi што гаварылi.

За сталом Іван Апанасавiч маўчаў нейкi момант, няйначай, яго настрой быў таксама азмрочаны дзеяннямi Грака. Потым ён зноў ажывiўся — у гэтай хаце няможна было сумаваць.

— Кажуць от, калi б больш людзей у саўгасе,— разважаў Ларкоў,— працу ў полi можна было б у дзве змены арганiзаваць! Можна, канечне...

— Дзе-нiдзе гэта робiцца,— кiўнуў Васiльеў.

— А калi я не захачу? Можа, мне будзе мулка паўдня адпачываць, калi там акурат гарачая работа.

Васiльеву гэтакi паварот у гутарцы з саўгасным механiзатарам спадабаўся.

— А вас нiхто няволiць не будзе!

— Во! Тут павiнна быць так: хто на што здольны! Сяўба, касавiца, жнiво, уборка лёну, буракоў, бульбы, нарэшце ворыва — працуй колькi змогi, з поўнаю выкладкай, пакуль праца радасць прыносiць. Вы згодны са мной?.. Так... Распачынаецца лета. Ты працуеш са зменшчыкам? Добра! Я працую адзiн... Дазваляеце? Так... Я люблю шчырую i чыстую работу, каб падабалася яна i мне самому, i зямлi! Я працую, сонца бачыць — як i колькi...

— А канцылярыя запiсвае,— падказаў я.

— Не ўсё, як трэба пакуль што, але павiнна запiсваць!

— І што ж далей?

Сяргей Пiлiпавiч, перш чым адказаць, рассунуў талеркi, i на вызваленае месца Юля паставiла мiску з тварагом.

— Я працую такiм чынам усё лета. Але мне таксама крыўдна хадзiць у дурнях. Чаму?.. Глядзiце,— тлумачыў ён, жэстыкулюючы,— той, хто працаваў па восем гадзiн, i той, хто па дванаццаць або шаснаццаць, атрымлiваюць аднолькавы водпуск. Нехта здалёку, з горада перанёс сюды, на зямлю, меркi на адпачынак.

— Вы гэта падмецiлi правiльна,— зазначыў

Васільеў.— І нарадная сістэма з завода пайшла, і нормы выпрацоўкі, зарплата...

— Я, каб быў міністрам,— у вачах Ларкова час ад часу з'яўлялася дасціпная ўсмешка,— я зрабіў бы для селяніна, які летам не лічыцца з часам, больш працяглы адпачынак зімою. Гэта было б справядліва?

— Пэўна!

— Можа, хоць тады я кнігу прачытаў бы або з'ездзіў бы куды на экскурсію, як мая дачка. І хату больш дагледзеў бы...

— Вы сто разоў маеце рацыю, Сяргей Піліпавіч! Прэстыжней сталі б і праца, і само жыццё вяскоўца.

Ларкоў узяў у руку акраец хлеба:

— Вось ён, цар, які павінен вызначаць для нас статут і ўстанаўліваць парадкі! А ці то парадак, калі я, земляроб, каб выкарміць парсюка, павінен купляць для яго хлеб у магазіне?

— І тут расхейдус,— кіўнуў я Васільеву.

Юля не вытрымала:

— Ой, хопіць вам пра ўсё гэтае... Бытта ад вашай размовы што зменіцца!

— А чаму і не?

— Міністр! Вунь запрашай гасцей ды па чарцы налі.

Іван Апанасавіч ад чаркі адмовіўся. На гэтым доўгім шляху, у які мы пусціліся, людская гасціннасць для нас была адным з найбольш моцных выпрабаванняў. Пра гэта трэба шчыра сказаць. Беларускі чалавек прыязны, гасцінны.

Адно размова павярнула ўжо ў бок застолля. Госць-пскавічанін, або скабар, як часам ён сябе называе, прыгадаў выпадак. Неяк, у пяцідзесятыя гады, яму выпала разам з выхаванцамі дзіцячага дома, які ён тады ўзначальваў, трапіць экскурсійным маршрутам пад Маладзечна. І от у адной вёсцы запрасілі яго на пачостку. Застолле ж было ладнае і парадак адменны. Паселі, гаспадар наліў сабе чарку — выпіў і перадаў бутэльку са шкляпкай другому. Той паліў сабе, выпіў і далей перадаў. Кожны наліваў сабе сам, прычым ніхто з прысутных не

звяртаў увагі, прынамсі, не засяроджваў яе на тым, колькі хто нальe, ніхто не прымушаў нікога піць.

— Мне вельмі імпанавалі тыя людзі з іх звычаем,— казаў далей Іван Апанасавіч.— У тым застоллі ішла простая і шчырая гаворка пра жыццё, дзеля чаго яны і сабраліся... А ў нас цяпер часам збяруцца — слова добрага не пачуеш! І адзін насядае на другога: выпі... выпі!.. Нібы ласку ён таму робіць, ратуе ад якойсьці хваробы! А падумаць, дык усё тут пастаўлена з ног на галаву.

Цікава, што ў найбольш неспрыяльныя і цяжкія часы жыцця ў народзе пачувалася нейкая мера ва ўжыванні спіртнога. Людзі, здаецца, глядзелі не столькі ў бутэльку, колькі далей, за яе...

То чаму ж тыя найлепшыя традыцыі — умеранасць, стрыманасць, абачлівасць — не знайшлі ў апошнія гады свайго працягу? Альбо яны не адпавядалі ўжо ўмовам заможнага жыцця, якое пэўным чынам займеў чалавек?

А ўрэшце — пакінем пытанні для гаспадароў, што чакаюць гасцей, і філосафаў, якія павінны ўсё ведаць.

Адно толькі ў інтарэсах грамадства мець адказы на любыя пытанні, нават калі яны вас... мяне... або яшчэ каго-небудзь бянтэжаць.

## 23. Мастацтва жыць з прыродай. Ляснічы Рыгор Бондар і аграном Іван Данілевіч

Ёсць нямала рэчаў і з'яў, якія мы штодня назіраем і нават карыстаемся імі, але не ведаем дакладна іх сутнасці. Па прыкладзе, як кажуць, далёка хадзіць не трэба. Электрычнасць — што яна такое? Або гравітацыйнае поле зямлі, не гаворачы ўжо пра біяполе... Ламаем галаву нават над сваёй чалавечай сутнасцю, прыродай сваіх схільнасцей і эмоцый.

Хто такія энтузіясты?

Нехта здзівіцца: што за пытанне! Падумаеш...

Усе больш-менш ведаюць, што гэта апантаныя нейкія ідэяй або справай людзі. Дзівакі гэта, скажа сённяшні абывацель. Зрэшты, і ўчарашні сказаў бы гэтаксама.

Аднак хто адкажа, чаму яны т а к і я, а не такія, як усе астатнія людзі? Ці то ў іх крыві больш нейкіх рухавых часцінак? Ці ў галаве такая праграма закладзена: каб наводзіць масты паміж сённяшнім днём і будучыняй? А мо глыбей прычына — у генах?..

У кожным разе мы тут маем справу з прыродай характару. А ў чым яна? Бог яго ведае. Не дайшлі мы розумам яшчэ да ўсялякіх тонкасцей, хоць і напладзілі навук цэлую процьму. І навукам патрэбны людзі няўрымслівыя.

Нельга сказаць толькі, каб тыя гады жыцця былі дужа спрыяльныя для з'яўлення і дзейнасці энтузіястаў, прарабаў духу, рыцараў ідэі. Пра ўсё гэта мы ведаем. І тым больш цана сённяшнім энтузіястам, дзе яны ёсць. Побач з імі жыццё не застойваецца і не сыходзіць са спіралі на круг.

Чвэртку стагоддзя вывучае перападзістыя ваколіцы Мазыра лесавод Рыгор Елісеевіч Бондар. На дзесятках і сотнях гектараў няўдобіцы раскінуліся новыя лесапасадкі. І тут, на Мазырскай градзе, упершыню ў рэспубліцы прыменены метад тэрасавых насаджэнняў дрэў, кустоў, пераважна акацыі, што дазволіла замацаваць спады многіх яроў і цяснін у межах горада, у яго ваколіцах... Рыгор Елісеевіч знайшоў, дарэчы, што адна з вялікіх западзін сваімі неардынарнымі кліматычнымі ўмовамі вельмі блізка стаіць да прыродных умоў Крыма. І яе, не доўга думаючы, выкарысталі як парнік. Цяпер там на цэлым гектары выдатна выспявае вінаград «ізабэла».

Бондар займае пасаду дырэктара Мазырскага лясгаса, ужо не першы год, і пра тое, што ён за чалавек, магла б расказаць крынічка ў глухім кутку лесу, калі б мы ўмелі яе паслухаць і зразумець.

Аднойчы Рыгор Елісеевіч спыніўся перад ёй і ў захапленні глядзеў, як яна бруіцца. Ляснік не заўважаў яе раней, хоць мясціна была яму знаёмая. Радасць і пяшчота запоўнілі грудзі. На сэрцы ў яго, пэўна, было б тое ж, калі б пад руку раптам торкнулася ласянё. Што рабіў бы ён з ім? Вядома, пагладзіў бы блазноту ды адпусціў на волю... А тут чалавек пра штосьці думаў — надумаў нарэшце і, засяроджаны, пайшоў ад яе.

Праз некалькі дзён ён вярнуўся сюды, ды ўжо не адзін, а з таварышамі. Яны прыкацілі і насадзілі на крынічку груватае бетоннае кальцо: вось табе, любая, у падарунак ад чалавека моцныя сцены! Варушыся пад аховай іх...

Толькі Бондару і таго падалося мала: яму рупіла вымасціць подступы да крынічкі. І леснікі па яго прапанове неўзабаве засыпалі балацявіну каменным друзам, паднялі грунт. Пры гэтым меркавалася, што вада сабе шчыліну знойдзе...

І як жа дзівіўся Рыгор Елісеевіч Бондар, калі, трапіўшы сюды праз некалькі тыдняў, не знайшоў у бетонным вобадзе варушлівай крынічкі — не ўпадабала нябога мураваны палац!

І пакутаваў чалавек, адчуваючы віну сваю, аж пакуль не заўважыў, што крынічка прабілася ў новым месцы, дзе не было друзу.

Вось які ўрок атрымаў ён у лесе...

Бондар даўно, з малых гадоў сваіх пачаў думаць і дбаць пра тое, каб упрыгожыць зямлю, каб зрабіць яе больш утульнай, і прываблівай, і жыццядайнай. Дбаў, шукаў і марыў, а гэта ўжо не мала. Гэта — найпершае, што адрознівае творчага чалавека ад выканаўцы. Марылі і шукалі Драгун і Валадзько, Папоў і Старавойтаў... Што характэрна, творца ніколі не спыняецца на дасягнутым, і яго не трэба штодня ў перадавікі заклікаць, у стаханаўцы, наадварот, ён сваім прыкладам захапляе іншых, робіць уплыў на іх. От чым цэнныя творцы! Выхоўвайце ж іх! І не словамі — усёй сістэмай сацыяльных адносін!

Бондар пядаўна даводзіў кіраўніцтву раёна,

напрыклад, што пад горадам, які ўсё расце і мае буйныя прамысловыя прадпрыемствы (сярод іх — заводы па перапрацоўцы нафты і мясцовай каменнай солі), неабходна стварыць вялікую лесапаркавую — буферную — зону, якая б стала паратункам тым лясам, дзе цяпер адпачываюць гараджане, наносячы ім шкоду. Толькі сёння гэтая праблема наспела, не ў адным Мазыры...

Пры сустрэчы з намі, літаратарамі, Рыгор Елісеевіч горача гаварыў пра тое, што для аховы экалагічнага асяроддзя ў нашай рэспубліцы і шырэй — у краіне патрэбен закон, які абмяжоўваў бы дзеянні чалавека ў лесе. Бондар, мусіць, меў рацыю. Мне ж прыгадалася размова пра лес у Расонах...

Мы з Васільевым прыйшлі ў Дом культуры на нейкую там урачыстасць, і ў фае да нас падышла маладая і ярка апранутая асоба. Яна была ў новенькай леснікоўскай форме — цёмна-сінім касцюме, з залатымі дубовымі лісточкамі ў каўняры. Назвалася: ляснічая Ніна Фёдараўна Прысмакова і, хвалюючыся, загаварыла пра лес. Яна папрасіла ў нас парады і, калі хочаце, заступніцтва. Справа ў тым, казала, што ў расонскія лясы з поўначы, з вялікіх гарадоў, панадзіліся аўтатурысты — процьма, не злічыць! Калечаць дрэвы, палююць на ўсё, без чаго лес глухім робіцца, раскладваюць вогнішчы, вытоптваюць на ўзмежках раллю і пакідаюць пасля сябе мноства бляшанак, бітага шкла, смецця... Расонскі лясгас не мае сіл і адпаведных правоў, каб змагацца з гэтым разгулам дзікунства.

Мы не ведалі, як памагчы маладой і натхнёнай у сваёй справе лясцічай, я адно запісаў у блакнот яе прозвішча. А праблема наспявала паўсюдна.

Бондар апавядаў нам пра планы і работу, якая мела не столькі гаспадарчае, колькі сацыяльнае, духоўнае, культурнае значэнне. Мазырскі лясгас прапануе калгасам і саўгасам абгароджваць двары, фермы, вуліцы не плотам, а зялёным кустоўем ды белай акацыяй; для гэ-

тага ўжо створана аднаведная база — гадавальнік.

Мазырскі лясгас прапануе гаспадарам раёна прыгожыя кветкі, насенне, расаду — для градак і клумбаў, палісаднікаў і газонаў. У прыгарадным калгасе «Радзіма», напрыклад, ужо цяпер усе фермы ў кветках...

— У нас пакуль не ўсе яшчэ разумеюць, што такое кветка,— даводзіў нам Бондар.— З кветкай у сялянскі двор ідзе прыгажосць. Пра кветкі думаюць, калі дбаюць пра настрой і душу чалавека.

Натура ў Бондара, відаць, мае штосьці ад вечнага рухавіка, які чалавецтва яшчэ павінна б вынайсці. Яна, натура, не дазваляе яму спыняцца і чакаць гатовых, няхай сабе і добрых распараджэнняў. Не, ён там, дзе апантаныя творчасцю людзі прабіваюць пуцявіну наперад.

Кветкі Бондара — яркае мастацкае ўвасабленне подыху часу.

— У нашым Мазырскім раёне,— гаварыў ён,— самы багаты ў Беларусі дэндрарый, і мы свае пустэльныя яры, якія не перастаюць уражваць сваімі памерамі, глыбінёй нават старажылаў, зробім заказнікамі. У іх прыжывуцца расліны, занесеныя ў Чырвоную кнігу.

Клопаты... Справы... Задумы... І радавала: чалавек, якому ўсё гэта рупіць, у росквіце творчых сіл.

Акурат у гэтым жа плане, маючы паглыбленае гаспадарча-экалагічнае мысленне, як і Бондар і Папоў, працавала праўленне калгаса «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна, у прыватнасці энтузіяст і даследчык усялякай земляробчай навізны Іван Мікалаевіч Данілевіч, галоўны аграном гаспадаркі.

Там, у Моталі, як мала дзе, удала спалучаецца традыцыйнае, спадчыннае ў земляробстве з новым, сучасным і хораша, яскрава выяўляецца ў працы сялянскі імпэт.

Дарога яшчэ прывядзе нас туды, а пакуль сёе-тое — з нагоды.

Калгаснікі амаль усёй грамадой жывуць у вялікай, згуртаванай вёсцы Моталь, а даклад-

пей — мястэчку; чамусьці гэтая добрая, выпайдзеная народам назва значных памерамі паселішчаў усё больш аддаецца забыццю...

Пад самымі сценамі ў Моталя гойдаецца лёгкімі хвалямі возера, як паглядзець — ладнае, нешта пад сотню гектараў.

Акрамя таго, пры асушэнні забалочаных і нізкадолых угоддзяў, якое правялі меліяратары з удзелам калгаса, створаны новы вадаём плошчаю 300 гектараў. Раскоша! І малады, захоплены працай аграном Данілевіч вязе нас туды... Ён шчаслівы ад сустрэчы з пісьменнікамі, асабліва — з Васільевым, за творчасцю якога, прызнаўся, даўно сочыць.

Спыніліся каля вадасховішча. Наўкруг яго ляжала нібы прыўзнятая меліяратарамі, роўная і пакуль пустэльная зямля. Уздоўж каналаў бялеў белы пясочак — сведка аперацыі, праведзенай нядаўна на гэтай пустцы; далейшы яе лёс залежаў ад дбайнасці гаспадароў. На ўзбярэжжы тырчалі тонкія дрэўцы, Данілевіч тлумачыў:

— Мы пасадзілі гэтыя маладыя дрэўцы, каб замацаваць пясчаныя берагі. У перспектыве ж тут будзе створана зялёная зона для адпачынку калгаснікаў. Лясоў у нас мала... А вунь там...

І мы глядзім, куды ён паказвае, на сярэдзіну штучнага возера.

— Там востраў. Мы зрабілі яго спецыяльна для птушак. Хай гняздзяцца ды абжываюць малую зямлю, каб не зніклі з вялікай.

Іван Данілевіч, як высветлілася, гарачы прыхільнік вядомага рускага вучонага і літаратара Андрэя Цімафеевіча Болатава, які пачаў сваю актыўную творчую дзейнасць яшчэ пры Екацярыне II. Болатаў шмат эксперыментаваў у земляробстве і быў заснавальнікам навукова-практычнага лесаводства.

Данілевіч вёў свае назіранні ў гаспадарцы, занатоўваў іх у тоўстай кніжцы, эксперыментаваў. Ён першым у Беларусі ўкараняў безадвальную апрацоўку зямлі.

— Кожную восень мы праводзім у гаспадарцы тыдзень азелянення,— тлумачыў ён нам

далей, круцячы баранку газіка.— Звычайна гэты тыдзень масавы. Рыхтуемся загадзя... Між іншым, прыступілі да стварэння куткоў дзікай прыроды, якая ўсё больш адыходзіць. Гэта, можна сказаць, пейзажныя паркі, астраўкі таго, што назад не вернецца... Заклалі тры. Плануем яшчэ два...

Скажу шчыра, стваральная гаспадарчая і экалагічна-гаспадарчая рупнасць мотальцаў пераўзыходзіла ўсе нашы спадзяванні. Яна вызначалася навізной. Іван Апанасавіч гэтым іх прыкладам быў вельмі ўсцешаны і не хаваў свайго захаплення:

— Малайцы! Цяпер, калі рэдка пачуеш звон жаўрука або стракатанне конікаў на лузе, гэтыя вашы запаведнікі вельмі дарэчы!

Яшчэ нядаўна зямны шар трымаў на сабе, карміў і паіў чалавецтва. Сёння чалавецтва трымае ў сваіх руках зямны шар, яго лёс, яго фарбы, мелодыі, песні. І чалавеку нельга не азірацца назад і не забягаць у думках наперад... Сцяпан Гаўрусёў піша:

Нешта рэчкі нашы памялелі,
Як ніколі.
Пэўна, песень мы даўно не пелі
У чыстым полі.

І лясы, здаецца, падрабнелі
Неяк разам.
Паблукаць па іх мы не паспелі
Добрым часам.

А прырода любіць далікацтва,
Не быць модай.
І, відаць, сапраўднае мастацтва
Жыць з прыродай.

Папоў... Бондар... Данілевіч... Як сугучна яны выступалі і думкамі, памкненнямі, справамі паказвалі магчымасць не жорсткіх, не грубых, а наадварот — мяккіх, спагадлівых і гарманічных адносін з прыродай.

Данілевіч і Бондар сваёй творчай апантанасцю кідалі выклік раўнадушшу некаторых людзей. Яны неслі ў грамадства такую свежую і патрэбную энергію, здольную захапіць многіх.

Білі крынічкі.

Крынічкі білі з таемных глыбінь...

## 24. Мазыр. Дыялог з энтузіястамі

Часам энтузіястаў склікаюць і ўсаджваюць аднаго пры адным, каб паслухаць іх, параіцца з імі па нейкіх складаных праблемах жыцця; не выключана, што і ў журналісцкай або пісьменніцкай практыцы Івана Васільева недзе была падобная сустрэча, бо ён апісвае яе ў адным з эпізодаў аповесці «Землякі». Там сакратар райкома, ідэолаг, былы журналіст, сустракаецца з энтузіястамі... Ну і вось цяпер Іван Апанасавіч прапануе мне сабраць на нашым шляху дзе-небудзь такую талаку. Выбар паў на горад Мазыр.

Нарэшце перад намі, за шырокім авальным сталом, гэтыя шаноўныя людзі. Раўнаважныя, стрыманыя. Ні ў кога на твары не напісана, што ён энтузіяст. Выключэннем быў хіба мужчына з прамою спінаю і хударлявым ды схільным да хуткай рэакцыі тварам. Прозвішча яго Коцішаў. А яшчэ — Бондар. Яго паўнаваты, з рудовымі шчокамі твар выдаваў энергічным, добразычлівым... Выдатнымі чалавечымі якасцямі гэтых абодвух, бадай, быў надзелены і малады чалавек, спраўны целам, русявы, са светлым позіркам вачэй,— Саўчык. З ім побач сядзела Марціновіч, асоба маладога веку, у якой на свежым і чыстым твары адбівалася штосьці неўтаймавана-роспачнае, журботна-бянтэжлівае. Зрэшты, сакратар райкома партыі Шчэрбін Яўген Дзмітрыевіч хутка пазнаёміў нас, прадставіўшы кожнага. От з кім мы тут размову вялі:

Бондар Рыгор Елісеевіч, дырэктар лясгаса;

Коцішаў Яфан Канстанцінавіч, дырэктар кормапрадпрыемства «Прыпяць»;

Кульчыцкі Мікалай Мітрафанавіч, намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі;

Марціновіч Леаніда Емяльянаўна, дырэктар Слабадскога сельскага Дома культуры;

Алісейка Яўгенія Панкрацьеўна, настаўніца Крынічанскай сярэдняй школы;

Чурыла Уладзімір Канстанцінавіч, брыга-

дзір комплекснай брыгады МПМК-55, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР;

Саўчык Міхаіл Уладзіміравіч, старшыня калгаса «Радзіма»...

Зразумела, тут былі далёка не ўсе мазырскія энтузіясты, не ўсім, каго запрашалі, выпала прыехаць... Аднак і з тымі, хто прысутнічаў, гаворкі хапіла па тры гадзіны без перапынку. Падам яе ў скарочаным выглядзе.

Васільеў. Сюды запрасілі людзей з неспакойнай душой, адданых справе і людзям, ідэалам нашага грамадства, сапраўдных энтузіястаў. Такіх людзей нямала па розных кутках Беларусі, у чым я ўсё больш пераконваюся. Прыемнае ўражанне пакідаюць гаспадаркі ў цэлым, і палі, і фермы. Павінен сказаць, што вы далёка пайшлі ў дбайным вядзенні земляробства. Тое ж можна сказаць і пра будаўніцтва, і пра культуру, якая ствараецца на сяле. У нас не так. Прыеду, сваім мужыкам раскажу. Многае давядзецца пераймаць.

Коцішаў. Не адразу і тут на поспех узбіліся. У 1969 годзе я прыехаў з Казахстана сюды: усё дапатопнае, заняпалае, чэзлае... Далей вёска пераўтваралася на маіх вачах... Людзі як хапіліся — у кароткі тэрмін перастрэслі старое, перавярнулі свой побыт, адкінуўшы ўбок пасталы. Пачалі ўкараняць новую тэхналогію ў доглядзе жывёлы, нарыхтоўцы кармоў... І такі ўздым быў! Як быццам патрапілі ў нейкі струмень, які неўзабаве разліўся ў паводку. Гэтым поспехам мы ў многім абавязаны кіраўніцтву рэспублікі. Творчы настрой быў агульны.

Васільеў (праціраючы акуляры). А ў нас, мушу прызнацца, разленаваліся. Другую пяцігодку ўкладваем у зямлю такія сродкі, а аддачы няма. І душа баліць за Нечарназем'е. У нас дазваляюць сабе працаваць абы-як. Мы адвыклі пачуваць сябе гаспадарамі на сваёй зямлі.

Коцішаў. Справа, я думаю, не ў ляноце. Гэта часовая рэакцыя на той стан, у якім апынуліся вёскі. Там цяпер патрэбен свой падыход

да справы, да земляробства і побыту. Я вам кажу...

Б о н д а р. А які падыход? Можа, ты, Яфан Канстанцінавіч, ведаеш?

К о ц і ш а ў (з той жа ўпэўненасцю). Калі ласка... Скажу... Ваш рэгіён, Іван Апанасавіч, адрозніваецца ад нашага. Там, у Расіі, прастору больш. Трэба ствараць буйныя і магутныя гаспадаркі, а людзей туды вазіць, каб не распыляць на будаўніцтва сродкі. Паглядзіце, як за мяжой, або ўспомніце, як мы асвойвалі цалінныя землі... У саўгасе пабудавалі рад дамоў камунальнага тыпу, і людзі ў іх засяліліся — жывуць.

К у л ь ч ы ц к і (рашуча). Не!

К о ц і ш а ў. А калі не — давайце будаваць сядзібныя... Але трэба ствараць цэнтральныя пасёлкі!

В а с і л ь е ў (усміхаючыся). А дзе на іх сродкі ўзяць?

К о ц і ш а ў. Вы ж сказалі: сродкі адпушчаны, і вялікія! Не распыляць іх, паўтараю, а будаваць цэнтры. Усе астатнія вёскі разламаць і выкінуць!

Б о н д а р. О, пане-браце, які ты спрытны!

В а с і л ь е ў. Гм, не-е! Было...

Усе смяюцца.

Ш ч э р б і н. Такі энтузіязм прайшоў!

К о ц і ш а ў. Канцэнтрацыя — закон эканомікі! Глядзіце на Захад!..

К у л ь ч ы ц к і. Ад пагляду на Захад недалёка і да верхаглядства!

Ш ч э р б і н. Таварышы! Думаю, нам цікава будзе паслухаць Міхаіла Уладзіміравіча Саўчыка, маладога, але ўжо даволі вопытнага земляроба. Ён працаваў у нас — от як Кульчыцкі цяпер — намеснікам начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і ўсё рваўся ў калгас. Яму далі складаную прыгарадную гаспадарку — калгас «Радзіма». І ў два-тры гады ён узняў яе, зрабіў жыццяздольнаю, моцнаю, і ўсё ў іх ёсць. А галоўнае — людзі,— твораць, як сапраўдныя гаспадары! Я не перабольшваю перад гасцямі... Міхаіл Уладзіміравіч...

С а ў ч ы к. Я прыйшоў туды ў 1980 годзе. Гаспадарка была на нулявой метцы. Мела грошы, але нічога не будавала. Грошы (каля чатырохсот тысяч рублёў) былі атрыманы як кампенсацыя за знос гаспадарчых пабудоў і занятце часткі калгаснай зямлі прамысловасцю. Людзі працавалі неяк змушана, як на дзядзьку, унутранай сувязі паміж імі і зямлёй або справай, якую яны рабілі, не адчувалася. Як зацікавіць? На працу выходзілі па нараду... І паламалі мы тую сістэму. Стварылі механізаваныя звёны на падрадзе, на дакладным гаспадарчым разліку. Палепшылі бытавыя ўмовы механізатарам, бліжэй пазнаёміліся з іх сем'ямі, наогул жыццём... А далей пачалі сваімі рукамі акультурваць зямлю. Прыбралі адзін чэзлы ўчастак лесу. (Смяецца.) За што дырэктар лясгаса вымову атрымаў... Павялічылі пагалоўе скаціны. І адпаведна павялічыўся выхад арганікі, пачалі дбаць пра структуру глебы і адмовіліся ад гербіцыдаў і пестыцыдаў. Людзі зварухнуліся, і стала адчувацца дыханне калектыву. От тады мы пачалі арганізоўваць суботнікі, нядзельнікі, залажылі скверы, кветнікі — тут нам і лясгас памог,— абсадзілі кветкамі фермы, пабудавалі лазню-саўну. Наша будаўнічая брыгада налічвае 20 чалавек. Яе ўзначальвае інжынер... Механізавалі некаторыя працэсы на фермах, а перш-наперш палепшылі арганізацыю працы даярак: першая дойка а палове адзінаццатай, двухразавае даенне... Чуў, што ад гэтага ў другіх гаспадарках зніжаюцца надоі... Пэўна, бывае і такое, калі каровы рэкардысткі... А ў нас пакуль што надоі павысіліся, і прыкметна. Ферма мне з дзяцінства знаёма. Маці даярка, і я памагаў ёй. Бывала, у каравяку бот згубіш, пакуль наносіш на кожную па два вядры вады! Вернешся, выцягнеш — і далей... У нас патočна-цэхавая арганізацыя працы на фермах, па прыкладу, які падаў Львоў. Працуюць пераважна дзяўчаты... З кадрамі праблемы няма. Вось і ўсё коратка... Працуючы намеснікам начальніка ўпраўлення, я ведаў усё, як рабіць, але сядзеў за паперамі і не мог прымяніць свае ве-

ды, рэалізаваць канструктыўную думку на практыцы. Адчуваў, што я ізаляваны ад спраў гаспадарчых, ад людзей. Пераконваю часам у чым-небудзь старшыню калгаса або іншага спецыяліста і адчуваю, што ў нас няма кантакту і што ён думае не так, як мне хочацца, у яго на думцы другое, і паміж намі ўтвараецца прорва, якую толькі не кожны бачыць.

Васільеў (мне, аўтару). От ён, расхейдус!..

Саўчык. У калгасе ж умовы і — галоўнае — магчымасці для працы іншыя...

Васільеў. У Докшыцкім раёне, дзе мы з Васілём былі, эканаміст Каляга сказаў: сацкультбыт яшчэ не ёсць сацыяльнасць. А Валадзько ў Пастаўскім раёне зазначыў: сацыяльнасць яшчэ не азначае духоўнасць... Ці ёсць у вашых людзей, Міхаіл Уладзіміравіч, сімптомы некаторай страты маралі? Гэта дзе-нідзе назіраецца...

Саўчык. У цэлым за гэтыя гады сацыяльная актыўнасць нашых калгаснікаў узрасла. Я ўжо тлумачыў, як мы яе ўздымалі... Механізатары, сяляне наогул, якія ўдзельнічалі ў перабудове гаспадаркі, сталі больш цаніць талаку, шанаваць самі прынцыпы калгаснага жыцця і яго матэрыяльную аснову. Пра маладых, на жаль, гэтага не магу сказаць...

Аўтар. Вы знаходзіце, што на маладых тыя меры, прынятыя вамі для аздараўлення калектыву, не ўздзейнічаюць?

Саўчык. Каб закрануць маладых, трэба іншыя меры шукаць, і — раней трохі...

Коцішаў (наслухаўшыся). Гэта ўсё дробязі, таварышы!

Ажыўленне. Выгукі нязгоды.

Алісейка (з'едліва). Аптыміст!..

Саўчык (працягвае). Нішто так не вучыць і не раскрывае значэнне і прыгажосць працы, як самастойная праца ў дзіцячым узросце. Трэба, каб механізатар не на ўроку ў школе, а ў полі расказваў вучню, як здабываецца хлеб. Не ўсім адразу — аднаму, потым другому... Скажу, мы не баімся, што хлапчанё гадамі

не выйшла. Садзім да старога, вопытнага трактарыста ў кабіну — няхай катаецца! А той, пакатаўшы трохі, дасць яму і самому праехаць. Праедзе... А потым і кавалак кукурузы акучыць, і гэта для дзіцяці — гонар, і які яшчэ гонар! Дзеля гэтага мы даём школьнікам маленькія трактары... Сам стары механізатар паляжыць пад кустом, але вучань прыкладзе ўсе намаганні, каб зрабіць не горай за яго.

А ў т а р. Гэты спосаб нагадвае дзядзькаванне з былых часоў, калі малых далучалі да працы...

Ч у р ы л а (ажывіўшыся). Правільна робяць! (Пераадольваючы хваляванне.) Я рабочы чалавек... І ведаеце... Пад рукі мне лезуць не тыя, што за дзеўкамі бегаюць, а малыя. У іх інтарэс і цікаўнасць да ўсяго, што мы робім. Дык вось пад гэты іх інтарэс і трэба шукаць справу ў полі, на ферме.

К о ц і ш а ў (рэзюміруючы). Тут школа і працоўнае выхаванне павязаны: здае экзамен і выгадаваных цялят...

В а с і л ь е ў. Да апошняга часу школа ніяк не можа пазбавіцца ад дзвюх заган. Першая: адарванасць ад сапраўднае працы, ад вытворчасці дарослых. Другая: ідэалізацыя ў школьным выхаванні. Юнака начыняюць завоблачнымі матэрыямі. Прыходзіць ён на завод, а там — усё зямное. Паставяць яго на месца мужыка — не можа!

А ў т а р. Дарэчы, у гэтым, мне здаецца, асноўная прычына іроніі да гучных слоў у пэўнай часткі нашых пераемнікаў.

М а р ц і н о в і ч (ківае). І да жыцця старэйшых наогул...

А ў т а р. Сёння іронія, а заўтра — амаральны ўчынак. Ад аднаго да другога — адзін крок.

А л і с е й к а. У Крынічанскай сярэдняй школе працоўнае выхаванне добра пастаўлена, і нам больш не трэба агітаваць сваіх выпускнікоў, каб пра вясковае жыццё дбалі. Нягледзячы на тое, што горад, як і ў Саўчыка, блізка, многія застаюцца дома і працуюць. У нас сваё прафесійна-тэхнічнае вучылішча, музычная

школа, карцінная галерэя, музей... Крынічнае ў жывапісным месцы раскінулася: пагоркі, прыгожыя спады, сады... Непадалёку — Прыпяць. Ёсць дзе і на чым душы адпачыць, разгарнуцца. Прэстыж Крынічнага ў моладзі даволі высокі, і як вынік — на жывёлагадоўчым комплексе конкурс на ўладкаванне на працу. Думаю, не памылюся, калі скажу: у нас адноўлена прэстыжнасць земляробчай працы наогул, уключаючы ўсе прафесіі. Працуюць і вучацца. Летась, напрыклад, Мікалай Буюк на выдатна скончыў школу і паступіў у інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, скончыць і, казаў, таксама вернецца ў Крынічнае. У дзяцей, праўда, бываюць розныя схільнасці. От у мяне адна дачка працуе на сельскагаспадарчай доследнай станцыі, і не па душы ёй работа: усё адно не застануся! А другая ў горадзе, у медвучылішчы: усё адно вярнуся!.. Педкалектыў імкнецца вызначыць схільнасці вучняў і памагчы ім у выбары жыццёвага шляху. Школьная рэформа нас не здзівіла, але парадавала. Будзем развіваць далей тое, што пачалі. І Саўчык, скажу, вельмі добра разумее, што ў гаспадарцы трэба ад растка расціць не толькі збожжа і бульбу або тую ж кветку,— гэтак жа старанна трэба расціць і выхоўваць чалавека працы, земляроба, пачынаючы не тады, калі на сямейным агародзе вырасце чартапалох!

С а ў ч ы к. Яшчэ некалькі слоў пра гаспадарку... У развіцці жывёлагадоўлі мы пайшлі шляхам не комплекснага будаўніцтва, а рэканструкцыі старых памяшканняў. Нікуды не пераязджалі! Таму найлепшым чынам выкарыстоўваем угоддзі. Скаціна і паша — адно пры адным, уляжалы гной... Цяпер у нас самая высокая канцэнтрацыя жывёлы па вобласці. Выхад мяса дасягнуў 227 цэнтнераў на 100 гектараў угоддзяў.

А ў т а р. Забягаючы наперад, мушу адзначыць, што Міхаіл Уладзіміравіч Саўчык сапраўды паказаў сябе выдатным арганізатарам вытворчасці і калектыву — сельскай грамады, якая ўжо на канец адзінаццатай пяцігодкі атрымае

чыстага прыбытку ад паляводства і жывёлагадоўлі больш за мільён рублёў. Безумоўна, вялікая заслуга Саўчыка ў гэтым... На жаль толькі, энтузіяст рабіў часам для сябе паслабленні там, дзе трэ было больш кіравацца высокімі маральнымі прынцыпамі і ашчаджаць калгасныя сродкі, некалькі бракавала яму і справядлівасці ў адносінах да асобных людзей, членаў гаспадаркі. Як вынік, таварышы строга асудзяць у Саўчыку ягоныя хібы, і Саўчык панясе партыйнае спагнанне. Не ўсё кату масленіца.

В а с і л ь е ў (Саўчыку). Скажыце... Колькі вы, старшыня калгаса, маеце волі, каб творча распараджацца зямлёй?

С а ў ч ы к. Прывяду характэрны прыклад... Сяўба. Канчаем садзіць бульбу. А тут раптам указанне: пасадзіць дадаткова дзесяць гектараў!.. Мы ж спланавалі плошчы і работу без дадатка... Ламаць увесь працэс?.. А ламаць, адчуваю, давядзецца ўжо не толькі план сяўбы, але і штосьці большае, што склалася ў душах людзей, якія з добрым настроем канчаюць работу. Але ж... (Уздыхае.) Ёсць усё-такі неабгрунтаваны ціск, так сказаць, арапістасць кіраўнікоў некаторых кантор. Гэта вельмі шкодзіць.

А ў т а р (Кульчыцкаму). А як, Мікалай Мітрафанавіч, па вашых назіраннях: ці нарастае з часам супраціўленне спецыялістаў на месцы вашай ласкавай апецы? Яна цяпер ва ўсіх на языку...

К у л ь ч ы ц к і (жыва). Супраціўленне нарастае. Прыкметна! Раней даводзіш прадпісанне — скрывіцца, але зробіць... А цяпер — перш табе нервы, настрой сапсуе! Скажа ўрэшце: от колькі зраблю, больш — не!.. Пазлуюся... У душы, аднак, разумею і радуюся, што чалавек думае.

В а с і л ь е ў (клопатна). Мы вось ужо і так і гэтак прыкідвалі, ды проста розуму не дабярэм: адкуль гэта ўсё бярэцца?! Дакументы ж ствараюцца з разлікам, што на месцы працуюць разумныя людзі. Падумаюць, узважаць, прыменяць... Зробяць усё як трэба! Але пакуль

цыркуляры даходзяць да нас — у іх ужо месца для творчай фантазіі не застаецца і прамежкавыя рэвізоры, кантралёры прадыхнуць не дадуць!

Шчэрбін (Бондару). Рыгор Елісеевіч, вы штосьці хочаце дадаць? Калі ласка...

Бондар. Я працую ў гэтым раёне чвэртку стагоддзя. Прыехаў — людзі сапраўды яшчэ ў пасталах і даматканых світках хадзілі. Не ўсе, вядома... За кароткі час адбыліся вялізныя перамены, не толькі ў гаспадарцы, але і ў жыцці. Гэта радуе! Але ж я таксама лічу, што свірны краіны былі б намнога паўнейшыя, калі б хлебаробы на месцы рашалі, як ім урабляць зямлю і што на ёй сеяць. Тэхналогія земляробства ў нас нездавальняючая, і я больш скажу — заганная! Вазьміце прымяненне гербіцыдаў... У нашым раёне многія палі чаргуюцца з лесам, і гэта добра, гэта гарантуе больш устойлівыя ўраджаі. Толькі ўзлескі і ўсё жывое ў лесе гіне ад хімічнага пылу. Церпяць птушкі, пчала, заяц, лось... Сельскагаспадарчыя кампаніі з хімізацыяй да крайнасці даходзяць. А вось старшыня калгаса «Радзіма» адмовіўся ад хіміі, але не сказаў: хіба ў яго ўраджаі ніжэйшыя?!

Саўчык (з усмешкаю). З абласнога ўпраўлення хімізацыі звоняць: чаму адмаўляешся ад прымянення сілізіну?.. Жыць хачу, адказваю... Задушыў нас! Калі ім дыхаць, пяцігодкі не асіліш!

Коцішаў. Гэта толькі з Саўчыкавым уменнем можна адмовіцца!

Бондар. Да Саўчыка, на ўгоддзі, усе звяры і птушкі перабраліся! Там зямля — як зямля, і з Саўчыкам я магу гаварыць, а з другімі — не! Не разумеюць... А калі разумеюць — не хочуць, бо з хіміяй прасцей і адказваць за вынікі не трэба. (Перавёў дыханне.) Мы, лесаводы, працуем не для гэтых пакаленняў — для будучых. Таму нас гэта асабліва хвалюе.

Алісейка. Дзіўна, што ўсе тыя хімікі не ў Амерыцы жывуць, а дамовіцца з імі няможна!

Шчэрбін. У іх план — як у гарадскіх вадалееў!

Бондар. Прайшла, аднак, пара заклікаў: «Беражыце прыроду!» Трэба брацца практычна за яе абарону. Наш лясгас распрацаваў план далейшага азелянення раёна. Мы павінны даць людзям больш кіслароду і радасці ад ландшафту, ад знешняга асяроддзя. Нядаўна я прапанаваў стварыць у лесе штучнае возера, дзе б знайшлі прытулак качкі, андатры...

Коцішаў. Ха-ха. Фазанаў яшчэ там развядзіце!.. Паслухаўшы цябе, Рыгор Елісеевіч, я ледзь не заплакаў!

Асуджальныя воклічы.

Кульчыцкі. Так і ёсць: аптыміст!

Алісейка. От, каб трохі больш такіх аптымістаў, як Коцішаў, мы ўжо даўно ў пустыні жылі б!

Шчэрбін (супімаючы гаману). Таварышы, мы, здаецца, абышлі культуру вёскі, хоць па сутнасці і закраналі яе... Сярод нас — прадстаўніца культурнага фронту... Прасядзела, не сказала ні слова... Калі ласка, Леаніда Емяльянаўна...

Марціновіч. На сяле цяпер стала цяжэй працаваць. (Горача, з трывогаю.) Можа, не скрозь так, але ў Слабадзе, куды мяне перавялі нядаўна, вельмі і вельмі багата развялося спажыўцоў, захрыбетнікаў... На ўтрыманні бацькоў... І такія нікчэмныя часам, што я проста дзіву даюся, жах бярэ! Працаваць — не могуць, спяваць песні — не могуць, танцуюць прымітыўна... Дэбілы нейкія! (Перавёўшы дух.) Вось тут выказвалі добрыя думкі пра выхаванне. Сёй-той умее або ведае, як па-сапраўднаму трэба дзяцей выхоўваць. Дык давайце ж памяркуем ды скрозь іх пачнём як трэба выхоўваць. А то... Плодзіцца столькі спажыўцоў і ўтрыманцаў! У клуб іх не зацягнеш... Ніхто і нішто іх не цікавіць, акрамя транзістара! (Больш стрымана.) Старшыня калгаса — чалавек разумны і спрыяе мне ў рабоце, сам часам у клуб прыходзіць. А вось настаўнікі і спецыялісты калгаса не ведаюць, як у клубе дзверы адчыняюцца. Ахвотна ў клуб ходзяць старэйшыя сяляне.

Васільеў. Вы праўду кажаце, тое ж і я

па сваёй вёсцы Баркі заўважыў. У культурным жыцці найменей актыўныя спецыялісты-тэхнолагі.

Коцішаў. Бо іх вучаць так: пільнуйся жывёлы, тэхнікі, а на ўсё астатняе ў жыцці — глядзі праз пальцы!

Марціновіч (у адчаі). Яны нават кніг не чытаюць!

Кульчыцкі (адчуваючы, што камень кінуты ў яго агарод). Мала хто паспявае працаваць над сабой. Работа амаль не пакідае часу.

Чурыла. А зімой?..

Коцішаў. Што значыць гэтае «працаваць над сабой»?! Хай возьме ў рукі кнігу! І гэта будзе не праца, а культурны адпачынак!

Марціновіч (з тым жа дакорам). Нявыхаваныя... У грамадскіх памяшканнях кураць!

Алісейка. Няможна сказаць, што дзеці сялян бескультурныя.

Васільеў. Але ж... У сялян свая культура. Ветлівасць. Сціпласць. Вытрымка...

Марціновіч. Бывае ўсяляк.

Шчэрбін. Таварышы, у нас адбылася цікавая і, мне думаецца, карысная для ўсіх прысутных размова. У цэнтры яе быў чалавек і яго чыннасць на полі, на ферме, у грамадскім жыцці. Мы яшчэ пазнаёмім нашых гасцей з Крынічным, а пакуль што дзякуй усім...

## 25. Па шляху энтузіястаў. Палеская сельскагаспадарчая доследная станцыя

Надвор'е нас песціла. І гэты дзень стаяў сонечны, прамяністы і мяккі. Паветра не краталася і буяла празрыстасцю, выклікаючы думкі аб першароднасці ўсяго, што перад намі ляжала.

Нам выпала далей пазнаёміцца з далягледамі на Прыпяці, з прыродаю ў натуры і на палотнах мастакоў, з працаю вучоных-аграрнікаў.

Але спачатку пакручастая мазырская вуліца вяла нас угору, дзе мураваныя дамы былі перасыпаны драўлянымі, і ўсё раскашавала ў зеляніне. Зайшлі ў звычайную хату, якая нічым

не выдавала, што яна гарадская, такіх хат багата па вёсках, а гэтая была старэнькая і, як тая бабулька, тулілася да дзіцячага сада, што поўніўся гоманам.

У хаце ж — уга! — якога толькі начыння не было. Усё, што спрадвеку ўжывалася ў палясуцкім побыце, пачынаючы ад калыскі... Ступа і прасніца, рубель і качалка. Посвет-лучнік. Узоры адзення. Узоры абутку... Даўнейшая мэбля. Цэгла, кафля стогадовай даўнасці. Герб Літвы і герб Мазыра. Бутэлькі ўзору 1815 і 1911 гадоў; дарэчы, на адной з арыгінальных бутэлек значылася і фірма: «Мазырскі півамедавухаварны завод».

Увесь гэты скарб сабраў Мікалай Мікітавіч Пушкар, член Саюза мастакоў Беларусі, яшчэ адзін мазырскі энтузіяст. Асобны пакой музея займалі яго ўласныя творы, выключна з гліны, якой ён умее надаць адухоўленасць. «Працую ў тэракоце, стараюся паказаць прыгажосць матэрыялу»,— гаварыў мастак. Яго творчасць шырока вядома ў рэспубліцы. Усё, што тут было выстаўлена, уражвала рэалістычнасцю і глыбінёй раскрыцця характару, тыповасцю рыс і гумарам. От на якія рэчы мы глядзелі з замілаваннем: «Ветэраны ў страі», «Вяселле залатое», «Вяселле сярэбранае», «Паляшук і хахол», «Сучасны міліцыянер»...

Пушкар — выхаванец А. С. Макаранкі, у дзіцячую калонію да якога яму, былому беспрытульніку, пашэнціла было трапіць дзякуючы пісьменніку Максіму Горкаму. Ён зямляк Бондара, абодва — з Украіны, абодва прыжыліся ў гэтым кутку беларускага Палесся. Пушкар пачаў вывучаць просты, але багаты на адценні і каларытны паляшуцкі характар, побыт, звычкі, палюбіў сам народ, і музей, які стварыў самахоць, красамоўна сведчыць пра гэта.

...У абноўленым і сучасным пасёлку Крынічнае (кіламетраў за пятнаццаць ад Мазыра) мы перш за ўсё наведалі карцінную галерэю, якая размяшчалася ў асобным будынку і была філіялам Беларускага мастацкага музея, што дзейнічае ў Мінску. Экспанавалася 200 палоцен

жывапісу беларускіх і замежных — заходнееўрапейскіх мастакоў. Творы займалі некалькі суметных пакояў. У адным з іх, між іншым, былі выстаўлены карціны і мясцовых, мазырскіх, аўтараў.

Галерэя, безумоўна, была выдатнай з'явай у жыцці не толькі гэтага сельскага кутка, але і ўсяго раёна. А самым адметным у рабоце карціннай галерэі, на мой погляд, было тое, што экскурсаводамі і найпершымі памочнікамі дарослых тут выступалі вучні Крынічанскай школы, якія і нам давалі тлумачэнні па творах, выстаўленых у кожнай зале. Зразумела, перш чым узяць на сябе такі горды абавязак, яны праходзілі спецыяльную гуртковую падрыхтоўку.

Гэты занятак захапляў многіх, асабліва дзяўчынак, бо абагачаў іх, вучыў разуменню прыгожага. У якасці экскурсаводаў яны трымаліся ўпэўнена, пра карціны гаварылі без запінкі і па-вучнёўскі бойка.

А экспанаты час ад часу мяняліся, жыццё не стаяла на месцы, і падрыхтоўка школьных экскурсаводаў вялася сістэматычна.

Нават нельга было пераацаніць значэнне Крынічанскай карціннай галерэі ў эстэтычным выхаванні вучняў, што, дарэчы, вельмі добра разумеў Яўгеній Дзмітрыевіч Шчэрбін, які нямала зрабіў для адкрыцця і функцыявання гэтага ачага культуры.

Адразу ж за сценамі, за мурам галерэі пачыналіся палеткі эксперыментальнай базы Палескай сельскагаспадарчай доследнай станцыі. База была накшталт калгаса або саўгаса ў Крынічным.

Нам адкрылася даволі простая і ўражлівая карціна: цьмяна-шэрае шырокае поле, роўнае, месцамі ледзь-ледзь пакатае, і глеба голая, гладкая, чыстая... І на гэтай прасторы — шнуркамі — усходы, зялёныя, тонкія, вострыя, як полымя ад газоўкі,— усё парасткі кукурузы. І толькі парасткі! І толькі кукурузныя! Нідзе больш ні каліва ніякага зелля.

Такая адмысловая чысціня на палетку, як мы заўважылі, была гонарам навуковага супрацоўніка станцыі Эдуарда Уладзіміравіча Бандарэнкі; ён меў вучоную ступень кандыдата і спецыялізаваўся па ахове раслін. Малады...

Паўтараю, на вялізным палетку толькі цёмна-шэрая глеба ды на ёй свежыя смарагдавыя нарасткі кукурузы. Усё астатняе было выпалена гербіцыдамі трэцяга пакалення, да якога належалі сітрын, глін, фасілен і іншыя, прычым выпалена не на адзін год — надоўга! Рэчывы былі замежнымі, дэфіцытнымі, купленымі на золата. Яны выклікалі ў Бандарэнкі вялікае захапленне: «Найбольш бясшкодныя, найбольш эфектыўныя!..» Хацелася верыць яму. Але — выбачайце! Прыгадвалася трывога лесніка Бондара і агранома Лянкевіча, дый словы старшыні калгаса Саўчыка пра хімізацыю, ад якой ён адмовіўся. Пасля ўсяго гэтага даследчы імпэт ідэолага хімізацыі Бандарчука здаваўся ўжо не надта каштоўным — несамавітым і дзіўным... «Медицинская газета» неяк пісала, што спіс ядахімікатаў, дазволеных для выкарыстання, расце: цяпер іх больш за 350... Але на некаторыя з іх адсутнічаюць разгорнутыя тэхнічныя характарыстыкі, не вывучана пытанне аб меры і спосабах карыстання імі ў розных асяроддзях. Даведачная літаратура на новыя прэпараты выходзіць са спазненнем, і санітарныя ўрачы аказваюцца ў ролі лоцманаў без лоцый. Дый ці прыслухоўваемся мы да іх?.. А што такое тэхнічныя характарыстыкі? Збавенне ад нягод і страт, якія наносяцца здароўю? Калі нават яды і «добрыя»... Не! Прыгадаем: хіба дрэнныя характарыстыкі меў усім вядомы дуст? А потым яго пачалі знаходзіць і ў малацэ, і ў тканках мяса.

І адкуль Бандарэнка ведае, што глін і фасілен «найбольш бяскрыўдныя»? Што, ён іх вывучыў за некалькі месяцаў?.. Паверыў у наклейку... А калі і «найбольш», то гэта не выключае шкоды для чалавека і экалагічнага асяроддзя.

Не, тое крынічанскае штучна выраблёнае,

пратручанае і, скажам так, апсмічпае поле, прашытае кукурузнымі ўсходамі, не захапіла ні мяне, ні Васільева! Праўда, ашчаджаючы пачуцці маладога вучонага, мы, дылетанты і невукі, не пачыналі спрэчкі. Але вось што піша ў той жа «Медицинской газете» Е. Стрыханава, галоўны санітарны ўрач Краснадарскага краю, кандыдат медыцынскіх навук:

«Знішчаючы пустазелле і шкодных насякомых, ядахімікаты забруджваюць глебу, паветра, зніжаюць біялагічную каштоўнасць прадуктаў харчавання. Колькі разоў разам з калегамі з раённых санэпідэмстанцый назірала такую карціну: апылілі поле ядахімікатамі паблізу маленькай рачулкі, а неўзабаве ў ёй гінула ўся жыўнасць, вяла і чэзла зяленіва па берагах».

Па прыклады далёка хадзіць не трэба і ў нас.

Па сваёй першай адукацыі я геолаг і ведаю магчымасць так званай інфільтрацыі паверхневых, забруджаных ядахімікатамі вод у тоўшчу зямной кары, гэта значыць, магчымасць забруджвання грунтавых вод, якія мы штодня спажываем. Ды ёсць у ядахімікатаў і больш просты шлях з поля ў арганізм чалавека, бо мы карыстаемся не толькі грунтавымі водамі, але бяром іх для гарадскога водазабеспячэння проста з рэк і рэчак, куды сцякае верхаводка.

То недарэмна людзі ўсё болей б'юць трывогу: ядахімікаты, спрошчваючы работу на полі, парушаюць экалогію і размываюць самыя асновы біялагічнага існавання чалавека. Ствараецца новае асяроддзе, і наўрад ці чалавек да яго адаптыруецца так хутка, як тля. Тля — прасцейшая істота, і ёй лягчэй гэта зрабіць.

Верылася ў мудрасць Цярэнція Мальцава, які з гэтай нагоды выказаўся так:

«Усё-такі ядахімікаты калі-небудзь забароняць. Навука цяпер мае якіясь менш шкодныя. Мне здаецца, што менш шкодныя яды могуць быць яшчэ больш шкоднымі, чым самыя шкодныя, паколькі яны прытупляюць нашу пільнасць».

А доследы і практыкаванні Бандарэнкі па

ахове патрэбных чалавеку раслін сёння насілі б, відавочна, больш арыгінальны характар, калі б ён і яго калегі сканцэнтравалі свае намаганні на пошуку і распрацоўцы экалагічна прымальных і бясшкодных для чалавека біялагічных сродкаў і агратэхнічных метадаў барацьбы з пустазеллем і шкоднікамі. Ды ёсць жа, ужо нараджаецца новая навука для дапамогі земляробу — аграгігіена, і хімізацыя павінна перад ёю зняць капялюш.

Можа, хімікам, якія палюбілі калгаснае поле, не будзе тады чым займацца? Чаму ж... Яны творчыя людзі і могуць скіраваць свае намаганні на другі бок харчовай праблемы. Вунь у рамане-мары «Купал надзеі» А. Казанцава акадэмік Анісімаў працуе над праблемай стварэння штучнай ежы, мяса, рыбы, ікры і г. д. з водарасцяў і іншых прасцейшых арганізмаў. Магчыма, гэта больш перспектыўны шлях атрымання хімікамі высокіх ураджаяў біямасы і прадуктаў харчавання з яе. Балазе спробы ўжо зроблены на атрыманні штучнай рыбнай ікры... І, можа, штучнае мяса будзе менш небяспечнае для чалавека, чым натуральнае мяса, аздобленае той або іншай колькасцю «бяскрыўдных» прэпаратаў і ядаў.

— Кажуць, хімікі ў хуткім часе застануцца без работы! — пакепліваючы, скажу я аднаму чалавеку пры чыне ў Іванаўскім раёне на Брэстчыне, калі мы туды трапім.

Прозвішча яго Раманоўскі, і ён здзівіцца:

— Чаму?

— У друку ўсё больш пішуць пра шкоду, якую сельгасхімія наносіць знешняму асяроддзю, чалавеку, зямлі.

— Дык хімізацыя ў аб'ёме работ, якія мы выконваем, займае невялікую долю. Мы ж вывозім на палеткі раёна торфакампосты, акрамя таго, вапнуем глебу, забяспечваем раён мінеральнымі ўгнаеннямі...

— Разумею... Аднак нават невялікую долю ядахімікатаў, якую вы ўносіце — што ў паветра, што ў глебу,— можна параўнаць з лыжкай дзёгцю...

— Згодзен з вамі, іменна так яно і ёсць,— Міхаіл Васільевіч Раманоўскі нечакана прыняў мой бок, а працаваў ён упраўляючым Іванаўскай райсельгасхіміі.— Мы труцім самі сябе!

— Пад Мазыром ёсць гаспадарка, у якой не прымяняюць гербіцыды, пестыцыды...— і я расказаў яму пра вопыт Саўчыка.

— Я сам такі вопыт маю,— падаў ён, на маё здзіўленне: — Я раней працаваў аграномам у калгасе «Зара камунізма». Пачаў там з таго, што павыцягваў з металалому сеткавыя бароны і лушчыльнікі і запусціў іх. У сеткавай бараны канструкцыя такая, што яна вычэсвае пырнік і іншае пустазелле. Мы, бывала, багата збіралі яго, грузілі на машыны, звозілі з палеткаў і спальвалі... Помню, калі распачаў я тую работу, старшыня калгаса Савенка не мог нарадавацца і гатоў быў мяне расцалаваць!

І тут жа Міхаіл Васільевіч вярнуўся ў сённяшні дзень:

— Я нядаўна выступіў перад аграномамі раёна... Нагадаў ім сёе-тое. Апрацоўку глебы звялі да мінімуму. Забылі, што ёсць агратэхнічныя сродкі барацьбы з пустазеллем. Не апрацоўваюць папары. Атрымліваюць з завода плугі і адразу ж здымаюць з іх і выкідваюць, як непатрэбную рэч, перадплужнікі. Узаруць глебу, потым дыскуюць... Толькі дыскі разразаюць і здрабняюць той жа пырэй, і ён яшчэ больш плодзіцца, ад чаранкоў... Усё робіцца як прасцей, як лягчэй — абы з рук! Калі пустазелля многа, вінавацяць у гэтым сельгасхімію. Не разумеюць, што ад хіміі на полі трэ адмаўляцца.

Гэта былі сталыя і слушныя разважанні чалавека, які мае справу з хімізацыяй.

Да гэтага, бадай, толькі варта дадаць словы тагачаснага сакратара Іванаўскага райкома партыі Уладзіміра Гетманчука, з якім мы сустракаліся. Падзяляючы думкі і неспакой Міхаіла Васільевіча Раманоўскага, ён слушна зазначыў, што і сельгасхімія сёння яшчэ не падрыхтавана да той справы, якою займаецца. Бо ядахімікаты часта ўносяць у глебу зусім выпадковыя людзі. Яны проста «хімічаць»: дзе не

дадуць, а дзеперададуць. Шкода ж у любым выпадку: то пустазелле расце, а то — анічога! У гаспадарках практычна адсутнічаюць аграхімікі з адпаведнай падрыхтоўкай. А падрыхтоўка ж ім патрэбна на ўзроўні хірургаў вышэйшага класа. Без гэтага — нельга, і Раманоўскі правільна арыентуе аграномаў. Сродкі хімізацыі павінны адступаць перад сродкамі аграгігіены. Дарэчы, за мяжой, у ФРГ, Англіі, Францыі, ужо ўкараняецца біялагічная сістэма земляробства, якая ашчаджае як глебу, так і навакольнае асяроддзе, яна цалкам выключае прымяненне не толькі пестыцыдаў, гербіцыдаў, але і мінеральных угнаенняў. Мы ж усё яшчэ плоцім валютай за «найбольш бяскрыўдныя яды» і за дасягненне лічым мёртвую зону на полі. Ці не дзіўна?!

З усяго гэтага ўрэшце вынікае такая думка. Каб паспрыяць аднаўленню ў нас агратэхнічных прыёмаў, варта як льга хутчэй перагледзець эканамічныя падводкі, пасы, прывады, якімі ўключаецца ў дзеянне сельгасхімія. Вытворчы план сляпы. Ён выпаліць, вытруціць яшчэ нямала чаго ў жывым свеце, таму трэба, напэўна, заахвоціць людзей, механізатараў, паляводаў вырошчваць збожжа, бульбу, агародніну і садавіну без хімічнай апрацоўкі зямлі і раслін. Варта ўстанавіць больш высокія закупачныя цэны на прадукты, атрыманыя па чыста біялагічнай тэхналогіі на палях, у цяпліцах, на фермах. Гэтыя меры дыктуе само жыццё і сам арганізм чалавечы, раз-пораз востра рэагуючы на алергены... Ужо сёння павінна быць так, каб Саўчык не толькі не адчуваў ціску, прымусу расьсяваць ядахімікаты, але і хадзіў у прывілеяваным становішчы.

У саюзным друку выказваюцца і больш радыкальныя прапановы па рабоце аграхімічнай службы. За тым жа «круглым сталом» у часопісе «Наш современник» выступіў доктар сельскагаспадарчых навук Н. В. Усольцаў. Чытаю:

«Гісторыя навуковага земляробства апавядае вуснамі яе карыфеяў, што галоўнай крыніцай папаўнення запасаў гумусу і аднаўлення

структуры ў ворным пласце з'яўляюцца шматгадовыя травы...

Спрэчкі, што лепей — арганіка або шматгадовыя травы,— ужо даўно пара б скончыць.

Але хто ж будзе сачыць за ўрадлівасцю глебы? Створана такая шматсеткавая арганізацыя, як сельгасхімія. Яна ахапіла ўсе рэгіёны. Толькі бяда ў тым, што займаецца яна пакуль не тым, чым ёй варта было б. Чамусьці яе надзялілі вытворчымі функцыямі. Выдзелілі ёй трактары, трактарыстаў. (Цяпер іх значна паменшылася ў калгасах, саўгасах. А як жа: у сельгасхіміі два выхадныя, нарміраваны рабочы дзень, прэміі.) І яна ператварылася ва ўстанову са сваімі ведамаснымі інтарэсамі. Напрыклад, замест вывучэння палеткаў, іх глебы возіць на калгасныя і саўгасныя палі чысты торф (але ў справаздачах указвае, што вывозіць кампосты). Дыктуе выгадныя для сябе ўмовы: жадаеш — торф буду вывозіць, не жадаеш — як хочаш. Вясной бульдозерам распіхваюць кучы торфу па дзвесце тон на два-тры гектары, а ў справаздачы пішуць, што ўгнаілі сто гектараў. Папера ўсё вытрымае. Вядома, гэта ашуканства, бязладдзе, а не дапамога калгасам.

У інтарэсах справы трэба было б вытворчыя функцыі ў сельгастэхнікі адабраць і перадаць іх, а з імі і трактары і трактарыстаў, у калгасы, саўгасы, канцэнтрыруючы вытворчае ўпраўленне ў адных руках».

На другіх крынічанскіх палетках мы знаёміліся з эксперыментамі па высеве траў у розных відавых камбінацыях: люцэрна і купкоўка зборная, люцэрна і кастрэц безасцюковы і г. д. у розных прапорцыях, долях адна да адной. Сочачы за іх ростам, вучоныя вызначалі найбольш прыдатныя варыянты высеву для атрымання высокіх ураджаяў.

Тлумачэнні на дзялянках, занятых травою, даваў выконваючы абавязкі дырэктара доследнай станцыі Віктар Іванавіч Рылушкін, малад-

жавы, сярэдняга росту мужчына. Не выключана, што ён быў надзелены сціпласцю і таму не пахваляўся работай вучоных, а проста паказаў, што яны гуртам рабілі. Магчыма, аднак, што сціплай была ўжо сама іх работа. Здавалася, не трэба мець вялікае мудрасці, каб доследным шляхам падабраць, што з чым сеяць і ў якіх суадносінах. Дый ці нельга было гадоў дваццаць або трыццаць назад разабрацца з травянымі палеткамі? Невялікае што, задача па сіле любому дбайнаму гаспадару, і не расцягваў бы ён гэтыя доследы на дзесяткі гадоў.

Дарэчы, трохі гісторыі. Палеская сельскагаспадарчая доследная станцыя Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства была ўтворана ў 1956 годзе і амаль чвэртку стагоддзя размяшчалася на нізінных балоцістых глебах саўгаса «Ліпава» Калінкавіцкага раёна. Асноўнай задачай станцыі было выяўленне магчымасцей вырошчвання ў Палескай нізіне добрых ураджаяў лубіну, кукурузы, збожжавых культур, грэчкі. Станцыя даследавала таксама спосабы апрацоўкі пясчаных глеб і выкарыстання зямель пасля здабычы торфу.

Не бяруся выказваць меркаванне, добра ці дрэнна працавала станцыя ў Ліпаве, але толькі яна раптам знялася і рушыла з абсягаў палескіх балот на Мазырскую пагоркавую граду, раскінула ў Крынічным шатры і пад вытворчую базу сабе абрала крынічанскія землі на высокім беразе Прыпяці — куток зусім не характэрны для Палескай нізіны, якую станцыі наканавана даследаваць.

Але ж і зоркі кранаюцца з месца і падаюць. І ёсць на той рух прычыны...

На доследнай станцыі працуе 13 кандыдатаў навук, а задачы перад станцыяй стаяць ранейшыя, дарма што глеба не тая... Сапраўдная палеская глеба добраахвотна пакінута імі, і ніхто з вучоных, пасяліўшыся ў дачным пасёлку, не падае выгляду, што парушаны лад іх навуковых даследаванняў. Варушацца неяк, ездзяць у камандзіроўкі на палескія землі. Толькі ж зорка іх поспеху пачала западаць. Здарылася

гэта ў пару трыумфу убраністычных настрояў, і дзівіцца тут няма чаму.

У сістэме сельскай гаспадаркі рэспублікі працуе 6 тысяч вучоных, дактароў і кандыдатаў навук — армія! От пра яе нядаўна ў нас і была размова з адным блізкім да высокага міністэрскага люду, спрактыкаваным і дасведчаным чалавекам. Заломваючы на руках пальцы, ён пералічваў адкрыцці і вынаходніцтвы вучоных-аграрнікаў ад самага пасляваеннага часу, і калі скончыў пералік, нават не ўсе пальцы былі загнутымі. Ну вывелі, казаў, выдатны сорт жыта «белта», вывелі серыю новых сартоў бульбы — выдатна! Але ж над гэтым працавалі толькі дзесяткі, ну хай сотні вучоных. А астатнія чым вызначыліся?

— Дык нешта ж таксама рабілі...— мне здавалася празмернай катэгарычнасць, з якой мой знаёмы адмаўляў заслугі астатніх вучоных.

— Рабілі... Рабілі, а вынік які?

Вядома, пра вынік, пра плён навуковай работы ў межах аграпрамысловага комплексу (новая назва тады толькі-толькі ўваходзіла ва ўжытак) лепей ведаў ён, службовец: праз яго рукі праходзіла навуковая інфармацыя... І тады мне прыгадаўся выпадак з Усесаюзным навукова-даследчым інстытутам па прадуктах харчавання з бульбы, што знаходзіцца ў Мінску.

Пра існаванне гэтага інстытута народ даznаўся, бадай, толькі з крытычнага артыкула ў «Правде». Газета пісала, што за 50 гадоў, як утвораны інстытут, яго работнікамі не выдадзена аніякіх навуковых прац — ні манаграфій, ні падручнікаў, ні методык. Далей зазначалася: «Значная частка навуковых даследаванняў НДІ носіць яўна абмежаваны характар, вырашае прыватныя пытанні, якія заведама не могуць зрабіць прыкметнага ўплыву на павышэнне тэхнічнага ўзроўню галіны ў цэлым».

І ў публікацыі гаворка ішла нават не пра адзін інстытут, а пра навукова-вытворчае аб'яднанне, якое, нягледзячы на нікуды не вартыя вытворчыя вынікі, нікчэмнасць навуковай работы, усё-такі лічылася перадавым у краіне.

От бо! Умела кіраўніцтва паказаць тое, чаго не было, стварыць бліскучую заслону з бліскучых папер і прамоў, дзякуючы чаму калектыў неаднойчы «перамагаў» у сацыялістычным спаборніцтве і атрымліваў высокія прэміі.

Чытаючы пра такое або слухаючы, далібог, не ведаеш, ці то смяяцца, ці плакаць.

Як я працую і як мы працуем — гэта ж наша кроўная справа, і гонар нам складуць не паперы, якімі б бліскучымі яны ні былі і колькі б нам за іх ні плацілі!

Па колькасці вучоных на тысячу спецыялістаў у Беларусі цяпер лідзіруюць вучоныя аграрнікі і вучоныя медыкі. А хіба лідзіруе ў сваіх дасягненнях тая або другая галіна?

І куды ж нам далей ісці з гэткай арміяй вучоных? Даецца ім нямала. Аддача ад іх працы знізілася за апошнія гады, і таксама — нямала! У чым жа прычына такога расхейдусу?

Нагадаем, пра што мы ўжо зазначалі. Зусім відавочна, што эканамістамі і планавікамі розных узроўняў дагэтуль не адрэгуляваны гаспадарчы механізм; не вывераны счапленні і наогул прывады, каб кожны вытворчы або навуковы калектыў і асобныя спецыялісты ў калектыве працавалі не на паперу, якая так засмечвае Сялянскі Акіян, а на канчатковы, бачны, рэальны вынік. «Але што возьмеш з эканамістаў, калі яны дзесяцігоддзямі былі на пенсіі?» — сказаў мне аднойчы дасціпны таксама чалавек, селянін і партыйны работнік Анатоль Міхайлавіч Вайцешык, на Брэстчыне. «Былі на пенсіі...» А цяпер ужо — не?.. І ці іх віна ў тым? Хто іх слухаў?.. «У галіне навукі выдаткі цэнтралізацыі выяўляліся ў развіцці дагматызму, у тэндэнцыі да абмежавання функцый эканамічнай навукі задачамі вытлумачэння і прапаганды практыкі». Словы належаць вучонаму-эканамісту, лаўрэату Ленінскай прэміі В. В. Наважылаву.

Дык як жа нам цяпер пераадолець інертнасць і павярнуць эканамістаў да надзённых праблем?

## 26. Жыткавічы — Верасніца. Багацце, у якім дна няма

Дарога.

Нас чакаў Анатоль Мацвеевіч Пеўнеў, першы сакратар Жыткавіцкага райкома партыі, атлетычнага складу, адкрыты і шчыры, аддадзены сваёй неспакойнай рабоце і перш за ўсё — чалавеку. Яго маладосць і душэўная прамяністасць выклікалі ў нас самыя добрыя пачуцці.

Ураджэнец Рагачоўскага раёна, ён не так даўно яшчэ працаваў у Буда-Кашалёўскім раёне дырэктарам саўгаса «Дзербічы», дзе і выявіліся яго здольнасці ў рабоце з людзьмі.

Васільеў распытваў сакратара пра магчымасці творчай работы ў раёне, ініцыятыву і наогул актыўнасць сельскай інтэлігенцыі, і Анатоль Мацвеевіч расказаў нам пра дзіўны выпадак, даючы тым самым вычарпальны адказ на ўсе нашы пытанні. Зімой, казаў, вельмі спрыяльна склаліся абставіны, каб перагледзець і змяніць, дзе трэба, структуру пасеваў, палепшыць яе з улікам мясцовых умоў. Раёну скасавалі 2000 гектараў збожжавых культур, і раённае кіраўніцтва звярнулася да кіраўнікоў і спецыялістаў усіх гаспадарак: складзіце структуру ніў так, як вам хацелася б...

— І што вы думаеце? — Пеўнеў ціха пахітаў галавой.— З дваццаці дзвюх толькі дзве гаспадаркі падалі свае прапановы перайначыць структуру пасеваў, а астатнія пакінулі, што было. От вам і ініцыятыва!

Пры гэтых словах сакратара райкома я адчуў сябе вельмі няўтульна, быццам у мяне вынялі штосьці з сярэдзіны. Не мог уцяміць адразу, каго з нас, прысутных, гэты неверагодны факт апраўдвае і па кім б'е... Біў ён па ўсіх нас адразу.

Была... Была ініцыятыва, ды ў дно выпала!

Не помню пэўна, што сказаў на тое Васільеў. Толькі Анатоль Мацвеевіч дадаў яшчэ:

— Адвыклі думаць. І перастрахоўваюцца, канечне, каб не адказваць за свае дзеянні. Так спакойней...

Аднак то быў спакой амярцвелага тут Сялянскага Акіяна, і для аднаўлення былой актыўнасці яму патрэбна ўжо была дапамога...

У Жыткавіцкім раёне праца ў цэлым складвалася нядрэнна, аж да апошняй вясны, у якую, ліха на яго, пачаўся пажар.

Сакратару райкома Пеўневу, відаць, няёмка было і расказваць гасцям пра няшчасце, пра драму, якая разыгралася ў прыродзе на Палессі акурат у тыя дні, і ён абмежаваўся скупымі словамі:

— Выгараў кавалак Прыпяцкага запаведніка...

Але мы ўжо ведалі, калі ехалі сюды з Мазыра, што багата дзе на Гомельшчыне гараць лясы; сухавею не патрэбна было ніякай лучыны, каб падпаліць іх.

Кволая і бесхарактарная зіма не пакінула снегу вясне, дажджы не праходзілі, і ад самага сакавіка стаяла сухмень. Іскры ад выхлапной трубы аўтамабіля часам было дастаткова, каб узнікнуць узбоч дарогі агню. Але, бадай, не гэта стала асноўнай прычынай стыхійнага бедства. Пажар быў народжаны ведамаснай мітуснёй, а ўзмацніўся, набыў маштабы, дзякуючы недагляду і адсутнасці той самай ініцыятывы на месцы.

Склалася от якая карціна...

На пачатку красавіка ва ўсе лесагаспадарчыя канторы паступіла трывожная тэлеграма: «Сухія лясы, сцеражыцеся пажару!»

У гэты ж час чыгунка атрымлівае па службовых каналах каманду: «Паліце ўтравелыя і сухія абочыны!»

«Сельская газета» ў сваю чаргу знайшла зручны момант, каб надрукаваць рэкамендацыі, як паліць лугі.

І пачалі дзейнічаць — кожны, як яму служба падказвала. Некаторыя кіраўнікі гаспадарак куплялі ў магазінах запалкі цэлымі скрынкамі і раздавалі іх дзецям, пры гэтым наказвалі: гуртам на ўгоддзі і паліць, паліць, паліць!..

І пайшло шугаць полымя. І пачалася рэдкая ў свеце вакханалія: адны паляць, другія ту-

шаць, а трэція выконваюць план па сяўбе на тарфяніках, якія гараць!.. Астатнія (а былі ж і такія) абыякава глядзелі на тое, што робіцца, пакуль вогнішча не падкрадвалася да самай сядзібы.

Як вынік, у некаторых гаспадарках Жыткавіцкага раёна дашчэнту павыгаралі тарфянікі.

Як вынік, ва унікальным Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведніку агонь спапяліў больш за пяць тысяч гектараў угоддзяў, у тым ліку дзве тысячы гектараў лесу, разам з усім, што яго насяляла.

А гэты ж запаведнік быў створаны ў 1969 годзе на вельмі і вельмі забалочанай, як пісалася тады, раўніне паміж рэчкамі Прыпяць, Убарць, Сцвіга, на тэрыторыі Жыткавіцкага, Лельчыцкага і Петрыкаўскага раёнаў (былая плошча яго — больш за 60 тысяч гектараў). На запаведных землях, у лясах ставілася за мэту зберагчы процьму унікальных і рэдкіх жывёл, птушак, земнаводных, сам ландшафт з яго рэдкімі раслінамі, вывучыць змены ў прыродзе ў сувязі з асушэннем прылеглай да запаведніка з усіх бакоў прасторы.

І вось гэты пажар, якога не чакалі.

Хоць бы паслужыў ён урокам. Прынамсі, міністэрства лясной гаспадаркі БССР, паказваючы страты ў запаведніку, спрабавала зменшыць іх больш чым у дзесяць разоў!

Камітэт па ахове прыроды БССР сабраў матэрыялы аб пажары і перадаў іх у пракуратуру, прапануючы прыцягнуць да адказнасці вінаватых.

Аднак справа заглухла.

Гладкая і чыстая, вымытая дажджом асфальтаваная стужка рассякала прастору далей. Прыкладна за 30 кіламетраў на паўднёвы захад ад Жыткавіч ляжаў старажытны беларускі горад Тураў, былы цэнтр магутнага калісьці Тураўскага княства. Яму падпарадкоўваліся гарады Бярэсце, Пінск, Чартарыйск, Рагачоў, Слуцк,

Клецк, Капыль... Цяпер Тураў уваходзіў у склад Жыткавіцкага раёна.

Згодна падання, жыхары гэтага кутка Беларусі вельмі шанавалі сваю зямлю-матухну і вышэй за ўсё ставілі працу на ёй. Ад зямлі ішлі ўся сіла, сіла духу, трываласць і моц княства. Яно трымалася перш-наперш на плячах сялян.

Як даводзіць легенда, тураўскі князь Яраслаў быў багаты і мудры. Час ад часу ён наладжваў паляванне на тура. Загоншчыкам у яго звычайна быў Ранцэвіч, спрытны і дужы ратар — гэта значыць араты — блізкі да князя.

Аднойчы князь спытаўся ў Ранцэвіча, чым яго за старанне і чыннасць узнагародзіць.

— Дай ты мне, княжа, такі дар, каб я ў ім дна знайсці не мог.

Той задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў усё сваё багацце, то і тады дно яму знойдзецца.

— Не, князь, пойдзем, я пакажу табе бяздоннае багацце.

Яны выйшлі на двор. Узяў Ранцэвіч лавецкі меч і амаль увесь усунуў у зямлю.

— Вось тваё, княжа, багацце, у якім дна няма: яно ратару больш вартае, чым тыя чырвонцы. Грошы могуць і ўкрасці, а гэтага ніхто не ўкрадзе.

Засмяяўся князь...

— Дам табе зямлі на дзесятае пакаленне...

Цяпер гэтыя землі ляжалі налева і направа... Нізіна... Чорныя, тлустыя, пакуль без расліннасці палі і вільготныя пасля дажджу нівы, зялёныя, дружныя, хвалюючыя сваёй чысцінёй, першародствам...

У палешукоў (а магчыма, і шырэй — у сялян нашага краю) здавён даўна быў культ зямлі. «Маці зямля ўсё прымае, а найбольш усялякае нечысці, да яшчэ і дзякуе за ета, калі хочаш ведаць, як яна дзякуе, то навязі гною дай пасей жыта, дак і будзеш знаць».

Зямля лічылася свяшчэннаю, зневажанне яе ўспрымалася як вялікі грэх. Яшчэ ў мінулым стагоддзі, ад'язджаючы ў чужы край, беларус браў з сабой жменьку роднай зямлі. Яна грэла,

яна была часткаю ягонай душы. І таму не выпадкова для нашага селяніна самай страшнай клятвай, па сведчанні этнографаў, была клятва, якую ён даваў з зямлёю ў руцэ або ў роце...

Тураў ляжаў за Прыпяццю, на другім беразе, але моста туды не было. Мост якраз будаваўся, і мы былі сведкамі такой важнай падзеі ў жыцці тураўцаў. Перасеклі раку на пароме. Зноў палі, і яны неўпрыкметку пераходзілі ў сядзібы гараджан. Спакойныя зялёныя вуліцы, дзе пераважалі драўляныя дамы. З помнікаў старажытнасці, акрамя гарадзішча, умацаванага калісьці равамі і валамі, нічога не засталося. Зрэшты, археалагічныя раскопкі, праведзеныя ў розныя часы ў Тураве, далі надзвычай багаты матэрыял для даследчыкаў гісторыі і культуры гэтага найважнейшага культурна-рэлігійнага цэнтра Старажытнай Русі. Многае захоўвалася ў Тураўскім краязнаўчым музеі. У ліку экспанатаў, напрыклад, стаяў шкляны посуд, ляжалі касцяныя вырабы, шыферныя прасліцы, бранзалеты, свінцовыя абразкі, шахматныя фігуры, крэсівы, пахавальны саркафаг і многае іншае. Некалі ў Тураве знайшлі частку Евангелля, пісанага на пергаміне...

Нас цягнула адсюль далей, у сучасную вёску.

Цікава, у якім пакаленні ад Ранцэвіча, княскага загоншчыка і ратара, жылі цяпер Міхаіл Аляксандравіч Якубоўскі, старшыня калгаса імя Жданава, і калгаснікі-жданаўцы,— мо ў дваццатым ці трыццатым... Толькі зямлі той, якую атрымаў Ранцэвіч, і на іх долю хапіла. Дарэчы, у мяне складвалася ўражанне, што яны не спяшаюцца мяняць сваё ўяўленне пра яе вартасць. Гаспадарка — моцная, з добра развітымі раслінаводствам і жывёлагадоўляй. Апроч фермаў, дзе вырошчваюць гавяду на мяса і дзеля малака, тут працаваў свінакомплекс на 10 тысяч галоў.

Цэнтр калгаса імя Жданава — вёска Верасніца. Яна ўсяго за сем кіламетраў ад Турава. У ёй чуўся добры жыццёвы настрой жыхароў, і мы не заўважылі ні адной хаты, каб яна была

недагледжанай або, тым больш, пустой, пакінутай. Абслугоўвалі вёску тры магазіны, сярэдняя школа, фельчарска-акушэрскі і ветэрынарны пункты, не гаворачы ўжо пра культурна-асветныя ўстановы — як Дом культуры, бібліятэка, музычная школа...

Міхаіл Аляксандравіч Якубоўскі — дбайны, паважны, сялянскай закваскі чалавек, з сівізной на скронях і характэрнай хрыплаватасцю ў голасе, набытай, пэўна, яшчэ ў вайну. Дарэчы, ён быў разведчыкам у партызанскім атрадзе, салдатам — на фронце... Ён і цяпер насіў гімнасцёрку, праўда, сучаснага, афіцэрскага крою, напэўна, ужо з плячэй сына ці ўнука. Расказваў пра тое і пра гэта. Гаварыў пра набыткі, але за кожным з набыткаў, бадай, ляжала праблема. На старшыньскай пасадзе ён ветэран. А калгас імя Жданава стаў прыбытковым і пачаў развівацца роўна, упэўнена яшчэ з 1955 года, памог таму лён. Дарэчы, з ільну ў тыя ж гады пачынаў сваё ўзыходжанне і калгас «Аснежыцкі» на Піншчыне... А ў калгасе імя Жданава лён і цяпер сеюць і збіраюць добры ўраджай. Саломку складваюць у сціргы... Чаму? На Рэчыцкім ільнокамбінаце, куды (адсюль за свет) возяць саломку, утварыўся чатырохгадовы запас яе. Камбінат закупіў у калгасе сціргы, але не забірае, і так псуецца тавар, у які закладзена вялікая праца. Тавар, варты золата.

— А грошы ў калгасе ёсць,— прадаўжаў Якубоўскі,— але ж цяпер, калі хочаш што-якое будаваць, лепей, каб іх не было. От сусед даказаў, што ў яго гаспадарцы сем тысяч страт, і яму далі фонды пад будаўніцтва, а нам — дулю!.. Зноў жа, ён здае малако па 54 капейкі літр, а мы — па 27. Пры такой падтрымцы вельмі лёгка з гаспадароў трапіць ва ўтрыманцы. Ва ўсякім выпадку, рост прыбытку там не адпавядае намаганням людзей, іх стараннасці... Стараннасць, наадварот, можа зніжацца, а прыбытак будзе расці, бо ён штучны.

— У такім выпадку,— сказаў я,— страчвае сваю ролю спаборніцтва, бо размыты крытэрыі...

— Правільна!

— Гэтая эканамічная палачка-выручалачка для слабых гаспадарак павінна быць часовай,— зазначыў Васільеў.

Якубоўскі развіваў думку далей:

— Мы зрабілі адно дзела — адвучылі сялян працаваць на зямлі, а цяпер і кіраўнікоў адвучваем...

Аднак апошнія словы ён сказаў ужо не столькі пра сваю гаспадарку, колькі наогул пра тое, што бачыў, што чуў, адчуваў... У Верасніцы, як і па другіх вёсках калгаса, людзі ахвотна і шчыра працавалі, хоць старшыня і заўважаў некаторую розніцу з іх ранейшым імпэтам.

— Механізатары трохі разбалаваліся... А жанчынам трэба аддаць дзякуй з абедзвюх рук! Шчырыя скрозь.

І яшчэ ён казаў:

— Каб спрыяць узняццю сяла, мы адкрылі музычную школу. У ёй чатыры чалавекі (з ліку выкладчыкаў) атрымліваюць даплату з калгаса ад 40 да 80 рублёў. Адзін мастак на калгасным забеспячэнні...

— Малайцы! — ацаніў усё гэта Васільеў.

Інспектары фінаддзела і іншыя рэвізоры, праўда, чапляліся, маўляў, незаконна грошы транжырым, тое ды сёе... Толькі сакратар райкома сказаў мне: «Трымайцеся!»

Гаворка выяўляла ў Якубоўскім кіраўніка з сучасным мысленнем, і ўжо лагічным здавалася тое, што ў гэтым калгасе дастаткова моладзі. А моладзь сёння — тая лакмусавая паперчына, якая паказвае на стабільнасць жыцця ў гаспадарцы. Адно ў маладым пакаленні старшыню задавальняе не кожны юнак.

— Важна, каб нарадзіўся ў таленце, а то будзе хадзіць — хамут хамутом!

Мы пацікавіліся ў яго, а як жа развіваць гэты талент?

— З дзяцінства... От прыклад з заатэхнікам Паўлам Клімовічам. Працаваў хлопец на конях, падлеткам пачаў... Скончыў школу — паставілі яго загадчыкам фермы. Не памыліліся. Працалюбівы і кемны... Адслужыў армію, вяр-

нуўся, і мы паслалі яго вучыцца ў заавецінстытут.

Хораша ладкавала жыццё ў сваім кутку праўленне калгаса. Нягледзячы на скаргі старшыні будавалі таксама жытло; і тут — што калгас рабіў, а што самі калгаснікі, беручы ў гаспадарцы крэдыт. Больш 170 сядзібных дамоў пабудавана за апошнія гады... Крэдыт склаў 280 тысяч рублёў. Усё гэта зноў жа сведчыла пра паўнату і стабільнасць жыцця ў Верасніцы і далей... Калі хочаце, жданаўцы падмацуюць гэтую думку не толькі справамі, але і песнямі, жартамі, заліхвацкімі скокамі...

Калісьці на сяле ўвесь народ спяваў. Тэлевізар адвучыў ад гэткае прыхамаці. Цяпер спяваюць фальклорна-этнаграфічныя ансамблі, уяўляючыя сабой астраўкі народнай песеннай культуры ў шырокім Сялянскім Акіяне. У калгасе імя Жданава, аднак, сяляне яшчэ не развучыліся спяваць, паасобку і ў хоры. У іх створаны дзве фальклорныя групы, адна — у Верасніцы, другая — у Любовічах. У складзе апошняй — свінаркі са свінакомплекса, а таксама даяркі. Акрамя таго, ёсць і трэці самадзейны калектыў — народны, танцавальны — «Верасок». Работай Любовіцкага сельскага Дома культуры кіруе, між іншым, дзяўчына-цыганка Людміла Андрэеўна Кузьменка, настойлівая, дабітная і любімая ўсімі.

Пра папулярнасць самадзейных калектываў сярод калгаснікаў гаворыць яскрава той факт, што на іх канцэрты збіраецца больш народу, чым на канцэрты прафесійных артыстаў. Міхаіл Аляксандравіч расказаў нам пра выпадак, калі перад святам 8 Сакавіка адна верасніцкая даярка, а была гэта Галіна Блоцкая, звярнулася са скаргай ажно да сакратара райкома партыі... Яна скардзілася на тое, што на перадсвяточны канцэрт з іх фальклорнай групы ўзялі толькі два нумары, а з любовіцкай — пяць!.. Дзе, у якім раёне нашага галасістага краю сакратарам райкома даводзілася яшчэ разбіраць падобныя скаргі?!

Самадзейная творчасць захапіла многіх

калгаснікаў, і цяпер яны не цураюцца песні ў штодзённым занятку. Вось красамоўнае прызнанне даяркі і, дадамо, калгаснае актывісткі Галіны Бялко:

— Іду гэта я, а песня прычапілася да мяне, іду і не заўважаю, што пяю.

Калгас імя Жданава і яго старшыня зрабілі на нас прыемнае ўражанне. Васільеў той проста палюбіў Якубоўскага за паўдня, праведзенага разам з ім; бадай, штосьці нябачнае, няўлоўнае звязвала іх і рабіла блізкімі аднаго аднаму, і мне здавалася, што прычынай таму быў не адзін толькі гаспадарчы і крытычны лад думак верасніцкага старшыні, яго неспакой, неўтаймаванасць душы, але і тое, што перажылі яны падчас вайны, будучы амаль аднагодкамі.

Мы вярталіся назад, у Тураў, і Іван Апанасавіч, узважваючы на шалях спрактыкаваных, сумленных думак сваіх жыццё і працоўную рупнасць жданаўцаў, пытаўся ў мяне:

— Чаму недаацанілі Якубоўскага?

Тут я сумленна пацісцнуў плячыма. Я думаў, што самому Міхаілу Аляксандравічу пра гэта галава не баліць, што працуе гэты шчыры чалавек не за ўзнагароды, пэўна, хоць і мае некалькі ордэнаў Леніна, і што найдаражэйшым для яго з'яўляецца прызнанне ў народзе,— а яго шануюць тут, у калгасе, як роднага бацьку; от чым ён мог ганарыцца!

## 27. «Дзе карагод ходзіць...» Гордая памяць Турава

Нашы ўражанні ад Тураўшчыны абагаціліся яшчэ больш у самім Тураве, дзе адчувалася повязь людзей з часам сённяшнім і мінулым, сваёй спадчынай і зямлёй сваёй... Спяваў Тураў. Спяваў Тураў, пакуль яшчэ не зачарсцвеўшы душой, спяваў шматгалоса, не здрадзіўшы продкам сваім ні ў песні, ні ў працы; толькі песні пераважалі вясёлыя.

Няма краю прыгажэйшага,
Ураджаем багацейшага,
Слаўнай працаю свабоднаю,
Звонкай песняю народнаю...

Незадоўга да нашага прыезду ў Тураве было вялікае свята: адзначалі дваццацігоддзе папулярнага і вядомага ажно ў Маскве тураўскага народнага ансамбля танца «Прыпяць» — своеасаблівай жамчужыны Палесся. З гэтае нагоды на беразе Прыпяці, ля пераправы, быў наладжаны канцэрт, у якім прынялі ўдзел 600 чалавек. Гледачоў ды слухачоў было — не злічыць. Паром паслужыў выдатнай сцэнічнай пляцоўкай.

— У нас рознагалосая і розная па ўзросту самадзейная публіка,— тлумачыў нам мастацкі кіраўнік усяго гэтага відовішча, ён жа і харэограф, Мікалай Кананавіч Котаў — энтузіяст сваёй справы.— Прымаем у самадзейнасць, пачынаючы з дзіцячага сада.

Сярэдняга росту, з правільнымі, але не буйнымі рысамі твару, жвавы, без пахвальбы, але з той жа паляшуцкай годнасцю ў паставе, Мікалай Кананавіч меў справу з самой душой чалавека, яго здольнасцямі, артыстычнасцю, працаваў з людзьмі, фарміруючы мастацкія калектывы, і мог па праву лічыцца дойлідам высокамастацкай самадзейнай творчасці, прарабам духу, як цяпер гавораць.

У калгасе імя Жданава Мікалай Кананавіч Котаў стварыў танцавальны калектыў «Верасок», які нядаўна таксама быў надзелены ганаровым званнем народнага і стаў спадарожнікам ансамбля «Прыпяць». Дабрадзейны ўплыў, непасрэдная кваліфікаваная дапамога Котава і яго паплечнікаў па ансамблі, такіх, як канцэртмайстар Міхаіл Аляксандравіч Новікаў, баяніст Іван Архіпавіч Шруб, зрабілі магчымым выявіцца багата якім талентам. Ствараюцца новыя народныя калектывы, а ансамбль «Прыпяць» ад гэтага нікольк не мялее, не блякне, бо падае прыклад таго, як льга карыстацца адвечным, народным.

Вывучаючы побыт, звычкі і абрады палешу-

коў, Котаў выдзяляў з усяго гэтага характэрныя рухі, штрыхі і дэталі, потым на гэтым мясцовым матэрыяле ствараў новыя арыгінальныя харэаграфічныя кампазіцыі, танцы... Пасняхова выконваюцца «Тураўская каханачка», «Тураўскія скокі», «Вясельная порсткая», а з ліку абрадавых — «Жытнёвы карагод»...

Дзе карагод ходзіць,
Там жыта родзіць,
А дзе не бывае,
То там палягае...

Для гэтага ансамбля наогул характэрна арганічная сувязь з жыццём-быццём. Такі прыклад... Пабывалі аднойчы самадзейныя артысты ў калгасе «Перамога», далі канцэрт, а заадно на ферме прыгледзеліся да занятку даярак, пераймалі найбольш уласцівыя ім рухі, жэсты, манеры... Неўзабаве з'явілася новая харэаграфічная кампазіцыя «На ферме», прыхільна сустрэтая гледачамі.

Другі прыклад. Вёска Любовічы ў жданаўцаў славіцца ўмельцамі плесці з лазы і іншых раслін розныя штуковіны, ад дзіцячых цацак да шматпудовых па ёмістасці кашалёў... Ансамбль «Прыпяць» сустрэўся з любовіцкімі народнымі ўмельцамі, паслухаў іх байкі, паданні, жарты і... сплёў заліхвацкі і багата насычаны зместам танец «Кашалі».

У рэпертуары ансамбля нямала танцаў рускага, украінскага і іншых народаў нашай вялікай краіны, але ж стрыжнем, асновай з'яўляецца сваё, паляшуцкае. Ці не таму канцэрты «Прыпяці» такія ўражлівыя і запамінальныя? Тут не старэюць і ранейшыя кампазіцыі, як, напрыклад, «Вечарынка ў калгасе» і радуюць новыя — «Гульні Палесся», дзе праз песню і танец раскрываюцца карціны мінулага і закранаюцца праблемы эстэтычнага выхавання моладзі, або «Ку-ка» — старадаўні танец-гульня, што ўслаўляе вясну, мір, шчасце... 40-годдзю Перамогі савецкага народа над гітлераўцамі прысвячалася балада «Боль Хатыні».

Цікава, што і пра «Верасок» мастацтвазнаў-

цы ў друку пісалі: «...умела пазбягае эстрадных штампаў, фарміруе рэпертуар, зыходзячы з канкрэтных узораў народнай творчасці свайго рэгіёна». А ў «Вераску» — дзве фальклорныя групы, адна з малочнай фермы, другая са свінагадоўчага комплексу, — усяго восемдзесят чалавек. Праблемы кадраў у ансамблях няма. Не перасыхаюць вытокі.

Гэта лепшыя эстрадныя калектывы на Гомельшчыне. З народнай эстрады... Гонар Палесся. Гордасць старажытнага Турава.

Мы гутарылі з Котавым. Удзел у нашай гаворцы прымаў таксама старшыня Тураўскага пасялковага Савета Мікалай Мікалаевіч Арцюшка, рослы і дужы мужчына, гарачы прыхільнік і апякун самабытнай народнай творчасці. Яго непакоілі праблемы Турава.

Я слухаў са шкадобай і жалем, што ў Тураве няма ніводнага прамысловага прадпрыемства і па гэтай прычыне тут вельмі цяжка знайсці чалавеку пэўны працоўны занятак. А жыхары Турава, у тым ліку моладзь, па словах Арцюшкі і Котава, вельмі шануюць свой куток, даражаць ім і, калі ёсць магчымасць уладкавацца на працу, застаюцца на месцы. Факт неардынарны, падобную адданасць роднай зямлі я назіраў яшчэ ў Моталі, і, прызнаюся, гэта кранала мяне і цешыла, як цешыць гаспадара паўнацэннае зерне, здольнае даваць расткі.

Тураў належаў цяпер да ліку другарадных гарадкоў тыпу Івянца і Васілевіч. Аднак яго значэнне ў гісторыі ўсходне-славянскіх народаў і гісторыі зямлі нашай было вельмі важным. Шкада, што пра гэта цяпер у Тураве нішто не нагадвае, акрамя краязнаўчага музея з яго экспанатамі. Няма помнікаў, калі не лічыць амаль зруйнаванае гарадзішча ды саму назву Тураў.

У Тураве жыў і працаваў славуты дзеяч старажытна-рускай літаратуры Кірыла Тураўскі (1130—1182), творы якога вызначаліся паэтычнай узнёсласцю, значнасцю і велічнасцю вобразаў, мілагучнасцю і сімволікай. «Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси» — так пра яго гаварылі ў рускіх землях.

Не лішне зазначыць, што Кірылу Тараўскага мы можам лічыць першым беларускім пісьменнікам, і гэтая акалічнасць разам з гонарам накладвае на нас таксама пэўны абавязак перад памяццю аб ім, творцы мастацкага слова, ад якога льга перакінуць мост і да летапісаў, і да Міколы Гусоўскага з яго сярэдневяковым шэдэўрам — «Песняй пра зубра».

Ва ўсякім разе, думаецца, зусім не выпадкова старшыня пасялковага Савета народных дэпутатаў Мікалай Мікалаевіч Арцюшка паказаў нам макет помніка Кірылу Тураўскаму, выкананага адным з мясцовых скульптараў, гарачым прыхільнікам славутага продка. У скульптурнай кампазіцыі цяжкі крыж Кірыла ўскладае на спіну тура, што патрабуе пэўнага асэнсавання. Ва ўсім іншым помнік зграбны, прыстойны. Магчыма, ён цалкам адпавядае вобразу або, дакладней, ідэі жыцця і творчасці Кірылы. Але, каб паставіць яго, Тураўскі Савет пакуль што не знайшоў падтрымкі ў вышэйшых установах. Патрэбны сродкі, якія або дала б дзяржава, або сабралі б людзі, землякі Кірылавы... Нарэшце ўтвораны Савецкі фонд культуры... На вялікі жаль, яшчэ і па сённяшні дзень адчуваецца дэфіцыт увагі да помнікаў старажытнасці, наогул да такіх гарадоў, як Тураў, як Любеч, што стаіць на Дняпры, на Чарнігаўшчыне... Што ж тычыцца задумы тураўцаў паставіць помнік свайму вялікаму продку Кірылу Тураўскаму, то яна, на мой погляд, павінна знайсці актыўную падтрымку ў творчай інтэлігенцыі нашай рэспублікі, пісьменнікаў, непасрэдна Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Тураў — такі куток, дзе не грэх было б разгарнуць вытворчасць самабытных народных высокамастацкіх вырабаў, хоць бы па прыкладу Івянца. Дый ці мала што тут можна зрабіць? Слова за планавымі і іншымі распарадчымі органамі. Папраўдзе, Тураў са сваім наваколлем заслугоўвае ашчаджэння як запаветная мясціна і ашчаджэння — як прыроды, так і шматвяковых народных традыцый, культуры... Магчыма, нехта возьме на сябе клопат скласці праект

далейшага развіцця Турава і Тураўшчыны разам. Важны клопат.

Наша памяць таго вымагае.

## 28. Аснежыцы. Лівень. Гамана пад шоргат дажджу

Ад Жыткавіч да Пінска — адлегласці ладны кавалак. Мы перасякалі Лунінецкі раён, а справа, на поўдзень ад нас, ляжаў у нябачнай прасторы невялікі і ўтульны паляшуцкі горад Столін. Цяпер ён патанаў недзе там, у духмяцай квецені белай акацыі і жасміну...

На Століншчыне я бываў не раз. Там мяне ўразіла сучаснае вясковае дойлідства, і я раскажу пра яго, хіба толькі зраблю гэта ў больш зручным месцы, калі мы трапім у мястэчка Моталь.

Тут жа кожная мінута набліжала нас да Аснежыц...

Скрозь цурчэла вада, і лужыны браліся бурбалкамі. Ад буйнога сяйва, касых палос і халодных пырскаў у паветры ўтваралася заслань. Дробна стукала і не столькі стукала, колькі сыпалася шоргатам па абшыўцы «Волгі», на якой мы пад'ехалі да новага будынка калгаснай канторы з высокімі парадвымі дзвярыма. Страх, а трэба вылазіць з машыны.

Гэта было 31 мая. Мы прыехалі ў калгас «Аснежыцкі», што туліўся сваімі палеткамі да горада Пінска, пасля сямі гадзін вечара. Аднак старшыня калгаса Уладзімір Антонавіч Ралько быў яшчэ ў сваім кабінеце. Ён глядзеў у акно з другога паверха і засмучана хітаў галавой:

— Лівень з ветрам, ліха яго матары! Пакладзе азімыя...

Павіталіся; я з ім даўно ўжо знаёмы, часта ездзіў сюды, даследуючы жыццё калектыву, адно лета нават працаваў на камбайне.

Васільеў пачаў цікавіцца тым, што складала аснову ў дасягненнях аснежынцаў. І тут старшыні Ралько было пра што расказаць. На пачатку адзінаццатай пяцігодкі да калгаса, які

Не лішне зазначыць, што Кірылу Тараўскага мы можам лічыць першым беларускім пісьменнікам, і гэтая акалічнасць разам з гонарам накладвае на нас таксама пэўны абавязак перад памяццю аб ім, творцы мастацкага слова, ад якога льга перакінуць мост і да летапісаў, і да Міколы Гусоўскага з яго сярэдневяковым шэдэўрам — «Песняй пра зубра».

Ва ўсякім разе, думаецца, зусім не выпадкова старшыня пасялковага Савета народных дэпутатаў Мікалай Мікалаевіч Арцюшка паказаў нам макет помніка Кірылу Тураўскаму, выкапанага адным з мясцовых скульптараў, гарачым прыхільнікам славутага продка. У скульптурнай кампазіцыі цяжкі крыж Кірыла ўскладае на спіну тура, што патрабуе пэўнага асэнсавання. Ва ўсім іншым помнік зграбны, прыстойны. Магчыма, ён цалкам адпавядае вобразу або, дакладней, ідэі жыцця і творчасці Кірылы. Але, каб паставіць яго, Тураўскі Савет пакуль што не знайшоў падтрымкі ў вышэйшых установах. Патрэбны сродкі, якія або дала б дзяржава, або сабралі б людзі, землякі Кірылавы... Нарэшце ўтвораны Савецкі фонд культуры... На вялікі жаль, яшчэ і па сённяшні дзень адчуваецца дэфіцыт увагі да помнікаў старажытнасці, наогул да такіх гарадоў, як Тураў, як Любеч, што стаіць на Дняпры, на Чарнігаўшчыне... Што ж тычыцца задумы тураўцаў паставіць помнік свайму вялікаму продку Кірылу Тураўскаму, то яна, на мой погляд, павінна знайсці актыўную падтрымку ў творчай інтэлігенцыі нашай рэспублікі, пісьменнікаў, непасрэдна Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Тураў — такі куток, дзе не грэх было б разгарнуць вытворчасць самабытных народных высокамастацкіх вырабаў, хоць бы па прыкладу Івянца. Дый ці мала што тут можна зрабіць? Слова за планавымі і іншымі распарадчымі органамі. Папраўдзе, Тураў са сваім наваколлем заслугоўвае ашчаджэння як запаветная мясціна і ашчаджэння — як прыроды, так і шматвяковых народных традыцый, культуры... Магчыма, нехта возьме на сябе клопат скласці праект

з якім гаварыў, і каб такія адносіны да яго гаспадаркі з боку нахлебнікаў, або так званых партнёраў...

— Гэта ж паміж малаказаводам і гаспадаркамі стварылі прамежкавую арганізацыю,— палічыў патрэбным даць тлумачэнне Уладзімір Антонавіч.— Цэнтравываз! Навошта?.. Чаму б не падпарадкаваць яго малаказаводу? Было б з кім гаварыць!

— Больш кантор — больш бюракратыі,— забарабаніў пальцамі па стале Васільеў.

— Я лічу, што самае вялікае зло ў горадзе ад кантор.— У голасе Ралько гучалі неспакой і трывога.— Ад кантор, у якіх людзі або нічога не робяць, або робяць пустую работу. А яшчэ ад п'янак... Канторы, каб я меў уладу, скараціў бы на 50 працэнтаў!

— Так... У саміх канторах, і ніжэй «пад канторамі» багата людзей, якія працуюць гуляючы...

І тут мне легла на думку расказаць пра такі выпадак.

У адным буйным горадзе я сустрэў свайго земляка — Валодзю Карцінніка. Працуе майстрам па электразабеспячэнні. Вопытны майстар. Пад яго кіраўніцтвам 20 слесараў. Пяць з іх амаль пастаянна ў вёсцы як шэфы... І ён мне прызнаўся, што ўсю работу на ўчастку маглі б выконваць рабочыя ўдзесяцярох, асабліва калі б зарплату хлопцам павысілі. Якая ж арыфметыка?.. З дваццаці — дзесяць чалавек, а зарплата скарочаных пяцярых ідзе на надбаўкі тым, якія застануцца. У выніку прадукцыйнасць працы ўзрастае адразу на 25 працэнтаў.

— Чаму ж іх не скароцяць?

— А каб скараціць такім чынам, кіраўніцтву прадпрыемства патрэбны правы. Рэальныя.

— Скрозь патрэбны правы! — зазначыў Ралько і працягваў: — У нашых сельскагаспадарчых інстытутах спецыялістаў выпускаюць у некалькі разоў больш, чым трэба. А навошта? Прымалі б па накіраванні гаспадарак, непасрэдна, колькі спатрэбіцца. Дык не ж! Міністэрства

чаго баіцца? Каб прафесары без работы не засталіся. Хіба — не?

І прыгадаў выпадак Васільеў. У гасцініцы «Расія» ў Маскве ён пазнаёміўся з афіцыянтам — выпускніком Ціміразеўскай акадэміі... А ці мала такіх?

Яны працягвалі гутарку; я ж дастаў дарожны блакнот і пашукаў старонкі, дзе было ўжо тое-сёе пазначана пра Цэнтравываз. Пытанне хвалявала не толькі Ралько. Скардзіліся мне на гэтую ўстанову і ў Шклоўскім раёне, і ў Столінскім... У выніку таго, што ў Шклове, і ў Давыд-Гарадку Столінскага раёна ліквідавалі малочныя заводы, малако часам даводзіцца вазіць за 70 і больш кіламетраў. Ды не па самых лепшых дарогах... Зразумела, што з ім робіцца за тыя гадзіны, пакуль яго збіраюць і пакуль яно боўтаецца ў цыстэрнах у спякотлівы дзень. Зрэшты, не ўсе фермы Цэнтравываз і абслугоўвае... Мяне, напрыклад, здзівіў артыкул старшага інжынера-тэхнолага Полацкай аўтабазы В. Масяйкова «Пра кіслае малако і Цэнтравываз», надрукаваны ў газеце «Советская Белоруссия». Аўтар надзіва аднабока, са сваёй званіцы, як кажуць, разглядае гэтую праблему. У Полацкім, Верхнядзвінскім, Пастаўскім і Расонскім раёнах, якія абслугоўвае аўтабаза, 365 малочнатаварных ферм, і толькі 75 з іх працуюць на Цэнтравываз. Чаму?.. Да многіх ферм дрэнныя пад'езды, і аўтабаза адмаўляецца ад падобных аб'ектаў,— наракаць тут на яе няма як. Але ж гэта не ўсё... Гаспадаркі (па незразумелых інжынеру Масяйкову прычынах!) наогул адмаўляюцца ад паслуг Цэнтравывазу, і ён заклікае ўжыць да іх эканамічныя санкцыі. Аўтару няўцям, што ў складанай сітуацыі, у якой аказаліся фермы многіх раёнаў і сам Цэнтравываз, права выбару павінна заставацца за гаспадаркамі, і калі шукаць эканамічныя санкцыі на каго-небудзь, то іх трэба знайсці і ўжываць перш-наперш да яго прадпрыемства.

Мы захапіліся цэнтралізацыяй, нават можна сказаць — суперцэнтралізацыяй у сельскай гаспадарцы, і многае пачало рабіцца без уліку кан-

крэтных умоў, бяздумна. У тым жа Давыд-Гарадку ліквідавалі хлебазавод, і колькі гадоў жыхары горада і прылеглай да яго сельскай зоны церпяць ад бясхлебіцы. Урэшце зразумелы прамік, і цяпер хлебны завод будуецца па-новаму. Чарга і за малочным, тым больш што там жывуць майстры па розных малочных і хлебных вырабах. Іх слава яшчэ не забыта. Калісьці марожанае, зробленае ў Давыд-Гарадку, вазілі ажно ў Варшаву...

Пытанні, якія мы з Васільевым задавалі новым сваім субяседнікам, нярэдка паўтараліся.

— Уладзімір Антонавіч, а што ў вас змянілася з утварэннем РАПА?

Ралько пацісnуў плячыма:

— Пачалі здымаць з прыбытку калгаса працэнты на ўтрыманне дадатковага штату, на падтрымку слабых гаспадарак... Вось і ўсё, што мы маем ад РАПА.

— А да сельскагаспадарчага сервісу як вы ставіцеся?

— Аніяк... Робім амаль усё самі, сваімі сіламі. Няма надзеі на сервіс, калі ён не твой і дбае адно аб тым, каб выкачаць грошы з тваёй касы ў сваю... Дрэнна працуюць і куставыя рамонтныя заводы, якасцю паслуг не задавальняюць. У іх план-вал, а ў нас — свае клопаты. Вось бы знайсці, што б нас аб'ядноўвала!.. Аб'ядноўваць можа кавалак хлеба — дык жа кормімся мы з розных сталоў!

— Мала таго: вы сябе і іх корміце!

— Кормім... дарэмна... За гэта яны нас абдзіраюць, абдурваюць. І жывуць прыпяваючы... Вунь у Брэсце «Сельгастэхніка» ўсё прыбудоўвала памяшканні да сваёй камяніцы, каб было дзе сядзець разбухламу штату. А цяпер ставіць новы будынак — аж па два кварталы, большы за абкомаўскі.

— А ці паспее яна справіць там наваселле?

— Паспее! Не яна — дык...— Ралько накінуў на плечы паліто: — Вы не чулі? Кажуць, запчасткі збіраюцца забраць у «Сельгастэхніцы» і ўтварыць асобна базу запчастак. Транспарт таксама нібы адымуць... Словам, цяпер замест

адной канторы так званага аграсервісу будзем мець ажно тры! Не лічачы сельгасхіміі... І будзе каму ў тым будынку сядзець. Яшчэ і цесна будзе!

Пераадолеўшы дажджавую заслань, мы з Васільевым трапілі ў калгасную кавярню, павячэралі там і на ноч атабарыліся непадалёку — у калгаснай гасцініцы, дзе было некалькі пакояў,— яны ўсе злучаліся адным калідорам і былі свабодныя. Вока вабіла антыкварная мэбля ў стылі ампір, амаль хатняя ўтульнасць і чысціня...

Аднак настрой у Васільева быў сапсаваны — няйначай, тымі клопатамі старшыні Ралько. Хвалюючыся, ён падбіраў адно за адным розныя ўражлівыя параўнанні і метафары, каб такім чынам вызначыць і ацаніць становішча, у якім аказаўся на схіле сваіх год гэты селянінволат. З усіх параўнанняў, праўда, вынікала адно: акрамя калгаснай зямлі, не было больш нідзе цвёрдага грунту, надзейнай партнёрскай апоры, і, куды ні паткніся, скрозь — багна, а над ёй — павуціна, сатканая мноствам кантор...

На гэты раз Іван Апанасавіч гаварыў нядоўга. Дасягнуўшы свайго апагея, абурэнне яго апала, і ён неяк нечакана змоўк: ці то супакоіўся, ці стаміўся моцна... Нагледзеў неўзабаве сабе месца ў ціхім пакоі, лёг, павярнуўся тварам у куток і заснуў.

## 29. Скруха І. Васільева. Замкнуты круг аснежыцкай тэхналогіі

Мне мроілася перажытае тут, у Аснежыцах, тым летам, калі я працаваў на камбайне ў жніво. Ураджай збажыны быў высокі — 55 цэнтнераў з гектара на круг. Праца стамляла, аднак плён яе падвойваў і мае, і аснежынцаў сілы, і яны прыгадвалі і пераказвалі адзін аднаму такі эпізод.

Вясной, калі ўся зямля ўжо была ў зяленіве,

над палеткам пачаў кружыць верталёт. Пакружыўся і знік. Але неўзабаве старшыні калгаса пазванілі з Брэста. Гаварыў старшыня аблвыканкома. Ён назваў імя ўплывовага вучонага, які лётаў на верталёце, і сказаў, што перадае яго думку: «Вельмі слабыя пасевы азімых... Ніва не паказвае на добры ўраджай. Трэба перасяваць!»

Уладзімір Антонавіч добра ведаў вучонага і адчуў за парадай звычайную гаспадарчую дырэктыву, з ліку тых, якія калегамі Ралько выконваюцца безагаворачна, нават спехам. І сам ён не заўважыў, як усярэдзіне ў яго нешта нядобра павярнулася, трэснула. Старшыня выпаліў у адказ: «А перадайце яму, што хлеб вырошчваць на зямлі і ўраджай яго трэба вызначаць таксама на зямлі, а не ў небе!»

Аснежынцы былі ўпэўнены ў сабе, бо мелі вопыт, дайшлі да майстэрства. Думку вучонага яны не прынялі і не сталі перасяваць.

І от перад самым жнівом у Аснежыцы завітаў Віктар Сцяпанавіч Шавялуха, вядомы сваімі працамі ў галіне земляробства, доктар біялагічных навук, прафесар, якога потым прызначаць намеснікам міністра сельскай гаспадаркі СССР. Нямала ніў пабачыў ён на сваім вяку, а тут быў уражаны: збажына — як чарот! Асабліва ўразіла вучонага тое, што і жыта і ячмень у аснежынцаў стаялі на корані, як нідзе ў гэтае лета.

Я быў сведкам такое размовы.

— У чым жа сакрэт? Чаму ў вас так мала палеглага?

— Ды, мабыць, уся справа ў тым, што мы не ўносім у глебу штучнага азоту, бо землі дастаткова атрымліваюць яго з арганічных угнаенняў. Пры такой тэхналогіі,— тлумачыў Ралько,— паляпшаецца структура глебы, і сцябло лепей за такую глебу трымаецца, дый само крамяней.

Віктар Сцяпанавіч узбуджана пахітаў галавой:

— Акадэмія! Сапраўдная сельскагаспадарчая акадэмія!

А гэта ж ёп вясной патрабаваў перасеву...

Раніцай настрой Івана Апанасавіча не палепшыўся, і ён сам загаварыў пра гэта:

— Разумееш, Васіль, з'явілася ў мяне скруха. Ад чаго? Не ведаю. Прыкідваю: мо ад учарашняй гаворкі?.. Не тое каб ад яе... Але гэта была апошняя кропля... Дакуль жа так можна?! Наогул усюды да гэтага размова зводзілася. А тут — Ралько! Я столькі пісаў, пераконваў, паказваў... І ўсё — дарэмна. Выходзіць, праўду казаў Старавойтаў: яшчэ доўга нічога не зменіцца! А чаму?

Я не мог яго ўсцешыць адказам, хоць і здагадваўся, дзе яго трэба шукаць. Ёсць пытанні, на якія адказ можа даць толькі жыццё.

Мне прыгадвалася, як Іван Васільеў выступаў у нас у Мінску на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў, які прысвячаўся публіцыстыцы, нарысу... Было гэта вясной 1982 года. Тады ж мы і пазнаёміліся.

— Трэба шукаць адказу на многія «чаму». Я сам хадзіў па гэтым ланцужку і вырашыў тое-сёе... Нарэшце зразумеў, што публіцыстам трэба адказваць на галоўнае пытанне: адкуль узнікаюць усе гэтыя «чаму»?

Я разумеў яго. Ды, шчыра прызнацца, і мне балела тое ж.

У нас назіраецца такі парадокс. Калі ў газеце надрукуеш нейкі крытычны артыкул, яго пасылаюць кудысьці «на месца», на рэагаванне. У традыцыю газетчыкаў увайшло дамагацца абмеркавання вострых публікацый, прыняцця адпаведных мер... Зусім іншая справа з падобнымі публікацыямі ў літаратурных часопісах. Тут усе, у тым ліку і тыя, пра каго напісана, ператвараюцца ў радавых чытачоў. Пакруцяць, паверцяць часопіс. Пачытаюць... спакойна або панервуючыся трохі... Пагавораць між сабой, пахваляць або палаюць аўтара — на тым і канец.

Так было ў мяне, напрыклад, з праблемным мастацкім нарысам «Зведай сваю зямлю», які ў свой час быў надрукаваны ў часопісе «Полымя» і выклікаў палеміку ў друку, а таксама па вучоным савеце Інстытута геалогіі АН БССР. Ня-

гледзячы на тое, што публікацыю разглядалі і ў больш высокіх інстанцыях і было прызнана, што аўтар не дапусціў пралікаў і выступіў правільна, ні ва Упраўленні геалогіі, ні ў падпарадкаваных яму экспедыцыях, канторах твор не абмяркоўваўся. А там жа было з каго і спагнаць, напрыклад, за грубае парушэнне сацыялістычнай маралі і законнасці, за перакручванне і падтасоўку фактаў, за скажэнне самой гісторыі з адкрыццём нафты.

Нарысы Івана Васільевіча чыталіся даволі шырока, захаплялі многіх. А вось жа і ён не адчуваў, каб яны «працавалі» або хоць бы выклікалі трывогу ў кагосьці ў высокіх установах, каб — ажно да XXVII партыйнага з'езда, да якога ўжо ішла падрыхтоўка,— былі рэальныя змены або хоць бы спробы памяняць, перайначыць што-небудзь у жыцці. Свежым ветрам пацягнула толькі пасля красавіцкага Пленума... Аднак фармальна створаныя аграпрамысловыя аб'яднанні пакуль што сябе не апраўдвалі...

Дождж перастаў. Вось толькі нішто не паказвала на тое, каб сырое надвор'е апошніх тыдняў пачынала мяняцца.

Неба на ўсходзе было блякла-ружовым, і гэткай жа бляклай ружовасцю падсвечваліся і цьмяна-шэрыя хмары, што грувасціліся скрозь па небе. Яны паволі плылі, куды — ветры ведалі.

Мы выйшлі з гасцініцы, пахадзілі (як турысты) па скверы, такім чыстым, прамытым учарашняй залевай, пастаялі каля помніка двойчы Герою і пашыбавалі да яго самога ў кабінет.

Іван Апанасавіч найперш пацікавіўся ў Ралько, што ён думае наконт перамены надвор'я.

— Дзед Міхалка так гаварыў: калі зімою не замёрз — летам не нагрэешся.

Дзед Міхалка, які жыў на хутары, доўгія гады быў для Уладзіміра Антонавіча Ралько як не галоўным сіноптыкам.

— Яшчэ тыдні са два цяпла не будзе.

Васільеў загаварыў пра іншае:

— Але дзе ўсё ж гарантыя, што цябе не са-

гнуць? Які трэба мець характар, каб слухацца зямлі, а не начальства, з якім ты не згодзен?

Праўду сказаць, гаспадарчая палітыка Ралько трымалася за народную практыку, і ў гэтым сваім захапленні ён не заўсёды знаходзіў падтрымку.

— На месцы, у раёне лягчэй спагады шукаць, хутчэй цябе зразумее начальства. Вялікія начальнікі рэдка наведваюцца.

У Аснежыцах Івана Васільева зацікавіла тэхналагічная повязь поля з фермай, таму, паездзіўшы разам са старшынёй па вёсках, мы заглянулі на новы комплекс.

Я помню яшчэ, як вакол гэтага комплекса вяліся спрэчкі на розных узроўнях упраўлення гаспадаркай. У рэспубліцы не было ніводнага праекта, у якім увасаблялася б ідэя ўтрымання скаціны на падсцілцы. І от Ралько прапанаваў такі праект...

— Чатыры разы мне спатрэбілася сустракацца з Машэравым, каб з ягонай падтрымкай прабіць сцяну неразумення і кансерватызму ў нашых установах. Цяпер паглядзіце, што зрабілі па нашай ініцыятыве...

Уладзімір Антонавіч правёў нас праз шырокія дзверы ўсярэдзіну. Дзверы, дарэчы, аўтаматычна адчыняліся.

— І вось тут,— прызнаваўся потым Васільеў,— у мяне вочы на лоб палезлі. З тых пор, як прапісана было паставіць кароў на падлогу, я нідзе не бачыў нічога падобнага!

У аборы адкрываўся скразны праезд. Па абодва бакі — шырокія траншэі, разбітыя на секцыі. Па краях яны ўзяты ў бетон. Зямля выбрана, стойла апускаецца, калі гною няма. У якасці падсцілкі выкарыстоўваюць салому. Да саломы часам дадаюць торф. Падсцілка паступова падымаецца, каровы — таксама на ёй... За год накопліваецца гною да паўтара метра, і адсюль яго бяруць з дапамогай бульдозера; адразу — на поле, пад плуг. Звычайна гэта робіцца ўвосень.

Утрыманне кароў гуртавое, бясприывязнае. Стойла — гаць, каровы — тантухі.

У гаспадарцы, па словах Ралько, на адну карову прыпадала да пятнаццаці тон самага якаснага гною. Дык ці ж адно малако тут павінна лічыцца прадукцыяй ферм?!

— А саломы хапае? — спытаўся Васільеў.

— Саломы да дзесяці тысяч тон сваёй маем. Акрамя таго, чатыры тысячы бяром па дамоўленасці ў іншых гаспадарках.

— Ды вы ж у іх хлеб забіраеце!

— А яны пра гэта не ведаюць,— засмяяўся Ралько і пацікавіўся: — Вы з Бядулем знаёмы?

— Не... У Бядулі мы яшчэ будзем...

— Прыязджаў ён да нас у мінулую восень; хадзіў, глядзеў, а потым выступіў на абласной нарадзе ў Брэсце. Толькі пра наш калгас і гаварыў: вось чым трэба наталяць зямлю, каб атрымліваць добры ўраджай!..

Калгас «Аснежыцкі», бадай, першы ў краіне даказаў магчымасць прымянення на комплексах мяккай падсцілкі з накапленнем яе ў вялікіх аб'ёмах, а выбіраецца гной механізаваным спосабам. Багата каму і дагэтуль вырашэнне гэтай задачы здаецца немагчымым. Не ўсе ведаюць пра аснежыцкі вопыт.

А справа важная. Справа надзвычай важная! У гаспадарках нашай рэспублікі саломісты гной займае нейкую крыху — усяго сем працэнтаў у агульнай колькасці арганічных угнаенняў, а разам з тарфяным падсцілачным — не больш як сорак працэнтаў. На паперы між тым звычайна паказваецца, што колькасць арганікі ў глебе год ад году ўзрастае. Такое ўражанне, напэўна, складваецца ад колькасці перавезеных механізатарамі грузаў арганічнага паходжання, у тым ліку рознага смецця, за што ім заробак налічаецца. Ва ўсякім выпадку, лічбы пакуль не адлюстроўваюць тое, што трапляе ў глебу і становіцца «хлебам» раслін. Папяровае люстэрка нярэдка бывае крывым, і гэта пераканаўча паказаў Ігнат Дуброўскі ў сваім нарысе «Незамкнуты круг»... Вынесеныя з глебы рэчывы (разам з ураджаем) назад вяртаюцца толькі часткова, ад чаго рэзка пагаршаецца структура

глебы і здольнасць да аднаўлення біялагічнай энергіі.

Беларускія глебы на сённяшні дзень, калі верыць даволі ўмоўным лічбам, якімі карыстаюцца вучоныя, у сярэднім утрымліваюць каля двух працэнтаў гумусу, а ў Аснежыцах — да 2,5—3,0 працэнтаў. Таўшчыня ўрадлівага пласта там за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў узрасла ажно да 30 сантыметраў. З такім творчым імпэтам у працы аснежынцы могуць спакойна глядзець у заўтрашні дзень.

Зямля ж без гною робіцца ўсё больш спустошанай і інертнай, асабліва калі занядбаны і травы і ў гаспадароў утрыманцкі настрой: зямля не дасць — дык дасць дзяржава... Прымем за факт: з пачатку стагоддзя, па прыкідках вучоных, у нашай паласе глеба страціла каля паловы запасаў гумусу.

А Глытаў казаў, што ўжо і тарфянікі патрабуюць гною...

От што, напэўна, хвалявала таксама Бядулю, калі ён выступаў на нарадзе, скліканай Брэсцкім абкомам партыі.

## 30. У Іванаўскім раёне. Чым трымаецца вёска?

Моталь! Хто не ведае гэтага сяла ў Іванаўскім раёне?

Моталь — нават мястэчка, на паўтары тысячы двароў, і двары тут вельмі шчыльна пасаджаныя. Калісьці ў мотальцаў было вельмі мала зямлі, і яны ставілі хату пры хаце. Многія хаты стаяць так і цяпер: нельга пальца прасунуць між імі.

У Моталі жылі дбайныя людзі: майстры, шаўцы, краўцы, ткачы, цесляры, сяляне і проста выдумшчыкі. Дружна жылі. І дружна жывуць. Нейкай нябачнай, але рэальнай повяззю яны павязаны паміж сабою. І ў гэтым у мотальцаў шмат агульнага з жыхарамі Турава і Давыд-Гарадка. Тут людзей не меншае, а наадварот, прырастае, бо нараджаюцца малыя і мо-

ладзь не спяшаецца адысці, у свет кануць,— цэніць свой родны куток. Сярод тых, хто працуе на полі, у майстэрнях і доіць кароў, багата юнакоў і дзяўчат. Калгас быў нават не ў стане ўсіх забяспечыць работай, хоць і адкрыў сваё вытворчае прадпрыемства — станцыю тэхнічнага абслугоўвання легкавых аўтамабіляў, паслугамі якой карыстаюцца не адныя калгаснікі — многія аўтааматары бліжэйшых раёнаў. А яшчэ ёсць цэх прыкладнога мастацтва: жанкі ткуць прыгожыя ручнікі і посцілкі.

Пра гаспадарчую рупнасць мотальцаў гаворыць як двухмільённы чысты прыбытак, так і рэнтабельнасць гаспадаркі — 51,4 працэнта, гэта значыць, сваю глебу сялянскую тут урабілі і выштукавалі так, што кідаеш у яе рубель, а яна табе вяртае паўтара, з гакам. Гэта рэдкая шчодрасць зямлі, як мовяць, талан яе.

Мотальь — гэта казка, як і Мышкавічы ў «Рассвеце», але казка своеасаблівая, бо тут другі тып людзей, дакладней, людзі такія ж, але ў іх інакшы сацыяльна-псіхалагічны малюнак душы. Яны нават рэзка адрозніваюцца ад жыхароў вёскі Тышкавічы, а тая ляжыць усяго за тры кіламетры ад Моталя, за гіблым балотам, якое цяпер, праўда, ужо можна прайсці пехатою.

У Тышкавічах таксама народ самавіты, але там усе чыста — сяляне, за зямлю, за двары моцна трымаюцца. І моладзь яшчэ не страціла цікаўнасці да сялянскае працы. Тышкаўцы робяць усё на калгас і на сябе, нічога не робяць на паказ або продаж. У большасці сем'яў — злагада, мір, дружба, і бацькі для многіх дзяцей з'яўляюцца прыкладам у шчасным жыцці.

Яны больш прастадушныя, у іх больш паляшуцкага, і ў складаных абставінах гаспадарання ім было цяжэй узбіцца на поспех. Старшыні мяняліся, справы драбнелі. Нарэшце Мікалаю Арсенцьевічу Павельчуку ўдалося выправіць становішча. Ён, можна сказаць, зразумеў, на што здольна зямля ў ваколіцах Тышкавіч, і павярнуў спецыялізацыю гаспадаркі на выро-

шчванне траў, на адкорм скаціны. Атрыманы прыбытак узняў дух людзей.

У Моталі — больш спрактыкаваны народ. Ён умее лічыць усё да тонкасцей і прамашкі не дасць нідзе — ні ў землябробстве, ні ў гаспадарчай камерцыі.

Раней у пасёлку, па ўсіх вуліцах, праз дом, праз два выраблялі авечыя шкуры і шылі выдатныя, вабныя, ну проста шыкоўныя, а галоўнае — цёплыя кажушкі. Багата іх нарабілі, не толькі для сябе. Прадавалі... Слава мотальскіх шаўцоў разам з кажушкамі пайшла далёка-далёка, ажно цыганы зацікавіліся іх шавецкім спрытам...

Не развучыліся шыць кажушкі па сённяшні дзень, хоць попыт на іх і зменлівы.

А яшчэ ў тутэйшых жыхароў была такая прыхамаць: любілі яны коней.

Коні разводзіліся ў дварах амаль як каровы. І той, хто меў каня, лічыў, што яму не трэба і аўтамабіля,— куды завадзіць, можна і на кані паехаць. Абыходзіліся і без міні-трактара, хоць у таго і больш конскіх сіл... Хапала адной. Але Моталь тады быў яшчэ гарадскім пасёлкам, і кагосьці там з раённых кіраўнікоў моцна бянтэжыла, што жыхары пасёлка ездзяць на конях, а не на аўтамабілях, як належыць ездзіць чынным гараджанам. І рашыла начальства адвучыць мотальцаў ад аброці, а прывучыць да руля. Якім чынам? Адабралі ад Моталя статус гарадскога пасёлка, назвалі вёскай, а на вёску ўжо распаўсюджваецца калгасны статус, якім не прадугледжана, каб калгаснік меў у сваім двары конскую сілу. Лепей без яе... І пачалі тады мотальцы набываць аўтамабілі і нават пабудавалі сваю тэхнічную станцыю, каб даглядаць іх любасна, не горш, чым коней.

Праўда, коней збылі, а былое гарадское званне ўжо чамусь не вяртаюць мястэчку. Забыліся, пэўна. Хай сабе... Цяпер ім не так і карціць, хоць усё-такі падумаць, дык шкада коней. Конь для селяніна — вялікі памочнік, і — жывая істота, што ні кажы...

Багатая мотальская гісторыя, дарэчы, хара-

ша раскрыта ў музеі народнай славы. Цяпер ставіцца новы будынак музея. Пабудавана бальніца, задуманы санаторый... І ўсё гэта — на калгасную капейку.

Цяпер, калі пра мотальцаў столькі ўжо сказана, вернемся зноў да зямлі, да яе ўлады над чалавекам.

Хутка два дзесяцігоддзі, як у калгасе «40 год Кастрычніка» дзейнічае гаспадарчы разлік — на ўсю глыбіню; фермы і брыгады працуюць як бы на суцэльным падрадзе, кожная брыгада па сутнасці — маленькі калгас.

Разам з сакратаром парткома Пятром Паўлавічам Пташыцам мы наведалі гаспадарчы двор першай брыгады і сустрэліся з механізатарамі, а таксама брыгадзірам Іванам Данілавічам Бінько; высокі і мажны, ён быў проста супрацьлегласцю сухаватаму Пташыцу.

За апошні год першая брыгада атрымала з касы калгаса 60 працэнтаў палявых. Што гэта значыць? У канцы кожнага месяца члены брыгады бралі ніштаваты аванс. У другіх гаспадарках на гэтым справа і канчалася, а тут усіх чакаў асноўны разлік у канцы года — палявыя. Брыгада Бінько на гэты раз мела па 60 капеек на кожны рубель папярэдне выдадзенай зарплаты.

Палявыя ідуць ад зямлі, і таму зямля прыцягвае не адной прыгажосцю ніў. Складваецца комплекс гаспадарчага мыслення. І тое, пра што я тут даведаўся, было надзвычай паказальным і ўражвала.

От некалькі прыкладаў.

Першы... Рыгор Васільевіч Жыховіч, вопытны механізатар сярэдніх гадоў, выступае на сходзе брыгады і даказвае галоўнаму аграному калгаса Данілевічу, што ў брыгадзе дарэмна занядбалі цімафееўку. Замест яе пачалі сеяць купкоўку зборную, якая дае тры ўкосы. Але ж цімафееўка з першага ўкосу часам давала больш сена, чым купкоўка — з усіх трох. Акрамя таго, зазначыў Жыховіч, насенне траў павінна быць у запасе, каб падсяваць, дзе трэба, вясной.

Данілевіч прыслухаўся да крытыкі і пры-

знаў, што калгаснік мае рацыю; Жыховіч у сваіх заўвагах ішоў ад зямлі, якую ведаў не горш за яго, агранома.

Другі эпізод. Сакратар парткома Пташыц заўважыў аднойчы на полі нешта нядобрае. Сеялі буракі. Але машыны стаялі, а трактарысты, сабраўшыся ў гурт, адзін перад адным размахвалі рукамі. Спрачаліся. І больш чым хто гарачыўся, крычаў Павел Мацкевіч. Пташыц падышоў да іх — сварка сціхла, і механізатары не адразу прызналіся, што гэтак яны выхоўвалі Антона Барташа.

— Мы сеем, каб атрымаць ураджай,— тлумачыў Мацкевіч,— а ён выпіў учора і яшчэ не адышоў ад туману, не бачыць, што робіць. Распыляе гербіцыды, а тэхніка не ў парадку. Распыляльнікі ў адным месцы льюць многа, у другім — мала. Хрэн тут вырасце! Я спыніў работу.

Барташ стаяў, апусціўшы галаву.

Падобным чынам Павел Васільевіч Мацкевіч дзейнічаў не ўпершыню. Былі выпадкі, калі ён вяртаў з поля на машынны двор нават свайго брата Назара, які мог не дагледзець культыватар або сеялку...

Яшчэ адзін эпізод. Мікалай Глоўка, кавалер двух ордэнаў Працоўнай Славы, умела карыстаючыся бульдозерным нажом, падчышчаў, раўняў, рамантаваў дарогу, якая злучала першую брыгаду з другой. Напярэдадні было нейкае свята, і таму на працу трактарыста Глоўкі прыехалі паглядзець старшыня Мотальскага сельскага Савета і сакратар парткома... Яны ўхвалілі работу. А Глоўка быў ужо на мяжы, за якой пачыналася другая брыгада, і... скончыў габлёўку. Яго сталі прасіць, каб ён прадоўжыў далей — дарога ж адна! Не, не, аднак...

— Ды мне не цяжка,— тлумачыў малады камуніст, свядомы калгаснік Мікалай Іванавіч Глоўка.— Але зразумейце: я зраблю, а брыгадзе ад гэтага будзе якая карысць? Амартызацыя, расход паліва абернуцца для яе выдаткамі. У нас жа гаспадарчы разлік! Ці маю я на гэта права?..

І от што было каштоўным у душы чалавека. Ен адчуваў адказнасць перш-наперш перад сваімі таварышамі, сваёю брыгадай. Вынік можа паказацца спрэчным, але да такой псіхалагічнай абумоўленасці вядзе брыгадны падрад (або паглыблены гаспадарчы разлік). Талака нешта значыць толькі тады, калі чалавек у ёй жыве калектыўным інтарэсам.

...У Моталі, дзе ўмеюць лічыць, планаваць, рабіць, як кажуць, без дурняў, яшчэ раз праявілася тэндэнцыя, якую мы заўважылі на гэтым шляху, калі кожная развітая і паважаючая сябе гаспадарка адмаўлялася ад паслуг «Сельгастэхнікі». Яна выйгравала на гэтым. І выйгравала багата. Як маральна, так і матэрыяльна. Я быў сведкам, калі ў майстэрні гэтага калгаса перабіралі трактар, які прывезлі з рамонту ў Драгічыне. Спытаўся ў механіка Валынца:

— Іван Аляксеевіч, ці загаворыць калі-небудзь сумленне ў рамонтнікаў?

— Не, згубілі яго там. Абы зляпіць, замазаць, пакрыць фарбай і здаць калгасу.

Аграном Данілевіч дадаў:

— Электрапрарэджвальнік выпісалі, шэсць тысяч каштуе, дык 500 рублёў узялі за тое, што з Іванава прывезлі.

Сумленне — ступень чалавечнасці ў чалавеку. Яно праяўляецца ва ўчынках, дзеяннях кожнага, незалежна ад яго намеру або жадання ў пейкі канкрэтны момант. Сумленне — штосьці большае, чым жаданне яго праявіць, і яно кіруе чалавекам па загадзя выпрацаванай праграме, выводзячы на пэўную сцяжыну лёсу. Для кожнага яно сваё.

Я не ведаю, наколькі справядліва будзе гаварыць пра сумленне таго або іншага калектыву. У гэтым выпадку лепей карыстацца словам свядомасць. Але ж надараецца так, што мы вінавацім у страце сумлення канкрэтных людзей, групу або калектыў і не бачым таго, што практычна вызначае лінію іх паводзін,— якія стымулы, прывілеі, правы, звычкі. Характэрны выпадак з тым жа заводам у Драгічыне, дырэктар якога хоча, каб, вінавацячы яго ў дрэнным рамонце,

улічвалі абставіны, аб'ектыўныя ўмовы, у якіх працуе калектыў.

Пра «Сельгастэхніку» ўжо пісана-перапісана! Незалежна ад волі сваіх кіраўнікоў на месцы яна стала злоснай і хцівай нахлебніцай. Так, гэта факт, і з ім трэба лічыцца. Але ж за спіной «Сельгастэхнікі» — не хто і не што іншае, як Міністэрства фінансаў краіны, якое, дзякуючы гэтаму аб'яднанню, папаўняла дзяржаўную казну мільярдамі рублёў у год. Грашовы абарот краіне патрэбны, канечне, і тут нічога не скажаш. Але толькі ў даным выпадку ён у многім быў заснаваны на спекуляцыйных папяровых аперацыях і прыпісках паслуг, за што, на добры лад, тая ж дзяржава павінна б караць. Ды не... І вось з гэтых акалічнасцей вынікае і фарміруецца на працягу многіх гадоў сацыяльна-вытворчы механізм аб'яднання, і ён пэўным чынам уздзейнічае на людзей, якія там працуюць. Урэшце, будзе існаваць аб'яднанне «Сельгастэхніка» ці не, толькі нельга нам суцяшаць сябе тым, што на яго фасадзе з'явіцца новая шыльда. Мушу зазначыць: заганнае планаванне і фінансаванне да гэтага часу псуюць работу ўсіх служб, якія абслугоўваюць сяло, сельскую гаспадарку.

Паводле слоў Ф. Энгельса, людзі свядома або несвядома чэрпаюць свае маральныя погляды, перакананні з практычных адносін, г. зн. з эканамічных адносін, у якіх дзейнічае вытворчасць і адбываецца абмен... Як можна характарызаваць «абмен» у гэтым выпадку?

## 31. Сельскі дом. Вясковае дойлідства

У шырокім ахайным машынным двары калгаса «40 год Кастрычніка» нам паказалі памяшканні і ямы для тэхнічнага агляду машын. Іх сцены былі абкладзены кафляю.

Тое ж мы бачылі і на малочнай ферме ў брыгадзе Бінько. У радзільным аддзяленні фермы

ўжо не толькі сцэны, а нават і камеры аздобілі ёю.

У калгасе пільнаваліся парадку, чысціні двароў, рабочых месц і не шкадавалі сродкаў, каб узняць культуру вытворчасці.

Адно, што не спадабалася мне ў Моталі, у самім абліччы паселішча, дык гэта новая вуліца, як ні дзіўна. Забудаваная багатымі, шыкоўнымі, аранжавага колеру мураванкамі сядзібнага тыпу, яна наводзіла сум сваёй безаблічнасцю, ператвараючыся ў суцэльную палосу, дзе аднолькавыя блізняты-будынкі бянтэжылі і прыніжалі як архітэктурную, так і гаспадарчую службы пасялковага Савета, калгаса, раёна і вобласці, калі не браць вышэй.

Я перабіраў у памяці бачанае ў іншых раёнах. Выключэннем у сучаснай сельскай забудове мне здаваліся Мышкавічы калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага: там знешняе асяроддзе было ўдала арганізавана і эстэтычна аформлена, што само па сабе лагодзіла душу.

— Прыгажосць, культура, эстэтыка вёскі будуць уплываць на стабільнасць кадраў,— заўважыў недзе ў дарозе Іван Апанасавіч Васільеў.

Згодзен з ім. У гэтым адна з найважнейшых умоў стабілізацыі жыцця ў вёсцы наогул. І, як бачыцца мне, з намі заадно выступае і філосаф Сімуш. Чытаю...

«Прыгожыя пабудовы сцвярджаюць пачуццё гонару за свой край, дапамагаюць людзям больш моцна ўрастаць карэннем у зямлю. Гэтаму спрыяе спрадвечная павага сялянскай сям'і да свайго дома, сядзібы, сваёй вёскі».

Вось чаго, аднак, у нас яшчэ не разумеюць многія кіраўнікі раёнаў і нават архітэктары-сельскія кіраўнікі і дзякуючы чаму ствараюцца ўмовы для далейшага запалянення вёскі стандартам і шэрасцю. Ралько — у Аснежыцах, а ў Моталі — Балюк, Уладзімір Іванавіч, старшыня калгаса, занепакоена гаварылі пра тое, што не хапае праектаў. Яны калі недзе і ёсць, то сюды не дахо- дзяць. Раённая служба часам дае адзін які-небудзь праект сядзібнай забудовы ўсім і кожна-

му, на вёску, а то і па раён. А варта было б іх мець дзесяткі, каб чалавек, які хоча сам пабудавацца або якому будуе калгас, мог выбраць дом сабе па душы.

Пакуль толькі скруху наводзіць наша архітэктурная служба.

Архітэктура наогул азначае горадабудаўніцтва. Вёска заўсёды будавалася самахоць, самастойна, з улікам народнай традыцыі і асабістага густу гаспадара, селяніна. У аснове вясковага дойлідства ляжыць майстэрства і творчасць народа, сялян.

Архітэктура — сплаў інжынернай навукі і мастацтва; яна развівалася ў горадзе і для горада; на вёску яе павярнулі нядаўна. І от да сённяшняга дня яшчэ гэтая фанабэрыстая дама з гарадскімі звычкамі як след не ўцяміла, чаго ад яе вёска хоча.

Нам яшчэ належыць стварыць архітэктуру вёскі, бо тое, што цяпер ідзе сюды з горада ў выглядзе праектаў, нагадвае дрэнныя, пацёртыя, невядома якіх часоў калькі з чарцяжоў не самых лепшых гарадскіх кватэр, дзе праяўляецца інжынерыя, а мастацтва адсутнічае.

Сёе-тое мяняецца ў сувязі з прыняццем Харчовай праграмы, паварочваецца да сядзібы ў вёсцы будаўнічая індустрыя, заурбанізаваная да нядаўняга часу амаль на ўсе сто. Раней яна выдавала гатовыя сцены, панелі, канструкцыі, блокі — бяры і стаў дом пад неба. І дзіўна, што ў гэтых умовах пачалі гаварыць пра селяніна: маўляў, ён адвык будавацца, абляніўся дарэшты.

«А я цяпер так скажу,— казаў нам у Аснежыцах Ралько,— калгаснік цяпер лянуецца і ўкрасці...»

Не хачу спрачацца з Уладзімірам Антонавічам, але толькі зазначу, што лянота гэтая — таксама не падобная на пейкае стыхійнае бедства. Яна з году ў год укаранялася нашымі планавікамі. Яна — вынік хібаў у гаспадарчай палітыцы. От нямала гавораць і пішуць цяпер, што інжынерна-тэхнічныя службы ў нас затаварыліся ідэямі, вынаходкамі, рацпрапановамі, а

ўкараняць іх у вытворчасць ахвотнікаў вельмі мала. Чаму? Лянуюцца людзі?.. Не, ім нявыгадна, і той, хто стаіць ля вытокаў тэхнічнай палітыкі, пачынае тлумачыць, што разумныя кіраўнікі прадпрыемстваў сёння не баяцца працаваць дрэнна (лічыце, абы-як, тэхнічна адстала), а баяцца працаваць лепш...

Не буду да канца расшыфроўваць гэтую недарэчнасць, над ёй цяпер думаюць, праводзячы эканамічныя эксперыменты, вывучаючы заторы ў навукова-тэхнічным прагрэсе. Нагадаю адно, што тут чалавека выхоўваюць не заклікі або лозунгі працаваць лепш і нават не валявыя рашэнні зрабіць тую або іншую паласу часу паласою якасці ў рабоце, а найперш эканамічныя адносіны, пра якія зазначыў Энгельс; ва ўмовах, якія склаліся, не дзіва і пачуць, што рацыяналізатары ды вынаходнікі апускаюць рукі, што атухае іх дзейнасць...

Наша гаспадарчая сістэма не заўсёды належным чынам стымулявала творчы імпэт чалавека, ці то ён рабочы, ці калгаснік, працуе на вытворчасці або гаспадарыць дома.

Цяпер, у які раён ні паедзь, раённае кіраўніцтва, сакратар ці старшыня выканкома, у нейкай скрусе і разгубленасці называюць вялізныя, проста неверагодныя ўклады сялян у ашчадныя касы. Уклады насельніцтва ў цэлым па краіне ўзраслі ў параўнанні з 1960 годам ажно ў дваццаць разоў! І разгубленасць у кіраўнікоў ад таго, што няма натуральнага абароту, на які здольны грошы,— гандаль часам ужо не робіць пагоды.

Але папытайцеся вы ў тым ці іншым сельмагу, ці ёсць у продажы будаўнічыя матэрыялы — цэгла, лёгкія блокі, лес, шыфер, кафля, сантэхабсталяванне, фарбы, шпалеры, цвікі,— і на вас паглядзяць як на блазна.

Калісьці сялянін асноўныя свае сродкі трацію на будоўлю хаты, двара, перш сабе, потым сыну... Цяпер з яго знялі амаль паўсюдна гэты спрадвечны, цяжкі і прыемны, клопат. Праўда, жыццё зноў жа пачало патроху мяняцца, і ўсё часцей з'яўляецца тое, чаго раней не было. Пры

гэтым я мушу зазначыць яшчэ, што прычына тут не толькі ў нястачы, у дэфіцыце патрэбных тавараў, але і ў інертнасці наіпых гандлёвых устаноў. Прывяду прыклад проста класічны, хоць і далёкі ад вёскі, але паказальны наогул.

Я пісаў ужо, што жыву ў сталічным мікрараёне Паўднёвы Захад. Ён пачаў будавацца у другой палавіне сямідзесятых гадоў. Тысячы, а можа, дзесяткі тысяч наваселляў тут ужо спраўлена, і ўявіць не цяжка, колькі клопатаў з падводкай і абсталяваннем кватэр было ў жыхароў. Будаўніцтва працягваецца, і за доўгі час бестурботныя гандляры не адкрылі ў мікраараёне ні аднаго магазіна, ні адной палаткі продажу такіх гаспадарчых тавараў, як фарбы, шкло, мэбля... Дзесяткі тысяч пакупнікоў вымушаны шукаць, даставаць, купляць усё гэта і вазіць праз горад, за 15—20 кіламетраў. Мала што змянілася і пасля вядомых урадавых пастаноў аб паляпшэнні бытавога абслугоўвання насельніцтва. У гандляроў, пэўна, склаўся свой стэрэатып, свая псіхалогія. А да вёскі ім — куды далей, чым да мікрараёна.

Толькі паспрабуйце вы сёння забяспечыць вёску выдатнымі матэрыяламі для індывідуальнага будаўніцтва і не меней выдатнымі праектамі — селянін тады вам пакажа, на што яшчэ здольны. Ён не пашкадуе грошай на адмысловую сядзібу, выдатны дамок, бо жыццё яго багацейшым і прыгажэйшым стане. Дый сын яго хутчэй на бацькавай сядзібе асталюецца.

Мы, мы самі выхоўваем у людзей спажывецкія настроі. Хіба не?

А дом сялянскі, згодна з праектам і забеспячэннем матэрыяламі, начыннем, не тое што не павінен уступаць стандартнай гарадской кватэры — ён павінен намнога пераўзыходзіць яе! Сельская перспектыва разам з сядзібнай прасторай дазваляюць гэта зрабіць, а хлебароб таго заслугоўвае.

Аднак сёння — нават у горадзе — складана, цяжка свае грошы ў будаўніцтва жытла ўкласці.

На сённяшні дзень у некаторых узорна-па-

казальных вёсак, як, напрыклад, Верцялішкі на Гродзеншчыне, захапіліся будаўніцтвам двухпавярховых дамоў, без двара, без падворка, што нагадваюць сабой не што іншае, як замежныя загарадныя вілы, у якіх, як вядома, жывуць гараджане.

Для ўзору, а дакладней — для эксперыменту гэта, можа, і вартая задума. Пасёлак Верцялішкі ствараўся ў самы пік урбанізацыі. Там дрэнныя не катэджы самі па сабе, а занядбанне і адсутнасць у цэнтральным пасёлку сялянскага духу, які так уласцівы Мышкавічам. Вопыт у будаўніцтве апошніх гадоў і народная вясковая традыцыя падказваюць, што сялянскі двор патрабуе ад архітэктара такой жа ўвагі, як і сам дом. Трэба, відаць, адыходзіць ад некаторых стэрэатыпаў, накшталт незашклёных балконаў і лоджый, бо гаспадару, напрыклад, куды лепей было б карыстацца імі па жаданні — адкрытымі або закрытымі. Зноў жа печы разам з паравым ацяпленнем, гаражы, паграбы, майстэрні, двары крытыя і адкрытыя, архітэктурная аздоба, альтанкі, рэльеф — усё гэта можа і павінна не толькі надаваць разнастайнасць будынкам, але і значна паляпшаць і ўзбагачаць сялянскі побыт.

Яшчэ што важна: будзе дом у чужым стылі ці ў стылі народным. Апошнім часам у нас сёе-тое проста капіруюць у суседзяў, пераважна ў прыбалтаў, і, напэўна, таму, што сваёй сталай сёлабудаўнічай думкі і навукі няма. Спадабаліся мне нядаўна адбудаваныя дамы ў калгасе «Новае жыццё» пад Карэлічамі, у вёсцы Заполле... Катэджы, а таксама шматкватэрныя... З прамымі вугламі і прыгожа закругленымі... З белай цэглы і чырвонай... За будаўніцтвам там наглядаў вядомы архітэктар рэспублікі. Але і там, на жаль, сёе-тое парушала гармонію. Занадта мудрагелістыя балконы. Па-першае, з цэглы, цяжкія і груваcткія. Па-другое, з «прэтэнзіяй» сама лабавіна... Сярэдзіна ў ёй як бы выламлена, чаго вымагала ад архітэктара, пэўна, стылізацыя пад руіны, ці што... І з горыччу думалася, што падобнае наватарства зусім не

лепшае за бяздумнае пераймание або нават стандарт.

Можна зразумець імкненне дарожных і іншых гаспадарчых служб упрыгожыць гасцінцы, шляхі адметнымі, незвычайнымі, яркімі альтанкамі на прыпынках для пасажыраў. Сярод іх сустракаюцца сапраўды такія, што можна назваць жамчужынамі. Нямала іх па Мінскай і Гродзенскай абласцях. Але ж у большасці сваёй яны не ўпрыгожваюць ні дарог, ні архітэктараў інстытута дарожнага праектавання. А некаторыя дык проста жах наводзяць сваёй вычварнасцю.

От на гэтакім фоне ў рэспубліцы і зазззяла глыбінка на рацэ Гарыні ў Столінскім раёне. Толькі пра гэта яшчэ мала хто ведае. А народнае сельскае дойлідства пачало развівацца там у апошнія гады проста з выбуховай сілай. Радуе вока яно перш за ўсё навізной і прыгажосцю сядзібных будынкаў. Чуў, як мясцовыя жыхары з захапленнем гавораць:

— Паглядзіце, дом стаіць, як арэх!

І колькі іх! Цэлыя вуліцы ў Альшанах, Манькавічах, Беражным, Хорску, Харомску — цэлыя вёскі! Ажно дзіву даешся! І рэдка дзе ўбачыш два аднолькавыя дамы, каб яны стаялі побач або хоць бы ў адной вёсцы... Будуючыся, людзі тут умеюць надаваць адметнасць свайму двару, хаце, кутку, прасценку, акну, даху, карнізу, ганку, верандзе, мансардзе — нават вадасцёкавай трубе. Што і казаць, тут звычайны светла-шэры дом з сілікатнай цэглы набывае зусім іншы выгляд, бо дойліды ўмела і з густам карыстаюцца каляровай расшыўкай. Выдатная аздоба для камяніц — беларускі нацыянальны арнамент, асобныя яго элементы. Упрыгожваюцца не толькі дамы. На многіх сядзібах да сапраўдных твораў мастацтва, архітэктуры можна аднесці і дваровыя збудаванні, хлявы, варыванькі, агароджы. Не меншым дзівам здаецца і тое, што, праехаўшы дзесяткі вёсак і агледзеўшы сотні дамоў з цэглы і дрэва, я не знайшоў ні ў адным з іх чаго-небудзь такога, што парушала б завершанасць архітэктурнай формы або было

б лішнім, штучным, штукарскім. Прыгожыя, практычныя, надзейныя дамы глядзелі сваімі светлымі і чыстымі вокнамі кудысьці далёка наперад, я быў перакананы, у перспектыву.

Асабліва багата прыгожых дамоў у Давыд-Гарадоцкай зоне, дзе людзі наогул зацікаўлены сваім дваром, яго абліччам. Так гістарычна склалася на гэтай зямлі: за апошняга чалавека лічылі, хто не ўмеў зрабіць сабе гняздо, як належыць прыбраць і аздобіць яго. Сярод жыхароў Давыд-Гарадка, як і Моталя, было нямала майстроў на ўсе рукі, рамеснікаў, гандляроў. Дух рамесніцтва і асабліва гандлярства (насеннем кветак, гароднінай) захаваўся ў пэўнай часткі насельніцтва; прынамсі, да сямейнага прыбытку і сёння гэта мае непасрэднае дачыненне. Але ж, галоўнае, павысіліся заробкі на калектыўнай ніве, у калгасах, саўгасах, і тут паляшуцкія кішэні, як ніколі, пачалі пухнуць ад грошай. Свабодныя грошы і дазволілі жыхарам раёна праявіць творчую ініцыятыву, паказаць, што ў будаўніцтве ўласных сядзіб адпавядае іх густу. Наперад скажу: катэджаў не ставілі.

У выбары характару і формы будынка, варта зазначыць, добра дапамагае людзям раённая архітэктурная служба.

— У нашым раёне,— даводзіў мне галоўны архітэктар Карповіч,— самы высокі працэнт індывідуальнага будаўніцтва, больш нідзе стольκі не будуюць па вобласці.

— І так, як у вас, не будуюць,— зазначыў я.

Ён кіўнуў галавой і працягваў:

— Будаўніцтва асабліва разгарнулася ў апошнія гады. Ставілі і 220, і 305 дамоў за год. Каб больш — не хапала матэрыялаў.

— А ці хапае праектаў?

— Мы паездзілі па свеце, пашукалі, што ёсць у людзей. Пабывалі ў Львоўскай вобласці, у Прыбалтыцы... Падабралі пятнаццаць тыпавых праектаў на дамы з дрэва і цэглы, творча перапрацавалі іх — нязменнымі засталіся толькі асноўныя параметры. Агульная плошча дома складае да 90 метраў. Для розных зон раёна рэ-

камендуем розныя праекты, якія, на нашу думку, найлепей адпавядаюць мясцовасці і схільнасцям людзей. Кожны праект, праўда, мае яшчэ некалькі варыянтаў... Прыходзіць да нас чалавек: хачу будавацца, кажа. Мы просім яго намаляваць на паперы, што б ён хацеў мець, а тады падбіраем для яго сядзібы праект. Звычайна ўнутраную планіроўку і дробныя дэталі чалавек сам выбірае або мяняе ў залежнасці ад жадання сям'і.

Я пацікавіўся тэхналагічнымі асаблівасцямі будаўніцтва з каменнага матэрыялу.

— Канструкцыя дома, па агульным прызнанні, у нас эканомная,— адказаў Карповіч, дарэчы, яму было трыццаць гадоў, і звалі яго Сцяпан Фёдаравіч.— Будуем сцены з газасілікатных блокаў, потым абкладаем іх керамікай. Бачылі?.. Аранжавыя кубікі — што цагліны. Кераміка... Паміж унутранай і знешняй сценамі — паветра. Яно як ізалятар — ад холаду. Такая канструкцыя людзям падабаецца. Замест паўметра мы бяром таўшчыню сцяны ў сорак сантыметраў. Сцены ставіць рамонтна-будаўнічае ўпраўленне або сам гаспадар, калі сілы ёсць. Аздабляюцца яны такасама па дагавору.

І ў канцы нашай размовы Карповіч прыгадаў апошні свой клопат:

— Распрацоўваем знакі для ўсіх населеных пунктаў раёна, звязаныя з гісторыяй... Выконвацца будуць з дубу. Ёсць у нас народны ўмелец Іван Супрунчык, з вёскі Цярэблічы, бібліятэкарам там працуе. Памагае нам у гэтай справе.

Карповіч увесь час, што тычылася службы, гаварыў «мы» і ў канцы па маёй просьбе растлумачыў, што за гэтым кароткім займеннікам «мы» стаіць група архітэктараў, павялічаная ў Століне ажно да 19 чалавек у сувязі з вялікім аб'ёмам жыллёвага і гаспадарчага будаўніцтва.

Вопытныя дойліды і будаўнікі, напэўна, знайшлі б у рабоце службы і некаторыя пралікі. І нават трэба было б, каб знайшлі і сёе-тое ім яшчэ падказалі, гэта пайшло б на карысць. Але сёння ўжо архітэктары селавога напрамку, якія ёсць у рэспубліцы, маглі б у гэтым раёне сяму-

таму і павучыцца, як вучацца мастакі ў народа.

Мне трохі дзіўна робіцца: колькі ні ездзіў, дзе ні быў — не чуў, не бачыў, апрача Мазыра, праўда, каб цікавіліся дойлідствам работнікі культуры, ідыёлагі, агітатары, прапагандысты. Чаму?.. У іх нібыта адзін сродак уплыву на душу чалавека — самадзейнасць, песня і слова. Спачатку было слова... А храм самадзейнасці? А лазня? А дом? А двор? А прысады або кветкі ля дарогі? Хіба гэта не іх клопат?.. Не, лічаць... Але ж пры такім падыходзе і слова ад чалавека адскоквае.

Мне могуць падказаць, што сённяшнія настаўнікі і наладчыкі духу людзей, звычайна цікавяцца помнікамі, мемарыяльнымі комплексамі... А гэта ж таксама архітэктура. Сапраўды, там не абыходзіцца без архітэктуры...

Але ж ці не мала гэтага? З душой чалавечай вельмі звязана культура патрэбнасцей. Як самі патрэбнасці, так і культура патрэбнасцей, не толькі выяўляюць, але і робяць чалавечую асобу.

Занядбанне або ігнараванне асобных бакоў чалавечага жыцця, напэўна, перайшло да нас па традыцыі, з ранейшых часоў, з канца дваццатых — трыццатых гадоў або пасляваеннага аднаўленчага перыяду, калі не да эстэтыкі, не да мастацтва ў жыцці было і больш патрэбны былі хлеб і добрае, прыязнае слова.

Толькі ж сёння ніяк нельга ігнараваць таго, што стандарт у будаўніцтве, роўным чынам як і адміністраванне ў сельскагаспадарчай вытворчасці, вядуць да пасіўнасці пачуццяў, да стандартызацыі душы, да стандартных або казённых адносін да працы.

Стандартызацыя жыллёвага будаўніцтва паказвае, што мы пакуль яшчэ не навучыліся індывідуальнаму падыходу да чалавека, занядбалі яго, што чалавек для нас часам не мае канкрэтнага аблічча на месцы, сваіх звычак. настрою, што ён для нас там і не чалавек, а работнік.

Мусіць, раённаму правадніку ідэі трэба нешта мяняць у адносінах да чалавека, інакш ка-

жучы, наш начальнік сярэдняй рукі павінен прыйсці да думкі, што яму больш нельга так жыць, што працаваць так больш няможна і што мяняць яму трэба найперш самога сябе, а потым — і іншых. Патрэбен на самай справе паварот, якога ад нас чакае партыя і чакае народ.

Ствараючы ў чалавечым жыллі або наогул у чалавечым асяроддзі, у доме, вёсцы, гарадскім мікрараёне адпаведны настрой, прыгажосць і ўтульнасць, мы ствараем культуру асобы, яе светаадчуванне. А хіба ж гэта не тое духоўнае поле, на якім мы жнём? Так... Толькі яго трэба перш засяваць.

У Моталі, таксама як і на Століншчыне, пры параўнаўчым дастатку і больш высокай культуры побыту, будавалі не катэджы, а больш практычныя і зручныя для селяніна аднапавярховыя дамы. Праўда, дзеля ўзору, няйначай, стаяў і катэдж, адзін на ўсю вёску; было ў ім дзве кватэры, дык у адной жыў галоўны аграном калгаса Іван Данілевіч.

## 32. У палоне урбанізацыі. Па чым ходзяць філосафы?

Па шляху ад Іванца да самага Моталя нас цікавіла пераважна практычная дзейнасць чалавека, яго стваральная праца, і мы амаль абыходзілі тое, што давала нам для паўсядзённага ўжытку навука. А каб зразумець сутнасць явы, гэтага мала. «Урок праўды» вымагае разглядаць усю нашу практыку не ізалявана ад тэорыі, а ў непасрэдных сувязях з ёй, калі яны, такія сувязі і дачыненні, былі і пэўным чынам уплывалі на людзей, на грамадства.

Як вышэй было зазначана, у беларускай вёсцы ў апошнія два дзесяцігоддзі, калі не болей, адбываліся надзвычай складаныя, супярэчлівыя і таму бурныя працэсы. Прычым на настрой, адчужэнне і адрыў селяніна ад зямлі, прызнаем гэта сёння, у значнай меры паўплывала наша непамернае ўсхваленне гарадскога ладу жыцця і жаданне распаўсюдзіць яго на вёску, зрабіць

селяніна сельскагаспадарчым рабочым, пра што сведчыць нарадная сістэма працы і аплата па прынцыпу: зрабі вось гэта, а за астатняе няхай у цябе галава не баліць...

Перанясенне ў вёску гарадскіх ідэалаў і часам навязванне іх архітэктарамі, эканамістамі, культработнікамі і гэтак далей, пераніцоўка вёскі ў адпаведнасці з гэтымі ідэаламі, інакш кажучы — урбанізацыя лічылася да нядаўняга часу шкоднай і не пашанскай плынню. З ёю звязвалася развіццё матэрыяльнай і духоўнай культуры ў буйных пасяленнях гарадскога тыпу пры нанясенні страт вёсцы. На гэта ўказваў, у прыватнасці, акадэмічны «Толковый словарь русского языка», выдадзены ў 1968 годзе. Адэкватнае вызначэнне даваў і «Словарь русского языка» пад рэдакцыяй С. І. Ожагава, выдання 1975 года.

Напэўна, удар па гэтых філасофскіх уяўленнях нанесла нечаканая, як кавалерыйскі наскок, і разрэкламаваная ў друку палітыка ліквідацыі малых вёсак, ініцыятарамі якой выступілі архітэктары-урбаністы.

Прынамсі, такая думка здаецца лагічнай таму, што па меркаваннях філосафаў, адрозненні паміж горадам і вёскай выяўляюцца перш за ўсё ў рознасці тыпаў пасяленняў. І таму, відаць, «Философский словарь» пад рэдакцыяй І. Т. Фралова, выдадзены ў 1981 годзе, ужо трактуе гэту з'яву трохі іначай, чым слоўнік Ожагава, хоць вызначэнне яе ў прынцыпе застаецца ранейшым: «Гістарычны працэс распаўсюджвання гарадскога ладу жыцця...» Ніжэй, аднак, з'яўляецца тое, чаго раней не было: «Сацыялізм стварае ўмовы для мэтанакіраванага ўпраўлення працэсам урбанізацыі з пераадольваннем негатыўных бакоў...»

І сапраўды, калі б тут былі вытрыманы самі нормы сацыялістычнага ладу жыцця з яго дэмакратычным падыходам да розных важных грамадскіх з'яў і падзей, калі б на справе клапоцячыся пра вясковага жыхара, наватары і рэфармісты лічыліся з яго думкамі, яго жаданнямі, магчыма, і ўдалося б пазбегнуць пралікаў і

хібаў. Але ж тады ўжо ці атаясамлівалі б мы працэс сцірання граняў паміж сацыялістычным горадам і сацыялістычнай вёскі з урбанізацыяй?.. Надта ж багата веры далі людзі ў аўтаматычнае стварэнне і дзеянне тых «умоў для мэтанакіраванага ўпраўлення», і ніхто належным чынам не паклапаціўся пра гэта. Адно ўжо ў кнігах дакляруецца: «Урбанізацыя пры сацыялізме садзейнічае гістарычна прагрэсіўнаму працэсу ліквідацыі супрацьлегласцей паміж горадам і вёскай». Вось як! Словам, без усялякага ценю сумненняў прымайце яе!

На паверку ж у вірлівай і зманлівай плыні урбанізацыі аказалася шмат непрымальнага, шкоднага, і таму цяпер зноў ставіцца пад сумненне правамоцнасць самой ідэі пераймання вёскай гарадскога ладу жыцця, і я ў сваіх разважаннях буду абапірацца на тых жа філосафаў.

У часопісе «Камуніст Беларусі» (1984, № 10) чытаю артыкул вядомага гісторыка і сацыёлага В. А. Круталевіча аб структуры сельскіх пасяленняў.

Пераадоленне істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай, піша ён, часта ўспрымалася ў тым сэнсе, што «матэрыяльныя формы сельскага асяроддзя» неабходна падцягнуць да ўзроўню «гарадскіх стандартаў». Так нарадзілася ідэя фарсіраванага будаўніцтва аграгарадоў з секцыйнымі, шматкватэрнымі дамамі. У такіх пасяленнях, зразумела, не аставалася месца для падсобнай гаспадаркі сялян і задавальняючых яе сродкаў працы. Формула — пераўтварэнне сёл і вёсак у паселішчы гарадскога тыпу — стала асновай практычных дзеянняў. У друку выказваліся нават прапановы аб перасяленні вясковых жыхароў у раённыя цэнтры, што, на думку гэтых дарадцаў, дало б магчымасць забяспечыць усіх у аднолькавай меры сацкультбытам і радыкальна і проста рашыць праблему сцірання адрозненняў паміж горадам і вёскай, а ў выніку — сцерці вёску. І не дзіва, што ў калгасах «Чырвоная змена» Любаньскага раёна, імя Калініна Нясвіжскага раёна дый у «Аснежыцкім» з'явіліся цэлыя пасёлкі, застаўле-

ныя шматпавярховымі дамамі. У гэтым жа плане вялі забудову і многія іншыя гаспадаркі. У калгасе імя Кірава Шклоўскага раёна, напрыклад, толькі за адну пяцігодку пабудавалі 108 кватэр, з іх — сядзібнага тыпу — усяго толькі чатыры. «Ігнараванне архітэктарамі асаблівасцей сельскага ладу жыцця, «насілле» над традыцыйным вясковым укладам,— піша Круталевіч у другім сваім артыкуле,— паварочваюцца буйнымі ўскладненнямі ў побыце селяніна».

Вёска неўзабаве адчула сваю непатрэбнасць, і ў гэтым зацьменні жыццё ў ёй пачало марнець яшчэ болей.

Толькі цяпер, з вышыні накопленага вопыту, мы бачым, наколькі несамавіты і дылетанцкі характар насіла ўся гэтая задума з сельскім «горадабудаваннем»...

Але ж я ведаю прыклады і другога парадку.

На сённяшні дзень у цэнтры калгаса імя Жалезняковіча Карэліцкага раёна — вёсцы Жухавічы — усяго адзін шматпавярховы жылы будынак тыпу інтэрната; жалезнякоўцы жывуць галоўным чынам у сядзібных дамах з дрэва і цэглы, якія самі паставілі. Калгас рамантуе будынкі, калі яны пераходзяць у агульнагаспадарчы фонд, абнаўляе, робіць больш утульнымі, зручнымі... Маладыя ахвотна пасяляюцца ў гэтых дамах. І няма ў гаспадарцы недахопу ў моладзі. У цэнтры пастаўлены выдатны Дом культуры, і ён не пустуе, бо шчырую працу тут, як і ў Верасніцы, умеюць спалучаць з цікавым, змястоўным адпачынкам, песняй і танцам, сам старшыня калгаса — актыўны ўдзельнік мастацкай самадзейнасці, ды, па праўдзе сказаць, з яго — Аляксандра Аляксандравіча Багушэвіча — ажыўленне ў культурным ды гаспадарчым жыцці і пачалося.

Цяпер урбаністычная хваля быццам аціхла і, слава богу — трохі адыходзіць! Прынамсі — у поглядах на перспектыву вёскі, яе забудову, хоць самі па сабе ўжо ў рэспубліцы і знікаюць за год да 60 малых вёсак...

«Памылкова лічыць вёску ўстарэлай з'явай, якая зжывае свой век. Не, яна якасна пераўтвараецца, натуральна ўбіраючы ў сябе тое каштоўнае, што нараджаецца ў жыцці».

Гэта напісаў у брашуры «Зближэнне гарадскога і сельскага ладу жыцця ва ўмовах развітога сацыялізма» («Знание», 1981) доктар філасофскіх навук П. І. Сімуш.

Мне чуецца, што прычына жывучасці памылковай ідэі, якая ставіла на мэту радыкальна змяніць структуру паселішчаў і аблічча вёскі, у тым, што яна, ідэя, адпавядала урбанізацыйнай плыні наогул, а гэта плынь набыла вялікую сілу ў грамадстве, падпарадкоўваючы сабе і эканамістаў, і нават некаторых сацыёлагаў і філосафаў, як ні дзіўна.

Але ж аблічча вёскі — далёка не ўсё, што закранула ідэя-фікс, і нам трэба быць вельмі ўважлівымі і пільнымі, каб убачыць, дзе ў Сялянскім Акіяне урбанізацыя накоплівае свае небяспечныя рыфы.

Урбаністычная плынь дыктуе нам адмаўленне не толькі ад сельскай планіроўкі і сельскага двара, але і ад с я л я н с т в а як векавое з'явы наогул. Дастаткова, напрыклад, пазнаёміцца з кнігай А. І. Якушава «Пераадоленне істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай» («Высшая школа» М., 1979), каб зразумець, як ставілася пытанне наогул.

«Паміж рабочымі горада (прамысловымі рабочымі) і рабочымі вёскі (саўгаснымі рабочымі) маюцца яшчэ значныя адрозненні, якія выяўляюцца ў неаднолькавай ступені тэхнічнай аснашчанасці, механізацыі і аўтаматызацыі, у характары і змесце працы, асабістай уласнасці, вядзенні хатняй гаспадаркі. Па гэтых і багата якіх яшчэ паказчыках саўгасныя рабочыя маюць многа агульнага з калгасным сялянствам. Пагэтаму праблему пераадолення класавых адрозненняў варта разглядаць не толькі ў плане ліквідацыі гэтых адрозненняў паміж рабочым класам у цэлым і калгасным сялянствам, але і паміж прамысловымі рабочымі, з аднаго боку, сельскімі рабочымі і калгаснікамі — з другога».

І з усяго гэтага робіцца не менш яскравае заключэнне:

«Ітак, праблема пераадолення адрозненняў паміж горадам і вёскай мае тры бакі: па-першае, пераадоленне адрозненняў паміж калгаснай вёскай і саўгасным пасёлкам; па-другое, паміж саўгаснымі пасёлкамі і горадам; па-трэцяе, паміж горадам і вёскай у цэлым».

Дык ці не ў падобных навуковых «распрацоўках» трэба шукаць прычыну ўкаранення і жывучасці памылковай ідэі распаўсюджвання урбаністычнай плыні?

Пасля знаёмства з працамі філосафаў мне вельмі закарцела знайсці той грунт або хоць бы грудок, на які яны абапіраліся, і тут ніяк нельга было абысціся без твораў Леніна. Я перабраў яго томікі і перачытаў усё, што Уладзімір Ільіч гаварыў пра адносіны горада і вёскі, рабочых і сялян. Задача дабратворнага ўплыву горада на вёску ўжо тады ставілася, як і задача збліжэння абодвух працоўных класаў. Між тым ў артыкуле «Эканоміка і палітыка ў эпоху дыктатуры пралетарыяту», надрукаваным у 1919 годзе, Ленін пісаў: «Пралетарыят павінен раздзяляць, размяжоўваць селяніна працаўніка ад селяніна ўласніка,— селяніна работніка ад селяніна гандляра,— селяніна працаўніка ад селяніна спекулянта. У гэтым размежаванні *ўся сутнасць* сацыялізма». Такім чынам, гаворка тут ідзе пра ліквідацыю сацыяльна-класавых адрозненняў або нават адрозненняў паміж прадстаўнікамі аднаго класа, гаворка ідзе аб прывядзенні класа сялян да аднаго знаменальніка, у выніку чаго ўсе прадстаўнікі яго працавалі б на зямлі старанна, чынна і сталі б немагчымымі непрацоўныя прыбыткі.

Зазначым, што ў дачыненні да беларускага селяніна гэта задача практычна вырашана яшчэ ў даваенныя гады, у пару калектывізацыі, хоць, шчыра кажучы, сякія-такія праявы гандлярства, хабарніцтва і спекуляцыі сярод сельскіх жыхароў можна назіраць і сёння ў асобных раёнах. Вядома, калі б мы былі сацыяльна больш пільнымі, то неяк выразней сёння праводзілі б мя-

жу і паміж чалавекам працуючым, і чалавекам, які з году ў год адно атрымлівае грошы на пэўнай пасадзе...

Уладзімір Ільіч у той жа працы, дарэчы, піша і пра другую частку сацыяльнай задачы пры будаўніцтве камунізма: знішчыць розніцу паміж рабочым і селянінам, зрабіць усіх — работнікамі.

Вось гэтыя словы — той край, той астатні рубеж, ад якога і пачынаюць далей развіваць свае меркаванні філосафы. Некаторыя з іх у «работніку» бачаць рабочага, хто-ніхто — пралетарыя нават, і так ці інакш думкі ўсіх скіраваны на сродкі і метады: як дасягнуць такога становішча?

Мне ж, літаратару, мала ведаць пра сродкі. Мне хочацца ўявіць сабе мэту, да якой наводзяць масты, і я шукаю ў жыцці тое, што паказвала б на такога работніка. І от з некатораю доляю скрухі звяртаюся да аднаго з філосафаў, які лічыць сябе спецыялістам у гэтых пытаннях,— цікаўлюся: а ці не з'яўляюцца нашы калгаснікі і нашы спецыялісты сельскай гаспадаркі «работнікамі» ўжо сёння?

— Не,— кажа.

— Чаму?

— Бо ў іх ёсць адрозненні з рабочымі.

— Так... Але ж Ленін ужыў слова «работнікамі»...

Філосаф, спрашчаючы трохі размову, бачыць адрозненні перш-наперш у формах адносін сучасных сялян да сродкаў вытворчасці, зямлі, машын, памяшканняў і г. д., а я — у ладзе жыцця. Па тых жа акалічнасцях ён ставіць рабочага саўгаса на адну дошку з гарадскім (прамысловым) рабочым, а я пакуль што стаўлю яго на адну дошку з калгаснікамі і абодвух лічу сялянамі.

— Гэта — спрэчна,— кажа.

— І — калі нават ісці ад сутнасці?

— Вас могуць папікнуць за ігнараванне ўсім вядомага, норм, форм і гэтак далей.

— Разумею... Але ж я, у такім разе, кідаю камусьці папрок у ігнараванні сутнасці?

— Не выключана... Аднак у навуковай літаратуры ёсць свае каноны...

Ага... Спрабую ўзважыць пачутае ад паважанага субяседніка, але не магу пагадзіцца з ім. Прынамсі, хіба гэта сакрэт, што сёння ва ўсіх узбуйненых гаспадарках, асабліва калі там пануе нарадная сістэма арганізацыі працы, калгаснік вельмі слаба адчувае сябе супольшчыкам, уласнікам пэўнай часткі — пая, гаспадаром зямлі і іншых сродкаў вытворчасці? Бадай, гэта яму і не ў галаве... І, здавалася б, добра — ён бліжэй да чалавека камуністычнага грамадства! Але ж усё не так проста. Не... Іменна той факт, што селянін, калгаснік і рабочы саўгаса не з'яўляецца гаспадаром там, дзе працуе, уся сучасная публіцыстычная літаратура лічыць заганным. Згодны?.. Можа, свядомасцю сваёй мы да чаго-небудзь іншага яшчэ не дацягнулі? Але тады скажыце: па чым ходзяць некаторыя нашы філосафы — па зямлі або па канонах?

Гэта я вяду гаворку і спрачаюся з Васілём Данілавічам Лапцёнкам, кандыдатам філасофскіх навук. Такая адкрытая размова, прызнацца, трохі бянтэжыць чалавека, але ён трымаецца. У яго, дарэчы, ёсць цікавыя разважанні ў адной з прац пра гарадскі і сельскі лад жыцця. Там ён слушна, як мне здаецца, даводзіць, што «перспектыва пастаяннага і ўсебаковага збліжэння горада і вёскі не нясе на сабе іх абсалютнай уніфікацыі ў сэнсе поўнага атаясамлівання вясковых умоў працы і жыцця з гарадскімі. Размова можа ісці аб паступовым знікненні толькі такіх адрозненняў, якія дазваляюць гарадскім жыхарам мець больш пераваг у параўнанні з сельскімі ў магчымасцях задавальнення сваіх матэрыяльных і духоўных патрэбнасцей, усебаковага развіцця асобы, гэта значыць, адрозненняў, маючых с а ц ы я л ь н ы х а р а к т а р».

З гэтага відаць, што філосаф Лапцёнак таксама выступае за захаванне ў вёсцы сельскага ладу жыцця.

Праграмнымі дакументамі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза вызначаны курс на стварэнне бяскласавага аднароднага грамадства.

Гэта — папраўдзе, вялікая стратэгія — сама веліч камуністычнага будаўніцтва. Але, як вядома, падобнай задачы на зямным шары яшчэ ніхто не рашаў, і таму, натуральна, у вучоных, і не толькі вучоных, у людзей, якія імкнуцца памагчы партыі ў здзяйсненні яе ідэалаў, можа праяўляцца гарачлівасць, запабяганне наперад або спрошчаны падыход да праблем.

Грамадству сёння, напэўна, не каштавала б вялікіх намаганняў (калі б толькі ў тым была неабходнасць, адчувальная выгада) перавесці ўсе калгасы ў саўгасы, ліквідаваць адну з дзвюх форм уласнасці на сродкі вытворчасці, пакінуць дзяржаўную... Што таму замінае? Сапраўды... у псіхалагічным плане, думаецца, асаблівых праблем не было б. Гэта ж не тое, што пераход селяніна ад аднаасобнай гаспадаркі да супольнай; прынамсі, я ніколі не чуў, каб калгаснікі паўставалі супраць ператварэння іх калгаса ў саўгас. Хіба, з такім пераводам, у іхнім ладзе жыцця і іхнім ладзе душы што-небудзь мяняецца? Практычна — не... Што з таго, што іх клічуць «рабочымі» ды з заробку падатак вылічваюць? Дробязь... Яны тыя ж земляробы, сяляне, у іх тыя ж адносіны да працы; а саўгасы, кажуць, лепей забяспечваюцца сельскагаспадарчай тэхнікай, фондамі... Дапусцім.

Некалькі гадоў назад у нарысе «Сярэдняе звяно», паказваючы навуковую неабгрунтаванасць памераў ды межаў гаспадарак, асабліва саўгасаў, я прыводзіў лічбу — 1,1. Так, на такую велічыню хутчэй узрастала прадукцыйнасць працы ў калгасах рэспублікі (нягледзячы на меншую забяспечанасць іх фондамі), чым у саўгасах... Чаму?

У працах вучоных я пакуль не знайшоў тлумачэння гэтаму факту — падобна на тое, што ён ігнаруецца. І, напэўна, дарэмна...

Па маіх назіраннях, для пэўнай часткі людзей у нашым грамадстве надзвычай характэрна нецярплівасць; не лічачыся з рэальнымі ўмовамі жыцця, яго дыялектыкай, гэтыя людзі прапануюць адмаўляцца то ад падсобнай гаспадаркі, то ад малых рэк, то ад малых вёсак, а не-

каторыя дык проста спяць і бачаць сябе ў грамадстве з «адной» мовай, з «адной» нацыянальнасцю,— карціць, каб ім і іх дзецям пісалі ў графе аб нацыянальнай прыналежнасці: «савецкі(ая)».

Ні для каго не сакрэт, што такі ўра-патрыятычны імпэт разыходзіцца з палітыкай Леніна і нямала шкодзіць гарманічнаму развіццю жыцця, яго натуральнаму ходу наперад.

Нешта ж такое адбылося і са сціраннем граняў, калі, забыўшыся пра меру і пра мяжу ў гэтай справе, пачалі глядзець на яе як на урбанізацыю — перакройванне вёскі па гарадскіх мерках. І літаральна на нашых вачах урбанізацыя захапіла будаўніцтва, а ўслед за ім і душы людзей, даўшы волю «масавай культуры».

## 33. «Лепей сваё асовае...» Герой і пісьменнік

У канцы рабочага дня Іван Мікалаевіч Данілевіч запрасіў гасцей-літаратараў да сябе додому, на чай. Жыў ён хораша, меў усё, што трэба для шчасця: працу, фантазію і творчы неспакой, павагу вясковага люду — мала? — клапатлівую жонку, якая завалодала яго сэрцам з юначай пары; і ўжо разам з ёй прыдбалі гэты мураваны куток і двое дзяцей. Для малых белы дзень скончыўся, і яны прытаіліся ў спальні, а Раіса Пятроўна чакала з работы мужа.

Яна сустрэла нас ветліва, толькі штосьці, напэўна, ляжала ў яе на сэрцы, пра што мы не здагадваліся, і гэта прымушала маладзіцу быць зычлівай і стрыманай адначасова. Працавала ж яна выкладчыцай біялогіі ў школе.

Разам з намі быў яшчэ чалавек — загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Іванаўскага райкома партыі Рыгор Рыгоравіч Сыраватка, як і сам гаспадар — малады, узмужнелы.

У невялікай, але ўтульнай зале размова натуральна зайшла пра кнігі, якіх тут на паліцах стаяла багата. Данілевіч і Сыраватка, складвалася ўражанне, любілі мастацкае слова, паэзію,

прынамсі, у гэтай сябрыне яны чыталі многія вершы на памяць. Рыгор Рыгоравіч меў філалагічную адукацыю і ведаў багата якіх беларускіх пісьменнікаў. А гаспадар у шматлікіх сваіх захапленнях аддаваў перавагу Болатаву і пранікнёна гаварыў пра яго, што гэта самародак рускай земляробчай навукі, пісьменнік... Я слухаў, і мне прыгадваўся клопат Івана Данілевіча пра зямлю-матухну, пра куткі дзікай прыроды, калі ён, стоячы каля кніжнай паліцы, дэкламаваў:

Я не против прогресса — ни-ни!
Понимаю размах и великость
И прошу тебя, век: сохрани
Хоть какую-то малую дикость...

Сохрани придорожный камыш,
Сохрани деревенские вишни,
Сохрани первозданную тишь,
Из которой когда-то мы вышли.

Гутарка складвалася яе мае быць. Не забавілася і пачостка. Мілавідная і зграбная гаспадыня налівала каву. Мінорны настрой, праўда, не пакідаў Раісу Пятроўну нават тады, калі мы загаварылі пра самавітых і шчырых у працы ды адданых сваёй зямлі мотальцаў. Данілевіч жартаваў са сваіх землякоў.

Дачуліся цыганы пра мотальскія кажушкі і прыехалі ў Моталь рыбу лавіць. І не абы-як... Яны найперш пайшлі па хатах. Пыталіся, у каго ёсць жалезная барана, ды каб не пагнутая...

— Навошта яна вам? — дзівіліся людзі.

— Будзем на возеры рыбу лавіць.

— Як?!

— А вось пабачыце...

Знайшлося некалькі барон.

І от запрэглі цыганы коней у бароны і пагналі па водмелі, узбаламуцілі ваду. А мотальцы ўсе тут як тут: дзіва што, адвеку не бачылі, каб хто гэтак рыбу лавіў!

Прайшла гадзіна, другая...

Нічога не ўлавілі цыганы, бо дурні!

Вярталіся мотальцы ў сяло з возера, смеючыся з нягеглых рыбакоў. А дома хапіліся — ад кажушкоў анізвання!

Мужчынскі смех раптам як бы спатыкнуўся аб маўчанне Раісы Пятроўны. Утварылася выбачлівая цішыня.

— А вось жонка сумуе па роднай Смаленшчыне,— раптам сказаў Данілевіч.— Яна зямлячка Ягорава, які разам з Кантарыя ўзняў сцяг над рэйхстагам!

— І праўда, сумую па роднай вёсцы,— ціха прамовіла гаспадыня.— У нас, ведаеце, і прырода не такая, пагоркі прыгожыя... Паеду туды — душа ажывае!

— Ведаю-ведаю ваш край,— паспачуваў Васільеў,— бываў там. Любіць яго ёсць за што, і гэта ў вас ужо назаўсёды. М-да, а людзей там мала...— і звярнуўся да мужа: — Іван Мікалаевіч, а чаму б табе не перасяліцца туды? Га?.. Падумай!

Данілевіч чамусьці паглядзеў на Сыраватку, усміхнуўся і пачаў настройваць гітару.

— А там ведаеш, колькі прастору — для цябе, для тваіх доследаў! — У словах Івана Апанасавіча адчувалася зацікаўленасць чалавека адтуль: ён хварэў за Смаленшчыну, за ўсё Нечарназем'е, таму амаль напраўду пачаў угаворваць мотальскага агранома:— Для работы там добрыя ўмовы... Зямлі многа. Свой вопыт пашырыш.

Слухаў або не Іван Мікалаевіч гэта, але вось ударыў па струнах, і загучала песня ў два галасы:

Еще немного, еще чуть-чуть,
Последний бой, он трудный самый.
А я в Россию домой хочу,
Я так давно не видел маму...

Куплет, яшчэ куплет, і паўтараўся прыпеў:

А я в Россию домой хочу...

Іх было хораша слухаць. Толькі Раіса Пятроўна журботна ўсміхнулася.

— Іван Апанасавіч, гэта ж яны вас дражняць.

— І вас,— адгукнуўся Васільеў, таксама ўсміхаючыся.

Ён стаміўся за дзень ад уражанняў, размоў,

ад пачосткі, сцінала ў грудзях і супіла дыханне, а гасцініца была няблізка, і, пакінуўшы Данілевічам аўтограф на сваёй кнізе, Іван Апанасавіч пачаў развітвацца. Па дарозе ў горад Іванава яму прыйшла ў голаў думка: ці варта працягваць дарогу далей?.. Яго стомленасць мяне засмучала.

Сюды, да Моталя, Іван Апанасавіч вернецца потым у нарысе «Слова пра справу і гаспадара» («Наш современник», 1985, № 1).

«Слова», між іншым, прачытае Іван Данілевіч — як адзін з герояў твора... І вось гэты момант, мне думаецца, грэх абысці ўвагай. Ён цікавы сваім парадоксам, якога ніхто не чакаў.

Васільеў з выключнай цеплынёй і сардэчнасцю напіша пра Данілевіча... Прозвішча мотальскага аграномa з'явіцца ў эпізодзе, у якім гаворка паверне акурат да адносін з партнёрамі. Прынцыповыя і цвёрдыя характарам кіраўнікі гаспадарак супраціўляюцца нераўнапраўнаму партнёрству, неабавязковасці падрадчыкаў. Яны лічаць за лепшае самім выконваць усе гаспадарчыя работы і выйграюць на гэтым у спаборніцтве. Значыць, яны ініцыятыўныя.

І вось тут як бы спахапіўшыся, што сказана ўжо занадта і што ён адкрыта падтрымлівае бунтарскі дух Ралько, Балюка, Старавойтава, Іван Апанасавіч і выкарыстоўвае свой альтэрнатыўны прыём:

«Але я назаву і другі прыклад, каб не склалася думка, што гэта адзіны найлепшы варыянт. У сяле Моталь, у калгасе «40 гадоў Кастрычніка» Іванаўскага раёна, была ў нас сустрэча з незвычайным чалавекам, аграномам Іванам Данілевічам. Дзіўны ён зноў жа характарам. Надзвычай, да болю сардэчнага, улюбёны ў сваю зямлю, безупынна шукае і творыць новае, умее захапіць калгаснікаў сваімі думкамі, хоць бы тым, што закладвае лесапаркі, распрацаваў і ўкараняе сваю глебаахоўную сістэму, дык вось і ён на пытанне аб узаемаадносінах з аграсервісам адказаў так: «Лепей сваё асовае (асінавае), чым чужое дубовае». У той жа час завёў самую цесную дружбу з авіятарамі...» Сэнс та-

кі: калгас даплочвае авіятарам, і лётчыкі працуюць — камар носа не падточыць... «Як бачым,— піша Васільеў,— супрацiўляюцца старшыні, аграномы, інжынеры не аграсервісу, як такому, а благому выкананню справы».

Унікнем... Удумаемся... Па сутнасці, альтэрнатывы і няма, бо «благое выкананне справы» — не другі, а ўсё той жа варыянт, той жа сервіс, якому і супрацiўляюцца кіраўнікі гаспадарак і Данілевіч разам з імі. На кампраміс мотальцы ідуць толькі з лётчыкамі, задобрываючы іх. Але што гэта мяняе? Нічога... І лётчыкі ў дадзенай сітуацыі робяцца «асовымі» — сваімі. Ім жа калгас даплочвае.. Для іх на месцы створана добрая база, аэрадром, памяшканне для адпачынку тыпу гасцініцы... Словам, яны ўключаны ў сістэму гаспадарчага разліку і палявога забеспячэння калгаса. Меркаванне пра тое, што лепей сваё, гэтым фактам не абвяргаецца. Але ж альтэрнатыўны прыём Васільева дзейнічае, здымаючы вастрыню праблемы.

Напэўна, мне не прыйшло б і ў галаву расказваць пра гэта, каб не новая сустрэча ў Мотальі з Данілевічам; а я траплю ў Моталь якраз праз год пасля нашай сумеснай з Васільевым паездкі. Выпадак зноў звядзе нас, і, ведаючы, што малады і заўзяты аграном не меншы за мяне прыхільнік васільеўскай публіцыстыкі, я адразу ж да яго з пытаннем, ці чытаў ён «Слова пра справу і гаспадара»?

— Чытаў...

Іван Мікалаевіч сядзеў каля рацыі ў канторы і быў засяроджаны — у тыя дні дажджамі вымачыла нямала збажыны.

— І — як?..

Я не сумняваўся, што ён усміхнецца і адкажа адным словам: «Бліскуча!» Як і раней... І сапраўды, ён усміхнуўся, але неяк квола і разгублена. Я пачуў:

— А на канфлікт ён усё-такі не ідзе!

Мяне ўразіла гэта. Было цяжка паверыць, каб нарыс пра залатую спіраль — творчую ініцыятыву даваў падставы для такога вываду.

— Гэта бачна,— тлумачыў Данілевіч,— ка-

лі прачытаеш усё, што ён напісаў. Глыбока і дасканала даследуюцца праблемы, але... Так мы нічога ў жыцці не зменім.

— Вас бянтэжыць незавершанасць альбо недакладнасць удару публіцыстычнай рапіры?

Ён зноў усміхнуўся:

— Рапіра ў яго вострая, але, ведаеце, па топкім як бы на двух конях едзе.

І тады я прыгадаў свае спрэчкі з Іванам Апанасавічам наконт планавых гектараў і галоў. Дзіўна было, каб у такога волата публіцыстыкі ды знайсці слабінку, і дзівіла яшчэ больш тая акалічнасць, што на яе выйшаў самы добразычлівы і ўдзячны чытач.

Але ж спяшацца тут з высновамі не будзем. У жыцці бывае і так, што нейкая хіба ці слабасць пісьменніка становіцца яго ж і сілаю.

Што да Васільева — то спяшацца з крытычнай думкай наогул не варта.

Неяк папікнуў я Івана Апанасавіча за краевугольны, так сказаць, вобраз журналіста Страмуткі ў аповесці «Дэпутацкі запыт». Там з яго ным, Страмуткавым, удзелам вырашаецца даволі зацяты жыццёвы канфлікт. І добра...

Але ж праўда-матухна, мне здавалася пры знаёмстве з гэтай аповесцю, у тым, што такія канфлікты ў жыцці перасталі вырашацца і што карэспандэнты ўвогуле пагоды не робяць. От вазьмі, скажам, ды перакваліфікуй Васільеў свайго Страмутку, зрабі яго нават яшчэ адным дэпутатам, і справа з вырашэннем канфлікту заглухне.

Дык у чым жа мудрасць? У паказе вырашальнасці канфлікту з дапамогай журналіста? Або ў паказе яго невырашальнасці пры засіллі бюракратаў? Што тут будзе найболей адпавядаць метаду сацыялістычнага рэалізму?

Позні вечар. Асфальт... Ужо блізка Іванава. Вось і гасцініца на два невялікія паверхі; па сваім інтэр'еры і зручнасцях яна гадоў на дваццаць перажыла свой век.

Спалі мы ў розных пакоях, і мне прысніўся

дзіўны сон. Я лётаў, распасцёршы рукі. Токам паветра мяне ўзнімала вышэй і вышэй, да самай вяршыні гары, і раз ці два нават ледзь не перакінула на той бок, цераз грэбень, дзе ўжо бытта была пустата, і мне туды не хацелася. Толькі яшчэ нейкі момант, і тым жа токам паветра пацягнула назад, па зялёным сонечным схіле.

Прачнуўся ад незвычайнай лёгкасці ў целе і вялікага здзіўлення, якім скончыўся сон. Што мяне трымала ў паветры і... цягнула назад?..

Прыйшоў Сыраватка, і я расказаў яму, што бачыў і што адчуваў у палёце. Я выказаў яму свой неспакой: хоць бы Іван Апанасавіч не пацягнуў назад... Яшчэ ж наперадзе ладны кавалак дарогі.

Рыгор Рыгоравіч глядзеў на мяне здзіўлена і, пэўна, думаў: «Без крылаў, а з прымхамі...»

Мы не верым у сны. Але калі нешта прысніцца, прыкідваем: а што б гэта значыла?

Іван Апанасавіч тым часам заварваў чай... грузінскі... з расійскаю мятаю, ён узяў яе з дому. Кволіўся, чухаў патыліцу, але мы ўгаварылі яго перад тым, як паехаць далей, на Брэст, наведаць яшчэ мастацкі салон калгаса «Светлы шлях» гэтага ж раёна. Я там некалі бываў.

## 34. Зямлі вечны слуга і фанатык... Дыялог з Уладзімірам Бядулем у Расне

«Пісьменнік Чэхаў моцна хварэў Расіяй, а такія маюць права на сумнае і часам сярдзітае слова. Часам гэты ўрач ставіў ёй жорсткі дыягназ, але то не была толькі злосная канстатацыя факта, і ў самім дыягназе заключалася, хоць і туманная часам, сістэма лячэння...»

Гэта Іван Апанасавіч зачытвае мне асобныя радкі з літаратурных нататак Леаніда Ляонава, якія друкаваліся ў газеце «Неделя», да яго 85-годдзя...

«Сапраўды, вялікі пісьменнік можа нарадзіцца толькі з вялікага чалавека. Бо літаратура — гэта мысленне; такім чынам, пісьменнік —

гэта думка, а думка — гэта адарванае ад сэрца, розуму і грамадзянскага сумлення: гэта вялікая любоў да сваёй краіны, гэта жаданне не атрымліваць, а даваць, гэта шлях чалавека, на якога з асаблівай раўнівай надзеяй глядзяць мільёны суайчыннікаў».

— Добра піша! — казаў Васільеў і прадаўжаў чытаць, а я прыкідваў: тое-сёе, пра што чытаў мой спадарожнік, стасавалася і да яго самога.

«...Ідэі нашага грамадства не патрабуюць, каб іх упрыгожвалі. Найвышэйшы сэнс сацыялістычнага грамадства заключаецца ў тым, каб чалавек не эксплуатаваў чалавека, а сам бы здабываў свой хлеб, без чаго ён ператвараецца ў скаціну...»

— Правільна...

У Брэст мы трапілі на выхадныя дні; у гасцініцы ўладкаваліся ў люксе і адпачывалі, рыхтуючыся ў далейшую дарогу.

Іван Апанасавіч паправіўся. У нядзелю ён зусім быў бадзёры. І мы пехатою схадзілі ў Брэсцкую крэпасць.

Павячэралі ў нумары. На жаль, кладучыся спаць, мы не зачынілі акно ў вялікім гасцінічным пакоі, а дзверы ў спальню таксама былі незачыненыя, і сюды цягнула сырым, захаладалым паветрам. Іван Апанасавіч пад лёгкай коўдраю змёрз.

— Ты ведаеш, каб хоць абышлося...

Мы селі снедаць, і ён прыгадаў:

— Снілася мне карова. І не наша, якая-небудзь пярэстая, а бура-латвійскай пароды. Усё вязалася да мяне, а я ніяк не мог яе адагнаць.

Яго твар свяціўся ціхай, лагоднай і абаяльнай усмешкай.

Усмешка ў Васільева нярэдка здзіўляе і ўражвае багаццем выяўлення пачуццяў, захапляе нейкай сваёй асаблівасцю. У чым яна? Не раз намагаўся зразумець... Лагода яго, бадай, спалучала ў сабе дзве, на першы погляд, неспалучальныя рэчы: задзірыстасць і скрушлівасць, задзірыстасць і мяккасць, выбачлівасць...

Па нас прыйшла машына.

У Брэсцкім раёне, па сваёй недасведчанасці, мы абмінулі адну вельмі цікавую гаспадарку — калгас-камбінат «Памяці Ільіча», з цэнтрам у вёсцы Астрамечава. На той час у ёй адбывалася вялікая ломка ўсяго, што аджыло, а найперш — старых форм і метадаў гаспадарання. Старшынёй працаваў Аляксей Сцяпанавіч Скакун.

У «Памяці Ільіча» ствараўся нанава калектыў і ўмовы для працы і жыцця селяніна. Астрамечава станавілася адным з прыгажэйшых пасёлкаў у рэспубліцы, і амаль не ўступала Астрамечаву самавітая вёска — Лышчыцы. Усе вёскі калгаса памаладзелі, палюднелі, набываючы найбольш прывабныя сацыяльныя рысы. Грамадскае жыццё там няўхільна рухалася да сваіх вяршынь. Адно поспех іх быў загадкай...

Мы абміналі гэты калгас, дый раён прапускалі наогул. Па жаданню Івана Апанасавіча, дзе можна, скарачалі дарогу, аднак Бядулю ніяк не маглі абмінуць. Бо — хто не ведае? — гэты чалавек — арыгінал, любімец многіх журналістаў, мастакоў, кіношнікаў, і, куды дзенешся, калі слава грыміць, значыць, трэба і табе паглядзець на яго, пасядзець разам, пагаварыць на нейкія важныя тэмы.

Землі калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна ляжалі на пагоркава-хвалістай раўніне, паблізу польскай мяжы, і дарогі туды ад Брэста было кіламетраў сорак.

Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля, напэўна, чакаў нас, і, як толькі мы зайшлі ў старое прыземістае памяшканне канторы і адчынілі дзверы ў яго кабінет, ён падхапіўся насустрач і міма нас — на вуліцу, а мы ўслед за ім.

— Не будзем траціць часу,— кінуў ён на хаду.— Сядайце ў машыну, паедзем!

Нас папярэджвалі ўжо ў аддзеле прапаганды Брэсцкага абкома, што да Бядулі вельмі часта ў гэтым годзе наведваліся розныя прадстаўнічыя дэлегацыі, госці з розных куткоў нашай краіны і з-за мяжы, так што беднаму Бядулю з-за іх і продыху не было.

Мусіць, маючы гэта на ўвазе, Іван Апанасавіч сказаў:

— Прабачце, Уладзімір Лявонцьевіч, што мы вас ад гаспадаркі адрываем...

— Нічога,— энергічна запярэчыў Бядуля.— Любая гутарка мае вялікае значэнне, пры ўмове, што яна не фармальная!

Такі пачатак нам падабаўся, і пазней мне легла на думку, што старшыня калгаса, убачыўшы нас, куляй вылецеў з канторы, каб адцягнуць, адвесці нашу ўвагу ад старых канторскіх сцен і свайго сціплага кабінета — яму ж было што паказаць далей, у цэнтры Расна.

Цэнтр калгаса якраз фарміраваўся, і ўжо стаяў велічны Дом культуры, будынкі гандлёвага комплексу, дзіцячы сад, асобныя катэджы, фантан... Фантан, праўда, не дзейнічаў, і Бядуля, падвёўшы нас да бетоннага круга, сказаў, што іх не задавальняе архітэктурнае вырашэнне і давядзецца зробленае перарабляць, але яны не спяшаюцца, бо нічога лепшага пакуль не прыдумалі. Адчувалася, што ў Бядулевай гаспадарцы ўсё будуецца чынна, моцна, на вякі, як Пецярбург пры Пятру Першым.

У Доме культуры мы паглядзелі мастацкі салон, дзе было некалькі дзесяткаў карцін, набытых за калгасныя сродкі або падораных мастакамі калгасу.

Салон рабіў добрае ўражанне... Таксама ж найлепшае ўражанне складвалася ў нас і ад глядзельнай залы Дома культуры, дзе было шмат прасторы, а рады ўтульных, барвовага колеру крэслаў узнімаліся ярусамі.

Каржакаваты, сутулаваты, з налітымі сілай плячыма, Бядуля нагадваў белавежскага зубра, дарэчы, і рухаўся неяк наструнена, рашуча, імкліва, ведучы нас за сабой.

У глядзельнай зале ён прайшоў угору амаль да задняй сценкі, збочыў, між радамі выйшаў на сярэдзіну, сеў і пасадзіў нас поплеч.

Гарэлі свяцільні, і нам адкрывалася ўся перспектыва залы і сцэны; прастора ж цяпер была напоўнена чуйнаю цішынёй і, мне здавалася, гордасцю гэтага чалавека. З падмосткаў сцэны

тут у розны час выступалі акрамя самадзейных артыстаў артысты Вялікага тэатра, і піяніст Святаслаў Рыхтар, і паэт Андрэй Вазнясенскі... Само сабой, гучалі ў гэтай зале галасы і беларускіх славутасцей.

Бядуля павёў рукамі наўкола:

— Ну вось тут мы і пагутарым.

Пісьменнік Васільеў вырашыў павесці гаворку са старшынёй папулярнай, ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга гаспадаркі пра самае важнае для сябе.

Васільеў. Уладзімір Лявонцьевіч, у вас тут раней была адсталая гаспадарка. Дзякуючы вам яна стала моцнай, па-сучаснаму прыцягальнай. Скажыце, а як бы вы зрабілі, каб вам раптам выпала адказваць за лёс нашых нечарназемных зямель?.. Калгасы абязлюдзелі, і ў Калінінскай вобласці, напрыклад, мільён гектараў угоддзяў выпала з севазвароту. Зямлю ўрабляюць абы-як. Няма актыўнасці, якая была раней, і ніякім чынам нельга разарваць гэтае зачараванае кола.

Бядуля. Тут могуць адыграць станоўчую ролю два такія моманты. Аплата працы высокая, але за зробленае. (Палымяна.) Мы ж кансерватары чорт ведае якія! Ад гэтай хваробы засцерагаў нас яшчэ Ленін. Мы завялі ўраўнілаўку і ўкараняем яе. Мы можам па праву «ганарыцца» тым, што занядбалі лозунг: «Кожнаму па працы!» Пэўна, у сяго-таго мазгі павысыхалі, але не ва ўсіх... От здзейснілі гэты лозунг у Грузіі, у Абашскім раёне. Калі грузінскі механізатар зарабляе тысячу, на халеру яму гандаль! Калі механізатар будзе мець надзейных 300—400 рублёў за работу і добрыя адносіны да сябе, ён нікуды не пойдзе. Мы гэтага баімся. У нас едуць у Афрыку на два-тры гады, каб зарабіць і закінуць што-якое назаўтра. Уся катастрофа з арганізацыяй працы на сяле пачалася з пераводу сялян, спецыялістаў на грашовую гарантаваную аплату, аплату, незалежную ад канчатковага прадукта. Працадзень забракавалі, а ён жа ні ў чым не быў вінаваты.

I багата прыбавілася людзей абыякавых да працы, да яе вынікаў.

Аўтар. Працадзень дрэнны быў тым, што быў пусты. А каб да яго ды тое напаўненне, што прыйшло потым, як ён быў адменены...

Бядуля (ківае). От што ўвяло Нечарназем'е ў зачараванае кола... Едзеш па Смаленшчыне — стаяць сотні стагоў канюшыны, зямля родзіць, а ўзімку скаціну падвязваюць да бэлек. Мая жонка адтуль, з Шумяцкага раёна, і таму я бываю там кожны год, дні на два, на тры езджу. Больш не вытрымліваю. Свярбяць рукі, хочацца некаму ў вуха даць! (Праз момант.) Але ж, кажуць, не маё дзела!.. Імчыць грузавік па асфальце, а за ім следам цурчыць і шлейфам сцелецца зерне. Спыняю: ты што, сукін сын, робіш, ты хіба не ведаеш, што ў кузаве дзіркі?.. Азірнуўся назад, злосна бліснуў вачыма: «А што табе?!» (Уздыхнуўшы.) Многія старшыні і спецыялісты злоўжываюць шчодрасцю народа, дзяржавы, калі гэта шчодрасць — надзяляць аднолькавай ласкай таго, хто працуе, і таго, хто лынды б'е. (Горача, з годнасцю.) Цяпер прыдумалі даплаты нізкарэнтабельным гаспадаркам. Па-мойму, гэта чарговы пас, і хай прабачыць мне міністр Сянько, але, засцілаючы паперай западзіны, ямкі, не зробіш раўніны! Відаць падтасоўка... Блеф! Нам гавораць, напрыклад, што нерэнтабельных гаспадарак было 100, а стала 10 — вось дзе наша бяда! А мы павінны навучыць старшыню думаць! Праўду я кажу?

Васільеў. Я з вамі згодзен!

Бядуля. Усё гэта мы павінны аналізаваць, бо без правільнага аналізу не можа быць правільных дзеянняў. Так жа? Ага... Як я зрабіў бы, каб памагчы слабому? Пабудаваў бы ў такой гаспадарцы дзіцячы сад або на 300 тысяч рублёў добрых дарог. Калі ж няма сілы дарыць гэта — спісаў бы з даўгоў 600 рублёў і сказаў: «Людзі, у вас цяпер не дзесяць тысяч даўгоў, а 9400... Вы пастарайцеся!..» Аднак гавораць падругому: «Людзі, вы ўжо рэнтабельныя!» Апладзіруюць. А чаму? Нават не кожны растлума-

чыць, што гэта азначае... Блеф! І гэта мяне абурае, ад гэтага мяне калоціць! (У неабдымнай пустой зале ціха-ціхутка. Бядуля раптам мяняе тэму гаворкі.) Што добрага ў Беларусі і ў нас на Брэстчыне? Узяты курс на канцэнтрацыю і спецыялізацыю вытворчасці; гэта ж таксама спрыяе вырашэнню і сацыяльных пытанняў. Калі мы не будзем гэтым займацца, нас спасцігне лёс Нечарназем'я. Азбука, без якой нельга зрабіць ні кроку наперад! (Не спяшаючыся.) Мы зрабілі цуд з птушкагадоўляй: і яек, і курэй, качак маем — колькі душа пажадае. Тая ж тэндэнцыя са свінагадоўляй. Непадалёку ад нашай гаспадаркі будуецца міжгаспадарчы комплекс на 100 тысяч галоў. Корм сюды будзе паступаць з планавых фондаў, а вада на месцы. Безгаловыя тыя, хто не разабраўся, што гэта за кармы. Кажуць, д з я р ж а ў н ы я. Мы ўсе дзяржаўныя! Цяпер, бадай, самае галоўнае: як павысіць аддачу кармавых рацыёнаў? У Брэсцкай вобласці задача паспяхова вырашаецца. Што яшчэ? У Беларусі самая высокая шчыльнасць жывёлы. І мы гэтым ганарымся. Буйныя комплексы не процістаўляем тым дробным фермам...

В а с і л ь е ў. Уладзімір Лявонцьевіч, усё гэта добра, у вас вытворчасць на сяле развіваецца больш гарманічна, жыццё — таксама. Але ж у нас з вамі багата агульных хвароб. Скажыце, калі ласка, што вы думаеце пра ініцыятыву, ну, скажам, пра магчымасць яе праяўлення?

Б я д у л я (з пафасам). Жывіце сто гадоў і забудзьце турбавацца пра гэта! Пакуль справа не церпіць з-за таго, што не даюць рабіць, як хочаш!..

А ў т а р. Прабачце, Уладзімір Лявонцьевіч, але вы, я чуў, не адно спагнанне мелі за тое, што рабілі па-свойму.

Б я д у л я. Было! Ад характару, ад імпэту ў рабоце. Вучылі! Але сёння я пераканаты — я нават пісаў пра гэта ў цэнтральнай газеце: свабоды нам даюць больш, чым трэба! Хочаш, рабі дрэнна, хочаш — не рабі, хочаш, дай на карову тры тысячы малака, хочаш — паўтары

тысячы... От вы, Іван Апанасавіч, гаварылі на вуліцы пра буйныя комплексы. Наставілі іх нямала, цяпер у іх вецер гуляе! Хіба тут не дадзена лішняя самастойнасць?

Васільеў (збянтэжаны). Каму?

Бядуля. Усім!!! Савецкім, гаспадарчым органам...

Аўтар. Дык не пра органы ж ідзе размова.

Бядуля (не слухаючы). Калі за аснову ўсяго бярэцца гаспадарчы разлік, такога не бывае. Мы не Галандыя, каб так вось чохам і паўсюдна праводзіць эксперыменты!..

Васільеў. У нас людзі супраціўляліся шаблону.

Бядуля. Не можа быць! (З усмешкай.) Вы маскоўскі інтэлігент.

Васільеў. Не-е! Вам, мільянеру, ды з Зоркай на грудзях, лёгка гаварыць!

Бядуля. Сапраўды, можа, вы і маеце рацыю. Кірыла Арлоўскі — а я быў з ім знаёмы — казаў: «Калі грошы ёсць, разумнейшым становішся». З 1951 года наш калгас мільянер і старац. Гэта адно і тое ж. Аб'ядноўвалі, узбуйнялі...

Васільеў. І што вы лічыце галоўным у рабоце?

Бядуля. Трэба зямлю накарміць уволю, і яна ў даўгу не застанецца.

Аўтар. Нам, Уладзімір Лявонцьевіч, гаварылі пра вашу паездку ў Аснежыцы і пра выступленне на нарадзе ў Брэсце. Відаць, захапіў і вас комплекс на мяккай падсцілцы?

Бядуля. Ну, прапагандаваць сёння падобнае ўтрыманне скаціны — авантурызм!

Аўтар (здзіўлена). Чаму?!

Бядуля. Адкажу. Мы не зможам забяспечыць фермы падсцілкай — не хопіць саломы. У «Аснежыцкім» салому возяць з іншых гаспадарак, а калі пакінуць фермы толькі на сваёй — будзе патоп!

Васільеў. Вы не падсцілаеце?..

Бядуля. У нас маладняк, цяляты, стаяць на саломе. Для іх выключэнне робім.

В а с і л ь е ў. Усё адно мы вернемся да ралькоўскай практыкі.

Б я д у л я (пераканана, гучна). Адказваю: не вернемся! Прынамсі, для дойнага статка! Не будзе каму падвозіць салому...

А ў т а р. А чым карміць зямлю?..

Б я д у л я. Жыжкаю... Тэхналогія можа быць розная.

А ў т а р. Ад жыжкі зямля камянее дый не атрымлівае гумусу...

Б я д у л я. Нас пакуль торф выручае...

В а с і л ь е ў. Вядома... (Трохі збіты з тропу.) Але мы гаварылі пра характар. Як выправіць становішча, каб цябе не асуджалі, калі ты не адмаўляешся ад сваіх прынцыпаў, у якія верыш...

Б я д у л я. Чалавек павінен адказваць за зямлю персанальна і гаспадарыць, не дапускаючы памылак!

А ў т а р. Чаму ж? Памылкі могуць быць. Пры самастойнай рабоце гэта дапускаецца. Фантан жа вы перараблядь збіраецеся...

Б я д у л я. У тэндэнцыі развіцця гаспадаркі не павінна быць памылак!

В а с і л ь е ў. М-да!.. Але як развіваць гаспадарку ва ўмовах, калі ў Калінінскай вобласці, скажам, штогод мяняецца палавіна старшынь калгасаў?

Б я д у л я. За пяцігодку напалавіну памянялі і ў нас... Важна, канечне, каб быў не часовы работнік і неабыякавы, а вечны слуга і фанатык, які разумее свой абавязак перад родным кутком і народам. І каб разумелі яго... У нас апошнім часам ставілі на гэтыя пасады не тых, хто зможа, а тых, каго ўдавалася ўгаварыць. У дзвюх гаспадарках ім па 35—37 гадоў — галоўнымі спецыялістамі да гэтага працавалі. Пайшлі, хоць у грамадзянскай сталасці, мяркуем, пакуль не дацягваюць.

В а с і л ь е ў. Багата такіх. Фізічна выспеў, а ў грамадзянскім плане — сыры! Прапануюць: бяры, браце, калгас або саўгас і адказвай за ўсё. Вось тут у яго і дрыжаць паджылкі.

Бядуля. Характар у старшыні і наогул спецыяліста не выхоўваюць. Гэта дрэнна...

Васільеў. Гэта — так... Цікава, а як вы ставіцеся да аграсервісу?

Бядуля. Стараемся, каб было ўсё сваё. З «Сельгастэхнікай» парвалі дагавор.

Васільеў. Інакш без права на памылку не атрымліваецца?

Бядуля. Падвядуць як піць даць!

Аўтар. А якія ў вас думкі пра Камянецкае РАПА?

Бядуля. Па-мойму, РАПА — гэта тое, у чым пакуль ніхто яшчэ не разабраўся. У нас стварылі і саветы калгасаў, якія дагэтуль нічога не робяць. Тут, праўда, задума іншая. Але ж у нетрах упраўлення пакуль ніякіх змен. Чакаем іх... Мы будзем нічога не вартыя, калі нашы ідэі не будуць сядзець у мазгах тых, хто працуе ў сферы матэрыяльнай вытворчасці.

...Вось гэтак у Расна мы вялі дыялог, правяраючы ўжо мо ў дзесяты, а мо ў соты раз свае думкі і ўражанні ад вялікага Сялянскага Акіяна.

## 35. Ці трэба Еве быць Адамам?.. Кантрастны характар

Бядуля запрасіў нас у калгасны рэстаран на абед, і мы селі за сталом у невялікай зале. Што да вялікай залы, то яна па сваёй прыгажосці, эстэтыцы афармлення, я думаю, не ўступала ніводнаму з нашых мінскіх рэстаранаў.

У гутарцы за абедам Іван Апанасавіч пацікавіўся аплатай працы, і Бядуля адказаў, што ў некалькіх словах гэтага і вытлумачыць немагчыма, ды ўсё ж пачаў тлумачыць, але з яго слоў я нічога не зразумеў, а пасля даведаўся, што і Васільеў — таксама. Гэтаму можна было толькі дзівіцца.

Трымаючы ў руках фужэр, Васільеў сказаў:

— Не давядзі божа, знішчыце любоў селяніна да зямлі, жаданне працаваць на ёй — паўторыце нашы памылкі! Трэба быць пільнымі, бо, скаціўшыся з гары, на гару цяжка вяртац-

ца. Я ўсё думаю: ці ўдасца нам адпавіць страчанае ў сваім мужыку? Спатрэбіцца псіхалагічная пераналадка. Словам, хай вам добра будзе!

Што да аплаты працы... Пройдзе паўгода пасля нашай сустрэчы, і Бядуля павязе свой калгас (ажно 350 чалавек) у Моталь пераймаць гаспадарчы разлік. Ён умее і любіць уражваць, прычым не толькі гасцей, але і сваіх земляробаў таксама.

Тады ж, водзячы нас па фермах, па гаспадарчым двары, раснянскі старшыня расказваў пра лепшых людзей з Расна і іншых вёсак калгаса, апантаных, як і ёй, працай. Механізатар Мікалай Казакоў, напрыклад, адзіны ў краіне, хто на адным агрэгаце саджае па 200 гектараў бульбы. У лепшыя гады на плошчы 100 гектараў ён атрымлівае ўраджай да 390 цэнтнераў клубняў, а па калгасе сярэдні — 352... Даярка Ніна Шкутнік надойвае ад каровы да 5 тысяч літраў малака; Людміла Мельнічук мала чым адстае ад яе...

Васільеў павярнуў гаворку ў другі бок, да сям'і:

— У апошні час усё больш вызначаецца жаданне маладой жанчыны мець адно дзіцё — менш клопатаў: як хачу, так і кручу... Ці не страчвае маладзіца тыя лепшыя якасці...

Бядуля адказаў імгненна:

— У нас — не, а ва ўмовах Смаленшчыны, Браншчыны — страчвае!

— Гм, дапусцім... У вас працуюць усе?..

— Не!.. Няхай адзін з сям'і выкладваецца. І лепш, калі гэта будзе Адам.

— А пракорміць?

— Але ж.

— Што тады Еве рабіць?

— Ева павінна працаваць напалову.

— А калі яна хоча выявіць, паказаць сябе як асобу?

— Калі Адам бесхарактарны, тады яна няхай робіць, а ён — напалову.

— Дзяцей жа глядзець хто будзе?

— Яна народзіць, а ён хай глядзіць і выхоўвае.

— Дрэннае выхаванне, калі адно дзіцё, дый тое ў сям'і — не шчасце, а дадатак да шчасця, як сказала нам адна настаўніца на Полаччыне... Скажыце, а ці не знялі мы з бацькоў адказнасць за выхаванне дзяцей?

— Знялі!..

Мы якраз пакінулі будаўнічую пляцоўку свінакомплексу, і Уладзімір Лявонцьевіч паказаў на новы пасёлак, за некалькі кіламетраў ад Расна, які зводдаль нагадваў невялікі гарадскі мікрараён:

— Будуецца сацыяльны комплекс новага прадпрыемства...

— А чаму яго не злілі ў адно з Расна?

— Хацелі... Я вытрымаў вялікі бой, каб не дапусціць гэтага,— у голасе Бядулі пачулася гордасць.

— А чаму, уласна?

Васільеў паспрабаваў быў спрачацца, даказваць, што зліццё пасёлка магло быць выгадна ўсім — свінакомплексу, калгасу, дзяржаве... Але пахіснуць Бядулю ў перакананнях, якія аднойчы склаліся ў яго, відаць, нікому яшчэ не ўдавалася. Зрэшты, за гэта мы яго не асуджалі, хоць, шчыра прызнацца, ён усё больш насцярожваў нас.

Мы развіталіся з Уладзімірам Лявонцьевічам на прасёлку каля адной з фермаў — у калгасе яго чакала яшчэ нейкая тэрміновая справа з ліку запланаваных — сход, ці што... Пажадалі поспехаў адзін аднаму. Ён сеў у адну, мы — у другую машыны. І Расна заставалася ў нас за спінай.

Уражанне ад Бядулі ў мяне было складаным і дзіўным, як ад моцнага віхру, які пакруціўся, пагойсаў, захапіў цябе краем дый знік.

Васільеў нейкі момант маўчаў, пэўна, асэнсоўваючы тое, чым жыў Бядуля, ягоныя думкі. Я таксама маўчаў. Ён не вытрымаў:

— Ну як? Што ты, Васіль, скажаш?

— Бядуля выдатна правёў прэс-канферэнцыю!

— Але ж... Так... Іменна: правёў прэс-канферэнцыю!..

— На адзіным дыханні. Безапеляцыйна.
— Ага... І чаго варты разважанні пра ініцыятыву? У фразу гуляе,— і ў голасе Васільева я пачуў асуджэнне і горыч: — Бачыце, самастойнасці, ініцыятывы ў нас больш, чым трэба! О, госпадзі Ісусе! — уздыхнуў.
— Тут ён, канечне, напусціў туману...
— А калі мець на ўвазе выступленне ў Брэсце, пра якое гаварыў Ралько, то як яго разумець? Адмаўляе тое, што тады хваліў! Чаму?
— А хват яго ведае! Салома ж не выкарыстоўваецца багата ў якіх раёнах і гаспадарках. Скірды стаяць, надараецца, па году і больш, займаючы ўрадлівую глебу. Гніюць...
— М-да... Нечаканы характар! Чалавек кантрастаў...
Ніяк не хацелі ўтаймоўвацца і апіхаць нашы свежыя ўражанні... Я дзівіўся адно, як глыбока Бядуля закрануў, збіў з думак і расчараваў Васільева, што адчувалася не толькі на словах пісьменніка — настрой Івана Апанасавіча быў сапсаваны, і да самых Пружан ён крахтаў, круціў галавой і не мог супакоіцца.

## 36. Ганчар Антон Такарэўскі і лёс прыкладнога мастацтва

Мы не абміналі цікавых людзей. У Пружанах жыў майстар-ганчар Антон Рыгоравіч Такарэўскі. Яго мы засталі дома, і стрэлі акурат на падворку — тупаў сабе ля каня, запрэжанага ў фурманку,— адно спачатку веры не далі, што гэта ён сам, бо ведалі: таму Такарэўскаму, які нам быў патрэбен, восемдзесят гадоў ад нараджэння, а гэты, падгалісты, раўнаважны, у падношаным рабочым адзенні, выдаваў гадоў на шэсцьдзесят.
Аказалася ж, ён гэта, Антон Рыгоравіч, як кажуць, уласнай персонай.
З яго творамі — гліняными гаршкамі, закуранымі і абпаленымі такім чынам, што набывалі прыгожы, роўны, сінявата-шэры колер,

мы сустрэліся яшчэ ў выставачнай зале Бабруйскага мастацкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча, і там нам казалі пра гэтага мастака, што ён адзіны ў рэспубліцы, хто валодае падобнай тэхналогіяй абпалу.

Антон Рыгоравіч запрасіў нас у сваю ганчарню — памяшканне з уваходам адразу з сянец. Наогул усе гаспадарчыя збудаванні Такарэўскага былі пад адной страхой, утвараючы пагон. Па сцвярджэнні некаторых вучоных, падобнага тыпу пагонныя двары з'яўляюцца помнікам старасветчыны: дрыгавіцкай — ажно дрыгавіцкай! — сядзібы; яны распаўсюджаны і дагэтуль па Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

Рамясло ганчара для Антона Такарэўскага было спадчынным, пераходзіла яно ад бацькі да сына, ад сына да ўнука, і так — на працягу 500 гадоў. Ягоны прапрадзед, казаў Антон Рыгоравіч, быў галоўным майстрам у ганчарнай арцелі, якая існавала ў Пружанах у часы Пушкіна. Наш Такарэўскі пачаў працаваць за ганчарным кругам, калі яму было восем год. Яго гаршкі, глякі, міскі экспануюцца цяпер на ВДНГ у Маскве. Сакрэты свайго рамяства ён перадаў аднаму студэнту Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, праўда, той жыў далёка адсюль, а на месцы пераемнікаў у яго не было, і гэта засмучала прызнанага майстра.

— Гэта, мусібыць, з-за недаацэнкі вашай работы і адсутнасці хоць якой-небудзь яе прапаганды,— выказаў я меркаванне.

— Плана ж на гаршкі няма,— уставіў Васільеў.— Тады навошта гаршкам прапаганда?

— У тым-та і справа,— падхапіў Такарэўскі.— Раней людзі адзін ад другога адгароджваліся плотам, а цяпер — планамі пачалі адгароджвацца. Далей гэтага плана кроку ніхто не ступіць.

— Сапраўды...

— Зацікавілася маім рамяством яшчэ адна дзяўчына,— прыгадаў ганчар,— вельмі здольная — Таня Сцяпанава. Усё бегала сюды. Аддайце, кажа, мне сваю ганчарню... Рукі ў яе выдатна чуюць гліну. Тры гады паступала ў

тэатральна-мастацкі — не магла паступіць. Паехаў я ў Мінск, памог ёй.

І светла, і сумна рабілася на душы ў доўгім двары Такарэўскага. Прыгадвалася зноў мастацкае вучылішча ў Бабруйску, яго выхаванцы.

У вучылішча паступаюць здольныя хлопцы, дзяўчаты, рукі іх, як і ў Сцяпанавай, добра адчуваюць гліну, дрэва, тканіну, метал, пэндзаль... Яны мараць ствараць сапраўдныя творы. Іх здольнасці там развіваюць, і выстаўка твораў выпускнікоў розных год паказала нам, што з яго сцен выходзяць майстры сваёй справы, з абуджанай фантазіяй і добрым мастакоўскім густам.

Вучылішча, праўда, рыхтуе прафесійных рабочых, але ж рабочых для цэха мастацтва, і паспрабуй тут разабрацца, наколькі рабочы — рабочы і наколькі мастак, само жыццё толькі акцэнты расставіць. Адно ў гэтым багата залежыць ад далейшых умоў, дзе давядзецца працаваць выпускніку, ад задач, якія перад ім паставяць.

Цікавы прыклад вычытаў у адной з цэнтральных газет... Імамаў Ілісай Імамавіч працуе пчаляром у адным з саўгасаў Муслюмаўскага раёна Татарыі; яго бацька ваяваў і загінуў у Вялікую Айчынную... Праз трыццаць гадоў пасля вайны ў саўгасным клубе на сходзе зайшла размова пра ўвекавечванне памяці аб загінуўшых аднавяскоўцах, і сакратар парткома звярнуўся да прысутных: ці можа хто зрабіць помнік?.. Сын салдата Ілісай Імамавіч прыгадаў: бацька яго калісь вычэсваў з каменя помнік Леніну... Ён узняў руку: «Я паспрабую». Знайшоў у суседнім раёне камень, сам зрабіў інструмент і пачаў дзяўбаць. Воін з каменя атрымаўся жывы і нейкі свой, вясковы, ён трымаў на руках дзіцянё. З гэтага і пачалася мастакоўская кар'ера Імамава. Яшчэ адзін помнік і розныя скульптуры з дрэва і каменя: «Маці», «Песня», «Чаканне»... Яны хвалююць, ад іх не адыдзеш абыякавым. Выразна бачыцца талент аўтара, яго ўменне вы-

явіць у матэрыяле душу чалавека. Імамаў і дагэтуль працуе пчаляром, а ягоныя творы, што вабяць увасабленнем духоўнага свету сучасніка, упрыгожваюць многія вёскі раёна.

Дык вось на сельскім сходзе аднойчы перад сялянамі была пастаўлена высокая задача, для рашэння якой спатрэбіўся мастак, і ён знайшоўся. Бяда выпускнікоў Бабруйскага мастацкага вучылішча ў тым, што на вытворчасці, куды іх пасылаюць працаваць, такія вялікія або высокія задачы перад імі не ставяцца. За рэдкім і рэдкім выключэннем, там у працы — паток, і іх ставяць рабочымі на паточную лінію — усё адно ці то на дрэваапрацоўчым заводзе, ці мэблевай фабрыцы, ці то на фабрыцы мастацкіх вырабаў... Удумаемся. Зразумеем... Пасля таго як іх абудзілі да творчасці, ім нецікава стаяць на канвееры, выдаючы адну нейкую дэтальку або нават выраб — стандартны, аднолькавы і сёння і заўтра... Яны вучыліся ў мастацкім вучылішчы чатыры гады, а робяць тое самае, што і рабочыя, узятыя проста з вуліцы. Дык навошта ж вучылішча? Навошта лепяць з іх мастакоў, майстроў сваёй справы, калі потым ім не знаходзіцца месца, прасторы для мастацкае творчасці і самавыяўлення?

Расчароўваюцца.

На Івянецкай фабрыцы мастацкай керамікі і вышыўкі, калі мы былі там, я сустрэўся з выпускніцай гэтага вучылішча 1976 года — Валянцінай Канстанцінаўнай Рудовіч. З іх групы, якая налічвала 19 чалавек, працаваць керамістам асталася яна адна, дый то таму, што залічылі лепшчыцай-палівальшчыцай у творчую групу. Тры чалавекі з выпуску, праўда, паступілі вучыцца далей у тэатральна-мастацкі інстытут, ім пашанцавала...

Сітуацыя, абмаляваная Рудовіч, не радавала.

Тады ж, на пачатку свайго маршруту, мы з Іванам Васільевым завярнулі ў Радашковічы, дзе размяшчалася Беларускае вытворчае аб'яднанне па вырабу мастацкай керамікі;

падпарадкоўвалася яму і Івянецкая фабрыка. Нас прыняў і прывеціў намеснік генеральнага дырэктара Аляксандр Мікалаевіч Кладаў. Кваліфікаваных рабочых аб'яднанне атрымлівае як з Бабруйскага, так і з Гомельскага мастацкіх вучылішчаў, сказаў Кладаў, але з іх застаюцца на вытворчасці толькі 50 працэнтаў дзяўчат, а хлопцы працуюць, як правіла, да прызыву на армейскую службу, потым не вяртаюцца. Выключэнні можна пералічыць па пальцах.

Нас, вядома, цікавіла не выключэнне, а правіла, гэта значыць, сама з'ява. Сутнасць жа яе была выказана ў словах Такарэўскага: далей вытворчага плана ніхто нічога бачыць не хоча... У дадзеным выпадку сама прамысловасць адгароджвалася планам ад выпускнікоў мастацкіх прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. За тыражыраваннем вырабаў яна не хацела бачыць самага каштоўнага — творчай жылкі, душы ў тысячах і тысячах выпускнікоў. Як вынік, Бабруйскае мастацкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 15, можна сказаць, ужо чвэртку стагоддзя працуе на вецер, ну калі не цалкам, то працэнтаў гэтак на 70—80; тое ж самае — Гомельскае дый нядаўна адкрытае Кобрынскае мастацкія вучылішчы, што, дарэчы, таксама ж трывожыць і іх дырэктараў, і іх выкладчыкаў — у такіх умовах, калі ў дзяцей вельмі няпэўная перспектыва, ускладняецца сам навучальны працэс: дадамо, і грамадзянскае выхаванне таксама. Штосьці трэба рабіць. А як? І хто возьме на сябе гэты клопат?

У краіне, казалі нам, выпускаецца мастацкай керамікі на 60 мільёнаў рублёў у год. Прыблізна сёмая доля ад гэтага належыць беларускім керамістам. Беларускія вырабы славяцца.

— Але ж попыт на кераміку знізіўся, дакладней, ён стабілізаваўся,— тлумачыў Кладаў.— Прычым стабілізацыя адбылася на такім узроўні, які не дазваляе прамысловасці нарасціць усе свае вытворчыя магутнасці. Най-

большы попыт на мастацкія каштоўныя рэчы.

— Дык гэта і зразумела,— адгукнуўся Васільеў.— Мы знаходзімся ў свеце уніфікавана-стандартных рэчаў, якія не лепшым чынам уплываюць на нас. Калі чалавек пазбаўлены мастацкага ўспрыняцця, яго не можна лічыць гарманічна развітай асобай. Калі вы сваім тыражыраваннем запоўніце ўсе кватэры — я к вам прыйду, вы да мяне — скрозь аднастайнасць, шэрасць.

І Кладаў разумеў гэта. Ён зазначыў, як бы ў сваё службовае апраўданне, што з трохсот відаў вырабаў у год абнаўляецца іх чвэртка і што цяпер яны прыступаюць да абнаўлення або аздобы мастацкай керамікі імпартнымі пераваднымі карцінкамі — дэколямі, імкнуцца, між іншым, наладзіць выпуск і сваіх дэколей, а пазбаўляцца ад штампу нейкім чынам ім паможа эксперыментальны ўчастак, які збіраюцца неўзабаве адкрыць.

Хто ведае, ці вырашыць задачу ўсё гэта. Кладаў прыкідваў і так і гэтак:

— Цяжка бегчы ў вузкай спадніцы. Рынак напоўнім — давядзецца вярнуцца да мастацкіх штучных вырабаў. Але вяртацца трэба на новай вытворчай аснове.

А што? Памяркуем, ці не можам мы ўжо сёння пашукаць тую новую, безумоўна, больш вартую нашага грамадства аснову, перайсці на яе ды стварыць такія ўмовы, пры якіх знайшлося б месца для раскрыцця мастацкай думкі, здольнасцей, таленту ўсіх выпускнікоў мастацкіх тэхнічных вучылішчаў і народных умельцаў, як Такарэўскі?.. Думаецца, гэта ў нашых руках, толькі варта псіхалагічна перадолець сябе і, арганізуючы вытворчасць, не дапускаць, каб намі валодаў план, а не мы ім, бо ўсякі план павінен служыць чалавеку — творцу, а не наадварот — творца — безаблічнаму плану.

А яшчэ вопыт калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага паказвае, што для творчай моладзі сёння — неабмежаванае поле дзейнасці ў вёсцы, якая ладкуе свой побыт таксама на новай

аснове і хоча пазбавіцца шэрасці. От толькі ніхто, акрамя Старавойтава ды Скакуна пад Брэстам, іх туды не кліча і не ставіць перад імі важнай або высокай задачы. А час, мабыць, прыйшоў, каб рабіць гэта.

## 37. У абладзе чалавечага духу. Два погляды на раённае звяно

У Пружанскім райкоме партыі Лідзія Мікалаеўна Раманюк, сакратар па ідэалогіі, расказала нам пра цікавы выпадак з работы на сяле, у нізавым звяне камуністаў. У калгасе «Перамога» працяглы час была халодная, напружаная маральная атмасфера, якую, па ўсіх прыкметах, стварала кіраўніцтва гаспадаркі. Але старшыня і спецыялісты, як адзін, адмаўлялі гэта. Парторг, той быў маладым яшчэ, нявопытным і не ведаў, каго падтрымліваць — калгаснікаў або старшыню... Апыталі людзей праз анкеты. На анкеты адказала трэцяя частка сялян. І высветлілася: прычына шматлікіх канфліктаў сапраўды ў старшыньскім характары. Давялося старшыні перастройвацца... І гэта добры прыклад работы райкома, хоць захапленне паперамі і губіць жывую справу.

А вось у саўгасе «Зялёнка» на Полаччыне нам у свой час давялося сустрэць маладога ды вопытнага сакратара парткома, ім была Любоў Міхайлаўна Кудзеля, эканаміст па адукацыі, надзвычай варушлівая і дасціпная жанчына, жонка механіка Анатоля Аляксандравіча Кудзелі, якога потым перавядуць працаваць дырэктарам саўгаса «Шпакоўшчына». Гэта да яго ездзіў пчаляр Анатоль Сяргушка...

Дык от Любоў Міхайлаўна, не парушаючы добрых і шчырых адносін з дырэктарам саўгаса «Зялёнка» Васілём Паўлавічам Шэлегавым, умела ўплываць на яго крытыкай на партыйных сходах. Крытыка яе, праўда, была добразычлівая. Адзначала яна перш-наперш яго намаганні і поспехі, потым з засмучэннем і да-

корам гаварыла аб дапушчаных ім праліках.

Васіль Паўлавіч, не менш вопытны і абачлівы кіраўнік, ветэран вайны, за крытыку не крыўдзіўся, і ад таго аўтарытэт і сіла абодвух ўзрасталі. Гэта — яскравы выпадак па-сапраўднаму зычлівых і прынцыповых адносін кіраўнікоў, і калі я выказаў сакратару Полацкага райкома партыі Чарняўскай Святлане Сяргееўне сваё захапленне яна адказала:

— А ў нас падобнае надараецца нярэдка. Напрыклад, у адной школе нядаўна на сходзе завуч крытыкаваў дырэктара, і ладзяць. Мы робім усё дзеля таго, каб такая таварыская крытыка стала нормай.

Гэта радавала. Праз такія, няхай сабе дробныя факты выяўляўся на месцы, у грамадзе сялянскай, свой адметны стыль у выхаванні кіраўніка, чалавека наогул.

Але ж мы ведалі факты і іншага гатунку. З крытыкай і самакрытыкай, з асуджэннем учынкаў начальніка падначаленымі ў нашых установах і на прадпрыемствах было вельмі туга, шмат пелася алілуйшчыны, што рабіла казённымі жывыя чалавечыя адносіны ў тым ці іншым калектыве.

Натуральна, мы з Іванам Апанасавічам Васільевым цікавіліся амаль у кожным раёне перастройкай і зрухамі ў выхаваўчай практыцы райкомаў партыі.

Лідзія Мікалаеўна Раманюк у Пружанах сказала так:

— У будове ідэалагічнай работы ўсё асталося, як раней, але якасна работу паляпшаем. Задача — каб не было фармалізму.

Бадай, гэта быў тыповы адказ, і ён мала радаваў. Вядома, рабіліся спробы вывяраць ды адточваць сродкі ўзбагачэння душы чалавека з тым, каб яшчэ больш узняць яго творчы патэнцыял і каб наблізіць яго як асобу да ідэалаў камуністычнага грамадства. Але, можа, то былі старыя сродкі?.. Можа, у новых умовах варта было штосьці зыначыць? Не выключана, што чалавечая асоба сёння вымагала ад ідэолагаў ужо зусім новага падыходу да ся-

бе... Таму ў гэтай нашай надзеі на словы «паляпшаем» або «паляпшаецца» была і доля скептыцызму, калі шчыра сказаць. Бо мы ўжо нямала пабачылі на сваім вяку. Паляпшалі ж, напрыклад, арганізацыйна-выхаваўчую работу ў нашых калектывах і пасля вострай і дагэтуль надзённай пастановы ЦК КПСС ад 26 красавіка 1979 года «Аб далейшым паляпшэнні ідэалагічнай, палітыка-выхаваўчай работы», а потым, праз чатыры гады, быў канстатаваны «адлёт» слова ад справы, ад жывой рэчаіснасці. Няйпачай, былі шчырымі і ў Дзяржынскім райкоме партыі на Міншчыне, калі «паляпшалі», у адпаведнасці з новымі патрабаваннямі, выхаванне працоўных, а бюро ЦК КПБ, разгледзеўшы на сваім пасяджэнні палепшаны варыянт яго, прызнала, што практыка такога паляпшэння нездавальняючая. Хіба там што-небудзь да гэтага часу змянілася?

Напэўна, не так проста гэтую службу чалавечага духу, светаўспрымання, думкі і настрою палепшыць, як таго патрабуе новы час і абставіны, бо калі пабурыць што-небудзь, ад чагосьці адмовіцца — то як зрабіць гэта, калі яно ўжо стала ўласнай сутнасцю... Ламаць? А што?.. І наколькі?.. Клопат, напэўна, не адных нізавых работнікаў, на якіх спадзяюцца, тым больш калі ўпіраюцца людзі «самі ў сябе».

От і ў Кіраўскім раёне на Магілёўшчыне таксама рабілі выгляд, што з году ў год усё паляпшаюць. А практычная работа з кадрамі на месцы дала Васілю Канстанцінавічу Старавойтаву падставы востра крытыкаваць яе на пленуме Магілёўскага абкома партыі.

З Пружан мы ўзялі кірунак на поўнач, на Гродзеншчыну. Маўчалі якую адлегласць... Неўзабаве Іван Апанасавіч спытаўся ў мяне:

— Ты заўважыў, у раёнах кадры, якія забяспечваюць духоўную сферу, слабейшыя за гаспадарчыя?

Я сумеўся. Такое мне ў галаву не прыходзіла.

— І скрозь — вы-ка-наў-цы, за рэдкім выключэннем... Калі-небудзь мы яшчэ спахопімся.

— Іван Апанасавіч,— я адчуў, што не магу пагадзіцца з ім,— прычына, пэўна, не ў здольнасцях або — не толькі ў іх.

— У здольнасцях, найперш за ўсё,— настойваў на сваім Васільеў.— Неяк я гаварыў з адным дасведчаным чалавекам, і ён сказаў тое ж, што я табе гавару. Педантызму тут шмат, а руппнасці, жывой справы мала.

— І ўсё ж гэта не таму, што на работу сюды падбіраюць слабейшых!

— Астаюцца слабейшыя... Больш моцных забіраюць гаспадарыць.

— Не... Хапае моцных і на гэтай ніве! Штосьці тут іншае, Іван Апанасавіч... Мо схільнасць прычэсваць, прыгладжваць жыццё, захоўваць чысціню і парадак у доме, нічога не мяняючы? Нейкі дамскі ўхіл... А калі патрэбен рамонт, перапланіроўка ў самім будынку?

— Хапіла б таго, што мы школу аддалі на водкуп настаўніцам...

— Наконт школы, вы, пэўна, маеце рацыю, але я не згодзен з думкаю ў цэлым. Уражанне падманлівае.

Мы спрачаліся, але каб пераканаць — не пераканалі адзін аднаго, і пытанне, як кажуць, засталося адкрытым.

Ехалі далей. Аднастайны нізінны ландшафт, які ўсё часцей наганяў сум і маркоту на Васільева, спакваля адыходзіў, мяняўся, пайшлі пагоркі, нярэдка пакрытыя лесам, і наша асфальтаваная дарога рабіла прыгожыя выгіны і льснілася, блішчала наводдалек.

Што падмацоўвала мае меркаванні ў спрэчцы з Васільевым? Летась, едучы з Докшыц на Віцебск, мы спыніліся на некалькі гадзін у Лепелі, і я зайшоў у райком партыі. Мне пашанцавала там пазнаёміцца з Уладзімірам Канстанцінавічам Ганчаром, маладым, удумлівым і сімпатычным як знешне, так і па складу душы чалавекам. Якраз у тое лета ён скончыў Вышэйшую партыйную школу ў Мінску. Свежай была пастанова чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС,

і зразумела, выпускнікоў школы настройвалі на работу адпаведным чынам; шмат добрых думак і пажаданняў было выказана. Але ж от раз'ехаліся яны па раёнах. І што далей?

Папрацаваўшы два-тры месяцы ідэолагам у Лепелі, Уладзімір Канстанцінавіч пераканаўся, што так, як настаўлялі, працаваць няможна, бо аставалася ранейшай сістэма, якой вызначаўся стыль і, галоўнае, крытэрыі работы. Яны не мяняліся, нават не ставіліся пад сумненне, і дзейнічаць сакратар мусіў у адной запрэжцы з калегамі вышэйшага рангу, выконваць прадвызначаныя імі задачы, заданні, мерапрыемствы і, вядома ж, суправаджаць усё гэта паперамі. Крытэрыі — тая планка, пераскочыць праз якую нікому не дадзена. Яе, праўда, можна скінуць, паламаць разам з устарэлай сістэмай, але для гэтага, пэўна, тады не наспела яшчэ сітуацыя. Адным словам, са скрухай у голасе казаў малады сакратар, пакуль застаецца адно: рабіць, як склалася!

Мы пілі разам з ім добры духмяны чай. Кароткая гутарка, аднак, пакінула след у маёй душы. Мне і дагэтуль робіцца сумна і трывожна пры думцы, што вось у такога здольнага чалавека не адбылося ў раёне дэбюта, да якога ён быў «падрыхтаваны» ў Мінску. На сваёй пасадзе Ганчар быў спавіты пялёнкамі, якімі спавівалі, можа, яшчэ яго дзеда і бабку.

Але ж пра тое, што ён сапраўды здольны, гаворыць далейшае развіццё падзей у раёне. Прайшоў год, і Уладзіміра Канстанцінавіча Ганчара абралі старшынёй раённага Савета народных дэпутатаў.

## 38. Масты над Нёманам. Ці ўсім свецяць зоркі!

Тут я быў чвэртку стагоддзя назад. Масты тады сустрэліся мне на нейкім геалагічным маршруце і запомніліся пяскамі ад самай ракі і да цэнтра пасёлка,— сыпкімі пяскамі, па якіх было цяжка праехаць. Цяпер — асфальт. Ця-

пер — горад, які пазнаць было немагчыма: прыгожы, утульны, зялёны, у кветках, з адметнымі будынкамі,— неяк жа здарылася, што тут не далі ўкараніцца стандарту, шэрасці. Чысціня на вуліцах і каля дамоў...

Мы спыніліся ў добрай, зацішнай гасцініцы, адпачылі крыху. Пасля гэтага знайшла нас ідэолаг Нэля Мікалаеўна Абрамовіч, жанчына сярэдняга росту, а ўзросту, пэўна, менш чым сярэдняга, рухавая, з гумарам, з прамым і гарэзлівым позіркам светлых вачэй. Штосьці ў яе было ад імпэту Іеўлевай са Светлагорска... Яна таксама з натхненнем магла гаварыць пра культурныя і культурна-спартыўныя комплексы, клубы па інтарэсах, музычна-мастацкую гасцінную, лазні, лодачную станцыю і г. д. Рэспубліканская газета «Звязда» ў артыкуле з Мастоўскага раёна неўзабаве раскажа пра вопыт мастаўчан у развіцці масавага фізкультурнага руху. У 70 працоўных калектывах створаны групы, каманды. Але яны не толькі створаны, а дзейнічаюць, бо ёсць дзе — 42 баскетбольныя і 64 валейбольных пляцоўкі, 20 залаў, 13 стралковыхціраў, 44 футбольныя і хакейныя палі, дзве лыжныя базы, плавальны басейн, лодачная станцыя. Пазней тая ж газета раскажа пра вопыт Мастоў у працоўным выхаванні школьнікаў. Сіламі «Сельгастэхнікі», прамысловага аб'яднання «Мастоўдрэў» і іншых прадпрыемстваў створаны вялікі і добра аснашчаны вучэбна-вытворчы камбінат. Толькі дзякуючы яму прадпрыемствы раёна не маюць клопатаў з кадрамі.

Аўтарам першай публікацыі выступіць сама Абрамовіч.

Пра спорт і яго развіццё тут думалася з пашанай. Наша грамадства мае невычарпальныя магчымасці ў развіцці аздараўленчага фізкультурнага руху. На жаль, гэтага не разумеюць або, лепей сказаць, можа, недаацэньваюць планавыя дый гаспадарчыя органы. Прынятая пастанова ЦК КПСС «Аб мерах па паляпшэнні выкарыстання культурных устаноў і спартыўных збудаванняў» у многім паспрыяе вырашэнню праблемы.

Але вернемся адсюль у горад. Пройдземся па вуліцах новых мікрараёнаў Брэста, Гомеля, Мінска. Ці ёсць там (на 50—70 тысяч жыхароў!) хоць адна агульнадаступная спартыўная зала, водны басейн або лазня? У мікрараёне Паўднёвы Захад, я ведаю, нічога такога ў двара́х няма, акрамя хіба валейбольнай пляцоўкі ці збуцвелага стала для тэніса. А праблема ж, як сказаў, чытаючы гэтую кнігу, яе рэдактар, надзвычай важная і востра сучасная.

Не меншы клопат і трывогу ў нас павінна б выклікаць і тое, што спартыўны занятак сярод моладзі часам набывае не гульнявыя аматарскія або аздараўленчыя сацыяльныя рысы, а робіцца як бы самамэтай — прафесіяй. Здзіўляемся, калі ў самы разгар навучальнага года гасцініцы абласных гарадоў па некалькі тыдняў забіты школьнікамі-«спартсменамі». І яшчэ большае здзіўленне выклікаюць учынкі дырэктараў буйных прадпрыемстваў, якія за дзяржаўны кошт трымаюць каманды спартсменаў. От, напрыклад, вучыўся сын аднаго майго знаёмага ў радыётэхнічным інстытуце. Кінуў... Пайшоў «працаваць» на камвольны камбінат... хакеістам.

Утрыманне спартсменаў-наёмнікаў у рабочых калектывах павінна б закранаць гонар рабочых людзей і асуджацца, як асуджаецца дармаедства. Гэта ж ганьба для сацыялістычнага прадпрыемства, спартыўны гонар якога павінны б адстойваць самі рабочыя разам з дырэктарам.

Каманды наёмнікаў — як тыя пробкі... Яны стрымліваюць развіццё фізкультуры і спорту на фабрыках і заводах, а не гладыятары.

Нэля Мікалаеўна запрасіла нас на Нёман, ёй карцела паказаць гасцям мастоўскі цуд — падвясны мост цераз раку. Аднак Іван Апанасавіч адмовіўся, яму нездаровілася, дый стаміўся за дзень, а я пайшоў. Мостам на тоўстых канатах сапраўды можна было ганарыцца, выглядаў ён як велічны твор мастацтва і звязваў адзін бераг горада ў купках сосен, з другім бе-

рагам, пакрытым лесам. Нёман тут, у сярэднім цячэнні, быў шырокі, паўнаводны, і, пасля знаёмства з Мастамі, было ўражанне паўнаты жыцця на адным і другім берагах.

Мы прайшлі, гойдаючыся, на той бераг і павярнулі на сцяжыну, што вілася ўздоўж ракі. Сутоньвалася, атухала чырвань на захадзе. У горадзе запальваліся агні, і над галавой у густой сінечы пачыналі высыпаць зоры.

Я спытаўся пра тое, што рупіла, пра здольнасці яе шматлікіх калег...

— Што вы?! — Абрамовіч была гэтак здзіўлена: — Мне здаецца, сярод нашага брата столькі здольных і энергічных людзей!

— Тады давайце з вамі паразважаем,— прапанаваў я.— Мы ведаем выдатныя прозвішчы: Ралько, Старавойтаў, Бядуля... Ёсць яны і ў вашым раёне, а тым больш — у вобласці. Мы ведаем выдатных арганізатараў вытворчасці, іх шмат, і менавіта ў сферы вытворчасці праяўляюцца найбольш здольнасці сакратароў сельскіх райкомаў. Назаву хоць бы жанчын — Белякова, Крышталевіч... Адкажыце цяпер, чаму мы не ведаем такіх яркіх прозвішчаў сярод сакратароў парткомаў, прапагандыстаў, ідэолагаў, словам, сярод тых, хто працуе на мараль, на ідэю?

І Нэля Мікалаеўна нечакана сумелася.

— Матэрыяльная сфера... Ведаеце... Там найбольш відаць вынікі, і яны цэняцца. А ў нас цяжэй сябе паказаць...

— Скажыце тады, чаму ў вашай рабоце, скіраванай на выхаванне чалавека, калектыву, мы не ведаем, каб быў розны вопыт — у вас і ў Раманюк або Іеўлевай, як ёсць ён у лепшых нашых гаспадарнікаў — Ралько, Старавойтава...

— Там — зямля...

— Сапраўды, там — зямля, у вас — чалавек, сваё поле дзейнасці, і кожны, хто працуе на ім, можа ўнесці ў практыку штосьці сваё, раскрыцца па-свойму ў рабоце, от як Сухамлінскі на педагагічнай ніве...

Нэля Мікалаеўна глянула на мяне з усмешкай здзіўлення:

— Сказаць праўду, розніца ў нас бывае часцей у колькасці мерапрыемстваў. Чаму? Нам, пэўна, штосьці замінае працаваць творча. Часам страх, што цябе не зразумеюць і абсмяюць, як было ў мяне з адной задумкай.

— А — якой? Цікава...

— Ой, няхай ужо гэта застанецца тайнай,— папрасіла яна, і яе лёгкі парывісты голас зрабіўся больш строгім.— Скажу вам адкрыта, мяне найчасцей хвалюе неразуменне, з якім сустракаюся ў розных установах. Я, напрыклад, дзесяць гадоў білася, каб выкраіць у раённым бюджэце стаўку кінааператара. Мы так многа страчваем ад таго, што не карыстаемся кінакамерай, не запісваем расказы, галасы людзей і — якіх людзей! Мне шкада ўсяго гэтага... Пачалі шукаць магчымасць для фінансавання яго раённым аграпрамысловым аб'яднаннем, а тут з Гродна якраз прыехаў наш прафсаюзны бос. І што вы думаеце, ён падтрымаў? Дзе там!.. РАПА, кажа, павінна займацца гаспадарчымі справамі... Я сказала яму: вы павінны ствараць для рабочага чалавека, механізатара, калгасніка пэўны культурны антураж, клапаціцца пра настрой, выхаванне людзей, але чамусьці не дбаеце пра гэта! Хто вы?!

— Ідэя такім чынам павісла?..

— Ды не! Вырашылі пытанне. Цяпер у нас пры аграпроме працуе кінааматар! — І ўрачыстасць у яе голасе тут жа змянілася новым клопатам: — На чарзе адкрыццё кафэ для моладзі, але тры гады ўжо не можам выбіць для яго памяшкання халадзільнікі і іншае абсталяванне...

— Дык няўжо праўда, што сярод ідэолагаў людзі меней здольныя?

— Ой не-е!

— А ў чым жа справа?

Яна зноў усміхнулася:

— Вось як выканаем пастанову чэрвеньскага Пленума, тады стануць вядомымі і героі.

## 39. Залатая спіраль ініцыятывы

Па плану, які мы склалі раней, у Мастоўскім раёне нам належала пазнаёміцца з сельскім музеем, што быў заснаваны і дзейнічаў у вёсцы Гудзевічы. Праўда, гэты музей неяк не трапляў у сферу захапленняў Нэлі Мікалаеўны, і яна нам пра яго нічога не расказвала, што мяне нават дзівіла. А можа, яна вытрымлівала момант, лічачы, што мы на месцы ўсё ўбачым сваімі вачыма?

У гутарках з людзьмі, якія стаялі на чале падобных ачагоў культуры, Іван Апанасавіч пастаянна выпытваў, як ствараліся яны, па чыёй ініцыятыве... Ён вельмі цаніў, калі ініцыятыва зыходзіла ад сельскіх інтэлігентаў, якіх цяпер у кожным раёне блізка тысячы душ. Праўда, не ўсіх спецыялістаў сельскай гаспадаркі можна лічыць інтэлігентамі з-за іх вузкай дзейнасці і абыякавых адносін да грамадскіх клопатаў. Важна, аднак, каб яны рабіліся інтэлігентамі і потым каб ад іх зыходзіла ініцыятыва ў сацыяльным і духоўным абсталяванні жыцця.

Ініцыятыва — залатая спіраль, яна разгортваецца ў такой паслядоўнасці: ад думкі — да пачуцця, ад пачуцця — праз уяўленне — да дзеяння... Вось стаіць кніжная шафа, прыводзіў Іван Апанасавіч найпрасцейшы прыклад. Прыглядзіцеся... Шафа трохі замінае, і, калі я перасуну яе, у кватэры прыгажэй стане. Пачуццё прыгажосці падштурхоўвае да дзеяння, і мы дзейнічаем. Перасунулі — і задавальненне ад зробленага заахвочвае новую думку: што яшчэ зрабіць?.. Па гэтай залатой спіралі чалавек узнімаецца, расце...

У калгасе імя Сільніцкага Полацкага раёна выкладчык Вароніцкай сярэдняй школы Віктар Зіноўевіч Родчанка стварыў музычна-мастацкі салон — установу, можна сказаць, па дамашняму тыпу, і сяляне там нярэдкія госці, ды не госці — гаспадары. Ніна Макут, неспакойная і пра-

цалюбівая жанчына, заснавала пры салоне клуб майстрых.

Пачынанне па форме і сутнасці адпавядала часу. Людзям цяпер больш падабаюцца не гулкія клубы, дзе можна сядзець слухачом, а невялікія ўтульныя залы для сустрэч, задушэўных бясед, часам за шклянкай чаю. Заняткі ў падобных «клубах» нагадваюць былыя вячоркі.

У вёсцы Азіна — цэнтры саўгаса «Белае» дзейнічае клуб «Гаспадыня». А ў саўгасе «Тураўлянскі» (пры Заазерскім сельскім Савеце) багата што робіцца ўжо не столькі клубам, колькі адной жанчынай — душой культурных дзей, задум, парыванняў — Клаўдзіяй Фёдараўнай Мядзюшка, заслужаным урачом БССР. Яна ўзначальвае камісію ўрачыстых абрадаў і ўмее пераўтварыць кожную цырымонію ўступлення ў шлюб або рэгістрацыі дзяцей у хвалюючае, узрушальнае, прыгожае, запамінальнае на ўсё жыццё свята.

З Клаўдзіяй Фёдараўнай мы сустрэліся ў аддзеле культуры райвыканкома. Жывая, адкрытая і прыязная, з пранікнёным позіркам вачэй. У народзе такімі бываюць шчырыя душы, здольныя ўзяць на сябе любы клопат і бескарысліва служыць чалавеку. От і яна: і доктар, і старшыня Савета сельскага клуба, і старшыня жансавета, і салістка, і лектар — адна за многіх раскручвае залатую спіраль ініцыятывы. Нам даводзілася толькі шкадаваць, што ў яе не багата памочнікаў, паслядоўнікаў і што, шануючы Клаўдзію Мядзюшка на сяле, не ашчаджаюць яе сіл тыя, што стаяць побач з ёй — заазерскія інтэлігенты, не бяруць на сябе хоць частку яе клопатаў.

Такіх людзей, як Мядзюшка, Імант Зіедоніс трапна параўноўвае з паравічкамі, якія цягнуць за сабой састаў...

Пад Віцебскам у саўгасе «Рудакова» расказвалі пра былога дырэктара, ветэрана гаспадаркі Васіля Іванавіча Жука. Запомнілася дэталь. Выпраўляючы камбайнёраў у поле, ён звычайна выстройваў іх, як салдатаў перад боем. Аднойчы ж на такую лінейку прывёз з сабой пакункі

кніг... Не буду прыдумваць прамову, якой сам не чуў з яго вуснаў. Але гаварыў ён там пра Давыдава і другіх шолахаўскіх герояў, пра зямлю, мір і хлеб. Гаварыў палымяна і палка, раскрываючы сэнс хлебаробчае працы, а потым уручыў кожнаму механізатару па кнізе «Паднятая цаліна».

Гэта быў момант выключна светлы і чысты, кранальны сваім далучэннем працоўнага чалавека да набыткаў чалавечага духу, да твораў мастацтва, і дырэктар разумеў, што робіць. Пісьменнікі, мастакі былі яго найпершымі саюзнікамі, дарадцамі, і ён, напэўна, не хаваўся б ад іх, каб яны раптам да яго ў гаспадарку прыехалі, бо сам быў не толькі выдатным аграрнікам, арганізатарам вытворчасці, але і інтэлігентам.

Жуковы традыцыі ў гэтай гаспадарцы жывуць і цяпер. Атрады механізатараў праводзяць у поле і сустракаюць па завяршэнні важных работ пад музыку духавога аркестра, з кветкамі, дзяўчаты, прыбраныя ў нацыянальныя касцюмы, акрапляюць жняцоў зернем, а тыя дораць ім каравай.

Мы з Васільевым чулі пра такі ж рытуал, поўны вялікага сэнсу і значэння, у саўгасе імя Углоўскага Віцебскага раёна. Гэта па сутнасці было прарастанне духоўнага пачатку і мастацтва ў жыццё. І, што характэрна, ні ў «Рудакова», ні ў саўгасе Углоўскага не скардзіліся на недахоп людзей, моладзі на фермах, у полі... Рудакоўская сярэдняя школа штогод брала пад апрацоўку пяць гектараў буракоў, з задачай спраўлялася, і тут жа, на мяжы пільных інтарэсаў школы і гаспадаркі, стваралі яшчэ адзін клуб — верхавой язды. Кіраўніцтва саўгаса рабіла захады, каб адкрыць у Рудакове конна-спартыўную школу.

Іван Апанасавіч быў знаёмы з асобнымі салонамі або клубамі па інтарэсах недзе ў Падмаскоўі. Але там іх былі адзінкі. У нас жа, асабліва калі мы падаліся на Гомельшчыну і Брэстчыну, гэтых самадзейных клубаў, ансамбляў, хораў, гурткоў, галерэй сыпанула, няўрокам кажучы, як бобу з развязанага мяха, і ён

сумеўся. Узнікала пытанне, адкуль яны ўзяліся і ці сведчаць яны аб развіцці творчага духу людзей? Глядзі што запланаваны, занараджаны, падказаны зверху... Тады гэта не ініцыятыва!

Ужо ў калгасе «Светлы шлях» Іванаўскага раёна Васільеву закарцела грунтоўна перагледзець і ўзважыць работу музычна-мастацкага салона. Салон займаў адну невялікую залу Рудскага сельскага Дома культуры. Дырэктар адсутнічаў, мастацкі кіраўнік — таксама, і тлумачэнні давалі сакратар парткома калгаса Уладзімір Ваўрынюк і бібліятэкар Людміла Засімовіч, найболей — яна, бо Ваўрынюк хоць і малады яшчэ быў, ды, мы бачылі, не цікавіўся падобнымі рэчамі, заарганізаваны быў, заняты вытворчасцю, у лепшым выпадку...

— У рабоце салона,— распавядала Засімовіч,— прымаюць удзел настаўнікі, некаторыя спецыялісты калгаса, вучні — нашы людзі наогул. Тут дзейнічаюць два клубы па інтарэсах: «Сучаснік» і «Калінка». Апошні — жаноцкі. У ім пераважаюць жанчыны камбіната бытавога абслугоўвання і сталовай. Амаль кожны месяц збіраюцца ў салоне. А нядаўна прыязджалі іванаўскія школьнікі, быў урок па вершах Ясеніна. Гучалі вершы і музыка... У нас праводзіць свае заняткі і літаратурнае аб'яднанне раённай газеты...

Салон жа быў не проста прыгожы, а быў ён прыгожы і багаты. Карціны прафесійных мастакоў, з абменнага фонду, які быў у Брэсце. Зрэшты, для карцін тут было мала месца і частка іх упрыгожвала сцены калідора і бібліятэкі. З іншых твораў мастацтва прыцягвалі ўвагу шматлікія ўзоры, эстампы, скульптурныя партрэты. Палавіна іх належала рукам Парфена Плешкі, народнага ўмельца з вёскі Кужэлічы. Майстэрствам разьбяра не менш уражваў і мастак Андрэй Вінярскі, які доўгі час жыў у гэтым раёне, а потым паехаў на сваю радзіму (з Украіны быў родам). Мяккі дасціпны гумар, палянуцкі каларыт так і сачыліся з яго кожнай карціны: «Лесавік», «Разлад», «Сустрэча з зубрам», «Купалінка», «Д'ябал спакусіў»... Творам Плеш-

кі, Вінярскага, як і Пушкара, з якім мы страчаліся ў Мазыры, было ўласціва адно — пранікненне ў народную душу; вабілі мясцовы каларыт і мелодыка краю.

У салоне экспанаваліся і такія творы прыкладнога народнага мастацтва, як скрынкі, ручнікі, абрусы... У гэтых сценах натуральна гучала і жывое, простае слова з народных крыніц. Сюды, на сустрэчу з моладдзю, часам запрашалі мясцовых казачніц і спявачак. Жаданай госцяй тут заўсёды была Еўдакія Кузьмянчук з вёскі Пяшкова, якая ведала багата вершаваных народных апавяданняў.

— Скажыце... Свядома або інтуітыўна вы сумясцілі прафесійнае мастацтва з прыкладным, народным? — пацікавіўся Васільеў.

— Як сказаць...

Мы сядзелі ў невысокіх, утульных крэслах за газетным столікам... Засімовіч гублялася, і адказ яе быў няпэўны.

— Сумясцілі, каб паказаць людзям і тое і другое...

— Таварышы, педагогі! — Васільеў ужыў чамусьці іменна гэтае слова: — Вы павінны бачыць больш глыбокі змест у тым, што робіце. Такія мастакі, як Савіцкі,— гэта вяршыні ў мастацтве. Але народ таксама тварыў прыгажосць, тварыў мастацтва. І — нямала! А ў цяперашняй моладзі заўважаецца грэбаванне і пагарда ў адносінах да вёскі, маўляў, нічога высокага, мастацкага, вартага там не было і няма. Моладзь адарвалася ад свайго, карэннага, што мела або магла б мець пры іншым стаўленні да спадчыны. Маладыя сталі вельмі падкія да розных мод і павеваў. Таму свядома трэба ўсё гэта сумяшчаць, паказваць, тлумачыць, калі хто не разумее. Няможна спасцігнуць прафесійнае мастацтва, не спасцігнуўшы таго, што стварыў народ! Глядзіце, вось дзяды нашы жылі, мо трохі бядней за нас, а як упрыгожвалі сваё жытло! Ці ж гэта не прыклад? А маладыя кінуліся ў горад, паставіўшы крыж на сяле. Яны свабодныя! Яны выпусташаныя! Яны гатовы, бачыце, убіраць у сябе ўсё г а р а д с к о е. Гэта іх пра-

ва. Але гарадское ўкладваецца ў душах гэтых людзей, як сукаватае галлё ў кузавок. Сустрэнеш такога — ні ў горадзе Багдан, ні на сяле Селіфан! Дзе гэта ў нас была пра гэта размова?..

— У Светлагорску,— нагадаў я і папытаўся ў Засімовіч, ці ёсць вучні ў старога разьбяра Плешкі.

— Няма,— адказала яна.

— Шкада...

Не было ўжо чаму і дзівіцца. У Саюзе мастакоў Беларусі ўсяго адзін ці два разьбяры па дрэве,— даводзіў у Мазыры Пушкар... Няйначай, гэтае старажытнае мастацтва ў нашым краі вымірае... Але чаму?.. Бабруйскае і іншыя мастацкія вучылішчы рыхтуюць кадры. Толькі ніхто, паўтару, ніхто іх, майстроў такой захапляючай справы, не шукае, нікому, акрамя дойлідаў у «Рассвеце» ды яшчэ ў калгасе-камбінаце «Памяць Ільіча», яны не патрэбны. Прынамсі, падобна на тое...

Раней у вучылішчы рыхтавалі таксама каменячосаў. Гэта ж слаўная прафесія! Толькі, калі ў Жыткавіцкім раёне пачаліся распрацоўкі граніту, патрэба ў каменячосах чамусьці раптам адпала, як адпала яна і ў кветкаводах... Чаму — у каго б спытаць? Чаму ўсё-ткі?

Мы заканчвалі гутарку ў Рудскім музычна-мастацкім салоне, які сваімі творамі хваляваў, узвышаў і трывожыў душу. Па ідэі, якая так ці інакш выяўлялася, усё ў гэтых сценах павінна было працаваць на ўсведамленне, што ты каліва, што ты звяно ў ланцугу жыцця — і толькі. Што сапраўдныя духоўныя каштоўнасці ствараюцца народам, і яны не паблякнуць ніколі.

Работа салона, як пішуць у дакладах, была значнай. Адчувалася, праўда, што Васільева яна не задаволіла. Чагосьці ўсё-такі не хапала ў кіраўніцтве салонам: або пары, або паравічка. Зрэшты, мы маглі і памыляцца.

## 40. Дарога ў Гудзевічы. Успамін пра Блоньскі гістарычны музей

У апошнюю ноч Васільеў цяжкавата дыхаў, але я ўсведамляў усё гэта неяк аддалена, краем, праз сон. Пасцелі ў нас былі — як нідзе дагэтуль, мяккія, і я спаў, бы на воблаку, над усім гэтым краем...

Толькі раніцай выявілася, што Іван Апанасавіч зусім занядужаў.

— Прастудзіўся ў Брэсце,— казаў ён, жалячыся,— сцінае ў грудзях.

Заварылі чай. Я збегаў у сталоўку, узяў сёетое сабе, яму, зазірнуў у аптэку.

— Давай, Васіль, паедзем ужо дадому...

— А як жа музей у Гудзевічах? Туды ўсяго трыццаць вёрст...

Я быў у роспачы ад хваробы Васільева — так хацелася паказаць яму тое, пра што з захапленнем расказвалі адзін аднаму пісьменнікі, якія ўжо пабывалі там.

— Можа, мы, Іван Апанасавіч, затрымаемся ў Мастах на некалькі дзён. Адляжыцеся, паправіцеся, і паедзем далей.

— Не!

— Шкада... Мы ж збіраліся наведаць яшчэ Арцыменю на Любаншчыне. Цікавая ў яго гаспадарка.

— Хатняя дума ў дарогу не гадзіцца. Трэба адмовіцца...

Мне рабілася сумна:

— Каб яе, гэту хваробу, ды на сухі лес! Такога музея, як у Гудзевічах, вы нідзе больш не ўбачыце.

Я гаварыў яму і шкадаваў, што і сам на тое дзіва не пагляджу.

— Дарэчы, калі ў вас недзе ўзніклі сумненні ў сапраўднасці пачыну мясцовага люду пры стварэнні клубаў, салонаў, то Гудзевіцкі музей — чыста мясцовая ініцыятыва. Гэта — дакладна.

Іван Апанасавіч уважліва паглядзеў на мя-

не. Калі размова заходзіла пра залатую спіраль ініцыятывы, ён пярэчыць не мог. Дарэчы, за гэтай залатой спіраллю ён гатоў быў паехаць або пайсці пехатой — хоць на Паўночны полюс!

Толькі я разумеў і непакой Васільева: не мог Іван Апанасавіч затрымлівацца ў дарозе. Па-першае, гэты тыдзень заканчваўся днём, які ў народзе адзначаўся як свята. А ў тым краі, адкуль ён прыехаў, на гэтае свята — сёмуху — рабілася якраз тое, што ў нас на радаўніцу,— хадзілі на могілкі адведваць нябожчыкаў. І ён не мог парушыць парадак, які для яго стаў святам ужо гадоў сем назад... Па-другое, творчыя справы хвалявалі Васільева: ці няма там якіх вестак з Масквы? Ідзе ж у друк яго аповесць «Землякі». Яна вельмі публіцыстычная, вострая, і ці мала якія могуць быць «пажаданні» аўтару... Слушна?

— Васіль, туды, у Гудзевічы, ты едзь адзін. Паглядзі... Мне раскажаш...

Я заляпіў спіну, плечы Івана Апанасавіча гарчычнікамі, прычым, як яму зажадалася, ляпіў іх навыварат, гарчыцай наверх, прыкрыў яго махровым ручніком, ухутаў коўдрай і пабег у райком. Нэля Мікалаеўна неўзабаве паслала ў гасцініцу доктара. Той дастаў стэтаскоп і выслухаў, але не знайшоў небяспечнай хваробы — пасля гарчычнікаў Васільеву стала лягчэй, хоць ціск быў падвышаны... Іван Апанасавіч яшчэ трохі павагаўся ў прыняцці рашэння і, калі Абрамовіч зноў прыйшла ў гасцініцу, сказаў, што едзе разам з намі ў Гудзевічы.

— Добра!..

І от новы кавалак дарогі.

Я перабіраў у памяці сельскія музеі, якія мы ўжо наведвалі з Іванам Апанасавічам. Бадай, найболей уражлівым з іх быў музей у вёсцы Блонь Пухавіцкага раёна, дзе адбываў ссылку ў маёнтку бацькоў выдатны рэвалюцыянер-народнік, дзеяч арганізацый «Зямля і воля» і «Чорны перадзел» Анатоль Восіпавіч Бонч-Асмалоўскі. У Блоні ён працягваў рэвалюцыйную дзейнасць і стварыў, разам з жонкай і сынамі, філію Усерасійскага сялянскага Саюза, а

таксама нявінны, здавалася б, гурток самаадукацыі сялян, чым наклікаў на сябе страшэнны гнеў царскіх улад— адбываў пакаранне ў Сібіры.

Стэнды і экспанаты розных залаў музея адлюстроўвалі багатую гісторыю гэтага кутка беларускай зямлі на розных этапах і ў розных сацыяльных зломах. Як сімвал сялянскага роду, кідалася ў вочы прозвішча былога дырэктара племсаўгаса «Індустрыя» — Сеялка!.. Дэманстраваўся яго, Фёдара Цімафеевіча Сеялкі, пасляваенны загад нумар адзін: «Пасля трохгадовага прабывання ў партызанах я, дырэктар саўгаса «Індустрыя», Сеялка Ф. Ц. прыступаю да выканання ранейшых сваіх абавязкаў».

Як проста, лагічна, будзённа, з выяўленнем сваёй сялянскай несакрушальнасці. Уяўляеце? Пасля трохгадовага п р а б ы в а н н я... Быццам ён у камандзіроўцы быў!

Саўгас «Індустрыя» — адна з найбольш трывалых гаспадарак на Міншчыне, і ў музеі добра былі паказаны яе гісторыя і навейшае жыццё, людзі... Загадвала музеем і, між іншым, вяла пры ім дзіцячую выяўленчую студыю мастачка Таццяна Міхайлаўна Аліпава, па ўсім адчувалася, энтузіястка, патрыётка Блоні.

— Не можа быць свядомым той, хто, як Іван Няпомнячы, ставіцца да гісторыі сваёй і жыцця грамадства,— сказала яна, спасылаючыся на выказванне Леніна, і гэтыя словы, падобна, былі дэвізам у яе захапленні — рабоце...

Нас суправаджаў па музеі Васіль Аляксеевіч Ніканчык, сярэдняга росту, мажны; ён цяпер кіраваў гаспадаркай. І, калі мы падышлі да сцяны з дзіцячымі малюнкамі, Іван Апанасавіч кіўнуў яму:

— Таццяна Міхайлаўна выхоўвае сваёй работай густ і нестандарт. Гэта важна. У выхаванні яна робіць тут, у сценах музея і выяўленчай студыі, больш, чым вы ўсе. Бачыце, у чалавека душа нестандартная, і кожнаму трэба штосьці сваё — творчая іскра, эстэтычная асалода. Чым вышэй адукацыя, тым чалавек патрабавальней, капрызней... Ва ўмовах стандар-

тызацыі людзі чарсцвеюць, і, выхоўваючы такім чынам нестандарт, мы як бы засцерагаем дзяцей ад чэрствасці. Яна, Таццяна, гэта разумее... Гэта ўсё больш пачынаюць разумець кіраўнікі гаспадарак. Калгас, саўгас трымае мастака. У кожнай буйной гаспадарцы патрэбен мастак.

— Я так уяўляю справу,— сказаў на гэта Ніканчык,— адняць ад нас мастака, пісьменніка — усё адно што адняць язык.

Не дзеля прыгожага слова тое было сказана. Дырэктар неаднаразова запрашаў у сваю гаспадарку літаратараў; у сваіх меркаваннях наконт ролі мастацтва ў жыцці працоўнага чалавека ён якраз сыходзіўся з Жуком, Бядулем, Якубоўскім... А час усё болей паказвае на вартасць іх культурнай работы ў вёсцы.

— Час такі: шпарка бяжыць... Трэба спыніцца, азірнуцца, і музей спрыяе гэтаму,— сказала Аліпава пры завяршэнні нашай экскурсіі.

Я пацікавіўся ў Таццяны Міхайлаўны, ці ёсць у яе жыцці-быцці якія праблемы.

— Ёсць! Не столькі ў рабоце, колькі ў званні,— адказала яна.— Чаму я, маючы дыплом мастака і працуючы мастаком, павінна мірыцца з тым, што ў працоўнай кніжцы будзе запісана: «маляр»?..

Яе пытанне прагучала для нас, як выстрал знянацку.

Дырэктар саўгаса Ніканчык развёў рукамі: не яго, маўляў, прыхамаць. І праўда. Саўгас — не калгас, і пытанне, каго прымаць у калектыў, вырашаецца не імі, на месцы, а там, недзе ў вярхах.

— М-да... Усё гэта залежыць ад узроўню мыслення распарадчых органаў. Чаму, скажам, фізрук упісваецца ў штаты, а выхавацель эстэтычных густаў адсякаецца?

«Музей сяла Блонь — вельмі патрэбная і архіважная справа. Музей — гэта памяць сяла, а без памяці не можа быць сапраўднага грамадзяніна і патрыёта».

Такі запіс пакінуў Іван Апанасавіч Васільеў у кнізе водгукаў у Блоньскім музеі.

...Вясеннія палі ад Мастоў да самых Гудзевіч глядзеліся хораша, нідзе не відаць было недагледжаных або закінутых палеткаў. Напоеная апошнімі цёплымі дажджамі ніва ставала на дыбкі, цягнулася да сонца, кідалася ў вочы скразным разлівам.

У гісторыю ўвайшло, як падчас Айчыннай вайны 1812 года непадалёку ад Гудзевіч адбыўся бой казакаў Платава з перадавымі атрадамі Жэрома Банапарта.

І якіх толькі Банапартаў за свой век не пабачыла гэта зямля! Толькі не скарыць, не перамагчы ім было селяніна Сеялку, які падчас грозных нашэсцяўператвараўся ў воіна, партызана, а потым зноў аддаваў сам сабе загад: прыступаю да ранейшых сялянскіх абавязкаў на роднай зямлі!

Старшыня калгаса імя Карбышава Міхаіл Сцяпанавіч Пронька сустрэў нас ля канторы. Гэта быў добра складзены і паглядны мужчына ў росквіце сіл, з круглявым тварам і характэрнай для беларуса паважнасцю ў рухах, у голасе. Ён гаварыў на чыстай беларускай мове і, праводзячы нас да купкі будынкаў, абсаджаных дрэвамі, тлумачыў:

— Музей вырас і нават нечакана для ўсіх нас стаў падзеяй, не толькі ў школьным — у калгасным жыцці. Да нас пачалі прыязджаць пісьменнікі, бываюць і мастакі. Мы праводзім у Доме культуры калгасныя літаратурныя святы, у якіх побач з вядомымі літаратарамі выступаюць нашы вучні. Літаратурная творчасць, літаратурныя росшукі, дэкламацыя— усё гэта стала агульным захапленнем.

Мы спыніліся ля сялянскай хаты з бярвення пад саламянай страхой. Старшыня пазнаёміў нас з прыстарэлым, але жвавым і кемным селянінам — Іванам Ігнатавічам Клімуцем; як высветлілася, да пенсіі ён працаваў калгасным бухгалтарам, а цяпер загадваў этнаграфічнай часткай музея.

Уся хатка, з сенцаў і святліцы з печчу, бы-

ла напоўнена скарбам, якім карысталіся тутэйшыя сяляне адвеку: лавы, ложкі з адпаведнай пасцеллю, куфэрак, жорны, прылады надворнай працы, сярпы, мянташка з моранага дубу... А яшчэ і цымбалы, і Гудзевіцкі герб 1539 года, і партрэт Скарыны, абкладзены саматканым ручніком, што вісеў на покуце.

Мы толькі ўвайшлі ў гэтую хатку — калыску сялянскай даўніны, як падаспелі школьнікі, здаецца, з суседняга Ваўкавыскага раёна, і Клімуць заадно і нам, і ім расказваў пра былы сялянскі побыт. Вядома, для школьнікаў тут было багата нябачнага, дзіўнага: от як жылі, от чым карысталіся... Калі мы выйшлі адтуль, Іван Васільеў палічыў патрэбным зрабіць заўвагу па «ўроку» Клімуця:

— Трэба выразна праводзіць і ўсяляк падкрэсліваць думку: жылі цёмна, але колькі святла і радасці знаходзілі яны ў працы! Паглядзіце вось на гэтыя і на тыя прылады. Усё-ўсё, ад прасніцы да гаршка, зроблена любасна, з густам, прыгожа і зграбна. Мастацтва жыло ў народзе, і яго трэба бачыць не толькі ў цымбалах.

Загадчык літаратурнай часткі музея Алесь Мікалаевіч Белакоз выйшаў з белага муравanага будынка на ганак у адных шкарпэтках, пэўна, не заўважыўшы гэтага. Мы павіталіся. І ўжо ў неадпаведнасці яго формы моманту ўгадвалася многае: там, адкуль ён выйшаў, быў іншы свет, якому ён служыў аддана, аберагаючы яго ад пылу і бруду.

Мы ўвайшлі ў камяніцу, абсталяваную як сапраўдны музей, ярка і хораша. Тут раней была школа, больш дакладна, частка яе, і адзін клас цяпер займалі экспанаты гістарычна-літаратурнай тэматыкі. Мы з Іванам Апанасавічам не запісвалі амаль анічога, бо гэта замінала слухаць багаты на звесткі расказа Белакоза і пра Кастуся Каліноўскага, які нарадзіўся на гэтай зямлі, у маёнтку Мастаўляны, і вырас у выдатнага беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, мысліцеля, кіраўніка паўстання 1863—1864 гадоў на Беларусі, і пра жыццё вядомай польскай

пісьменніцы Элаізы Ажэшкі. Яе біяграфія раскрывалася праз цікавыя мясцовыя дакументы і факты. Экспанаваліся творы Скарыны на беларускай мове... Белакозу і ягоным юным памагатым удалося адкрыць забытага паэта з Беласточчыны Сцяпана Мяцельскага, які выступаў у друку пад псеўданімам М. Арол ды малады загінуў у час грамадзянскай вайны. Мяцельскі настаўнічаў непадалёку ад Гудзевіч у вёсцы Струга... Яго вобраз цяпер быў увасоблены ў камені гродзенскім скульптарам Алесем Ліпенем і таксама ўпрыгожваў гэты музей. У Мінску рыхтавалася да выдання кніга вершаў М. Арла.

Суседняя вялікая зала музея прысвячалася сучаснай беларускай літаратуры, галоўным чынам таму, што створана літаратарамі Гродзеншчыны. Розныя кнігі, лісты, дакументы, фатаграфіі, аўтографы — усё гэта падсвечвалася мяккім матавым святлом, і тут у якасці экскурсаводаў выступалі гудзевіцкія школьнікі. Іх настаўнік Алесь Мікалаевіч Белакоз вымушаны быў часова нас пакінуць — аднекуль прыехалі яшчэ дзеці, і ім нецярпелася паглядзець музей.

Была і яшчэ адна зала, дзе размяшчаўся мастацкі салон. Вельмі хораша чуліся ў ім урачыстасць, глыбіня фарбаў, музыка цішыні. Палотнам мастакоў адпавядалі само ўбранне пакоя, аздоба, дываны, камін. У гэтым салоне хацелася пастаяць або пасядзець, скінуўшы са сваіх плячэй цяжар будзённасці, і думаць або нават забыцца на думкі — далучэнне да сапраўдных твораў мастацтва нярэдка адбываецца самым кароткім шляхам — праз сэрца. Я глядзеў на карціны таго ж Ліпеня «Ноч над Нёманам», «Беларуская хата XIX стагоддзя»... Побач размяшчаліся «Камяні» Лілі Трахалёвай і грымеў у цішы «Бой казакоў Платава з французамі пад Гудзевічамі». Карціна належала Уладзіміру Кісламу... Каб у мяне спыталі, што з гэтых твораў больш, што менш спадабалася, я не мог бы нешта вылучыць. Карціны «чыталіся», кожная па-свойму закранаючы

нешта ў душы. Ліля Трахалёва, дарэчы, не была прафесійнай мастачкай і, як паведаміў нам старшыня калгаса, працавала рахункаводам у гарадскім пасёлку Смаргонь.

Гудзевіцкі сельскі музей, не прэтэндуючы ні па якія асаблівыя ўмовы, спакваля абрастаў сябрамі, прыхільнікамі, актывістамі; яны і здабывалі матэрыялы, якія экспанаваліся тут. На сённяшні дзень, што ўжо не выклікае сумненняў, сваёй шырокай выхаваўча-асветніцкай і культурнай работай у акрузе Гудзевіцкая сярэдняя школа рабіла якраз тое, чаго не хапала навучанню па школьнай праграме, што было занядбана многія гады. Дарэчы, мне пра гэта ў Брэсце ўзрушана гаварыў Міхаіл Паўлавіч Клімец, вопытны педагог, выкладчык тэхнічнага вучылішча электратэхнікаў. У тым жа вучылішчы ён узначальвае маладзёжны універсітэт «Помнікі гісторыі бацькаўшчыны расказваюць».

Міхаіл Паўлавіч даводзіў мне наступнае:

— У чым я перакананы: гісторыя Радзімы лепей засвойваецца, калі вучань ведае гісторыю кутка, які яму бліжэй, калі ведае пра жыццё сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў. У нас усё вывучаюць і ўсё забываюць. Не забываецца толькі тое, што датыкаецца, а тым болей — кранае. Гісторыю можна спасцігнуць, спасцігаючы сваю радаслоўную, у ёй, як у кроплі вады, усё адлюстроўваецца. І калі не палюбіш свой родны куток — наўрад ці здолееш палюбіць усю Бацькаўшчыну, стаць патрыётам.

Гудзевічы падавалі выдатны прыклад у гісторыка-патрыятычным і культурным выхаванні моладзі.

Адзін чалавек — Белакоз, гэты чарнявы, смуглы, знешне сухаваты выкладчык беларускай мовы і літаратуры, надумаўшыся, даў штуршок архіважнай, як пісаў Васільеў, справе — аб'яднаў вучняў, і яны пачалі рупіцца, актыўна, усёй грамадой.

А ўжо на наступным вітку ініцыятывы разам з Белакозам дзейнічала праўленне калгаса, у выніку, сюды, у Гудзевічы, і пераехала аднекуль з іншай вёскі тая хатка пад саламянай

страхой. Начынілі яе розным скарбам і першадрукару Скарыне, як наймудраму з мудрых, адвялі чырвоны куток. Выдатна!

І цяпер сталі заходзіць сюды не адны вучні. Пажылому калгасніку захацелася пераступіць парог з сённяшняга дня ў мінулы, зняць шапку перад знаёмымі рэчамі, якія пачалі ўжо звацца неяк дзіўна і нечувана раней — экспанатамі,— развітацца з імі...

А то яшчэ дзяды ўнукаў прыводзяць і паказваюць ім, з чаго свет вырас.

Музей працуе, а кантора тым часам думае... І пра што яна думае? Пра музейны комплекс! Ад старое школы асталіся яшчэ два будынкі, у іх варта размясціць матэрыялы па гісторыі зямлі і краязнаўству.

А далей ужо, на новым вітку, легла на думку: знайсці вятрак і паставіць яго ў Гудзевічах як экспанат матэрыяльнай культуры. Без ветрака нельга па той адмысловай прычыне, што ён упісаны ў герб 1539 года. Але ж дзе знойдзеш гэтага велікана? Ветракі махалі крыламі па землях Белай Русі, пакуль сяляне атрымлівалі ў гаспадарках натурплату. Урбанізацыя не пакінула каменя на камені ад былой мукамольнай вытворчасці ў вёсцы і, акрамя гудзевічцаў, ёсць на Міншчыне яшчэ закаранелы дзівак — старшыня калгаса «Рассвет» Арцыменя, ён таксама марыць пра вятрак, праўда, не дзеля музея. Ён бачыць у ветры жыццяздольную рухаючую сілу, і ў тым своеасаблівым сацыяльна-бытавым комплексе, які ствараецца ў яго гаспадарцы, хоча мець ад ветру карысць. Бачыць Фёдар Уладзіміравіч у ветраку і важны эстэтычны «кампанент» сельскай забудовы. Адным словам, гэта — патрэбная рэч. Зусім нядаўна вятрак з'явіўся ў Моталі...

А тут пачынае ўжо працаваць фантазія — як заўсёды ў кемных, руплівых людзей. З фантазіі нараджаюцца новыя планы... Будзе яшчэ і музей ільну, адзіны пакуль што ў рэспубліцы; на Гродзеншчыне гэтая культура досыць распаўсюджаная... У цэлым музейны комплекс у

Гудзевічах ператворыцца як бы ў заказнік беларускай матэрыяльнай і духоўнай культуры. База ёсць. Душа ёсць. Песні ёсць... Тут, як і пад Туравам, нямала спевакоў, ёсць свой хор, вакальная і танцавальная групы. Самадзейнасцю кіруе Ала Бабіла, якую адшукаў у горадзе і прывёз, на радасць сабе і людзям, мясцовы хлопец.

І ўсё ж цяжка пераацаніць ролю самога настаўніка Алеся Мікалаевіча Белакоза ў культурным жыцці Гудзевічаў (і ці толькі іх?!).

Неверагодна, а тым не менш факт, што Гудзевіцкі музей літаратурнага краязнаўства і этнаграфіі — цяпер яго гэтак завуць — некаторыя дзеячы раённага звяна прынялі спачатку ў штыкі; да іх, на вялікі жаль, адносілася і Нэля Мікалаеўна Абрамовіч. Сама даволі актыўная ў тым, што трэба рабіць згодна даведзеных планаў, заданняў, яна не зразумела Белакоза і, відаць, пабойвалася яго самадзейнай, ні з кім не ўзгодненай творчасці. Толькі дзякуючы гэтай супярэчлівасці і палярнасці падыходу да справы, для энтузіяста-настаўніка, які развіваў нацыянальныя культурныя і патрыятычныя традыцыі ў выхаванні дзяцей, утварылася проста-такі драматычная сітуацыя. Яго абвінавачвалі ў адсутнасці інтэрнацыянальных пачуццяў, хоць у душах абвінаваўцаў тыя інтэрнацыянальныя пачуцці, мусіць, былі не чым іншым, як безаблічнасцю... Хіба не так? І таму менавіта дзейнасць Белакоза неаднойчы разглядалі на Савеце Мастоўскага раённага аддзела народнай асветы, дзе прыкладваліся ўсе намаганні, каб заглушыць ініцыятыву настаўніка. І адзін за другім ляцелі ў Гудзевічы загады з патрабаваннем закрыць музей.

Што за няўцешная доля наватараў! І што за падманлівае зялёнае святло на шляху, па якім ім рупіць ісці?! Я ўчытваюся ў пісьмо Белакоза, якое нядаўна ён прыслаў мне. Дзівосныя факты з яго адкрываліся.

«На адным з пасяджэнняў савета раймана былы загадчык, а цяперашні кіраўнік таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры нашага

раёна Макавецкі сказаў: «Таких, как Белокоз, мы в войну...»

Але ж таварыш Макавецкі штосьці страшэнна блытаў...

Настаўнік Белакоз піша далей:

«На пачатку сямідзесятых гадоў, у час наведання новым загадчыкам Мастоўскага раёна Мікалаем Іванавічам Рындам нашага музея, я папрасіў у яго: «Запішыце свае ўражанні ад экспазіцый, створаных вучнямі». Ён звузіў вочы: «Я вам так запишу, я вам так запишу, что вы всю жизнь будете помнить меня!» І пісаў, так пісаў, што жыцця не было.

Недзе, пачынаючы з 1966 года, я друкаваў рабочыя планы ўрокаў беларускай мовы і літаратуры на стандартных машынапісных лістах, пакідаючы месца для заўваг па ўроку, дадаваў сюды падменныя чыстыя лісты, на якіх пасля запісваў навінкі па адпаведных тэмах, знойдзеныя ў перыёдыцы або пачутыя па радыё, тэлебачанні. А ў спецыяльных, падклееных да плана канвертах памеру машынапіснага ліста ўкладвалася нагляднасць. Такія планы даюць мне вялікае маральнае задавальненне: гэта настаўніцкі твор, які робіцца на гады і дапаўняецца дзесяцігоддзямі. Весці ўрокі па такіх планах — свята! Калісьці былы міністр народнай асветы Беларусі Рыгор Якаўлевіч Кісялёў казаў: «Настаўнік Гудзевіцкай сярэдняй школы Белакоз піша такія планы, якія можна выкарыстоўваць многія гады. Трэба вывучаць гэты вопыт і прапагандаваць яго».

Але ж аднойчы ў Гудзевічы прыехалі Рында і Абрамовіч. Прыехалі яны па той прычыне, што я напісаў ліст у кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне, дзе паведамляў аб злоўжываннях дырэктара школы, які на працягу многіх гадоў абкрадваў школьную касу, і мы ніякай патрэбнай мастацкай літаратуры не куплялі, беларускіх часопісаў не выпісвалі, не было на якія сродкі праводзіць экскурсіі з вучнямі. Праверка выявіла, што дырэктар школы падрабляў у ведамасцях вучнёўскія подпісы і грошы за прарабленне буракоў, выбіранне бульбы забіраў сабе.

Яны мне сказалі: «Факты, изложенные вами в письме, имели место, а теперь пойдем к вам на уроки, посмотрим ваши планы...»

Абрамовіч і Рында заявілі, што мае планы не стандартныя і што я абавязаны пісаць планы ў сшытку. Мне давялося да кожнага ўрока перапісваць планы з лістоў у асобны сшытак на працягу дзесяці гадоў. Правяралі мяне амаль кожны месяц, а злодзей і алкаголік і сёння працуе ў нас дырэктарам, і людзі толькі дзівяцца з гэтага...

Калі вы прыехалі тады ў Гудзевічы, я баяўся,— пісаў чалавек,— што вас падаслала Нэля Мікалаеўна з дрэннай задумай, бо ў адносінах да мяне было ўсялякага,— да апошняга часу яна выступала ворагам Гудзевіцкага музея.

Пра наш гудзевіцкі культурна-асветніцкі вопыт і патрыятычнае выхаванне дзяцей у розных газетах, часопісах, кнігах надрукавана некалькі соцен заметак, артыкулаў, але гэта не мяняе адносін да музея на месцы. Праўда, нас падтрымлівае старшыня Мастоўскага райвыканкома Уладзімір Іванавіч Вашка. Каб не ён ды не Пронька, наш музей і сёння размяшчаўся б у адным класным пакойчыку».

Адкладваю пісьмо ўбок і думаю: якая немузейная драма, якая сумная гісторыя дратавання высокага чалавечага духу і бескарыслівых, чыстых грамадзянскіх парыванняў! Тут хоць гвалт крычы, але-але... Таварышы, сумна!!!

Настрой паляпшаецца, калі ў думках зноў вяртаюся да таго, што зроблена ў Гудзевічах. А гэта ж не толькі музейны комплекс, але і сама гаспадарка — калгас, добры лад у ім.

— У нас няма разрыву паміж старэйшым і малодшым пакаленнямі хлебаробаў,— даводзіў нам старшыня.— Толькі гэтай вясной калгас прыняў шэсць маладых сямей — усе мясцовыя. Напрыклад, Валовіч Наташа прыехала з Міхаілам Крупіцам, механізатарам. Шафёр Антон Бабіла прывёз жонку ўжо з адукацыяй мастака-афарміцеля.. Гаспадарка робіцца ўсё больш стабільнай, рэнтабельнасць 38 працэнтаў. Свой

свінакомплекс... Малочнатаварныя фермы... Коней таксама трымаем.

Я ўжо заўважыў тэндэнцыю: дзе мацнейшая гаспадарка, там не толькі машына, але і конь у пашане.

Міхаіл Сцяпанавіч Пронька належаў да кіраўнікоў новага складу, як Скакун, Ніканчык, Балюк, не называючы ўжо Старавойтава. Ён блізкі да інтэлігента. Але толькі старшыньскія якасці Пронькі ідуць хутчэй за ўсё не ад нейкай асаблівай адукаванасці, хоць і гэта нельга не ўлічваць, а ад чулай і чуйнай душы, якая аднолькава добра ўлоўлівае чалавечыя інтарэсы, памкненні і павевы часу. На мой погляд, іменна гэта збліжала яго і з Якубоўскім з-пад Турава, старшынёй, які ўмеў радавацца спрэчкам жанчын, апантаных мастацкай самадзейнасцю. Бачыце, на рэпетыцыі ў Дом культуры яны ходзяць ажно за сем кіламетраў! Спяваюць, ідучы з дому на ферму!.. Старшыня ведае, што гэта значыць.

Не буду хаваць, у Пронькі мне спадабалася і тое, што ён шануе сам і спрыяе таму, каб у вёсцы шанавалі родную мову. Тут асяроддзе такое, сваё, беларускае, хоць у нечым і дэфармаванае. Па асацыяцыі мне прыгадваўся выпадак з жыцця Ралько.

Уладзімір Антонавіч Ралько родам са Старадарожскага раёна, дзе мова блізкая да літаратурнай мовы. А працаваць яму давялося на Піншчыне; пайшоў у калгас, дзе гаварылі на мясцовым беларускім дыялекце. І Ралько не стаў сваім прыкладам падцягваць сялян да нормы або стандарту ў мове, а перайшоў на іх дыялект, на якім свабодна і цяпер гаворыць.

У гэтым была адна з адзнак такту і мудрасці Уладзіміра Антонавіча Ралько, з чым, пэўна, пагодзіцца не кожны.

На памяці яшчэ выпадак...

У Валожынскім раёне мова надзвычай каларытная, чыстая, надзеленая нейкімі асаблівымі мяккімі тонамі. Я пераканаўся ў гэтым на нарадзе ў канторы калгаса «Рассвет», дзе ўсе, уключаючы галоўнага агранома, размаўля-

лі па-беларуску, натуральна, хораша, і толькі адзін старшыня боўтаўся паміж дзвюма плынямі, бо штосьці яму замінала гаварыць, як усе гаварылі, а інакш — не мог у тым асяроддзі. Па-чалавечы можна было паспачуваць яму.

Мы цяпер нямала дбаем пра развіццё нацыянальнай культуры, адносячы да культуры песні і танцы, і архітэктурную аздобу жылля, і аздобу адзення. Толькі забываем часам, што ўсялякая культура развівалася і развіваецца ў пэўным асяроддзі, якое жывіць яе. І такім жыццядайным асяроддзем для глыбока нацыянальнай культуры з'яўляецца народная мова.

Няма ніякай альтэрнатывы катэгарычнаму выказванню Зіедоніса: хто адмаўляецца ад мовы свайго народа, той адмаўляецца ад яго культуры. Вядома, так, і дзіўна бывае слухаць анкіраўнікоў некаторых фальклорных хораў, ансамбляў, якія са сцэны або па радыё трох слоў звязаць не могуць на мове, на якой выступаюць іх падапечныя — артысты з народа. Гэта ўжо сведчыць пра адсутнасць у такіх «работнікаў культуры» элементарнай прафесійнай і чалавечай культуры.

Няможна не пагадзіцца з Уладзімірам Міхайлавічам Конанам, які ў газеце «Чырвоная змена» пісаў, што «чалавецтва, як бы шырока ні развіваліся яго кантакты ўнутры, заўсёды будзе сям'ёй непаўторных і непадобных народаў. Інакш шматвяковым багаццем культуры карыстацца будзе проста немагчыма — яна ў кожнага народа свая, наскрозь нацыянальная. Гэты скарб можна рабіць культурным набыткам, але ключ ад яго заўсёды знаходзіцца ў адных руках. У агульным падмурку агульначалавечай культуры кожны народ нясе адказнасць за непарушнасць сваёй цагліны».

Мова — ключ да культуры. І гэта ўсведамлялі ў Гудзевічах як Пронька, так і Белакоз, так і іншыя настаўнікі і вучні з іх выдатным вопытам і задумамі.

Я перачытваю Конанаў артыкул:

«Мы — багатыя людзі. Усё, што засталося нам у спадчыну, выклікае словы захаплення ў

нашых суседзяў. Самі беларусы не хваліліся і не хваляцца гэтым — не ў нашым характары. Але нельга ні на хвіліну забывацца на каштоўнасць таго, што ёсць у нашых руках».

І ён цытуе словы вялікага польскага пісьменніка, нашага земляка Адама Міцкевіча пра беларускую мову:

«...Самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана».

«...Самая гарманічная і з усіх славянскіх моў найменш зменения...»

Конан піша далей:

«Ці ведае кожны з нас, што ў беларускім фальклоры, як ні ў адным з усходнеславянскіх, захаваўся самы каштоўны — старажытны — пласт? Ці памятаем, што на беларускай мове былі створаны самыя дасканалыя для Заходняй Еўропы таго часу законы — Статут Вялікага княства Літоўскага? Ці ўсведамляем значэнне подзвігу Францыска Скарыны — першага ўсходнеславянскага кнігадрукара?

Мы — багатыя. І гэта складае не толькі наш гонар. У найпершай і найбольшай ступені — наш абавязак. Абавязак — памятаць, шанаваць, берагчы».

## 41. Слонім, дзе думалася пра Верхнядзвінск. Бітва на сельскай ніве

Па дарозе дахаты спыніліся ў Слоніме. Пазнаёміліся з сакратарамі гаркома партыі Лушнеўскім і Мукасей. У гаворцы перабралі нямала пытанняў. Пабывалі ў саўгасе «Маладая гвардыя», з цэнтрам у вёсцы Вялікія Шыловічы, і там жа, проста на ферме, сустрэліся са спецыялістамі гаспадаркі. Пры гэтым Іван Апанасавіч сыпануў спецыялістам столькі пытанняў і распытваў пра такія тонкасці ў вырошчванні сельскагаспадарчых культур, у прыватнасці — лёну, што ўсе дзіву даліся: прафесар перад імі, дый толькі! Дырэктар саўгаса Аркадзь Аляксеевіч Калянкевіч, сам спрактыкаваны і дбайны ча-

лавек, падышоў да мяне і спытаўся, з кім мае справу, і, калі я сказаў, што пісьменнік Васільеў не прафесар і нават не аграном, ён не хацеў у гэта паверыць.

Гаспадарка ў Слонімскім раёне была трывалая, хоць і ёй пагражалі дзе міграцыя і спустошанасць вёсак, а дзе абыякавасць работніка, селяніна...

— У гэтых умовах,— казаў Казімір Іванавіч Лушнеўскі,— ад нас патрабуецца выключная пільнасць у рабоце з людзьмі; стараемся абудзіць у чалавеку творчы пачатак і паўней выкарыстоўваем забытыя раней формы гаспадарчага разліку і калектыўнага падраду, на які была пастаўлена і шыловіцкая ферма.

Елізавета Іванаўна Мукасей называла нямала грамадскіх устаноў культуры, у тым ліку народны драматычны тэатр і народны аркестр народных інструментаў, багата сельскіх і школьных музеяў... Пра культуру тут клопат быў сталы.

Але найбольш адметным у гэтых двух — Мастоўскім і Слонімскім — раёнах мне здавалася іменна спроба абудзіць селяніна ў чалавеку, вярнуць земляробу сялянскую душу, тым больш калі той — спецыяліст, гэта значыць прайшоў навуку па земляробстве. Факты, якія мне ўдалося сабраць пакрысе на Гродзеншчыне, паказвалі, што гэта ўжо нават не спроба, што гэта імкненне, якое ператварылася ў практыку і дае свае вынікі. Адчувалася, што ў гэтых раёнах творчая атмасфера больш мяккая, тут менш наракалі на адміністраванне. Дырэктар саўгаса Калянкевіч, напрыклад, сказаў, што яго спецыялісты ў асноўным робяць тое, што лічаць патрэбным і праяўляюць ініцыятыву.

— Нядаўна прыкінулі, што на нашых землях лепей больш сеяць ільну, чым бульбы, і нам пайшлі насустрач, памянялі структуру пасеваў.

Прыкладна тое ж гаварыў нам і Пронька: «Калі сеяць або колькі разоў баранаваць, як і чым убіраць, ніхто нам не ўказвае...» Напэўна, так было ў многіх раёнах вобласці, і гэта ўтва-

рала кантраст з іншымі абласцямі, дзе — як у мазырскай дыскусіі зазначыў Кульчыцкі — нарастаў пратэст найбольш здольных кіраўнікоў гаспадарак супраць адміністравання.

Мае меркаванні пацвердзіліся, калі прыкладна праз месяц пасля нашай паездкі (ужо адпачываючы на беразе Чорнага мора) я разгарнуў газету «Неделя» і на другой старонцы ўбачыў партрэт першага сакратара Гродзенскага абкома партыі Героя Сацыялістычнай Працы Леаніда Герасімавіча Кляцкова. Яго актуальнае інтэрв'ю «Неделе» называлася «Выхоўваць даверам». Я чытаў:

«У нас даўно прайшлі тыя часы, калі калгасам і саўгасам з цэнтра проста загадвалі, колькі і чаго сеяць. На самай справе, навошта гэтая апека ва ўсім, кантроль за кожным рашэннем, кожным крокам старшыні калгаса? Што ён — горш за нас разбіраецца ў сітуацыі? Або мы, работнікі апарата абкома, лепей за яго ведаем землі ў тым жа калгасе, што там можа ўрадзіць, што не? Гаспадаркі, як правіла, самі вызначаюць, што выгадна вырошчваць у тых або іншых умовах, і заўсёды прадаюць дзяржаве планавую колькасць прадукцыі».

І вось я намацваў тэндэнцыю, якая толькі-толькі набіралася сілы. Перакананы: у такім падыходзе да земляробства — прычына поспеху вобласці, якая атрымлівае добрыя ўраджаі збожжа і іншых культур штогод, незалежна ад паўночных халодных або цёплых паўднёвых вятроў, незалежна ад перападаў надвор'я.

«Што ён — горш за нас разбіраецца ў сітуацыі? Або мы...»

Тэндэнцыя вызначылася. На жаль, гэта яшчэ не азначае, што там усё перайначана, усё вырашана і няма ніякіх праблем з развіццём, з укараненнем даверу да земляроба. У канцы года мне надарыцца пабываць пад Гроднам, сустрэцца з кіраўнікамі некаторых гаспадарак, і яны раскажуць, што мяняць што-небудзь у структуры пасеваў усё яшчэ цяжка, часам гадамі трэба ўгаворваць упраўленчыя органы, і не заўсёды яны ідуць насустрач праўленню кал-

гаса... Значыць, пытанне пакуль не знята і там, у Гродзенскай вобласці.

«Што ён — горш за нас разбіраецца ў сітуацыі? Або мы...»

Калі гэта пісалася, старшыню адной перадавой гаспадаркі на Віцебшчыне Вацлава Якаўлевіча Сяргушку трымалі, як кажуць, у чорным целе. Расказам пра яго мы акурат і завершым скразную тэму вясковых дыспутаў.

У канцы 1983 года ўпраўленне сельскай гаспадаркі Верхнядзвінскага раёна «спусціла» калгасу імя Леніна, якім кіруе Сяргушка, дадатковую плошчу для пасеву збажыны. Вядома, землі ў гаспадарцы аставаліся тымі ж — павялічваўся план на збожжавыя, у выніку ламалася б гадамі выпрацаваная структура пасеваў, лепшая ў вобласці. А на базе гэтай гаспадаркі Віцебская абласная доследная станцыя збіралася нават семінар правесці з паказам севазвароту. Ломка структуры пасеваў і скарачэнне сенажацяў пагражала вялікімі стратамі калгасу і біла па кішэні калгаснікаў, паколькі аплата іх працы залежала ад прыбытку — на ўчастку, на ферме. І таму праўленне калгаса вынесла пытанне на агульны сход. Той сход, на якім прысутнічала 438 чалавек з 660 членаў усяго калектыву, не прыняў дырэктыву ўпраўлення сельскай гаспадаркі і зацвердзіў ранейшую структуру пасяўных плошчаў.

Рашэнне земляробаў у вёсцы Антонава паказалася нечуваным начальніку ўпраўлення Ліліі Антонаўне Несцяк. Гэта — выклік ёй, няйначай. І для правядзення сваёй дырэктывы яна заручылася падтрымкай старшыні райвыканкома. Але калгаснікі стаялі на сваім. Райком быў нейтральным, потым і ён падключыўся... І тады Сяргушка звярнуўся з пісьмом у РК КПБ.

У маіх руках копія, пазначаная 7 студзенем 1984 года.

«Мы просім бюро РК КПБ уважліва разгледзець наша пытанне.

У калгасе асвоены адзін дзесяціпольны севазварот на плошчы 2479 га, у якім сярэдняя

велічыня поля 247 га. Па структуры, якая склалася, на 1984 год плануем заняць чатыры палі збожжавымі культурамі, чатыры — кармавымі (з якіх тры палеткі пад шматгадовымі травамі, адзін — пад травой на зялёны канвеер), яшчэ адно поле будзе засеяна лёнам і адно — прапашнымі (бульбай, кукурузай).

Мы дзейнічаем у адпаведнасці з Пастановай ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб паляпшэнні планавання і эканамічнага стымулявання вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў» (ад 14 лістапада 1980 года), у якой гаворыцца, што аб'ём вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў, памеры і структура пасяўных плошчаў, колькасць пагалоўя жывёлы і ўраджайнасць плануюцца самімі гаспадаркамі з улікам мясцовых умоў. Нягледзячы на гэта, планавы аддзел упраўлення сельскай гаспадаркі настойліва навязвае нам павелічэнне пасеваў збожжа на 140 га.

Прыняць такую лічбу для планавання ў гаспадарцы мы не можам...»

І далей ідуць чатыры пункты з абгрунтаваннем прычын, і ўсе яны слушныя. Праўленне калгаса просіць бюро РК КПБ пагадзіцца з пастановай агульнага сходу калгаснікаў.

Пісьмо заканчвалася словамі:

«Структура пасеваў, якую мы маем, адпавядае інтарэсам гаспадаркі і дазваляе выконваць дзяржаўныя планы продажу прадукцыі раслінаводства, больш поўна збалансаваць кармавы рацыён жывёлы і ў дастатку забяспечыць яе кармамі як на летні, так і на стойлавы перыяды».

Ніжэй — подпіс: «Старшыня калгаса імя Леніна В. Я. Сяргушка».

Праўленне калгаса, сяляне, якія пакуль яшчэ не страцілі інтарэсу да земляробчае працы і пачуцця сваёй адказнасці за зямлю-матухну, за яе працвітанне, ставілі раённае начальства перад непрыемным фактам байкоту ягоных дырэктыў.

І ў складаным становішчы аказаўся першы сакратар райкома партыі Каваленка. Яго ўга-

ворвалі прыняць меры ўздзеяння да ўпарціста-га старшыні Сяргушкі. Нечувана: кіраўнікам раёна не падпарадкоўваецца!

Канфлікт усё больш зацягваўся ў тугі вузел. На пасяджэнне бюро Вацлаў Якаўлевіч Сяргушка не паехаў. І бюро не паслала нікога на справаздачна-выбарны сход у калгас імя Леніна. Сход прайшоў тым не менш, і за Сяргушку аднагалосна прагаласавалі: калгаснікі жадалі, каб ён і далей працаваў старшынёй, ды інакш пытанне і не стаяла.

Тады ў райкоме вырашылі зайсці да камуніста Сяргушкі з флангу, і выклікалі на бюро сакратара парткома калгаса Вольгу Кабанаву. Але і Кабанава туды не паехала — калгас распачынаў сяўбу.

Чэпэ яшчэ раз.

Вользе Цітаўне Кабанавай таксама не трэба было пазычаць характару. Яна ў свой час працавала старшынёй калгаса «Росквіт», які аб'ядналі з калгасам імя Леніна. Энергічная і ўдумлівая, яна разам з Сяргушкам цяпер вяла да росквіту ўзбуйненую гаспадарку і карысталася вялікай павагай у людзей. Пазваніла ў райком і сказала, што цалкам падтрымлівае пазіцыю, занятую праўленнем калгаса, калгаснікамі і не збіраецца ні ў чым абвінавачваць Сяргушку.

Аляксандр Піліпавіч Каваленка адчуў, што ён бездапаможны вырашыць канфлікт у бліжэйшы тэрмін, бо рабіць арганізацыйныя вывады тут было небяспечна: гаспадарка ж не абы-якая, дый Сяргушка неаднойчы атрымліваў узнагароды... Найшла каса на камень!

Невядома, па чыім указанні, але ў раёне перайшлі да іншых мер уздзеяння на неслухаў. Цэлы год Дзяржаўны банк тармазіў правядзенне розных фінансавых аперацый, у якіх быў зацікаўлены калгас імя Леніна. І толькі, калі сабралі новы ўраджай і ленінцы атрымалі па 30,5 цэнтнера збожжа і па 227 цэнтнераў бульбы з гектара — лепшае, што мела вобласць,— на іх працу звярнуў увагу сакратар абкома, і з калгаса была знята блакада.

Аднак — ці надоўга?

Я сустрэўся з Вацлавам Сяргушкам у гэтую ж восень у вёсцы Антонава, якая тулілася да самага лесу, а месцамі нават і хавалася ў ім.

Сярэдніх гадоў, чарнявы, жвавы ён меў той настрой, які звычайна ўласцівы камандзірам пасля нялёгкага бою. І хоць бой выйграны, але ён не расслабляўся, трымаў порах сухім. А раптам яшчэ ўступіць давядзецца?!

Мы ішлі па вуліцы, на якой месцамі стаялі лужыны і якая ўжо патанала ў вячэрнім змроку. Памутнелае неба пачало праясняцца, і ў прагалах хмар высыпалі зоркі.

— Пакуль што заціша... Працуем...

— Яно так і павінна быць.

— Вы так думаеце?..

— Кансерватызм не вечны, хоць ён і імкнецца нічога не мяняць і ўсё звесці да асабістага спакою і задавальнення. Людзі мяшчанскай псіхалогіі і кансерватыўнага складу, глухія да чалавека «папяровыя душы», узяўшы ўладу ў многіх канторах, пачалі дэфармаваць жыццё, мараль, эканоміку.

Я выказваў тое, над чым разважаў у апошнія гады. Вацлаў Якаўлевіч быў уважлівым слухачом. А ў сувязі з уплывам кансерватараў мне ўяўлялася такая карціна. Адчуўшы сваю сілу і моц у грамадстве, яны сваёй дзейнасцю сплялі сеці і накінулі іх на Раку Жыцця. Рака запаволіла рух, і пайшло, і пайшло жыццё рабіць петлі, кружыць... Адсюль у многіх раўнадушша і холад... Сёння кругі тыя мы можам фіксаваць і вывучаць пры жаданні праз моладзь (скажам, пэўную частку яе), якая найбольш падатлівая жыццёвай стыхіі.

У жыцці павінна нешта змяніцца, бо так ужо нельга, немагчыма ніяк... Я заўважыў:

— І ўмовы для таго наспяваюць!

— Такім людзям, як я, патрэбна падтрымка, бо ўсе бюракраты паўстануць супраць нас.

Добра, што за спінай у Сяргушкі стаяў калектыў, здаровы і дружны... Аднак жа і пры гэтым сілы былі няроўныя. Сёння кіраўніку нават нязвыкла абапірацца на калектыў, бо хто

там ва ўпраўленчай пірамідзе, усур'ёз успрымае нізавы калектыў?! І мала што ў Верхнядзвінску прыціхлі — гэта, можа, таму, што Сяргушка таксама пайшоў на кампраміс: уступіўшы націску Няспляк, ён на паперы паказвае, што тыя дадатковыя плошчы збожжам засеяў, хоць усе ведаюць, што на іх па-ранейшаму расце трава...

Я разумеў трывогу Сяргушкі наконт бюракратычнага засілля і не ведаў, што яму на гэта сказаць.

А неба пярэсцілася хмарамі, і з-за шатаў разгалістых сосен, што навісалі над дахамі хат, выплыў рог месяца.

— Вунь... глядзіце...

— Ветах,— сказаў старшыня.

— Можа, на пагоду стане,— мне прыгадаўся клопат Сяргушкі: яшчэ трохі лёну ляжала на полі...

— Не, пэўна... Надвор'е часцей мяняецца з маладзіком.

Спыніўшыся каля машыны, на якой ён збіраўся падкінуць мяне да гасцініцы, Вацлаў Якаўлевіч памаўчаў-памаўчаў і пахітаў галавой:

— Але ж і няўдач было — колькі год запар! Проста насланнё нейкае... Перасявалі, дзе трэба і не трэба... Не па сваёй прыхамаці... І зноў жа аўралы пры ўборцы, бясконцыя пасяджэнні... А колькі папер! А потым вось гэтаяператасоўка пасяўных плошчаў... Няйначай, там, у аграпроме, барабан латарэйны паставілі і давай круціць, перакручваць адвольна ды выдаваць: на табе, Пятрушка, на табе, Сяргушка!

Ён сплюнуў і зноў паглядзеў на неба:

— От калі пасля гэтай квадры ў жыцці нешта і пераменіцца, то багата чаго адчышчаць, папраўляць давядзецца ды ставіць на свае месцы.

Атухалі агні ў вокнах. Спакоем ахутвала вёску. Яна засынала, аслабаняючыся ад стомы.

Сяргушка думаў пра заўтрашні дзень...

Разважаючы над адміністраваннем, яго формамі і метадамі, я спрабаваў знайсці яму аналогію з нейкай іншай сферы ўпраўлення.

Вось каб уздумала мая галава кіраваць арганізмам не праз нервовую сістэму, а неяк інакш, вольна... адвольна... Налажылася б на тым дый задавала б штодня праграму руху, дзейнасці печані, ныркам, селязёнцы, страўніку, усялякім мускулам і залозам, нават клеткам, даводзіла б ім вытворчы план, і прамфінплан, і план па мерапрыемствах — от столькі і так: аднаму па ачыстцы, другому па перапрацоўцы, трэцяму па абнаўленні, рэгенерацыі і гэтак далей. Патрабавала б разам з тым датэрміновага выканання і перавыканання планаў — усіх разам і кожнага паасобку, адной групай клетак незалежна ад другой, адным органам незалежна ад іншых... Што было б? Паспрабуем сабе ўявіць, наколькі гэта магчыма.

Па-першае, у арганізме ўтварылася б страшная неразбярыха і давялося б расшырыць да пэўных гіганцкіх памераў паток дырэктыў. Усе каналы былі б запруджаны імі, асабліва калі б галаве спадобілася аддаваць распараджэнні, загады ніжэйшым звёнам на паперы і прымаць ад іх папяровыя справаздачы. Бацюхны!..

Па-другое, маёй галаве тэрмінова спатрэбілася б адкрываць пад чарапною каробкай дадатковыя цэнтры і інстытуты па ўпраўленні, каардынацыі і стыкоўцы, па кантролі за гэтай вялізнай гаспадаркай, па перапрацоўцы інфармацыі і разгляду розных няўвязак, па разбору скарг і канфліктаў паміж органамі... Матухны!

Ад усяго гэтага мая вольная ўпраўленчая галава павялічылася б у дзесяткі, а мо і сотні разоў. Дзіва што!.. Ужо і ногі яе не насілі б!

Не ўжо, хай мае органы і падраздзяленні клетак працуюць, як ведаюць, як адвеку ім наканавана — у аўтаномным рэжыме, па аб'ектыўных біялагічных законах. Так лепей будзе і для галавы.

Груваскі ўпраўленчы апарат стварае перадумовы для ўзмоцненага адміністравання і га-

шэння ініцыятывы на месцы. Гэта — труба, у якую вылятае багата грошай і творчых магчымасцей.

Ва ўпраўленні павінна астацца штосьці тонкае, гнуткае — нерв, так, нерв адзінага гаспадарчага механізма. А гэта стане магчымым толькі тады, калі мы адмовімся ад «адміністрацыйных рычагоў» і станем паважаць аб'ектыўныя эканамічныя законы сацыялізма.

## 42. Свядомы чалавек. Быццё і побыт. Спрэчкі з Селавіком

Вечарэла. Дажджыла, і дарога ў прастору была трохі імглістая.

Нагаварыўшыся за доўгі дзень, мы з Іванам Апанасавічам сядзелі на мяккіх, зручных крэслах мікрааўтобуса — супакоеныя, сцішаныя. Думалі думы свае.

Душа... Душа чалавечая перш наперш цікавіла нас у гэтым вялікім Сялянскім Акіяне, і мы мелі ўжо сякое-такое ўяўленне пра стан і ўласцівасці гэтай душы. Многія, з кім мы сустракаліся, у тым ліку эканаміст Валянцін Кузьміч Каляга, мудрэйшы з докшыцкіх мудрацоў, гаварылі, дарэчы, што ўзровень свядомасці ў селяніна цяпер іншы, не той, што быў. І Васільеў у нарысе «Нематэрыяльныя патрэбнасці» пытаўся:

«Іншы... А які іменна — вышэйшы, ніжэйшы? Па многіх адзнаках, якія яны называлі: клапатлівасць, стараннасць, адказнасць,— вышэйшы. Па асобных жа: абыякавасць, лянота, нядбайнасць, безгаспадарчасць — атрымліваецца ніжэйшы. Верагодна, гаворка будзе пра розных людзей? Ды не, пра адных і тых жа. Нядбайны, абыякавы раптам робіцца старанным і клапатлівым. Бывае і наадварот...»

Як нам гэта знаёма! Мы часам здзіўляемся: той самы свет, ды людзі не тыя! Чаму?

А ўся справа ў тым, тлумачыць Васільеў, што гаспадарчыя планы і распараджэнні нярэд-

ка такія, што якраз і спрыяюць праяўленню то адных, то другіх, супрацьлеглых «пачаткаў» чалавека на вытворчасці: «То актыўнасць, клапатлівасць абудзяць, то ў выпадку пралікаў і недапрацовак абыякавасць, нядбайства пасеюць».

Пра свядомасць намі было нямала сказана і ў тых жа «Нематэрыяльных патрэбнасцях». Іван Апанасавіч як бы спрабуе падвесці рысу: калі матэрыяльныя каштоўнасці даюцца чалавеку незаслужана, ён не цэніць іх, і сацыяльныя дасягненні самі па сабе яшчэ не ператвараюцца ў духоўнасць, не вызначаюць свядомасць. «Аб ступені свядомасці гавораць адносіны да матэрыяльных даброт».

Па некаторых пазіцыях нарыса, я ведаю, не пагодзіцца з аўтарам адзін наш паважаны пісьменнік, які піша пра сучасную вёску і ўмее цікава пра жыццё разважаць. Для зручнасці назавём яго Селавіком.

«Як гэта духоўнасць ідзе наперадзе матэрыяльных умоў, інтарэсаў?» — будзе пытацца Селавік у мяне і другіх літаратараў. Ён знойдзе ў гэтым яўны загіб.

А Васільеў пісаў:

«Гісторыя ведае перыяды, калі народы жывуць энтузіязмам. Але пасля, калі жыццё ўваходзіць у рэчышча і робіцца будзённым, ці абавязкова матэрыяльныя патрэбы павінны пераважаць над духоўнымі? Не, не павінны, бо духоўнасць ідзе ўсё-такі наперадзе, а не ззаду. Іншая рэч — масавасць. Ува ўсіх ці ў частцы? Калі ў частцы грамадства, дык у якой меnавіта? У тым сутнасць».

Заўвага пісьменніка Селавіка, што гэтакага не можа быць, каб духоўнае было наперадзе, спачатку мяне збянтэжыла, ён жа абапіраўся акурат на агульнапрызнанае, чаго ніхто не аспрэчваў: «Быццё вызначае свядомасць».

Філасофскае пытанне патрабавала паглыбленых разважанняў з апорай на факты, на рэчаіснасць.

У нас цяпер са скрухай гавораць і пішуць пра тое, што матэрыяльнае забеспячэнне аба-

гнала духоўнае, што мы адзеты, абуты, у кватэрах маем цяпло, добрую мэблю і смачна ядзім і што апетыты ў нас усё больш разгараюцца, а вось да абагачэння душы такой прагі няма, і духоўныя патрэбнасці адстаюць, робяцца кволымі і мізэрнымі, як у Ступы. Чаму так?.. Пра гэта я пытаўся ў Селавіка. Калі, казаў я, матэрыяльныя даброты павінны вызначаць (згодна з прыведзенай ім формулай) узровень свядомасці чалавека, то гэты ўзровень скрозь цяпер павінен быць самым высокім. Калі інтэр'ер кватэры павінен вызначаць інтэр'ер душы, то і душа сёння скрозь павінна быць самай прыгожай. Прамая ж залежнасць! А як жа!..

Селавік толькі рукамі разводзіў. Тады я раззлаваўся. Урэшце, сказаў я, калі матэрыяльнае забеспячэнне вызначае свядомасць, уплывае на душу чалавека, то паны да рэвалюцыі павінны былі б быць самымі свядомымі і ласкавымі. А дудкі!

Дык што, не пацвярджаецца вучэнне класікаў?..

Мы нешта блыталі, і я зразумеў — што. Мой калега-літаратар гаварыў пра «быццё», а разумеў за гэтым словам побыт і наогул рэчы утылітарныя, і яны, безумоўна, не маглі ўплываць і не ўплывалі на свядомасць, не рабілі пагоды ў духоўным жыцці. Свядомасць — прадукт не рэчаў зусім, калі браць іх саміх па сабе. Не! Рэчы нічога не плодзяць. Але свядомасць праяўляецца ў адносінах да рэчаў, і з гэтым ніхто спрачацца не стане.

Свядомасць як з'ява народжана не дачалавечай прыродай, а чалавецтвам, і народжана яна не матэрыяльнай культурай, а грамадскімі адносінамі пры стварэнні гэтай культуры, іншымі словамі — сукупнасцю матэрыяльных умоў жыцця грамадства, і от гэта — быццё! Таму, гаворачы пра ўплыў быцця на свядомасць, душу чалавека, нам трэба браць да разгляду не толькі і не столькі абсталяванне побыту, інтэр'еры, люстры, кніжныя паліцы, гарнітуры, швейныя машыны, аўтамабілі, дачы пуцёўкі на курорт, высокай катэгорыі прадукты харчаван-

ня, але і як, у якіх умовах усё гэта набыта, якою працаю, якою цаною, за якія грошы? А калі не набыта — таксама ж — быццё. Карацей кажучы, да быцця адносіцца ўся сістэма грамадскага размеркавання, аплаты працы, і адхіленні ад гэтай сістэмы, самачыннасць, прысваенне, урвіцельства з боку асобных, часам далёка не радавых членаў грамадства. Быццём з'яўляецца і праца, і яе заахвочванне, і эканамічна абумоўлены, творчы, як у лепшых гаспадарках, дух, клімат, і спажывецкі клімат, як у ардынарным інстытуце па прадуктах харчавання і бульбы. І не толькі тое, і не толькі гэта. Шырокі спектр, уся рэчаіснасць, звязаная з матэрыяльнай вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў, даброт, ласкі дзяржаўнай.

Вядома, Селавіку я ўсяго не сказаў у той спрэчцы і не ведаю, што цяпер на гэты конт ён думае. А мая думка такая: духоўнасць разам са свядомасцю вызначаюцца быццём чалавека, і, калі духоўнасць у яго ёсць, яна ідзе паперадзе матэрыяльнага дастатку, а калі няма — ззаду.

Зрэшты, у маіх разважаннях складваўся і запасны варыянт.

Возьмем збан, які, паводле прыказкі, да пары ваду носіць. Дзеля таго ён і зроблены, каб насіць ваду — скарб, патрэбны чалавеку. У збана дзве паверхні сценкі, звонку і ўнутры, і толькі калі будуць моцнымі, без пашкоджанняў абедзве, збан будзе звінець і насіць ваду спраўна. Гэты прыклад я сустракаў у літаратуры, і от прыгадвалася...

Чалавека ці то мы напаўняем, ці то сам ён сябе напаўняе — усё адно; але харч, матэрыяльны дастатак ідуць яму на ўмацаванне знешняй сценкі, якой чалавек павернуты да нас, а духоўны пажытак, мараль утвараюць сценку ўнутраную...

Калі ў калектыве пад Туравам або ў Моталі ўсё адрэгулявана найлепшым чынам і людзі добра, з ахвотай працуюць і радуюць поспехамі і песнямі блізкіх і ўсю грамаду, там абгону матэрыяльным духоўнага, пэўна, не будзе. Абгон

там найперш надараецца, дзе добра «зарабляюць», а грамадству сваёй працай нічога не даюць. (Хіба мала ў нашым краі такіх асоб і нават асобных калектываў?) Не хочацца паўтарацца, але нагадаю тут палкі кпін Бядулі: «Мы ж на справе кансерватары чорт ведае якія! Ад гэтай хваробы нас засцерагаў яшчэ Ленін. Мы завялі ўраўнілаўку і ўкараняем яе. Мы можам па праву ганарыцца тым, што занядбалі лозунг «Кожнаму па працы!».

Гэта сапраўды так. Ігнараванне асноўнага прынцыпу сацыялізма «Ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы» на працягу многіх гадоў вяло да падрыву маралі, зніжэння дысцыпліны на вытворчасці, з'яўлення той самай «балотнай хваробы», пры якой пачалі працвітаць асобы тыпу Ступы і яе начальніка.

Але ж такі вытворчы побыт і такое быццё не прадугледжваліся ніякімі законамі сацыялізма, і сацыялізм у іх ні сном, ні духам не вінаваты.

## 43. Духоўнасць, якую згубілі энцыклапедысты. А зямля верціцца!

Шыпелі аўтамабільныя шыны аб мокры асфальт. І гэтак жа імкліва, хоць і без шуму ў вушах, без шыпення бег час.

Васільеў маўчаў, але я ведаў, што ў думках ён даўно абагнаў і гэтую дарогу, і наступную ўжо — ад Мінска да Баркоў-на-Ловаці, што ён ужо дома — найвышэйшая мара!

Іван Апанасавіч пісаў дадому Фаіне Міхайлаўне, жонцы, з кожнага новага пункта, вёскі або горада, дзе мы спыняліся на начлег,— казаў, што піша гэтак, каб праверыць, як пошта працуе...

Ён перасеў бліжэй да мяне, і мы перакінуліся нейкімі нязначнымі словамі, потым памаўчалі; шыпенне колаў трохі замінала гаворцы. Я заўважаў, яму было цяжка сядзець, пэўна, адчуваў ён у сваім целе млявасць. Гады бралі сваё, і ў галаву лезлі розныя думкі.

Ён дастаў з кішэні пінжака медальён і падаў мне:

— Вось я н а...

З партрэта глядзеў просты, адкрыты і прыгожы твар рускай жанчыны.

— Скора ўжо мы з ёй сустрэнемся...

Яна даводзілася першай жонкай яму, аднак яе ўжо не было ў жыцці... Толькі ж ён шкадаваў абедзвюх і думаў пра першую як пра жывую, Івану Апанасавічу мроілася сустрэча з ёй... На сёмуху ён пойдзе на могілкі, дзе яна пахавана...

Мне, шчыра скажу, гэты ўхіл у ягонай гаворцы не спадабаўся, і я прапанаваў пераключыцца на што-небудзь іншае. Іван Апанасавіч пакаянна ўсміхнуўся і сказаў, што такі настрой на яго находзіць часова, а наогул ён не адчувае незваротнасці: як толькі немач, недамаганне пройдзе — зноў вернецца да ранейшага свайго стану. Відавочна, працягваў ён, недзе ў чалавечым арганізме закладзены такі арганчык, такі малюсенькі сігнальчык бадзёрасці, які не дае чалавеку думаць аб асуджанасці.

У Мінску тым не менш Івана Апанасавіча яшчэ чакалі сустрэчы з пісьменнікамі: Нілам Гілевічам, Васілём Быкавым... Чакалі яго яшчэ і гарчычнікі на спіну, а таксама пісьмо ад Фаіны Міхайлаўны. Дома ўсё было добра.

Для мяне было нечаканым, што «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» абмінуў слова «духоўнасць». Тады я звярнуўся да самага новага акадэмічнага «Словаря русского языка» і зноў здзівіўся, бо гэтае слова падавалася там як устарэлае, вось што яно азначала: «Духоўная, інтэлектуальная прырода, сутнасць чалавека, якая адрозніваецца ад яго фізічнай, цялеснай сутнасці».

Дык што ж тут устарэла? Або для абазначэння гэтай сутнасці ўжо знайшлося што-небудзь іншае? Я нічога іншага не ведаў. Па маіх назіраннях, наадварот, словам «духоўнасць» цяпер часцей пачалі карыстацца.

Але, вывучаючы з Васільевым вёску, мы, пэўна, сталі падобнымі трохі да містэра Сміта — пыталіся і абмацвалі, абмацвалі і пыталіся: а што тут... а што там?.. Нам хацелася мець не толькі сякое-такое паняцце пра духоўнасць, мы хацелі бачыць яе ў вёсцы на ўласныя вочы. І бачылі. Яна свяцілася ў людскіх вачах і праяўлялася ў адносінах да справы, да сям'і і грамадства, да зямлі...

Духоўнасць — гэта ўзвышанасць і прыгажосць чалавечых пачуццяў, асаблівы стан душы.

Мы шукалі і яшчэ адно дзіва — стрыжань духоўнасці. Што ён сабой уяўляе, адкуль бярэцца?..

Штосьці не помнілася, каб у той паездцы па Віцебшчыне, дыскутуючы з гэтай нагоды, мы дайшлі да яго вызначэння. Мусібыць, як цяпер гляджу, мы трохі збіліся ў бок ад шляху, на якім той «стрыжань» ляжаў, мы найбольш тапталіся па сцяжыне: душа — мастацтва — душа... І гэта нам здавалася апраўданым, зусім лагічным і натуральным, паколькі духоўнаму пачатку мастацтва вельмі блізкае — таксама ж узвышае, наталяе душу; вазьміце за прыклад народную мастацкую творчасць, што мела прыкладное значэнне, а цяпер галоўным чынам у музеях; вазьміце песні, казкі, гульні, абрады... Урэшце — сучасныя творы мастацтва, музыкі, літаратуры... І не выпадкова мы надаём вялікае значэнне ўсім тым Дамам культуры, карцінным галерэям, музеям, бібліятэкам, мастацкім салонам, дзіцячым музычным школам, клубам па інтарэсах, спартыўным базам — усё гэта служыць культурнаму адпачынку і духоўнаму ўзбагачэнню чалавека, ва ўсякім разе — павінна служыць. Сялянскі Акіян жыў і свяціўся агнямі культуры, нягледзячы на затуханне і бляклаcць іх на асобных участках, дзе па прычыне празмернай міграцыі і арыентацыі селяніна на Бераг, мізарнела жыццё.

Аднак нам, відавочна, рана пакуль радавацца, калі мы бачым здалёк агні ў вокнах сельскіх ачагоў культуры. З галавы не выходзіць

расказ Еўдакіі Емяльянаўны ў пісьменніцкай бібліятэцы пра трох вядомых ёй нявестак. На першы погляд, самай багатай духоўна павінна быць маладуха, якая ўвесь вольны час кнігі чытае, глядзіць тэлевізар і гадзінамі перад люстэркам не спускае вачэй са свайго твару, шукаючы ў ім адзнакі духоўнасці. А прэстыж прыгажосці і духоўнасці ў сям'і, аказваецца, усё-такі не за ёй, а за здатнымі да любой працы, умелымі, чулымі... Яны, іх жыццё бліжэй да ідэалу сям'і і грамадства.

І вось пытанне.

Дапусцім, прачытае першая нявестка яшчэ столькі кніг, колькі прачытала, прагледзіць яшчэ столькі кінафільмаў, колькі прагледзела — і нават больш, больш! — ці зменіцца, ці зварухнецца ў яе душы што-небудзь, калі ўсё набытае ёю не ляжа на адпаведны падмурак.

Я пераканаены: не варта ад яе чакаць дзіва!

Яна ўжо ніколі не стане больш духоўнай, чым ёсць,— будзе мець толькі інфармацыю аб прачытаным.

І бяда — няма ў яе таго грунту, асновы, дакранаючыся да якой плавіцца высокае мастацтва, пераліваючыся ў сутнасць, натуру. Няма стрыжня, і яна ў пачуццях менш гнуткая, у перажываннях менш тонкая, чым тыя дзве, што знаходзяць час і для працы дома, і для кніг. Яна менш устойлівая ў жыцці. Нехта можа паспрачацца са мною... Калі ласка. Я выказваю сваю думку. Стрыжань чалавеку абавязкова патрэбны.

Дарога скончана.

Паступова адыходзілі, адыходзілі і страчвалі свае абрысы ды ападалі дзесь у глыбіні душы ўражанні. Іх было багата. Пласты.

Душа адпачывала. Праўда, не доўга, бо далей-болей нарастаў неспакой, з'яўлялася трывога...

Трывога была прадчуваннем новай работы, усведамленнем адказнасці за гэтую работу, у якой, мне здавалася, былі зацікаўлены людзі,

з якімі страчаўся і не страчаўся,— чытачы...

Якраз у гэты момант і надарылася тая гутарка ў Доме літаратара пра адлюстраванне ў творах праблем сучаснае вёскі. Я выступіў і аказаўся ў ролі школьніка, які ў сачыненні на вясковую тэму нарабіў памылак. Таварышы кінуліся мяне папраўляць і, папраўляючы, пераварочвалі плюсы на мінусы; гэта ўскалыхнула ў маёй душы ўсё, што там ляжала, і ўжо нельга было не сесці за стол, каб пачаць не з першай вярсты, а з першага раздзела-прыступка...

Між іншым пра той дыспут літаратараў я коратка паведаміў Івану Апанасавічу, і ён прыслаў мне ліст у адказ:

«Наконт меркаванняў літаратараў пра вёску, пра што ты мне пісаў, зараз гаварыць багата не буду, скажу два словы: твая пазіцыя правільная і не давай збіваць сябе з тропу, селянін быў і будзе, яму патрэбна культура не менш, чым нам, а любоў да зямлі... як толькі яна знікне — знікне род людскі. А тое, што памыляюцца людзі з высокім становішчам і званнямі, гэта нам не ў навіну, чулі і не такіх. Так што будзь пэўны!»

Цяпер, бадай, скончана і гэтая кніга.

От толькі цяпер я скажу словамі філосафа Сімуша: «Памылкова абвяшчаць сельскі лад жыцця безнадзейна ўстарэлай з'явай, на змену якой прыходзіць гарадскі лад жыцця». Не спяшайцеся з гэтым, таварышы, зямля — грыбніца ўсяго, што расце, яна мітусні на сваіх гонях не любіць. Зразумейце яе, зразумейце, чаго яна хоча, і дайце ёй г а с п а д а р а. Тады яна будзе радзіць з падвоенай сілай.

Мне адзін чалавек нядаўна прызнаўся:

— Цярпець не магу сентэнцыі: «Усё кругом наша, і ўсё — нічыё!»

Ён — былы партыйны работнік Вячаслаў Іосіфавіч Алешка — працуе цяпер намеснікам старшыні Камітэта па ахове прыроды ў нашай рэспубліцы...

Больш за ўсё гэта яго і хвалявала:

— Што за практыка? Адзін арэ, другі сее, трэці ўносіць угнаенні, чацвёрты ядамі нівы па-

лівае, пяты арашае, шосты рамантуе, сёмы жне і, як правіла, адзін аднаго не ведаюць, зямлі — таксама. Што на тым полі вырасце?

Я нагадаў яму пра падрад у брыгадах, на што Алешка проста адрэзаў:

— Спецыялістаў у першую чаргу трэба паставіць на гаспадарчы падрад!

Так, толькі так, пры ахопе гаспадарчым разлікам усіх звенняў вытворчасці па вертыкалі, гэта значыць усёй галіны, можна чакаць ад яго належных вынікаў. І прыклад нам тут падала Балгарыя...

У нас, праўда, іншыя маштабы вытворчасці. Але — ці ж справа ў маштабах? Прынамсі, што датычыць гарантыі з боку дзяржавы — «цвёрдых акладаў», то яны і гаспадарчы разлік як спосаб спалучэння асабістых і калектыўных інтарэсаў — рэчы рознапланавыя і несумяшчальныя. Нідзе, ні пры якіх маштабах!

Зрэшты, хопіць пра гэта. Багата нагаворана, і ўсё патрабуе далейшага асэнсавання, творчай думкі і неспакою, за якім наступае той або іншы ўчынак і наогул — дзеянне.

## 44. Усё — у чалавеку. Рахубы

Пакуль я пісаў, падзеі мяняліся. І яшчэ пакуль кніжка ішла да чытача — мяняліся лёсы герояў. Старшыня Пухавіцкага райвыканкома Валерый Мікалаевіч Папоў, напрыклад, стаў першым сакратаром Крупскага райкома партыі. Пісьменнік Іван Васільеў атрымаў Ленінскую прэмію. Яна прысуджана яму за новыя публіцыстычныя творы: кнігу «Допуск на ініцыятыву», нарысы «Хвала дому твайму», «Вяртанне да зямлі». «Пісьмы з вёскі»... Бядуля, Уладзімір Лявонцьевіч, той стаў двойчы Героем Сацыялістычнай Працы.

А Валерый Мікалаевіч узначаліў кіраўніцтва ў раёне, дзе адміністраванне — зноў яно! — дзе сходы і пасяджэнні, з накачкай і дробязнай апекай, дзе камандны стыль і бязглуздзіца (як

вынік гэтага стылю) набылі проста фантастычны характар і не адпавядалі — пра што ўжо гаворка! — ні палітыцы партыі, ні думкам і спадзяванням жыхароў-крупчан.

Адна толькі лічба: 68! Столькі разоў — па шаблону — выклікалі старшыню перадавой гаспадаркі ў райцэнтр на розныя там пасяджэнні і нарады па малаку, і гэта толькі за дзевяць месяцаў і толькі па малаку... Між тым ніякіх падстаў для трывогі за справу ні калгасныя фермы, ні гаспадарка наогул, якой ён, заслужаны чалавек, кіраваў, не давалі!

Папоў пайшоў туды як носьбіт іншых кіруючых пачаткаў, іншага стылю ў рабоце.

Пакінуў родны Моталь і агранам Іван Данілевіч. Яго ўгаварылі ўзначаліць вядомую на Палессі апорна-паказальную гаспадарку па выкарыстанні асушаных тарфянікаў — саўгас «Малеч»...

Асабліва ж хутка падзеі пачалі мяняцца з зімы, пасля доўгіх і лютых маразоў, з віхурамі і мяцеліцамі. Зіма доўга ляжала і нарэшце пайшла на схон. І заварушылася вада, а на Дняпры, на Прыпяці і Сожы глуха бухала. У навіслым тумане і шэрані трашчалі і ламаліся льдзіны.

З тае ж вясны, акурат як наступіў маладзік, пачаўся крыгалом і на Рацэ Жыцця. А лёду ладнага такі было. Лёду накапілася — уга колькі! І то з аднаго краю, то з другога: то гупне, то бухне. Трэшчыны пайшлі ў розных напрамках, па ўсёй тоўшчы.

І радасць абнаўлення, яшчэ большага росквіту і ўзбагачэння жыцця агортвае душу. Мы ведаем, чаго нам трэба чакаць. І ведаем, чаго ад нас чакаюць. Таму не седзімо склаўшы рукі.

Цяпер многае, пра што разважалі героі гэтай падарожнай аповесці, становіцца прадметам разгляду ў высокіх інстанцыях людзьмі, якія ўвасабляюць сабой наша сумленне.

Аднак не будзем надта абганяць падзеі, бо справы вельмі марудна мяняюцца. Здаецца, усё ёсць для таго, каб браць быка за рогі і... Цьфу! Мы ўсе вакол яго круцімся!

Чаму? — спытаюся зноў.

Я не раз ламаў галаву над гэтай загадкай. І думалася: можа, прычына ў нашай псіхалогіі, якую трэба нейкім чынам варушыць, стымуляваць, каб думка канчалася справаю. Дык, ліха на яго, надараюцца ж выпадкі, калі і псіхалогія нібы адпавядае таму, што трэба, а чалавека зносіць нейкай плынню ўбок.

От за апошнія гады (калі не дзесяцігоддзі) некаторых камсамольскіх работнікаў усё сцягвала на казённа-бюракратычны стыль работы, і гэта нягледзячы на тое, што будаваўся БАМ — вяршыня творчай рупнасці, і гэта пры ўсім тым, што для маладых характэрна імкнуцца да самавыяўлення ў руху, у новых, небывалых і дзёрзкіх справах.

Што ж глушыць творчы пачатак людзей, асабліва калі ім трэба штосьці ў жыцці памяняць у адпаведнасці са сваім абавязкам?

Я перабіраў і адхіляў думкі адну за другой. Не тая, не тое... Нарэшце, здагадка выплыла да мяне ў цішы аднае ночы. Мне падалося нават, што яна мяне разбудзіла... Дырэктар Глытаў... Кандыдат навук Глытаў... Усё прайшоў. Усё ведае. Горача гаворыць пра неабходнасць ашчаджэння тарфянікаў. А практычных мер не прымае... Ды што Глытаў? Перад практычнымі, і разумнымі, і апраўданымі на месцы мерамі часам пасуе нават Папоў... І падобных фактаў можна прывесці багата.

А ці не аказваецца наш таварыш Глытаў у ролі механіка, якому ў вуснай або пісьмовай форме даводзяць нарад: памяняць ход у трактары — дзеля паскарэння замест гусеніц паставіць калёсы найноўшае маркі — шыны, і даюць яму іх. Механік прыкідвае: на новы ход трактар паставіць можна, але ж каб работа была не фармальнай і ход быў ходам — каб трактар рухаўся, да новых шын патрэбны яшчэ сякія-такія дэталі, новы прывад і новая каробка перадач... Дзе іх узяць?.. Механік звяртаецца да кіраўніцтва майстэрні, а яму адказваюць, што хай лішняга не бярэ сабе ў галаву і робіць тое,

што ад яго патрабуецца, гэта значыць, мяняе ход... Прывад астанецца старым.

Я ўяўляю сабе становішча гэтага механіка, які стаіць перад машынай, цямячы, чаго ад яго патрабуюць. Ад здзіўлення ажно рот разяўлены... І з усмешкай лупіць вочы-фары на яго расхейдус. Каб ён спрах! Такая «перамена ходу» дзеля справаздачы патрэбна.

Аднак неразумная работа псуе нутро чалавеку.

Неяк выпала мне сустрэцца з Антанінай Іванаўнай Беляковай. Гэта жанчына — Герой Сацыялістычнай Працы, і ўся гісторыя развіцця сельскай гаспадаркі, пачынаючы з пары, калі дзейнічалі МТС, прайшла праз яе душу і рукі. Шмат гадоў яна ўзначальвала Гродзенскую раённую партыйную арганізацыю.

Размова ў нас зайшла пра ўкараненне таго ж брыгаднага падраду на сяле, гэта значыць пра тое, да чаго мы, па дарозе з Васільевым, дакрануліся ў вёсках Сівіца і Пажыхар.

— Стараемся аднаўляць тое, што раней не прыжылося. Укараняем...

А на твары — клопат, і ў голасе — неспакойныя, трывожныя ноткі... Я слухаў, што яна казала далей.

— Але з гэтым падрадам праблем больш чым трэба. Больш чым трэба,— паўтарыла яна.— А вынік часам сумніцельны.

— Чаму ж так? — прызнацца, я не чакаў такога павароту ў размове.

— Ствараюць умовы для адной брыгады, забяспечваюць, песцяць, люляюць яе. А другія глядзяць... Туды далі, сюды — не... А там на ўсе брыгады або фермы не хапае тэхнікі, кармоў, угнаенняў і іншых сродкаў. Тлумачым людзям. Тым не менш у гаспадарцы парушаецца справядлівасць, ствараюцца маральна-псіхалагічныя перапады, якія вядуць да зніжэння творчага духу і, як правіла, прадукцыйнасці працы ў калектыве ў цэлым. Адно звяно рве, а другія — рвуцца... Шкада...

У заключэнне Антаніна Іванаўна сказала:

— Падобная практыка можа не прыжыцца,

як бы мы таго ні жадалі. Тут патрэбен не толькі эканамічны, але і сацыяльны і псіхалагічны падыход. Абавязкова... Сама ідэя брыгаднага падраду добрая, як і наогул ідэя дзелавое спайкі і калектывізму. Гэта ні ў якім разе не павінна быць скампраметавана... Мне здаецца, усё ж да справы мы падышлі аднабока. Сама логіка падказвае: трэба нешта мяняць у матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні і ўпраўленні гаспадаркай. У сістэме забеспячэння вытворчасці наогул. Інакш...

Яна ўздыхнула.

— ...могуць не апраўдацца нашы захапленні...

І нельга было не пагадзіцца з ёй.

Мы жывём у свеце сістэм. Усё, што не ўваходзіць у тую або іншую сістэму — не забяспечваецца рэсурсамі сістэмы і хутка ламаецца.

Светам правіць дыялектыка. Усё новае, добрае, што з'яўляецца ў жыцці, але не набывае характару сістэмы, дачасна зношваецца, сціраецца і знікае.

Аграпром павінен прывесці ў сістэму шырокую і клопатную гаспадарчую думку, гаспадарчы разлік.

Сістэма сацыяльных адносін вымагае строгай адпаведнасці аднаго звяна другому. Тады толькі яна робіцца моцнай. Бо дзейнічае ўжо па закону адладжанага механізма.

Тое ж можна сказаць пра гаспадарчыя адносіны і іх узаемаабумоўленасць. От колькі ні крытыкавалі ў друку і з высокіх трыбун раённыя ўпраўленчыя звенні за адміністраванне, фармалізм і казёншчыну ў рабоце, а заганы тыя ўсё яшчэ не зжыты. Напэўна, па той жа прычыне. Так, і аграпрамысловыя аб'яднанні значна пашырылі штаты, разбухлі, але (і ў значнай меры — таму) пакуль яшчэ не набылі ні новага зместу, ні новага стылю ў рабоце. Там шмат блытаніны. Там багата што не нітуецца... Недарэчна раздроблена «Сельгастэхніка», і яе ранейшыя, не самыя лепшыя функцыі цяпер перайшлі да канторы, якая надзяляе і, лічы, гандлюе запчасткамі. Па-ранейшаму дбае пра

план рассеву хімічных рэчываў, а не пра ўраджай, не пра хлеб на стале сельгасхімія... Дый ці толькі гэта?! Аграпромаўскія спецыялісты выкарыстоўваюцца часта ў якасці ўпаўнаважаных, пасыльных і розных іншых паслугачоў партыйных камітэтаў, якія па-ранейшаму ў гаспадарцы дыктуюць сваю волю. А бывае яшчэ і горш, калі той ці іншы раённы камітэт, як і РАПА, свайго голасу не мае і з'яўляецца толькі перадатачным звяном у той безлічы гаспадарчых распараджэнняў і пастаноў, якія сыплюцца зверху. Іменна такую карціну я назіраў нядаўна ў новай паездцы па некаторых раёнах Віцебшчыны. Там, як ніколі раней, набраў імпэту, набыў непадзельную ўладу і самаўпэўненасць нейкі дзядзька Селектар. І што дзякуюць людзі яму! Не абыходзіць нікога ўвагай і за ўсіх на сяле вырашае безліч надзённых пытанняў.

Пералічу некаторыя...

Гэта калі выганяць скаціну ў поле і калі яе ставіць у хлеў, якую прыбаўку ў вазе і прыбаўку ў надоях атрымліваць на кожную галаву ў дзень... Гэта і на колькі дзён або тыдняў раней звычайнага тэрміну пачынаць (канчаць) сяўбу лёну, ячменю, а таксама іх уборку... Я, каржа, не бачу тут розніцы паміж Брэсцкай і Віцебскай абласцямі... Для рапарту, сапраўды, кліматычныя ўмовы — нішто... Даводзіць, на які корм (сянаж або сілас) перапрацоўваць траву... І гэтак далей і да таго падобнае... Усё-ўсё дзядзька ведае, бо глядзіць недзе там не на грэшную зямлю — на паперу, паскаральніцу праграэсу, і шчодра раіць, не столькі раіць, колькі падказвае, не столькі падказвае, колькі патрабуе дакладнага і безагаворачнага, няўхільнага і эшаланіраванага, па ўсім фронце выканання каманд.

Шчыра прызнаюся, паслухаўшы, пра што і як гаворыць «на вобласць» Селектар, я спачатку адчуў сум: усё ж старое, ні пробліску навізны! Ніякага намёку на нейкі новы падыход у рабоце. Груздоўшчына! Прычым у найбольш канцэнтраваным выглядзе... Тут не было і цяню

развагі Леаніда Герасімавіча Кляцкова пра земляроба: «Што ён — горш за нас разбіраецца ў сітуацыі? Або мы...» Аскоміну Селектар выклікаў ужо з першага слова, абвінавачваючы ў нераспарадчасці кадры. Але ж у яго ўладарным энтээраўскім голасе былі і свае фарбы і інтанацыі, і яны заслугоўвалі ўвагі.

«Калі ў вас мазгі закручаны не туды, мы іх хутка павернем і скіруем у рэчышча перабудовы!»

«...Хто не пачне ўборку бульбы ў прызначаны ранні тэрмін — 20 жніўня, хай лічыць сябе па-за партыяй, нам не па дарозе з такімі!» (Зазначу наперад, бульба, выкапаная ў той ранні тэрмін, амаль уся згніе ў капцах яшчэ да першых маразоў).

«...У каго ў гаспадарцы кармоў будзе назапашана меней, чым даведзена заданнем, той можа не спадзявацца, што мы яго пакінем кіраваць гаспадаркай!»

Дзядзька Селектар, між іншым, час ад часу пераходзіў на асобы раёншчыкаў і кіраўнікоў гаспадарак, і тады яго голас рабіўся яшчэ больш дзёрзкім, і ён усё націскаў на партыйны білет, які ён уласнаручна гатовы быў дастаць з кішэні любога і па любой прычыне.

А толькі ж нягледзячы на новыя словы і энтээраўскую пераніцоўку голасу гэты тып успрымаўся мной рэтраспектыўна, з удзелам памяці, чалавечага вопыту. Менавіта сваім камандным імпэтам, сваім імкненнем ставіць усіх па стойцы смірна ён вельмі нагадваў былых — графа або, на благі канец, унтэра царскай арміі. І, пэўна ж, дзякуючы толькі створанай ім атмасферы чынашанавання, муштры са справаздачамі — да двух разоў на дзень! — і падзёншчыны, скразной, трэба сказаць, дзякуючы ўсяму гэтаму і пацярпелі другі раз няўдачу спецыялісты перадавога на Верхнядзвіншчыне калгаса імя Леніна.

Пачаўшы дванаццатую пяцігодку, яны вырашылі адмовіцца ад таго, што раней навязвалася, унесці змены, падкарэкціраваць свой севазварот, які б яшчэ больш адпавядаў пасля-

ховаму вядзенню гаспадаркі. Пры гэтым ніводнай з запланаваных лічбаў вытворчасці збожжа, бульбы, малака і мяса не мянялі. Але ўсё адно ў раёне іх варыянт севазвароту не зацвердзілі. Затое і яны не прынялі прамфінплан, спушчаны РАПА. Сяўбу распачалі па сваім гаспадарчым плане, абмеркаваным і зацверджаным на калгасным сходзе.

Тут і пайшла ў атаку на іх уся пыхлівая верхнядзвінская бюракратыя. Спецыялістам калгаса аб'явілі спагнанні, а на Сяргушку спрабавалі ўзвесці паклёп на выязным пасяджэнні бюро райкома і выключыць з партыі. Толькі зрабіць гэтага не дазволілі камуністы калгаса.

Было: несправядлівымі папрокамі і абвінавачваннямі Вацлава Якаўлевіча да роспачы давялі, да адчаю і страты прытомнасці...

Прыехаўшы ў Верхнядзвінск, я загаварыў пра гэты канфлікт у вёсцы Антонава з сакратаром райкома партыі Каваленкам, які кіраваў выязным пасяджэннем. Каваленка адчайна ўсміхнуўся ды махнуў рукой:

— Не зважайце на гэта. Сяргушку я разумею і гатовы падтрымліваць яго абадзвюма рукамі! Уявіце: каб я гэтак дамагаўся свайго ў рабоце, мяне ўжо даўно знялі б! А мы яго церпім...

Усцешыў, называецца!

Загадчык аргаддзела, дарэчы, таксама і разумеў, і ў думках падтрымліваў Сяргушку:

«Што зробіш, не наша воля... Гэта сістэма гаспадарання вымушае нават такіх людзей, як Сяргушка, ламаць».

І сутнасць гэтых тлумачэнняў: Верхнядзвінск, маўляў, гатовы прыняць і апраўдаць Сяргушку як гаспадара, але Віцебск у асобе дзядзькі Селектара не апраўдае Верхнядзвінск за Сяргушкавы дзеянні. Адсюль і ахвяры... Абы ад граху далей!

Праўда, гаварылася пра нядаўнія падзеі ў Антонаве спакойна, і я зразумеў, што ў Верхнядзвінску некаторыя мясцовыя палітыкі абкаталіся, бы марскія галькі пад уздзеяннем хваль, і не бачаць драмы, удзельнікамі якой з'яўля-

юцца. Яны чыняць здзек, «выкручваюць рукі» спецыялістам, якія, паверыўшы ў рашэнні XXVII з'езда КПСС, па ўласнай ініцыятыве пачалі іх здзяйсняць.

Вядома, шукаючы прычыны падобных «ненаўмысных» злачынстваў, глядзець трэба ў корань. Якімі сіламі і чым здратавана ў вёсцы жыццё? Па крайняй меры, спасылкі на бюракратаў, на недахопы ва ўпраўленні гаспадарчай дзейнасцю недарэмныя,— ва ўпраўленні нагул... Нараканні на гэта мы чулі і раней, хоць бы ад Ганчара ў Лепелі...

Але ж!.. Мы ўступаем у паласу жыцця, калі адначасова з выверкай і ўдасканальваннем эканамічных адносін ставіцца задача як льга глыбей выкарыстаць чалавечы патэнцыял — рэсурсы, закладзеныя ў самім чалавеку. А прастору на гэтай ніве, сказаць шчыра, як на той цаліне! Таму не выпадкова Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, выступаючы яшчэ ў верасні 1985 года ў Цаліназрадзе перад партыйна-гаспадарчым актывам, як адну з важнейшых задач паставіў задачу перабудовы работы сельскіх райкомаў партыі; ён двойчы падкрэсліў, што партыйны камітэт — орган палітычнага кіраўніцтва, і гэта ад работнікаў раённага звяна пэўнага асэнсавання патрабуе. «Часам цяжка адрозніць формы і метады работы партыйнага камітэта ад гаспадарчага органа»,— занепакоена гаварыў Міхаіл Сяргеевіч.

І не сакрэт, што той або іншы сакратар у раёне гадамі і дзесяцігоддзямі «вядзе гаспадарку», прычым без усялякай «палітыкі», як раней было ў Крупках. З'ява пашыраная. Надараецца нярэдка і так, што не адзін сакратар у райкоме, а ўсе тры займаюцца тэхналогіяй і арганізацыяй вытворчасці. Пра гэта з горыччу гаварыла нам Рыма Андрэеўна Іеўлева ў Светлагорску. Сёння ўсе займаюцца гаспадаркай, у тым ліку і работнікі ідэалагічнага фронту...

Зразумела, што маючы ўжо такі «традыцыйны» або «спадчынны» гаспадарчы клопат, сакратары без усялякіх сумненняў умешваюцца ў

ведамасныя функцыі іншых работнікаў — спецыялістаў. Яны, праўда, ведаюць, што такім сваім умешваннем адціраюць спецыялістаў ад выканання імі непасрэднай работы, здымаюць з іх адказнасць, але і ўстрымацца ад спакусы не могуць, бо так прывычней і прасцей кіраваць, дый адпачыць можна на «чужым полі», як пісаў В. Авечкін. Некаторыя ж прызвычаіліся «ў такім ключы» працаваць і не ўяўляюць сабе нават, што справу можна інакш паставіць і кіраваць не загадамі, не рэгламентацыямі, а выкарыстоўваючы эканамічныя нарматывы, эканамічныя сродкі ўвогуле, і што, набываючы нарматыўную сістэму, гаспадарка пойдзе па шляху самакіравання і яны нарэшце пазбавяцца штодзённых тлумных гаспадарчых клопатаў і будуць мець час і магчымасць займацца сваімі, палітычнымі клопатамі.

Але, каб хто ў тое лета, калі мы страчаліся з Іеўлевай, сказаў ёй, што магчыма перабудова ў змесце і стылі партыйнай работы, яна не паверыла б — настолькі моцны стаў гаспадарчы ўхіл (не ў адным Светлагорску) і ў адпаведнасці з гэтым ухілам склаліся кадры, а гэта ж рэальная сіла! Ці здольны, а галоўнае, ці гатовы яны псіхалагічна, каб сёння або ў бліжэйшы час перадаць львіную долю захопленых імі гаспадарчых функцый таму ж аграпрому? Дапусцім, што РАПА на месцы здолее іх прыняць...

Ды справа ж не ў гэтым. Перадаць — не штука. А чым тады займацца райкому?

Партком — палітычны орган, і гэтым усё сказана.

А што такое ў раёне палітыка? Ды — мусіць — чалавек, а калі дакладней — сістэма грамадскіх адносін і таварнага абмену, што накладвае свой адбітак на выхаванне сумленных грамадзян,— сацыяльна-культурнае забеспячэнне, да якога льга аднесці не толькі рэчы і канцэртныя праграмы, але і здаровы клімат і творчы лад у тым ці іншым калектыве, сям'і; ва ўсякім выпадку, гэта ўжо не тэхналогія вытворчага працэсу, а псіхалогія працы і наогул жыцця.

«Сапраўдны паказчык цывілізацыі — не ўзровень багацця і не велічыня гарадоў, не багацце ўраджаю, а воблік чалавека, які выхоўваецца краінай»,— сказаў больш за стагоддзе назад амерыканскі філосаф і паэт Ральф Уолдо Эмерсон, а словы і сёння справядлівыя.

Зазначу яшчэ, што палітыка — гэта клопат партыйных камітэтаў аб жыццяздольнасці сацыялістычнай сістэмы, аб яе ачышчэнні ад смецця і бруду — скрозь, на ўсіх паверхах.

Толькі ж ці кожнаму з партыйных работнікаў па сіле, каб без перападрыхтоўкі так змяніць клопат у штодзённым занятку? Пытанне...

Скажу шчыра, сёння гэта пытанне з пытанняў, і ад яго вырашэння будзе залежыць усё іншае ў нашай перабудове, асабліва ў вёсцы, на прасторы і ў межах Сялянскага Акіяна, дзе бывае ўжо цяжка знайсці гаспадара.

Аграпром па сваіх патэнцыяльных магчымасцях уяўляецца мне асілкам, і надзеі на яго недарэмна ўскладалі; на жаль, толькі ён іх пакуль мала апраўдвае, і мы чакаем: а што ж далей будзе? Той-сёй, прызнацца, у ім ужо расчараваны.

Паставім пытанне: а ў чым жа прычына?

Дальбог, завяршаючы дыспуты, падзялюся трывогаю, што вынікае з маіх назіранняў: наш Аграпром Селянінавіч (не адмаўляюся ад слова — асілак) нарадзіўся са звязанымі рукамі. Шкада, але ён і дагэтуль так ходзіць. Ці можна патрабаваць ад яго?

У палітычным дакладзе ЦК XXVII з'езду КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў з усёй выразнасцю зазначыў: «Сёння першачарговая задача партыі, усяго народа — рашуча пераламаць неспрыяльныя тэндэнцыі ў развіцці эканомікі, надаць ёй належны дынамізм, адкрыць прастор ініцыятыве і творчасці мас, сапраўдным рэвалюцыйным пераўтварэнням».

Шляхі, накірункі вызначаны партыйным з'ездам. Пастаўлена задача яшчэ небывалая па сваёй значнасці пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі: змяніць псіхалогію грамадства! І цяпер робяцца захады, каб пе-

райпачыць многае, што абумоўлівала «старую» псіхалогію, звычкі і манеры. Аднак жа пустазелле на ніве маралі вельмі жывучае, і яго не выпаліш хіміяй — выдзіраць трэба з карэннем, старанна апрацоўваючы і даглядаючы э к а н а м і ч н у ю глебу, як даглядаў звычайную аграном Раманоўскі ў калгасе «Зара камунізма» на Іванаўшчыне.

Зусім відавочна, што сёння ў нас больш высокай і высакароднай задачы няма, дый быць не можа, бо за ўсім гэтым стаіць поспех у далейшым развіцці нашага выдатнага па сваёй сутнасці і па ідэалах грамадства, стаяць наш гонар і лёс наш.

Дык папрацуем, пераадолеўшы немач у касцях! Уздымем свае душы да сапраўдных рэвалюцыйных здзяйсненняў!

«Іншага шляху няма»,— сказана ў тым жа Палітычным дакладзе.

Так, нам гэты шлях наканаваны гісторыяй.

## Змест

**Якавенка В.**

Я 47 Вясковыя дыспуты: Падарожнае эсэ.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 317 с., 1 л. партр.— (Рэспубліка. Час. Людзі).

У гэтай кнізе вядомага беларускага публіцыста Васіля Якавенкі раскрываецца тэма сучаснага жыцця беларускай вёскі, яе трывогі, праблемы, паказана ўся складанасць перабудовы ў гаспадарчай і культурнай сферах, у псіхалогіі вяскоўцаў.

У аснову твора пакладзена падарожжа аўтара разам з рускім пісьменнікам-публіцыстам, лаўрэатам Ленінскай прэміі Іванам Васільевым па Беларусі.

Я $\frac{4702120200-131}{М\ 302(03)-87}$ 35—87 **ББК84 Бел7**

Республика. Время. Люди

**Василий Тимофеевич Яковенко**

ДЕРЕВЕНСКИЕ ДИСПУТЫ

Дорожное эссе

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Я. Р. Лецка. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар А. І. Цароў. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 2689

Здадзена ў набор 03.02.87. Падп. да друку 13.08.87. АТ 08711. Фармат 84×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 14,00+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 14,04. Ул.-выд. арк. 15,16. Тыраж 11 000 экз. Зак. 120. Цана 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# НАБЫВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ НОВЫЯ ТВОРЫ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ-ПУБЛІЦЫСТАЎ

*І. Дуброўскі*

КРАСНА ХАТА НЕ ТОЛЬКІ ПІРАГАМІ

Нарысы

*А. Казловіч*

НА МАЕЙ ДАЛОНІ ЛІНІЯ РАКІ

Аповесць-эсэ

*Л. Левановіч*

ХЛЕБ І МУЖНАСЦЬ

Нарысы

ЗБОРНІК

СУЧАСНІК — 87

Нарысы, публіцыстыка